# Т Э Р М А П І Л Ы

Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс

**№ 23 Беласток 2019**

## Змест

## ЭСЭІСТЫКА. ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА



**Рэдактар**
***Ян Чыквін***

**Галіна САМОЙЛА**

# КРАЙ ЖУРАВОЎ І ЖУРАВІНАЎ

## Родныя словы

Паляцелі птушкі ў вырай.
Баравік у лесе – шчыры.
Час пад вечар – на сутонні,
А палі без межаў – гоні.
Вёска поіць сырадоем,
Гора клічуць злыбядою.
Мама ў новенькай спадніцы,
Чэрвень выспеліў суніцы.
Снег на дрэвах як карункі,
Збег абставінаў – варункі.
На стале ляжаць сурвэткі,
На нагах нашу шкарпэткі.
Колькі мілагучных словаў
У цудоўнай роднай мове!

## Знічка

Зорка ў небе зіхацела.
Раптам долу паляцела.
У раку нячутна ўпала
І адтуль прасіцца стала:
“Тут я, зоры, паглядзіце:
Ад мяне блішчыць вадзіца.

Забярыце мяне ў Космас,
У рацэ мне мокра, млосна”. –
“Не паможам мы, сястрычка,
Ты цяпер не зорка – знічка”. –
“Хто я, хто? Гучыць нязвыкла”. –
“Знічка – значыць з неба знікла”.

**Кахаю**

Пеця маму абдымае:
“Моцна я цябе кахаю”
Адказала мама: “Сынку!
Пакахаеш ты дзяўчынку.
Аб астатнім кажуць людзі
Ў Беларусі – “моцна любім”.
Любяць лес, раку, бярозку,
Лета, восень, горад, вёску,
Шапку, шарыкі, сукенку,
Малако, пірог, цукерку,
Бусла, зайчыка, сінічку,
Тату, браціка, сястрычку.
Любяць маму і Айчыну…
А кахаць трэба дзяўчыну…

**Вырай**

Калі восень наступае,
Птушкі ў вырай адлятаюць.
Вырай – гэта рай птушыны,
Там ад голаду не згінеш.
Вырай – гэта цёплы поўдзень,
Пехатой туды не дойдзеш.
І ляцець туды далёка.
Зверху сонца ды аблокі,

Знізу то зямля, то мора
Птушкі – кропачкі ў прасторы.
Чарадой ляцяць і клінам –
То з Айчыны, то ў Айчыну.

**Падворак**

Над падворкам свеціць поўня,
Па падворку ходзіць конік.
Апусціўшы галаву,
Ён скубе, скубе траву.
З'еў пад плотам пустазелле –
Мама кветкі там пасее.
З'еў пад яблыняй ападкі –
І садок зрабіўся гладкі.
А з далоняў брата Жэнькі
З'еў ён смачнае пячэнька.
Конік наш за ноч пад'есць
І згарэ гарод увесь

**Талака**

Наляцела навальніца,
Хмарай чорнаю клубіцца.
Хмара стрэліла маланкай –
Загарэўся дом Святланкі.
Палыхнуў увесь агнём,
Дым з яго валіў слупом.
Выгараў амаль датла,
Хоць пажарная была,
Палівала дом вадою.
Як жа жыць з такой бядою?
У вачах Святланкі слёзкі
Прызадумалася вёска.

“Помню, на маім вяку
Мы збіралі талаку, –
Падказаў дзед Апанас. –
Мужыкоў жа многа ў нас,
Зробім новы дом за дзень,
І сям’я не прападзе”.

**Дзічка**

Мы з дзядулем маем звычку
Адшукаць на ўзлеску дзічку,
Выкапаць яе лапатай,
Пасадзіць ля нашай хаты.
А як толькі год мінае,
Дзед мой дзічку прышчапляе.
Летась ён зрабіў умела
З дзічкі-яблынькі – каштэлю.
Дзічка-грушка ўжо цукроўка.
Дрэўцам добра на падворку.
І растуць яны з падзякай,
Што цяпер з прыемным смакам.

**Выцінанкі**

Заўтра буде дзень матулі.
Машы з Дашай не да гуляў.
Яны сёння ажно зранку
Выразаюць выцінанкі.
Перад імі стос паперы:
Сіняй, жоўтай, белай, шэрай,
І зялёнай, і чырвонай.
Сёстры ў царстве папяровым.
Папрацуюць доўга-доўга,
Выцінанак зробяць многа,

Самых  розных выцінанак.
Хай матуля кожны ранак
Столік тою аздабляе,
Што з настроем супадае.

**Матылёк і клёк**

Белы-белы матылёчак
На зялёны сеў лісточак.
Лісцік нават не заўважыў –
Матылькі зусім не важаць.
А заўважыла Ірынка:
“Мама, мама! Тут сняжынка!”
“Не бывае снегу ўлетку.
Гэта, мабыць, кусцік з кветкай”
Матылёчак вырашае:
“Пакажу, што клёк я маю,
Пакажу, што ўсё я чую:
Каб пазналі – палячу я!”

**Поўсць**

На падворку нашым госць:
Вушы, хвост, шарэе поўсць.
Гэта зайчык заблудзіўся
І пад наш парог прыбіўся.
Так спалохана сядзіць,
Поўсць на ім ажно дрыжыць.
Дзень зімовы, дзень халодны.
“Зайчык, можа ты галодны?”
Зайчык трохі пасмялеў:
“Можа, з тыдзень я не еў!”
Морквы даў яму, капусты.
Зайчык пачастунак схрумстаў.

## Брукаванка

Вось такая неспадзянка:
Асфальтуюць брукаванку.
Выйшлі Юрка і Сняжанка
Развітацца з брукаванкай.
Іх вядзе настрой вандроўны
Па каменьчыках няроўных.
Ля дарогі ўсцяж таполі,
А за імі – неба, поле!
Пошум жыта, пах калосся
Па-над брукам ветрык носіць.
Ездзіць лепей па асфальце…
Брукаванкі, выбачайце!

## Краскі

Бяжыць дарожка цераз луг,
Вясёлая, далёкая.
Алінка з Даначкай удзвюх
Бягуць па ёй з падскокамі.
Прыгожы летні дзень настаў,
Лагодзіць ветрык ласкаю.
Бягуць яны не проста так,
А на спатканне з краскамі.
Алінка й Даначка ў вянках –
Званочкавым, рамонкавым,
І браткі ў кожнай у руках,
А луг вакол – вясёлкавы.
Бяжыць дарожка цераз луг,
Бягуць па ёй дзяўчынкі ўдзвюх…

## Воўна

Наш баранчык найгалоўны.
Ён дае нам многа воўны.
Воўну мы з яго стрыжом,
Мыем, чэшам і прадзём.
А пасля матуля наша
З воўны нам адзенне вяжа:
Шапкі, шалікі, шкарпэткі:
"Не хварэйце, мае дзеткі.
Воўна цёплая такая,
Хай зімой вас саграває".

## Вятрыска

Дзве ялінкі, як дзяўчынкі,
Выйшлі з лесу на лужок.
І на кожнай аж да ножак
Цёплы белы кажушок.
Злы вятрыска іх прыкмеціў:
"Кажушкі аддайце мне!"
Бедным дрэўцам дзе падзецца?
І трасе ён іх і гне.
Заслабыя, замалыя,
Не ўтрымалі кажушкі.
Паляцеў вятрыска з імі
Па-над лугам да ракі.
Папамерзлі дзве ялінкі
У сукенках на лужку.
Яны рады снегападу –
Дасць ім зноў па кажушку.

***

Край жураваў і журавінаў,
Ніколі Беларусь не згіне.
І будзе жаваранак песняй
Вітаць блакітнае прадвесне.
І будзе ахінаць пяшчотай
Туман азёры і балоты.
І ноч над пожняй жоўты месяц,
Як завушніцу, зноў павесіць.
У жыце будуць жыць валошкі,
І будуць росы на дарожках,
І жалуды напоўняць жмені,
І будзе чэрвень пахнуць сенам,
А студзень рассыпаць сняжынкі.
І ў шыбы стукнуцца дажджынкі.
Жанчыны будуць і мужчыны,
І бусел дзетак ім падкіне.
Зямля шыпшыны і ажыны,
Ніколі Беларусь не згіне!



**Вольга ШЫНКАРЭНКА**

# ЛЕТНІЯ ВЕРШЫ

***

Дзейсняцца-рушацца
Шматабяцальныя сустрэчы
Ясным днём.
Дарэмнымі надзеямі
На мудрае ранне закалыхвае
Падманлівы вечар.
І толькі ў снах адкрываецца
Патаемнае, што адразу трапляе
У невараць ночы.

***

Гарачае чэрава чэрвеня,
Дрыготкага ліпеня ліўні
Пакінулі знак пытальніка
Над крэсамі жытняга жніўня.

***

Нястрымна вабіць юнацтва
Хваль марскіх неспакой.
Ціш бязлюднага возера, а
Не рыфы, цешаць сталасць.

***

Начныя пошчакі салаўя –
Асалодаю закаханым сэрцам.
Ранніх птах шматгалоссе –
Самотнага бяссоння кантрапункт.

***

Зелянінай і кветкамі радасна
У дзень памінальнай Раданіцы
Страчае добра ўтравелая маёвая
Магіла бацькі.
І праз гады застаецца рухомым
Пясок на снежаньскім месцы спачыну
Збалелай матулі.
На грудку бескрыжовым, забетаваным
Надзейна, з маўклівым дакорам,
Не сагрэты жыццём і лютым,
Помнікам брат сустракае.
Дзіўны спакой рассявае
Жвір зусім свежы на капцы
Мудрай ва ўсім і з доляй гаротнай
Старэйшай сястры.
У міг, калі лёс назусім абарвецца,
Такога прытулку й суседства
Папрасіць бы хацела ў Госпада
Ужо для сябе.

***

Па рэцэпце сваёй бабулі
Мяне вучыла матуля
У лесе ягады браць.
“Няма вялікай навукі,
Рабі без усякай прынукі.
Хто нізка нахіліцца,

Таму ягадка і адкрыецца.
Зрывай адну – паглядай
На другую. Не бегай, збірай.
І ведай: лес таго не вітае,
Хто ягаднік вырывае”.
Дужа шкадую, што маці навуку
Праўнукам не скарыстаць.
У надоўга забруджаным лесе
Палесся нельга ягады браць…

***

Забываюцца словы, учынкі, рухі.
Засталіся дотыкі і непрамоўленае.
Ды адчутая некалі прага палёту
Разам з болем падзення дзвюх розных
Планет, што адной не займелі арбіты.

***

Тваё найбольшае жаданне?
Каханым быць.
Твая запаветная мара?
Кахаць.
Твой клопат найпершы?
Толькі б не размінуцца…





Выдатнаму паэту, празаіку,
літаратуразнаўцу, падзвіжніку-ініцыятару
стварэння вялікай нацыянальнай бібліятэкі,
ахавальніку спадчыны,
шматгадоваму дырэктару
выдавецтва
“БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР”

**– Кастусю ЦВІРКУ**
– 85 гадоў



*Прыміце*
*самыя сардэчныя і шчырыя*
*віншаванні ад “белавежцаў”*

**Сяргей КАЛЕНДА**

# МОРА-АКІЯН

Я валодаю барам ужо трыццаць гадоў, але такіх наведнікаў, як той, што завітаў да мяне мінулым вечарам, ніколі не сустракаў. Мужчына быў сівы і, здавалася, ён перажыў нейкую бяду, па якой ніяк ня можа ачуняць. Нібыта хтосьці моцна яго напужаў, і ён такі і застаўся – з вырачанымі вачыма, з вуснамі, скрыўленымі, нібыта ён працягвае бязгучна крычаць.

Цені над барнай стойкай рабілі госьцеў твар самотным, сумным, страшным і адначасова прыцягальным, яго хацелася разглядаць, дзівіцца на зморшчыны на ілбе і пад вачыма.

Мужчына сеў за барную стойку і папрасіў грогу.

На вуліцы гула завея, некаторыя дарогі былі ўжо заваленыя снегам, на вуліцах анікога, крамы пазамыканыя.

Я пачаў разаграваць кардамон і перац, каб дадаць у ром.

– Я вось што скажу, шаноўны, – пачаў размову мужчына. – Вы ж памятаеце, быў тут у нас на гары жылы комплекс пабудаваны, гадоў сорак таму?

– Так. Ці не, ня памятаю, быў замалады. На гары? Велізарны дом...

– Ага, велізарны ня тое слова, яго абзывалі чалавейнікам, бо кватэраў было як у сотах, а калідораў як хадоў у мурашніку. Я тады займаўся гэтым домам, я валодаў ім, і будаваў яго таксама я. І назву яму прыдумаў я – «Мора-Акіян», бо дом гэты ўсімі вокнамі, як ні павярні, глядзеў на мора, на світанак і заход сонца, прадзімаўся салёнымі вятрамі з захаду на ўсход і з поўначы на поўдзень.

Фантастычная ўгода была ў мяне – зямлю пад будоўлю горад аддаваў амаль за так, разумееце?

– Не, ня вельмі.

– Ну, пустка гэтая на гары аддавалася чыноўнікамі амаль за бесцань, а я быў жвавы, малады, хацеў хутка разбагацець.

– А, усё, я зразумеў, пра якую вы пустэчу на гары, гэта ж тое месца, дзе ў сярэднявеччы былі шыбеніцы, на якіх вешалі бандытаў. І там цяпер звалка нейкая.

– Ня звалка, а тое, што засталося ад дамоў.

– І гэтую пустку аддалі для пакаранняў, каб увесь горад бачыў на гары, каго караюць, з любога месца кожны жыхар мог падняць галаву і на верхатуры ўбачыць, ці гайдаецца там цела вядзьмаркі альбо забойцы. Кепскае месца, бо шыбенікаў там адразу і закопвалі.

– Ведаю-ведаю, але для бізнэсу і будоўлі гэта ня мела аніякага значэння, людзям толькі давай смерць, ды яшчэ цёпленькую, і на талерцы з прыборамі. Паглядзіце, як у ахвотку людзі ходзяць на могілкі, як там часта ў святы ядуць і выпіваюць яны са сваімі, а ў некаторых культурах нябожчыкаў і па рэках сплаўляюць, і ядуць іх згарэлыя парэшткі, і муміфікуюць розных манахаў. Вось я і думаў ператварыць месца трох шыбеніц у новы спальны раён «Мора-Акіян», зарабіць на страшным месцы. Ведаеце, шаноўны, для бізнэсу часта няма межаў, ёсць толькі фінансавыя абмежаванні. Чалавек на ўсё згодзіцца, пытанне толькі ў коштах. І вось я такі шчаслівы, прадаў бацькаву хату і вырашыў далёка грошай не адкладаць, звольніўся з будаўнічай кампаніі і пачаў ездзіць па ваколіцах, думаць, як і што б такое пачаць будаваць, каб выйшаў паспяховы праект. Пасля некалькіх месяцаў блуканняў я і знайшоў сабе гэтую гару. Адразу пайшоў у мэрыю, дамаўляцца, а мне там і сказалі: бяры гэтую гару з гушчаром хоць за так, толькі крыжы і шыбеніцы прыбяры, гара ніколі нікому не была патрэбная, акрамя вернікаў і фанатыкаў, бо вось развіваецца турыстычны бізнэс уздоўж узбярэжжа, а ў горы мала хто прагне падымацца. Я запэўніў, што калі інфраструктура

хутка развіваецца, будзе і ў майго праекту добры прыбытак. Я знайшоў памочніка, добрага хлопца, акуратнага, які паўсюль пасяваў з маімі наказамі. Літаральна за год праект «Мора-Акіян» стартаваў, усе каштарысы былі падпісаныя, і мая будаўнічая кампанія ўзялася за працы над новым жылым комплексам, складзеным з трох дваццаціпавярховых дамоў, аб'яднаных адным унутраным дваром, паркінгам на першым паверсе – утульна заязджаць, і пэнтгаўсамі на апошніх. Пачаўся пошук патэнцыйных кліентаў. Сур'ёзна, я быў сведкам, як мая рыэлтарка ўзяла тэлефон, каб абзвоньваць мясцовых бізнэсоўцаў, заводзіць знаёмствы, ажно тэлефон сам зазваніў у яе руках – нумар быў схаваны, і гэта быў добры знак, бо свае тэлефонныя нумары часта хавалі людзі, якія займаліся сур'ёзнымі справамі.

– Альбо пад нумарамі плішчацца рэкламнікі ды розныя тэлефонныя боты аператараў... – дадаў я.

– Я не спрачаюся, але тое ня так істотна. Званіла жанчына, якая хацела набыць кватэру ў маім комплексе. Разумееце, вось у мяне на стале ляжаць яшчэ не разасланыя поштай рэкламныя флаеры, ніякіх нідзе банэраў аб продажы кватэраў, рыэлтары толькі пачыналі працу, а нам ужо тэлефануюць, каб набыць кватэру. Суразмоўніца сказала, што прыедзе хутка і што гатовая засяліцца і аплаціць кватэру адразу на месцы. Мы яе папярэдзілі, што пакуль ідзе аздабленне, трэба падпісваць паперы і рабіць першы ўнёсак, каб засяліцца праз тры месяцы. На што жанчына адказала, што прыедзе, калі ўсё будзе гатова, і ўмовы яе такія: на месцы адразу ўсё падпісаць, заплаціць яна гатоўкаю і заселіцца адразу ж. Мы ўсе ў офісе падумалі, што тэлефануе хворая. І забыліся на яе амаль адразу. У нас закіпела праца... але радасці тое кіпенне не прынесла, выявілася, што жыхары гораду нават слухаць не хацелі ні пра якія гарачыя прапановы ў новым комплексе «Мора-Акіян». Усе кідалі слухаўкі, альбо яшчэ горш – маглі аблаяць маладых і руплівых агентаў.

Быў час, я ажно страціў веру ў тое, што знайду пакупнікоў. Бо ня толькі тутэйшыя, а нават з суседніх гарадоў

людзі адмаўляліся слухаць, і ўсе на адзін голас казалі, што побач з шыбенікамі жыць ня будуць, бо зямля там насычаная слязьмі ды іншымі выяржэннямі з целаў павешаных. Да ўсяго, пайшлі плёткі, што там, побач з шыбеніцамі, у лясным гушчары пакараных і закопвалі, і быў такі цёмны час у нашай гісторыі, што нават расстралялі мясцовую інтэлігенцыю ў чорныя гады жыцця пад акупацыяй.

Спачатку я думаў, што быў жа добры знак: пазваніла жанчына, няхай і здавалася вар'яткай, яшчэ да пачатку рэкламнай кампаніі, – але ўсе нашыя тэлефоны ў офісе пачалі пакрывацца пылам, ніводны не азываўся, толькі мы назвонвалі з мабільных кліентам. Шчыра скажу, я і ня памятаю, хто працаваў у маім офісе, але мой памагаты Януш выконваў працу за пецярых, і ўсё адно пад канец будаўніцтва, калі здалі гатовыя дамы, я выдыхнуў з палёгкай, бо яшчэ пара месяцаў – і варта было б хваляваццца наконт фінансавання. А цяпер заставаўся час сабраць усе сілы і шукаць кліентаў, я нават падумваў, каб заахвоціць Януша паехаць у Галівуд і пагутарыць персанальна з Людвігам пра нечуваныя перспектывы – займець маёмасць каля мора, на гары, вокнамі на чатыры бакі свету, такіх дамоў ніхто ніколі не будаваў, і да ўсяго, тут можа ўсё вырасці ў залаты зімовы курорт, у параўнанні з якім той жа Аспэн будзе глядзецца недарэчнай вёскай…

І не паспеў я дадумаць, як мне патэлефанаваў мужчына і сказаў, што хоча зараз прыехаць і набыць кватэру. На месцы падпіша ўсе дамовы, заплаціць наяўнымі.

– Хм, дзіўна неяк. Здаецца, я чуў пра гэты дом, але ў маладосці жыў у іншай краіне, мне бацькі распавядалі, што нехта тут распачаў будоўлю стагодздзя, але я ня надта слухаў, што там бацькі распавядалі, прыязджаў рэдка, дый тое, калі вымушаны быў, а цяпер… Бачыце, амаль трыццаць гадоў даглядаў бацькаў бар, сям'ёй аброс, варта было толькі на пахаванне маці прыехаць і ўбачыць, які хворы зрабіўся мой стары.

– Вось таму вам будзе цікава пачуць гэтую гісторыю з першакрыніцы, а не з газетаў, якія пісалі розную лухту і нават пачалі праводзіць незалежныя расследаванні якасьці і хімічнага складу будматэрыялаў. Але я забег наперад.

– Я, шчыра, даволі доўга зусім не цікавіўся жыццём сваёй правінцыі, бо марыў скончыць школу і адразу паляцець мясцовым кукурузнікам у сталіцу, бо там было шмат перспектываў.

– А ў выніку… – і мужчына развёў рукамі.

– Так, у выніку я працягваю бацькаву справу і жанаты са сваёй аднакласніцай. Каб мне сказалі пра гэта ў мае дзёрзкія дваццаць тры, калі я быў безразважным шаленцам, змагаўся з дзяржавай і лічыў, што ўхапіў удачу за хвост…

– Во-во, і я лічыў, што ўхапіў удачу за хвост з гэтай неверагоднай гарой шыбенікаў.

І вось уявіце, праз гадзіну да нас у офіс, а мы перавезлі яго з падгор’я на першы паверх аднаго з корпусаў навабуду, заходзіць мужчына – выглядае ён, нібыта яго білі на баксёрскім рынгу, а потым не далі нават душ прыняць і гэткага сіняга, змалочанага і смярдзючага выправілі да нас.

Ён рухаўся нібыта ў сне, павольна. Зайшоў, павітаўся і спытаў, хто прадасць яму жытло.

Я паказаў яму на фатэль, хітнуў сакратарцы, і тая ўзялася рыхтаваць паперы.

Я збіраюся з першым пакупнікам кватэры працаваць асабіста – так бы мовіць, сам запушчу машыну продажу. Мужчына сеў і на імгненне быццам прыснуў, потым заківаў галавой, нібы пагадзіўшыся са сваім унутраным голасам, паклаў на мой стол старую валізку, раскрыў яе, і я ўбачыў купу наяўных грошай, банкноты былі неахайна спакаваныя, некаторыя пакамечаныя… Я адразу падумаў, што мужчына ці абрабаваў банк, ці разбіў велічэзную скарбонку, куды збіраў грошы не адзін дзясятак гадоў.

Я папрасіў Януша ўзяць валізку, пералічыць грошы і трымаць пры сабе, пакуль мы не падпішам дамовы.

Праз гадзіну я ўжо перадаваў ключы першаму ўладальніку кватэры. І ведаеце, што мяне здзівіла? Мужчына

зайшоў у новае жытло без нічога, без валізаў, торбаў, і машыны не было з рэчамі для пераезду.

Я тады падумаў, што яму ўсё прывязуць яшчэ… і папрасіў Януша зноў пералічыць грошы.

– Можна мне запаліць тут?

– Добра, курыце, сёння пусты вечар, снег мяце гэтак, што на двор хіба вар'ят выйдзе, – сказаўшы гэта, я пашкадаваў, бо мужчына пільна на мяне паглядзеў, але не было відаць па ягоным твары, што я яго пакрыўдзіў. – Вам наліць яшчэ?

– Давай, налі, мы ж на ты, добра?

– Ага. Тады пазнаёмімся: Томас.

– Зрабі мне двайны грог, то-бок вялікі куфаль, можна нават літровы, піўны. Калоціць мяне. Я – Адам. Адам Тарасаў.

Ну дык вось, мінае роўна тры дні, і я магу прысягнуць, што роўна а дзявятай гадзіне раніцы мне тэлефануюць. Цяпер ужо жанчына па тэлефоне, нібыта з далёкай краіны, голас з іншага канца свету, глыбокай ямы, і распавядае, што хутка прыедзе набыць кватэру, на апошнім паверсе, з сабою вязе гатоўку.

Разумееш, Томас, усё як дэжавю, паўтараецца: званок, візыт, валізка скамечаных грошай, толькі гэта была жанчына, і выглядала яна гэтак, быццам толькі што перанесла аперацыю на страўніку, і яе адразу з бальніцы паслалі сюды: яна няспынна ікала і трымалася за жывот, і гэтая яе ікаўка (нібыта перад вачыма ўсё тое) смярдзела скіслым халадцом. Яна падпісвае паперы, а выглядае, нібыта яе званітуе.

– Ох, фу, брыдота.

– І вось, Томас, усе тэлефоны ў офісе маўчаць, замоваў няма, але кожныя тры дні я атрымліваю кліента праз мабільны тэлефон. Усе кліенты далёка ня ў лепшым фізычным стане. Нягледзячы ні на што, на розны ўзрост і стыль адзення, усе гэтыя людзі выглядалі нібыта яны адной нагой у труне. Стандартная схема: за гадзіну ўсё аформіць – грошы ў валізцы – ключы ад кватэры. Некаторыя ўдваіх прыходзілі, і ўтраіх, але ніводнай сям'і з дзецьмі я не засяліў. Усе

выглядалі самотнымі парамі, сужыцелямі, сябрамі… А цяпер, Томас, давай зоймемся матэматыкай.

– Добра, Адам, ты ня супраць, калі я і сабе налью?

– Ды рабі што хочаш! Мне трэба пра ўсё распавесці, бо я нават дзецям нічога не казаў, а жонка ўвогуле думае, што я на старасці гадоў паехаў урэшце адведаць бацькоўскія магілы. Разумееш, я занадта доўга трымаў гэта ў сабе.

– Так, разумею, – адказаў я, змаўчаўшы, што ва ўсіх развязваецца язык з бармэнам.

– Глядзі, ёсць тры будынкі на дваццаць паверхаў, аднапад'ездавыя будынкі, квадратныя з чатырма кватэрамі на паверсе, каб кожная кватэра выходзіла на іншы бок свету, – атрымліваецца роўны крыж. Потым у нас першыя паверхі ў дамах – паркінг, і ў адным доме мы забралі другі паверх цалкам пад офіс. А, ну і апошні паверх – гэта пэнтгаўс, адзін пэнтгаўс на паверх – разам тры пэнтгаўсы. Палічым, колькі кватэраў агулам з пэнтгаўсамі: дзвесце пятнаццаць.

І як павялося, кожны трэці дзень я прадаваў кватэру. Два гады запар, нікуды не зяжджаючы, я прадаваў кватэры. Супрацоўнікаў усіх звольніў, бо яны ня мелі працы, толькі Януша пакінуў, які на самым пачатку, калі я афармляў трэцяга паводле ліку кліента, паклаў мне ў рукі ляльку.

– Якую ляльку? У сэнсе? Праз гэта вы Януша пакінулі? Ці што? – Відавочна, мой госць ужо добра сагрэўся, і нават разагрэўся грогам – пра гэта сведчыла няроўнае апавяданне.

– Не. Слухай. Прыносіць мне Януш ляльку, я гляджу – апранутая, як я, і нават у прышытых гузіках я знайшоў падабенства да сваіх вачэй. Януш мне кажа, што лялька – абярэг. Што не падабаюцца яму гэтыя паўжывыя кліенты. І што я адзін атрымліваю іхныя званкі і замовы – нячыста гэта. Кажа мне, каб ляльку я насіў у кішэні, што зрабіў яе з маіх шкарпэтак, якія днямі падабраў у душавой.

А я яшчэ бегаў шукаў тыя шкарпэткі.

– Гэта што, Адам, лялька – вуду нейкая?

– Я ня ведаю, сур'ёзна, але пачаў яе насіць у кішэні швэдра, назваў яе Джэкам, бо спадабалася, як гучыць, ну й верш такі, помню, мне ў дзяцінстве маці чытала: «Дом, які

пабудаваў Джэк», так што ўсё супала. Я таксама дом пабудаваў. І не адзін.

І вось мінаюць тыдні, павольна, але непахісна я прадаю кватэры разам з Янушам і Джэкам, і вось што дзіўна – паркінг пусты. Ніхто з жыхароў ня ездзіць аўтамабілем? Немагчыма. У двары ніхто не гуляе з сабакам, не выходзіць на шпацыр, дзяцей на пляцоўцы няма.

Мой праект «Мора-Акіян» ператварыўся ў жах і без шыбеніцаў. А іх мы, дарэчы, вырашылі ня зносіць, бо хто ведае, што пад імі ў зямлі ляжыць… Проста перарабілі іх у аркі ды абсадзілі плюшчом, каб усё гэта схавалася з вачэй, бо напраўду ніхто не наважыўся выкопваць іх.

У вокнах дамоў вечарамі зрэдку запальвалася святло.

Я суцяшаў сябе думкаю, што, відаць, гэтак спрацавала рэклама, і сюды багатыя сваякі выправілі нямоглых, старых і ссохлых родных – дыхаць паветрам, бо мора побач, і лавіць промні сонца ў кожнае імгненьне дня.

– Разумею вас, цяжка было назіраць, як руйнуецца мара.

– І не кажы, я ж спадзяваўся на іншае, але першыя два гады можна было назваць самымі прыўкраснымі, пакуль прадаваліся кватэры. А пазней, калі да мяне прыйшла маладая пара, нечакана маладая, я нават здзівіўся, што хлопец і дзяўчына выглядалі звычайна, ня кепска і ня хвора, акрамя, можа, шнараў – шырокіх і чырвоных, на руках у абодвух. Яны мне сказалі: «На пятнаццатым паверсе ў вас засталася кватэра нумар пяцьдзясят тры. Мы яе набываем». І вывалілі мне з торбы, старой такой торбы, прагнілай, цэлы стос скамечаных банкнотаў.

Калі хлопец нахіляўся вытрасці грошы на стол, я заўважыў у яго агідна тоўсты чырвона-сіні шнар на патыліцы, і яшчэ падумаў: з такімі шнарамі не жывуць.

Я праверыў дакументы, але насамрэч правяраць не было чаго, бо я і сам ведаў, што ў мяне засталася свабодная толькі кватэра пяцьдзясят тры.

Ну вось, я прадаў ім апошнюю кватэру. Выдыхнуў, супакоіўся, пачаў думаць, што і гэты офіс мне не патрэбны, і паркінг таксама… Думаю сабе, гладжу звыкла ў кішэні

Джэка, і тут чую светлы, разумны голас у галаве: «Трэба табе, Адаме, з'язджаць куды падалей, грошы на рахунку ёсць, «Морам-Акіянам» няхай далей займаецца Януш!»

І на наступны дзень я передаў усе справы Янушу, зрабіў яго аканомам, дворнікам (прыбіраць і так не было патрэбы, бо смецьце не збіралася), ахоўнікам і вахтарам.

З'ехаў я на радзіму, думаў, што на пару тыдняў, ажно захрас там да сёння, бо займеў сям'ю.

– Мы з табой тут падобныя, мне таксама трэба было рызыкнуць, каб зразумець, што дома лепш!

– Не кажы, Томас, і вось калі я з'ехаў, – Адам працягла каўтнуў палову ўжо цеплаватага грогу з паўлітровага куфля, і працягнуў: – Калі я з'ехаў, на наступны дзень, а гэта значыцца, зноў на трэці... Памёр першы пакупнік. Знайшоў яго мёртвым Януш, бо хадзіў па калідорах і заўважыў на дзвярах нейкую цвіль, пачаў адціраць, а цвіль не паддаецца, да ўсяго яшчэ і прарасла неяк дзіўна, літарай Х... Ну, Януш пачаў адскрабаць, налёг на дзверы, а тыя адамкнуліся, і вось, карціна алеем: мярцвяк. Ты разумееш, блізкіх у яго няма, страхоўкі ніякай, толькі цела ў кватэры – акуратна адзетае, абутае, нібы гаспадар кватэры паклаўся, стомлены, у гарнітуры адпачыць. Нават дакументаў не знайшлі... Але ж я і ня памятаю, каб ксеракапіяваў іх, усе дамовы запаўнялі на падставе таго, што даваў мне ў якасці пашпарта кліент, і я, далібог, не магу згадаць, што дакладна бачыў.

Медычная экспертыза выявіла спыненне сэрца, якое, паводле патолагаанатама, было ў вельмі кепскім стане.

Я папрасіў Януша сціпла і акуратна пахаваць майго першага пакупніка на гарадзкіх могілках, што ніжэй па схіле гары.

І каб ні слова не пратачылася ў медыя! Каб ніводнай літары з любога сказу, слова, радка пра тое, што адбылося, не з'явілася ні ў воднай газеце. Самі аплацім пахаванне.

– Ды гэта неймаверная гісторыя. Адам, ты мне тут прыдумляеш, п'яны... Але добра, распавядай, я люблю такое слухаць.

– Вось бачыш, я і кажу, людзі любяць пра смерць слухаць, пагатоў вусьцішныя гісторыі, і ня толькі слухаць, але і зазіраць пад ложак, у шафу альбо ў чорны калодзеж, у спадзеве спужацца – але ня так моцна, каб адбіла ахвоту ўзірацца праз мяжу дазволенага.

Карацей, усё памкнулася, нібыта ў зваротным кірунку. Кожны трэці дзень Януш знаходзіць на дзвярах імшысты крыж, а за дзвярыма нябожчыка, нябожчыцу альбо адразу дваіх пмерлых.

Я, каб не раздзімаць з гэтага скандалу, на працягу двух гадоў выплачваў Янушу грошы, і той займаўся не ўладкаваннем дамоў, але пахаваннем за пахаваннем.

Усё, што ў мяне засталося з той выспы, – а я ж паехаў толькі з дакументамі, грашыма і спадзевамі, – мой Джэк. Я гэтак да яго прывязаўся, што нават памыў у пральнай машыне, зашыў і схаваў на кніжнай паліцы, пакуль падрослая старэйшая дачка не знайшла яго…

– Добра, добра, добра, Адам, а далей што?!

– Ну… Паліцыя толькі пацiскала плячыма: маўляў, самі вінаватыя, пазасялялі старых і нямоглых, яшчэ і на гушчары трох шыбеніц…

Ніхто нічога не хацеў ведаць, разважаць, шукаць адказаў, на мае дамы пачалі глядзець як на справядлівую кару.

– Ну ня ведаю – думаю, што ўсе гэтыя паліцэйскія дома ўвечары злівалі сваім родным інфармацыю пра сьмерці, пагатоў новых пахаванняў не маглі не заўважаць у невялікім горадзе.

– Я мяркую, Томас, што я свой жылы комплекс пабудаваў дзеля таго, каб дапамагчы перапахаваць шыбенікаў у нармальных умовах, на могілках, бо іншага тлумачэння ў мяне няма. А гэты Януш, хто б ён ні быў, надта ладна выканаў такую працу, яшчэ і Джэка мне стварыў. А сам, ведаеш што? – Адам відавочна быў нападпітку.

– Што?

– Знік ён. Разумееш, знік.

– Вось гэта гісторыя…

– Самая рэальная гісторыя, а то! Дарэчы, а як там гара тая, з шыбеніцамі?

– Ну як, я ведаю толькі, што прастаялі будынкі некалькі гадоў, потым улады абвясцілі іх зонай карантыну, бо нейкая цвіль пайшла па цэгле, вырашана было разабраць будынкі, бо высокія яны, і небяспечна на гары.

– Гэта зразумела. Цікава, куды падзелі ўвесь матэрыял. Вядома, не адвозілі далёка, мо закапалі ў які катлаван.

– Я б у мора выкінуў, каб з канцамі. Але ведаеш, калі разабралі будынкі, цвіль высахла, і нават амаль нічога не засталося, каб даследаваць і захоўваць карантын на гары…

– У мора, так, каб той жа Ктулху там пабудаваў дамы для тапельцаў, – і Адам засмяяўся, а хутчэй захрыпеў, сумна і страшна. Потым рэзка сціх. – Я сюды ня проста так прыехаў, бо колькі гадоў не дае мне спакою адзін і той жа сон – вось я ўздымаюся на гару, а там мяне сустракае навюткі, толькі пабудаваны комплекс «Мора-Акіян», увесь такі прыгожы, і з кожнага акна на мяне глядзяць яны, мае кліенты, жыхары… І я падымаюся на апошні паверх у сваім улюбёным трэцім корпусе, дзе месціцца самы прыгожы, як на мой густ, пэнтгаўс. І шчаслівы я ад гэтага, неверагодна… Нейкае нерэальнае шчасце, такое, якога я ніколі не адчуваў, эйфарыя, словам. І вось я ў пэнтгаўсе, і мяне сустракае і абдымае надзвычай прыгожая, проста нейкая шалёна сэксуальная жанчына з кашэчымі вачыма, а я іду да яе і ў кішэні швэдра гладжу ляльку Джэка, а потым мне робіцца страшна, балюча шкада самога сябе і смерці… – стары апусціў галаву на рукі, і на секунду здалося, што ён плача, але ён нешта прамармытаў пад нос і прыціх.

А калі мінула хвіліна, я зразумеў, што мой наведнік спіць.

Я яшчэ пастаяў моўчкі, падумаў, што рабіць з Адамам, потым наліў сабе ўіскі ды замкнуў уваходныя дзверы – усё адно чакаць сёння няма каго – і пайшоў у другую частку дому, жылую.

Мая памерлая жонка сядзела перад тэлевізарам з келіхам віна, у яе былі мокрыя валасы і адзежа.

– Даўно цябе не было.
– Справы.
– Там у бары заснуў адзін падарожнік.
– Ага.
– Што глядзіш?
– Нічога. Толькі ўключыла.

Я падышоў да валізкі побач з фатэлем, адчыніў, кінуў зробленыя сёння некалькі паперак і жменю манет, потым сеў у фатэль і выпрастаў ногі.

– Ці доўга мне яшчэ збіраць грошы?
– Пакуль іх ня будзе дастаткова.

*Сакавік 2017 – кастрычнік 2018*
*Вісбю, Готланд, Швецыя / Вэнтспілс, Латвія*



**Анатоль БРУСЭВІЧ**

# ЧОРНЫЯ ВЕРШЫ

## Паэту

Калі аслабее вера,
У шэрых яе вачах
Ты раптам убачыш звера,
Халодны, спрадвечны жах.

Тады не марудзь ні хвілі –
Убі ёй у сэрца сталь
Сваіх і чужых ідылій
І кліч натхненне на баль.

На крык параненай веры,
На водар яе крыві
Злятуцца чорныя вершы.
Спрабуй іх, паэт, злаві!

## Стары фотаздымак

Гляджу на сябе дваццацігадовага –
Паўнюткага планаў, натхнення і шчасця.
Зазіраючы ў вочы, бачу там Бога,
Які запрашае сусветы на кастынг.

На вуснах атрутай злыя мелодыі
Часоў, якія ніколі не вернуцца.
Хіба толькі ў лютым днямі халоднымі,
Калі сонца прымае выгляд індзейца.

***

Уцякаю.
Куды – не знаю.
Бягу
Напраскі
Па жывых парастках
Мараў і мрояў.
Уцякаю да сябе.
Хто я?
Уцякаю.
Крычу.
Падобны да трупа
З рупарам.
Бягу
Праз натоўп,
Але там ніхто
Не чуе мяне.
Ні паненкі,
Ні дзеці,
Ні цені,
Ніхто.
Хоць ад енку
Дранцвею,
Сінею,
Падаю
На калені.
Ніхто не чуе
Мой голас.
Мёртвыя словы
Мае.

## Айчыне

Штоноч за тваім акном
На вербах растуць плады –
Пухнатыя грушы варон.
Іх раніцай лічыш ты.

На жаль, няма сярод іх
Вароны белай, як снег,
І з вуснаў тваіх то крык,
Злятае, то дзікі смех.

Ты чуеш – гэта табе
Накаркваюць сумны лёс
Вароны, што на вярбе
Бы чорныя пацеркі слёз.

## У гэтай краіне

У гэтай краіне ніхто не жыве,
І толькі пустыя адбіткі паэтаў
Часамі з'яўляюцца тут, нібы ў сне,
І мёртвы іх смех напаўняе паветра.

У гэтай краіне не ўбачыш сяброў –
Іх вочы закрытыя маскамі здзеку,
З іх вуснаў зрываецца лёгкі папрок,
І страшным праклёнам вяртаецца рэха.

У гэтай краіне пануе зіма.
Бяздушнасцю свеціцца твар яе сіні.
Ды веру, развеецца дзікі туман,
І будзе ўсё хараша ў гэтай краіне.

## Горад, ноч

Ты ніколі не спіш. Як і іншыя ўсе гарады,
Сузіраеш прастор з-пад жалеза-бетонных павек.
Ты баішся заснуць, як баіцца стары чалавек
Не дажыць да світання, заснуўшы – заснуць
назаўжды.

Неспакой гэты вечны вартуюць твае ваяры –
Камяніцы, касцёлы, гатовыя кінуцца ў бой.
Хоць і бітвы не будзе, бо коміны трубяць «адбой»,
Наліваюцца кроўю ад злосці старыя муры.

Ды і як тут заснеш – у цагляныя жылы кляшчом
Паўпіваліся сотні галодных і дзікіх машын.
І свярбяць светлафоры, і мёртвыя верты вітрын,
І гатэлі, і п’яныя кнайпы за кожным вуглом.

Я таксама не сплю – углядаюся ў роспач і жах,
У самоту стагоддзяў, у горыч наступнага дня,
У халодныя вочы, якія нічога не сняць,
У каменныя вершы, якія слязяцца ў вачах…

## Падаў снег

Падаў снег. Здавалася, неба
Асыпалася, нібы столь.
Падаў снег, як Юдава срэбра,
Замяняючы хлеб у соль,
Замяняючы веру ў роспач
І надзею ў бліскучы пыл.
Падаў снег, як лямант сірочы,
Як маўчанне брацкіх магіл,
Падаў ціха і асцярожна,
Падаў доўга, як страшны сон.

Гэтак бель шпітальнага ложка
Прадчувае хворага скон,
Гэтак жах нямее на скуры,
Прыпыняючы ў жылах кроў.
Падаў снег, бяздумны, пануры
І няўмольны цэнзар слядоў.

**Гадзіннік**

Гадзіннік заснуў апошнім трывожным сном
І стрэлкі яго пайшлі ў адваротны бок.
Гадзінніку сніўся свой механічны бог,
Які ўваскрасаў між гукамі «бам» і «бом».

Нарэшце збылося: не ён вымяраў час,
А час вымяраў яго, як мераюць боль,
Як мераюць бель хворыя, гледзячы ў столь,
Хоць марыць вочы заплюшчыць і закрычаць.

Спі, дружа, табе прысвецяць трэнаў радкі
Шкляныя сяброўкі з крохкім, светлым нутром.
Аднойчы і ты між гукамі «бам» і «бом»
Ускрэснеш, як бог, па той бок Кронан-ракі.



Наталля КАВАЛЕНКА

# У МАЛЕНЬКАЙ ГАСЦЁЎНІ

***

У маленькай гасцёўні,
За кубкам гарбаты
Нараджаліся вершы,
Натаваліся страты.

Па глыточках гарачых
Выпіваліся лёсы,
І цягнулася шчасце,
Бы кужаль на кроснах.

Павуцінка размовы,
Аксаміты яднання...
У маленькай гасцёўні,
За кубкам кахання.



***

Непаўторныя,
Адмысловыя,
Салаўіныя,
Вечаровыя,
Вялікодныя
І Хрыстовыя
Ткуцца дні мае –
Лёс-на-новыя.

***

У смаку творчасці
Ёсць нота перамогі.
Але над ёй трымціць
Вышэйшы сэнс:
Акорды разважанняў
І дамінанта мэты,
Гармонія пачуццяў
І тоніка Хрыста.





Выдатнаму,
самабытнаму беларускаму празаіку
і паэту роднага затоння,
аўтару такіх яркіх кніг, як:

*“Фірма” (2000 г.)*
*“Мясцовая гравітацыя” (2004 г.)*
*“Белы конь” (2006 г.)*
*“Поўня” (2018 г.) і інш.*

– **Міхасю АНДРАСЮКУ**
60 гадоў



*Сардэчна віншуем!*
*Зычым творчых поспехаў!*
*Многія, многія леты!!!*

Управа БЛА “Белавежа”

**Сцяпан КАРБОЎСКІ***

# ПАЧАТКІ
***(успаміны)***

Пачаткі майго жыцця звязаны з сяльцом Чахі Забалотныя. Яно прысела як бы на выспе, сярод балотаў і даліны ракі Нурэц, далёка ад гарадоў і дарожных шляхоў, на ціхім Падляшшы. Тут Другая сусветная вайна акалечыла маё дзяцінства. Мае старэйшыя браты пры „другіх саветах” вучыліся ў пачатковай школе ў Вульцы-Выганоўскай. З таго часу захаваўся лемантар. Бацька заўязата вучыў нас па ім чытаць. Запамяталіся да сёння яго тлумачэнні:

– Бачыш гэты значок, падобны на лічбу шэсць? Ён называецца мяккі знак. Ты пражыў ужо шэсць гадоў. Пішы літарамі пяць. Без гэтага значка будзе „пяц” – слова такога няма ў беларускай мове. Альбо другі прыклад, напішы слова піць. Як не будзе мяккага знака, будзе „піц”, такога слова таксама нямаш. Ужо неўзабаве, праз два гады, будзеш хадзіць у школу. Як добра адкажаш настаўніку, ён паставіць табе ў класным журнале „пяць”, а ты будзеш радавацца, а не адкажаш, паставіць „два” і ты будзеш плакаць. Запамятай гэта, сынок.

З таго лемантара я навучыўся добра чытаць. Бацька, быўшы ў Кляшчэлях на кірмашы, купіў кніжку казак. О, якое гэта было для мяне вялікае свята. Школы ў вёсцы не было і перад вайною хадзіць у школу абавязку таксама не было. Некаторыя старэйшыя крыху чыталі друкаваныя дзяржаўныя загады. Мой бацька перад бежанствам у Расію кончыў прыхадскую школу ў Вульцы-Выганоўскай, а ў Растове на Доне – гарадское вучылішча і на той час многа ведаў. Там, у бежанстве страціў маю бабулю і дзядулю, на бацькаўшчыну вярнуўся з сястрою Параскаю ў 1923 годзе. У 1924 пасваталі матулю Ганну і праз год на-

радзіўся ім сын Янка...

З аповедаў бацькі памятаю, што ў пасляваенныя гады многа гаварылі аб правах людзей: раўнапраўі жанчын і мужчын, свабодзе слова і абавязковай усеагульнай асвеце...

За мае дзіцячыя шаленствы мне не раз улятала, бацька гнуў на левае калена, а правіцаю пускаў рамень у рух на мяккае месца. Але адзін выпадак пакінуў у памяці незвычайнае ўражанне бацькавай ласкі і дабрыні.

Надыходзіла вясна. Жылі мы тады ў Паўлінове, у маёнтку пана Пятра Шульца, у бараку-чвараку. На радзіме-бацькаўшчыне ў час вайны нашае ўсё было спалена. А лічыльнік лічыў мае дні на сёмы гадок. З даху, крытага гонтай, у поўдзень стукалі кроплі вады і на зямлю ападалі ледзяшы, звонка разбіваліся, быццам шкло. На палях паказаліся ўжо праталіны, сумна чарнеў недалёкі альховы лес. Бацька з матуляй былі ў Кляшчэлях на кірмашы. Янка з Васем, уладзіўшыся ля парога, каля вакна, заўзята будавалі шпакоўні. А я, паставіўшы табурэты адзін на другі, на паліцы за заслонкаю знайшоў бляшанку ад гарбаты. Адкрыць было труднавата, але ўдалося. Там у сярэдзіне ў скрутку ляжалі прыгожа размаляваныя паперкі. Радасны ад цікавай знаходкі, я засунуў іх хуценька за кашулю, пацíху вымкнуўся за дзверы, памчаўся да суседа Валодзі. У Валодзі тут жа з'явілася цікавая думка:

– Я маю нажніцы... Зараз вырэжам карцінкі і панаклеіваем на акно.

Пры гэтых занятках убачыла нас маці Валодзі Рая, што ўвайшла з панадворка:

– Што вы тут абодва нарабілі! Грошы парэзалі!.. Ну, Сцёпка, сёння цябе бацька зноў адлупцуе!

Паперкі, якія я прынёс, мы ўсе парэзалі на кусочкі і карцінкі з выявай цара Расіі красаваліся на вокнах. Вярнуўшыся з кірмашу бацька з матуляю ўбачылі табурэты пастаўленыя адзін на адзін. Бацька заглянуў на паліцу – бляшанка была пустая... У майстроў каля шпакоўняў спытаўся, дзе я. У адзін голас адказалі:

– Напэўна да Валодзькі пабег!..

Ускочыўшы ў хату Раісы са злосным поглядам у вачах, ён глянуў на нашу работу і цяжка ўздыхнуў:

– Такую памятку парэзалі!..

Тыя грошы Бацька сцярог як памятку свайго побыту ў Расіі, як сведку мінулага часу. Я раней ніколі іх не бачыў і не ведаў, якую яны мелі каштоўнасць. Я плакаў. Бацька ўзяў мяне на рукі, панёс дадому. Ідучы пяшчотна сказаў:

– Сцёпка, скажы, толькі праўду: з бляшанкі жоўценькія кружочкі браў ты, ці не?..

– Не-е-е, не-е браў! – заікаючыся праз слёзы, адказаў я. Абняўшы бацьку за шыю, прытуліўся да яго калючый няголенай шчакі. Прасіў:

– Татуля, татачка, даруй, больш не буду рабіць...

Лупцоўкі не было, даравалі. Матуя ласкава прытуляючы, сказала:

– Памятай, не рабі шкоды ў хаце і па-за домам...

Мой Бацька ніколі не хадзіў у царкву, а калі была дыскусія на тэму рэлігіі, ён рашуча гаварыў:

– Я веру ў Бога, а папам і ксяндзям не веру. У іх жыцці няма Хрыстовай праўды. У бежанстве наглядзеўся я, што яны выраблялі. Акрамя таго п'юць самагонку і загольваюць жанчын, як і мы, грэшныя.

Матуля хадзіла ў царкву, трымалася нашых абрадаў, пасціла і святкавала. Памятаю, на Пакрову – наш прыход у Вульцы-Выганоўскай, тамака хадзіў я ў пачатковую школу – маці ўзяла на святкаванні мяне з сабою. У царкве пах запаленых свечак, ладана, бляск іконаў, дым і мігатанне агню, водбліск панікадзіла, басісты голас святара Аляксандра, спеў хору – усё гэта ўрэзалася ў маю памяць на ўсё жыццё... Матуля, купіўшы свечкі, увайшоўшы ў царкву, ставіла іх на падсвечнікі перад іконамі – і малілася. Я ўслухоўваўся ў яе шэпт і частае дыханне і пачынаў разумець, што матулі жывецца вельмі цяжка, што яна скардзіцца Богу і чакае ад Яго дапамогі...

У царкве я сустрэў знаёмых шпанукоў. Яны запрасілі мяне ў нашу школу, што стаяла праз дарогу, насупраць царквы. Ужо добра падхмеленыя, яны спявалі на панадворку песеньку: „С вином мы радились, с вином мы памрем, и нас пахаронят с проклятым попом...”

Школьны калідор быў напоўнены моладдзю, воблакамі над галовамі плыў тытунёвы дым, на падлозе, пад нагамі трашчала

шалупінне сланечніка. З вялікай цяжкасцю я прапхнуўся наперад. Пускалі фільм, у кутку нехта іграў на гармоніку. На экране мітусіліся невядомыя людзі, яны стралялі з гармат, гарэлі хаты, лямантавалі жанчыны, здзіралі з духоўнікаў вопратку, траслі за сівыя бароды, пляваліся на іх... Фільм я глядзеў з вялікім захапленнем, першы раз у жыцці, цалкам забыўшыся пра матулю і царкву. Толькі тады, як зазванілі царкоўныя званы, прыпомніў. Кругом царквы ішоў хрэсны ход, наперадзе з крыжамі і харугвамі, за імі дванаццаць святароў, спяваў хор, наківотах абразы неслі маладыя дзяўчаты з кожнага прыхадскога сяла. За імі, быццам рака, калыхаўся тлум прыхаджан. Праз нейкі час з цяжкасцю ў гэтым жывым патоку людзей я ўбачыў матулю. Яна шэптам размаўляла з гасцьмі. Пасля трохразавага абыходу працэсіі навокал царквы іконы і харугвы ўнеслі ў храм. Святары сталі ля сходаў і адзін з іх, у пазалочанай шапцы, выступіў перад людзьмі:

– Прыхаджане, маем цяжкія хвіліны нашага жыцця, трэба важыць кожнае сказанае і напісанае слова, мець вочы і вушы адкрытымі, не сунуцца ў непатрэбныя справы. Трэба дружна хадзіць у царкву, маліцца... Бог выслухае нашы просьбы і дапаможа нам усё гэта перамагчы.... Жадаю ўсім здароўя і цярплівасці, да спаткання ў наступным годзе...

Людзі ціхенька цалавалі крыжы ў руках святароў, ахіналіся знакам крыжа і адыходзілі. Расплываліся дарогамі ў свае вёскі – адны пехатою, іншыя на жалезных вазах, над дарогамі падымаўся пыл з сухой зямлі, чутна было конскае іржанне. З неба, праз пёрыстыя аблокі, паглядала на гэта ўсё асенняе сонейка. Маці кіравала канём дэрэшам, пугаю заахвочвала яго да бегу, у адказ ён круціў хвастом і крыху хутчэй варушыўся. У Маскаўцах на вуліцы таўпіліся сяляне, у клуні нейкага гаспадара гудзела малатарня, маладыя хлопцы з чырвонымі павязкамі на левых рукавах кіравалі рухам. На канцы сяла маці спыніла каня, каб распытацца, што за рвэтэс робіцца ў вёсцы. Знаёмыя адказалі:

– Не хацеў ісці ў калгас, то сёння яго за гэта раскулачваюць.

Матуля па дарозе сароміла мяне:

– Я цябе ў царкву ўзяла, каб ты Богу памаліўся, а ты што

зрабіў, да д'яблаў нячыстых пайшоў... Пакарае цябе Бог за гэта нейкай хваробай альбо іншым няшчасцем...

– Усіх пакарае, хто быў на калідоры ў школе? – запытаў я з сумам.

– Усіх пакарае, абавязкова – усіх! Але не ўсіх адразу, не ў адным часе бязбожнікам Бог не даруе, у адпаведную хвіліну гэта зробіць. Бойся Бога, сынок, бойся...

– Мама, скажы... А гэтых, што сёння малоцяць і раскулачваюць, таксама пакарае?..

– Сынок, памятай, не будзе злітавання ўсім тым, што робяць крыўду іншым людзям – ад пакарання яны не ўцякуць...

Убачыўшы на маім твары і ў вачах раскаянне, Маці далей гаварыла:

– Бог, Ён як бацька добры: карае непаслушных дзяцей для іх дабра, каб зразумелі свае памылкі, Ён карае таму, што іх любіць і хоча дабра, і паважання. Але некаторыя дзеці далей астаюцца непаслушнымі, не зважаючы на пакаранні. Бацька гэта робіць пакуль мае сілу і цярплівасць. Пакідаюць такія дзеці бацькоў і адыходзяць на сваё неспрактыкаванае жыццё. А Бог засёды мае цярплівасць і сілу, і міласць... Вось і ты маліся Богу, Ён змілуецца і даруе твой сённяшні грэх.

– А якімі словамі трэба маліцца, мама?

– Трэба маліцца наступнымі словамі: „Отчэ наш, іжэ есі на небесі...”

– А што значыць, „іжэ есі”, мама?

– Гэтага я не ведаю, ведае напэўна святар...

– А чаму ты ў яго не спыталася?

– Ці ўсе людзі могуць ведаць усё і пра ўсё?..

Дэрэш з бегу перайшоў на трушок, уехалі ў сяло, навука кончылася. Мітусіліся на вуліцы дзеці, гаспадары сустракалі запрошаных гасцей. Бацька адчыніў уяўзныя вароты, праз некалькі хвілін на панадворак заехалі і нашы госці: сястра матулі, швагерка Маруся з мужам Матвеем, Мартынюкі з дачкою Ганнай з Градалёў, сястра бацькі залвіца Тэкля з мужам Пятром, Цары з сынамі Аляксеем і Язэпам з Мокрага. Усе прывіталіся, расцалаваліся, сыпнулі мне цукеркаў, пераважна модных „рачкаў”...

Дзядзька Пятро быў высокага росту, лысы, з рыжымі вусамі

і разумнымі вачыма. Матвей быў нізкі, каранасты, з галавой пахіленай уперад, з кучаравымі светлымі валасамі, з-пад якіх тырчалі вялікія вушы. Хата была ў нас тады тымчасовая, склеценая наводдаль ад вуліцы, каб тамака можна было пабудаваць ужо сапраўдную. Госці гаварылі, што лепш такая на сваім месцы, чым сядзець на чужыне, там, у Паўлінове.

А тым часам, пакуль вялася гутарка на панадворку, матуля накрыла стол; духмяны хлеб, пірагі, вараная і печаная бараніна і свініна, квашаныя агуркі, тушаная капуста з мясам і верашчака (дробна кроеная бараніна з расолам з яе, цыбуля, часнок, перац, соль). Кожнаму відэлец і лыжка. На сярэдзіне стала, над усім стаяла літровая бутэлька, накрытая кілішкам, моцнай сінявокай самагонкі. На загад дзядзькі Пятра ўсе прысутныя павярнуліся тварамі да іконы, сказалі малітву „Отча наш”, ахінуліся знакам крыжа. Паселі вакол стала на лавах, пачаўся абед. Бацькі я ніколі не бачыў п'яным, піў ён малымі глыткамі, гасцей любіў частаваць і сардэчна запрашаў. Дзядзька Матвей вёў сябе ціха, але сівы напой хутка яго мяняў. Неасцярожнае слова любога госця або гаспадара выклікала ў ім гнеў. Пачынаў чапляцца, сварыцца.

Праз вакно маці заўважыла, што ў хату з вуліцы ідзе Міхась, солтыс, мясцовы актывіст партыйнай ячэйкі.

– А што гэта за асобень? – спытаўся дзядзька Пятро, і, падкруціўшы вусы, загадаў хатнім і гасцям захаваць асцярожнасць. – Вось і нечаканы госць у хату...

– Запрашаем за стол госця... – сказала матуля.

Паводле мясцовай традыцыі, спозненым альбо няпрошаным гасцям налівалі штрафную чарку гарэліцы, у ліку трох штук. Міхась, каўтануўшы свой першы штраф, закусіў квашаным агурочкам, у руку ўзяў кавалак авеччыны ды пачаў сваю прамову:

– Паводле патрэбы сучаснай сітуацыі, я, як прадстаўнік мясцовага актыву, хаджу ад гаспадара да гаспадара з прапановай наладзіць у вёсцы калгас. Будзем добра жыць і лягчэй працаваць, будуць машыны. А калі хто не захоча ўступіць – пайсці новаю дарогаю, сустрэнецца з праблемаю і акцыяй, якая праводзіцца сёння ў суседнім сяле. Ехаўшы з царквы, напэўна бачылі вы і чулі... Найбольш упартых адправім у астрог.

– Добра гаворыш, даражэнькі, за такую прамову выпі яшчэ, – ласкава прыкінуўся добранькім Пятро, наліў адну і другую чарку госцю, сарэчна... Папрасіў Міхася на сярэдзіну сталовай... З-за стала высунуліся Матвей і рэшта мужыкоў. Дыскусія на тэму калгаснага дабрабыту працягвалася на нагах. А тым часам бацька хуценька, па-ціхеньку прынёс з сенцаў вяроўку. Матвей, убачыўшы бацьку з такой прыладай, зайшоў ззаду, схапіў аратара, прыціснуў яго да сябе, аж той пачаў клікаць паратунку.

– Ганна, хутка давай ручнік! – загадаў Пятро, – Заткні горла актывісту... Павал, нясі шнур, лаўку рыхтуйце!..

Дружна паклалі вярбоўшчыка на лаву. Ён плакаў, біўся галавою, паказваў вялікую сілу. Каб прывязаць яго да лавы, спатрэбілася многа захаду і лоўкасці. Лаву з Міхасём палажылі на падлогу, каб не паабіваўся, падаючы...

– Добрая і чыстая работа, няхай будзе што будзе, але далей сёння не пойдзе і не будзе муціць людзям у галовах калгасным дабрабытам! – сказаў бацька і сардэчна запрасіў усіх за стол. Усеўшыся за сталом, дзядзька Пятро пры той нагодзе выказаў думку вершам:

У калгас дарога проста,
А з калгаса – касяком.
У калгасе па дарозе
Дзеці ходзяць басяком...

Ужо, відаць, падвыпіты брат Янка запрасіў гасцей на гулянку. На гармоніку іграў добра падвыпіты Карп, на скрыпцы іграў Васілёў Лявон сухаватага выгляду, з усмешкай на твары, у бубен лупіў яго брат Валодзька. А калі пачалі спяваць дзяўчаты з хлопцамі, музыка аціхла. Пляцоўку асвятлялі кволымі агеньчыкамі два нафтавыя фанары, навокал была восеньская цемрадзь, у вокнах мігцелі газоўкі.

Павал завёў гутарку з гасцьмі аб распластаваным на падлозе прапаведніку новай жыццёвай дарогі:

– Трэба ж нешта з ім рабіць, каб не было вялікага клопату, бо могуць закінуць у астрог. Цяпер дастаткова цёмна...

Па сталовай нервова хадзіў Пятро, цярэбячы буйныя вусы.

– Маю такую прапанову, але трэба ўсім трымаць язык за зу-

бамі, і то абавязкова доўга, найважнейшае, каб аб гэтым не даведаўся твой найменшы, – і кіўнуў да майго бацькі.

– Яго няма дома, напэўна памчаўся на забаву, хутка не вернецца.

– То добра. Давайце радзюжкі, завесім вокны! Ты, Павал, ідзі на панадворак, упэўніцца трэба, ці нікога блізка няма і хуценька вяртайся.

– Цішыня навокал, толькі чуваць, як музыканты грэюць, – паведаміў гаспадар.

– Ну вось, цяпер возьмем госця з лаваю, асцярожна, каб не разбудзіць, занясем за суседаву клуню. Там яго развяжам і пакінем, хай спакойна цверазее...

Як гаварылі, так і зрабілі. Неўзабаве лаву прынеслі ў хату пустую.

Я, вяртаючыся дахаты, убачыў цёмныя вокны, але, услухаўшыся, зразумеў, што яшчэ не спяць, гамоняць. Дзверы былі зачыненыя, адчыніла іх мне маці, хуценька завяла на запечак і ўлажыла на рускую печку спаць. Дзядзька Пятро, спазнаўшы сібірскія прасторы ў гады бежанства, завёў сваю любімую песню: „По тихим степьям Забайкалья, где золото роют в горах, бродяга, судьбу проклиная, тащился с сумой на плечах..”

Пакуль я не заснуў, выглядваў з-за вугла печы, углядаўся ў шырока адкрыты дзядзькавы рот, у якім не бачыў зубоў; можа, іх закрывалі вусы... Дзядзька Матвей сядзеў за сталом,ківаў галавою і глядзеў мутнымі вачыма на кволы агеньчык пяцілінейнай лямпы.

На досвітку матуля разбудзіла мяне, госці ўжо развіталіся з сямейнікамі, жадаючы ўсім здароўя і сустрэчы праз год. Бацька заглянуў за суседаву клуню. Начлежніка там ужо не было...

Назаўтра пачыналася нейкае новае, мірнае, працавітае жыццё сялян. На двары быў тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят першы год.

***

Урочышча Замчыска над рэчкай Нурэц. Сёння я тут адзін. Глухая, амаль бязлюдная прастора. Сярод надрэчнай дрыгвы знаходзіцца таямнічы круг, з высокімі берагамі, у сярэдзіне ён значна паніжаны, і на ім растуць дубочкі і алешнік. Мясцовая

легенда гаворыць, што дзесьці з дзесятага стагоддзя стаяў тут высокі замак, у якім жыў магутны ўладар гэтых мясцін. Цяпер навокал вялікая ліпеньская цішыня, якая адчувальна супакойвае душу і псіхіку таго, хто сюды прыйдзе. Праменне цёплага сонейка серабрацца на дробненькіх хвалях Нурца. Ён лянiва коціць свае воды, пазбіраўшы іх з навакольных крынічак, што цякуць з усходу на захад. Патаптаная і засмечаная трава, пустыя кансерв-ныя банкі і бутэлькі з-пад піва на пясчаным дне рачулкі сведчаць, што тут бываюць малакультурныя турысты. Вада сёння цёплая, празрыстая, цячэнне ракі амаль бясшумнае. На другім беразе вада лёгенька варушыць тонкі лазняк і чарот. У некалькіх месцах дае аб сабе знак разыграўшаяся рыба.

Нацешыўшыся жыццядайнай вадзіцай, уваходжу на пажоўклы ад жары, пахучы гарам таямнічы круг. Перад вачыма адкрываецца вялікі плоскі краявід. Неба без хмарынак, галубаватае, далей краягляд расцякаецца ў сінюю бясформенную далячынь. Я гляджу навокал, узіраюся ў тую далеч і вось бачу: з левага боку, на захадзе сонца, стаіць сяло Шашылы, з правага на ўсход – малое сяльцо Паўлінова, а проста на поўнач – Чахі Забалотныя. Стаяць яны на выспе, сярод балот ракі Нурэц; ад гэтага, мабыць, і пайшла назва пасялення...

Тут я зноў успомніў аб далёкіх пражытых гадах, прастрэленай вайною сваёй маладосці. Даўно гэта было, а памятаю – быццам усё тое было толькі ўчора.

Стаялі цудоўныя і цёплыя ліпеньскія дні 1944 года. Над вакольнымі балотамі ігралі блікі яркага летняга сонейка. Па дарозе з Кляшчэляў на Боцькі, падымаючы пыл, цягнуліся ваенныя абозы. Гэта немцы адступалі на захад. Два нямецкія самалёты кружылі над чыгуначным вузлом станцыі Чаромха. Кінулі недзе некалькі бомбаў, і паляцелі на ўсход. Адтуль чуваць было артылерыйскі гул. Там ішлі баі за Брэст і Высокае. Немцы валакліся пехатою, апусціўшы галавы – саветы збілі ім былую арыйскую гордасць.

Вечарам у нашу хату зайшоў фельдфебель з іншым чалавекам і на вуха сказаў майму бацьку: „Скоро нет война. Крыг капут”. Ён падышоў да мяне, прыгарнуў да сябе, моцна заплакаў... Выходзіўшы на панадворак той другі чалавек на ўкраінскай мове раіў нам: „Тут у любы дзень можа быць бойня-

фронт, і лепш было б, каб людзі выехалі з сяла і забралі з сабою ўсю маёмасць”. Мае бацькі сказалі старэйшым сынам Янку і Васільку, каб пайшлі па хатах і паўтарылі тое, што гаварыў украінец. Праз нейкі час у вёсцы пачаліся мітусня і гоман. Старэйшыя людзі параілі падавацца брадамі на Замчыска, якое, на іх думку, было самым бяспечным месцам у ваколіцы, адасобленым ад шляхоў. Мой бацька з сынамі запраглі буланага каня ў драбінясты воз, загрузілі сала, хлеб, гаршчкі, вопратку, хлебныя сухары. Маці прыказала яшчэ вылавіць курэй і парасятак, проста ў мяшкі.

Пасля цёплага дня была парная ноч. Бацькі ўхуталі мяне радзюжкамі на возе і сказалі, каб я спаў. Янка і Васіль мелі заданне – раніцай прыгнаць карову і авечак на Замчыска.

Вакол воза над нашымі галовамі і буланчыка ігралі камары. Недзе на ўсходзе далёка дрыжэлі зарывы пажараў. У цёмным начным паветры гудзелі самалёты. Тата гаварыў, што гэта савецкія самалёты ляцяць бамбіць Бельск: тамака ёсць нямецкі аэрадром.

Праехаўшы даволі доўгія брады, апынуліся мы ў нішы таямнічага круга – Замчыска. Мяне разбудзіў гоман аднасяльчан, што ехалі за намі доўгім абозам. Наш бацька паставіў пад дубам будан, накрыў яго галлём алешніка. З воза разгрузілі мы сваю маёмасць з мяхоў крыху развязаных і прычэпленых да драбін. Сакаталі куры і паквіквалі парасяткі. Неўзабаве дзецюкі, хлопчыкі ды дзяўчаткі, прыгналі кароў, прынеслі на плячах, як дзетак, бэклівых авечак. Кароў зараз перагналі за чацвёрты брод, у Сухавольскія сенажаці, каб там пасвіліся. У гэтым крузе прыйшлося вяскоўцам жыць чатыры дні.

Надышоў памятны дзень 22 ліпеня 1944 года. Немцы надалей валакліся на захад. Па іх калонах біла артылерыя. Ад усходу за нашай вёсачкай паявіліся пярэднія часці савецкіх войскаў. На ўзгорку каля Краснага Сяла немцы акапаліся. Саветы лупілі па немцах з лёгкіх гармат, танкетак. Перашкодай нямецкім наводчыкам была забудова сяла. Ударылі запальнымі снарадамі, успыхнуў пажар. За ўзгоркам ад Маскаўцаў завылі слаўныя кацюшы, замоўклі немцы і савецкія гарматы. Мужыкі рассудзілі, што фронт пайшоў на Боцькі. Жанчыны вельмі плакалі-лямантавлаі, што гарэлі іхнія гнёзды і не будзе куды

прыхіліць галовы ім і малым дзеткам. Усе пачалі збірацца ехаць „дамоў”...

На ўсходзе дыміліся пагарэлыя вёскі ды іржышчы. Паветра пахла гарам зерня, смалінай і спаленай хатняй жывёлы. Гэта немцы палілі на сваім шляху назад копы збожжа і сяленні. Дым сіняватага колеру акрываў увесь краявід і вісеў над ім даранку наступнага дня. У вёсцы ўратаваліся дзве хаціны і адна клуня. Сумна пазіралі ў неба коміны, абгарэлыя дрэвы і на папялішчы сваіх сядзіб людзі. Буслы лёталі, дарэмна шукаючы сваіх гнёзд. Нашы тата з мамай падаліся ў Паўлінова, у маёнтак пана Пятра Шульца, за імі яшчэ некалькі сем'яў вяскоўцаў – там усе мы жылі да 1948 года, на сваёй бацькаўшчыне клеціўшы новыя дамы...

Я зноў углядаюся ў сіняватую далячынь, да болю ў вачах. З надыходам вечара яе колер гусцее, робіцца цёмна-сінім. Сонейка пачынае хавацца за зялёную грыву дуброў, прысела яшчэ над рэчкай. Вада пахне водарасцямі і рыбай. На дубочках на начлег схаваліся птушкі, у рэчцы кракаюць дзікія качкі. Ліпеньскі дзень дагарае. Над асушанай дрыгвой гусцее змрок. Некалькі назойлівых камароў лятае над маёй ссівелай галавою, спяваючы сваю вечную песню. Яны перашкаджаюць спакойна думаць пра красу адыходзячага дня, бязмежныя далі акалечаных першых гадоў майго дзяцінства.

---

***Сцяпан Карбоўскі (1940 – 2014)** народжаны ў вёсцы Чахі Забалотныя, Гайнаўскага павета. Вучыўся ў Бельскім белліцэі, пасля смерці бацькі займаўся сваёй адукацыяй карэспандэнцыйна. Дэбютаваў у “Ніве” (1962). Апавяданне „За скібу бацькаўшчыны” было яго вяртаннем на старонкі беларускага друку пасля сарака гадоў ад дэбюту. Працаваў чыгуначнікам у Сілезіі, шахцёрам, інструктарам у ГП БГКТ, а яшчэ кіраўніком дабраахвотнага атрада рабочых у Голдапе, а затым яшчэ і ў фінасавым аддзеле ў Бельску, у Нурцы. З верасня 1967 г. з сям’ёй перасяліўся ў Гайнаўку, дзе быў дыспетчарам транспарту ў камунальнай гаспадарцы. У 1979 г. перайшоў на „прыватную ініцыятыву”. Рабіў помнікі. Выйшаўшы ў 1995 г. на

пенсію, будаваўся, купіў ферму курэй-бройлераў. Заснаваў фірму, якая гандлявала драўнінным вугалем з Беларуссю (Полацк, Лепель, Орша) і Нямеччынай.

А літаратурную творчасць ўсё адкладваў на пазней, калі, як казаў, аформіць усе сямейныя справы, паможа сынам. А калі ўжо пачаў пісаць успаміны са свайго турботнага і багатага жыцця, яно, тое ягонае жыццё-быццё, нечакана спынілася.

*(М. Лукша)*



**Серж**
**МІНСКЕВІЧ**

# ДАКАПАЦЦА ДА НЕБА

*Усё адбываецца на іншай планеце…*
*Усе асацыяцыі з Вашай планетай – гэта Вашыя асацыяцыі.*

***(п'еса-фэнтазі)***

**Дзеючыя асобы**

І н - Й о р м – малады чалавек (паміж 20 – 30 гадамі)
Р а н ш а й – за 40 год
Б у р г а м і с т р
В е л і о р а – жонка б у р г а м і с т р а
Г а л о ў н ы П с і х а а н а л і т ы к
Р у а т а – чарнявая (да 25 год)
Т э о н а – бялявая (да 30 год)
О я р э т - С – вандроўны маг (пажылы)
К а р а - К о р – нізкарослы чалавек (сярэдніх гадоў)
С э й н а – у першым акце дзяўчынка-падлетак, у другім – дзяўчына
У п л я й к – камандзір атрада (сярэдніх гадоў)
М а з е й – паэт (паміж 20 – 30 гадамі)
Варта
Жаўнеры
Жыхары

## ДЗЕЯ І

# Сцэна 1

Паляна ў лесе.
Р а н ш а й пячэ на вуглях бульбу.

Р а н ш а й. Не хавайцеся, я ведаю, што вы тут. Чыхайце, давайце, чыхайце.

І н - Й о р м *(за кустом чыхае).*

Р а н ш а й. Вам халодна, бо вы без адзення.

І н - Й о р м. Ну не зусім… (*Выходзіць з-за куста. На Ін - Йорме толькі спадніца з лісця папараці і скураныя сандалі.*)

Р а н ш а й. Вы звар'яцелі! Здымайце гэта хутчэй!

І н - Й о р м. Не!

Р а н ш а й. Здымайце! *(Спрабуе сарваць яго спадніцу.)*

І н - Й о р м. Дый што гэта такое?

Р а н ш а й. Гэта атрутная расліна.

І н - Й о р м. І што будзе.

Р а н ш а й. Можаце пачырванець, распухнуць.

*(Ін - Йорм аглядае сябе, пачынае чухацца)*

Р а н ш а й. Вось вам *(дае рагожу).* Спадзяюся, вы ня доўга насілі гэтую спадніцу. *(Ін - Йорм хутка пераапранаецца.)*

Р а н ш а й. Давайце да агню.

І н - Й о р м. А гэта?..

Р а н ш а й. Бульба. Натуральная. *(Раншай кійком выкочвае печаную бульбу з вогнішча, дае Ін - Йорму)*

І н - Й о р м. Гарачая! *(Раншай бярэ бульбу, пачыне ёсці, Ін- Йорм глядзіць на яго і паўтарае.)*

Р а н ш а й. Усё тут натуральнае. Дрэвы, трава, птушкі, неба, сонца. Сонца, а не перыядычнае святло.

І н - Й о р м. Дзе сонца?

Р а н ш а й. За горамі. Бо вечар.

І н - Й о р м. А зоры?

Р а н ш а й. Зоры будуць пазней. Сонца сядзе, і яны з'явяцца. *(Ін-Йорм азіраецца)*

І н - Й о р м. Дрымучы лес.

Р а н ш а й. Гэта не лес, гэта сад.

І н - Й о р м. Дрымучы сад... Вялікі! Хто тут жыве?

Р а н ш а й. Не такі і вялікі. За тыдзень абыдзеш. Ёсць птушкі, грызуны, дробныя драпежнікі. Драпежнікі рэгулююць

колькасць жыўнасці. Але небяспечных для чалавека – няма.

І н - Й о р м. Што за людзі жывуць у гэтым Садзе?

Р а н ш а й. Мае.

І н - Й о р м. Я ма́ю на ўвазе – як яны завуцца?

Р а н ш а й. Раншай... Раншайты.

І н - Й о р м. Я не ведаю такога народа. Вы, пэўна, прыйшлі з Паўднёвых тунэляў. Гаворка ў вас падобная.

Р а н ш а й. Так, праўда. Гэта было даўно. Пра нас, пэўна, забылі. А ў вас свая гаворка. Я такой і не чуў.

І н - Й о р м. Я з *вемасутаў*. З самага долу. Ін-Йорм Даляшорзах.

Р а н ш а й. Ого, з самага долу! Значыць, вашэць з тых “кратоў”, шаманаў-далакопаў?

І н - Й о р м. Так... Мне не падабаецца, калі нас так называюць.

Р а н ш а й. І вы змаглі дабрацца сюды! Я – Раншай Варат Першы. (*Раншай падае правую руку. Ін - Йорм паціскае яе. Затым Ін - Йорм дае крыж-накрыж левую руку, Раншай паціскае і яе*). Цяпер, калі мы ведаем нашыя імёны, можам перайсці на ты?

І н - Й о р м. Так-так… Такі звычай у нас таксама ёсць. Цікава, што тваё першае імя і назва народа супадаюць.

Р а н ш а й. У нас прынята дадаваць да імя мужчын назву нашага гордага народа.

І н - Й о р м. У такіх умовах, народ квітнее. Паветра і вады, і ежы ўдосталь.

Р а н ш а й. Вядома.

І н - Й о р м. І колькі вас? Сотня, дзве? Вунь колькі месца.

Р а н ш а й. Нас тут дастаткова. Хаця нават адзін новы чалавек можа стаць лішнім.

І н - Й о р м. А дзе-небудзь там, там ці там (*паказвае ў розныя бакі*) няма яшчэ аднаго саду? Альбо дзікарослага лесу?

Р а н ш а й. Не. Вакол горы. Непраходныя. Кола замкнутых гор. Да верхніх слаёў атмасферы…

І н - Й о р м. Як ты сказаў?

Р а н ш а й. Да самога неба.

І н - Й о р м. А што за горамі? Там павінна нешта быць... зямля.

Р а н ш а й. За імі жалезна-каменная пустэльня. Мёртвая. Усюды дробны пыл.

І н - Й о р м. Усюды?

Р а н ш а й. Па самы далягляд і за ім.

І н - Й о р м. Значыць, мае супляменнікі дарма капаюць.

Р а н ш а й. Шаманы-далакопы? Так. Дойдуць да цвёрдага пласту. А яго прайсці немажліва.

І н - Й о р м. Калі нават і прайшлі – іх засыпала б пылам.

Р а н ш а й. Так. Захлынуліся б у пыле.

І н - Й о р м. А папярэдзіць іх адгэтуль нельга?

Р а н ш а й. Дарогі назад няма. Тое, што ты тут – амаль неверагодна.

І н - Й о р м. Мяне прывялі да нашых вешчуноў. Сказалі, што я пакліканец.

Р а н ш а й. Табе сніліся сонца, зоры. І ты больш не мог знаходзіцца там *(паказвае на зямлю)*.

І н - Й о р м. Ты мяне разумееш.

Р а н ш а й. О, так… Я цябе вельмі добра разумею.

І н - Й о р м. Вось – *(паказвае татуіроўку)*, пасланне *вемасутаў* да зор. Яе зрабілі перад тым, як праводзіць мяне. Вешчуны адкрылі патаемны ход наверх.

Р а н ш а й. Як ты прайшоў цэнтральныя ўзроўні? Там жа такіх, як ты, – прыхадняў з долу – падвешваюць у пятлі на алюмініевай трубе.

І н - Й о р м. І мяне падвесілі…

Р а н ш а й. Хіб*а*?

І н - Й о р м. Мяне падвесілі, і я ўжо боўтаў нагамі.

Р а н ш а й. Выглядаеш, як жывы. Мо ты прыйшоў з таго свету?

І н - Й о р м. Так, я прыйшоў з таго свету…

Зацямненне

## Сцэна 2

Падземная зала, размешчаная на раздарожжы вялізных тунэляў. Пасярод залы шыбеніца-папярочка, зробленая з тонкіх труб. Перад ёй на зямлі ляжыць шырокая труба, якая напалову выступае з падлогі. Побач два крэслы, падобныя да тронаў. Уваходзяць Бургамістр і Галоўны Псіхааналітык.

Б у р г а м і с т р. Ну як? Усё гатова? Рэквізіт не абарвецца? *(Ідзе да трубы-папярочкі, правярае вяроўку і пятлю)*.

Г а л о ў н ы П с і х а а н а л і т ы к. Не, не абарвецца. Праверылі на Вугвеле.

Б у р г а м і с т р. На Вугвеле?

Г а л о ў н ы П с і х а а н а л і т ы к. Найцяжэйшы целаахоўнік Вашай Светласці.

Б у р г а м і с т р. І што, вы яго таго?

Г а л о ў н ы П с і х а а н а л і т ы к. Божа ўратуй. Падвесілі за ногі і акуратна апусцілі.

Б у р г а м і с т р. Далакопу грым зрабілі? А то спалатнее, пазелянее. Гэта так неэстэтычна.

Г а л о ў н ы П с і х а а н а л і т ы к. Адмылі, прыпудрылі, адзелі, апранулі. Сужаніца Вашай Светласці сама выбрала ўбранне.

Б у р г а м і с т р. Калі яна выбрала, то змяніць нічога ўжо нельга. Галоўнае, каб ён міны ўсялякія не крывіў. Гэта так неэстэтычна. Сапсуе ўсю карціну. Мая жонка вельмі ўражлівая. Васпан з ім размаўляў.

Г а л о ў н ы П с і х а а н а л і т ы к. Так, вядома. Падрыхтаваў яго псіхалагічна. Але ён сказаў, што ў той момант за сябе і сваю фізіяномію не адказвае. Дзікун.

Б у р г а м і с т р. Так, дзікун. Выпала ж мне... Дакладней, зрабілі мне ласку – кіраваць памежным горадам. Лезуць са шчылін дзікуны. Не тое, што там *(паказвае ўверх)*. Усяго на адзін узровень вышэй … цалкам іншы ўзровень культуры. Напрыклад, апантаныя арыстакраты. Выведуць іх на пляц, паставяць у шэраг, кожнага на асобны пуфік. Азірнеш – любата. Белыя каўнерыкі, белыя абшэўкі, манікюр, модная фрызура! А колькі годнасці і выкліку ў вачах! Глядзяць праз пятлю і поглядам спапяляюць. Прыгажосць і гарманічнасць. Васпан не меў гонару назіраць?

Г а л о ў н ы П с і х а а н а л і т ы к. Як жа, як жа. За маімі плячмі Акадэмія Высокай Псыхалогіі – я праходзіў практыку падрыхтоўкі падобных мерапрыемстваў. Мае рэкамендацыі сведчуць...

Б у р г а м і с т р . А што васпан загадаў зрабіць яму на галаве?

Г а л о ў н ы П с і х а а н а л і т ы к. Валасы ў дзікуна, як шчэць – тырчаць ва ўсе бакі. Цырульнік прапанаваў шэсць варыянтаў. Жонка вашамосці выбрала чацверты.

Б у р г а м і с т р. Выбрала чацвёрты… Гэта такі *(паказвае паперу)*.

Г а л о ў н ы П с і х а а н а л і т ы к. Ну, постмадэрн.

Б у р г а м і с т р *(уздыхае)*. Значыць змяніць нічога нельга.

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Няхай Ваша Светласць не турбуецца. Наверсе ведаюць, у якіх жахотных умовах даводзіцца працаваць. Ніжняе памежжа – найскладанейшы рэгіён. Убачаць, як нам цяжка працаваць, як няпроста правесці такое важнае мерапрыемства, так сказаць, паводле ўсіх законаў і канонаў, і паспяшаюцца адправіць Галоўнага Асэнізатара з яго атрадам на ніжнія ўзроўні.

Б у р г а м і с т р. І не кажэце, даўно ніжнія ўзроўні пара санаваць. А што ў нас з вакальнай часткай? Каго вы запрасілі? Хор маладых трубалазаў? Альбо ансамбль спеваў і скокаў надзіральнікаў?

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Жонка вашамосці выказала жаданне выканаць будучы шлягер.

Б у р г а м і с т р. Будучы шлягер…

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Напісаны ёю ўласнаручна.

Б у р г а м і с т р. Сама напісала і сама заспявае? Ну *(уздыхае)*, значыць змяніць нічога нельга. (*Падыходзяць да вялікай трубы, што выступае з падлогі пасярод сцэны).*

Б у р г а м і с т р. Рынг не вельмі слізкі? А то ўсё хутка скончыцца.

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к (*гладзіць трубу рукой*). Зусім не слізкі.

Б у р г а м і с т р. Васпан раіць ставіць на Тэону.

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Менавіта на яе, Ваша Светласць. Руата маладая, наравістая. Яшчэ не ўправіцца з пачуццямі.

Б у р г а м і с т р. Адмыслоўцы кажуць, што яна перспектыўная.

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Вось менавіта – перспектыўная. Столькі часу пройдзе, пакуль яна стане неперспектыўнай… То-бок, яе перспектывай стануць рэтраспектывы.

Б у р г а м і с т р. Ммм… Выходзіць, усё-ткі лепей ставіць на Тэону.

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Так – на таго, хто на самым піку, не ніжэй.

Б у р г а м і с т р. Вось на піку як раз самае хісткае месца (*глядзіць на верх*).

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Паверце, Ваша Светласць, Тэона трывала стаіць на нагах.

Б у р г а м і с т р. Добра. Значыць так, я зачытваю вось гэта

(*паказвае на скрутак*). Затым ідзе апошняе слова... Можа, абыдземся без гэтай фармальнасці.

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Паводле ўсіх законаў і канонаў... Адмяніць нельга. Хоць ён і шаман-далакоп, але мы ж не можам прыпадабняцца дзікунам знізу. Гэта нізасць, так сказаць… Гуманнасць – вось што адрознівае развітую цывілізацыю ад недаразвітай.

Б у р г а м і с т р. А калі ён сваёй апантанасцю заразіць народ.

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Маё красамоўства нейтралізуе.

Б у р г а м і с т р . Сапраўды?

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Калі вашамосць не верыць мне, няхай паверыць Акадэміі, якая стаіць за маімі плячмі.

Б у р г а м і с т р. Ну глядзеце.

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Усё прадумана, Ваша Светласць, усё прадумана. Усё паводле законаў і канонаў… А народу што трэба – хутчэй бы дачакацца двубою, і яго борсання ў паветры. Вочы галаднейшныя за вушы. (*Бургамістр падыходзіць да рубільніка на сцяне, уключае. Раздаецца сірэна. На сцэну выходзяць жыхары тунэляў. З'яўляецца ў пышных убраннях Веліора, якую суправаджае ахова, займае свой трон. Тое ж самае робіць Бургамістр. Галоўны Псіхааналітык становіцца поруч).*

Б у р г а м і с т р. Прывесці далакопа!

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Прывесці!

*(Вартаўнікі выводзяць на сцэну Ін - Йорма. Яго рукі і ногі звязаныя. Ён у недарэчным яркім адзенні, на галаве – незвычайная фрызура. Яго падводзяць да трубы-папярочцы. Прымушаюць устаць на падстаўку. Начальнік варты накідвае яму пятлю на шыю).*

І н - Й о р м *(людзям).* Людзі, пакуль вы будзеце маўчаць…

Н а ч а л ь н і к  в а р т ы *(Ін - Йорму ціха*). Маўчы... Табе дадуць слова.

Б у р г а м і с т р (*гучна чытае па скрутку*). За абразу, якую жыхар падзямелляў Ін-Йорм Даляшорзах нанёс нашаму гораду, дзяржаве і кожнаму грамадзяніну асабіста сваім з'яўлен-нем, выглядам і няплатай падаткаў за выкарыстанне прасторы, паветра і іншых рэсурсаў, Светлы Суд прысудзіў апошняга, тобок, вышэйзгаданага жыхара падзямелляў Ін-Йорма Даляшорзаха, як ён сябе заве, да вышэйшай меры спынення супраць-

законня праз забарону ступа́ць на нашую зямлю і наступнай перапрацоўкі яго біялягічнага матэрыялу ў бактэрыяльным асяроддзі на карысць усяму грамадству. *(Ухвальны шум натоўпу)*

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Слова, апошняе, даецца асуджанаму Ін-Йорму Даляшорзаху.

І н - Й о р м. У маім народзе ад чалавека да чалавека перадаецца легенда, што за гэтымі сценамі і столлю ёсць нешта, што мажліва вам цяжка ўявіць – неба, зоры, месяц, сонца! І я ведаю гэта, таму што бачыў сам.

Го л а с  з  н а т о ў п у. Дзе ты гэта бачыў?

І н - Й о р м. Я гэта бачыў ува сне. *(Смех і шум у натоўпе. Бургамістр званіць у званок)*

І н - Й о р м. Я ведаю, што спаміж вас таксама ёсць людзі, якім гэта сніцца. Яны пра гэта маўчаць. А я папросту хачу знайсці дарогу наверх! Шлях да неба, да зор! Хіба гэта злачынства? Адпусцеце і прапусцеце мяне. Я пайду далей наверх!

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Вы бачыце, наколькі несумленны гэты чалавек. Ён жа добра ведае, што там, наверсе таксама жывуць нашыя суграмадзяне, там – наша сталіца! І мы павінны адпусціць і прапусціць яго? Яго, апантанага шкоднай ідэяй. Заразнай! Якая можа прымусіць добрапрыстойных людзей кінуць усё і пайсці шукаць шлях да ўяўнага неба? Альбо яшчэ горш – прымусіць узломваць сцены і выкопваць грунт, а гэта значыць руйнаваць наш свет, як робяць яго вар'яты супляменнікі! І хіба можна дакапацца да неба? *(Шум у натоўпе)*

Спрадвеку мы жывем у гэтым свеце. Яго збудавалі і ўсталявалі мудрыя Творцы. Дзякуючы ім мы маем усё, што нам трэба. Вада ў кранах, святло ў лямпах, паветра ў тунэлях. Энергію ў баках выпрацоўваюць бактэрыі. Мы сінтэзуем адзенне і вырошчваем пажытак. Свет лагічны і заканамерны. І хоць нашы выведнікі яшчэ знаходзяць новыя лёхі – яны заўсёды прыводзяць назад, што пацвярджае – свет замкнуты, як кола. Адкуль выйдзеш – туды і прыйдзеш! Але каб жыць у нашым свеце, трэба захоўваць парадак і спакой. А вось такія, як ён – пагражаюць усяму свету! *(Шум у натоўпе)*

Пагражаюць кожнаму з вас… Забіваюць кожнага з вас, таму што ўсё ў свеце размеркавана, і яго зяўленне тут адбірае ў кожнага з вас глыток паветра, кроплю вады, каліўца ежы, сантыметр прасторы. Ён забойца! Праз тое, што ён з'явіўся тут, у нашым горадзе выліковая камісія не дазволіць нарадзіцца чарговаму дзіцяці! Ён забірае яго месца!

Г о л а с  з  н а т о ў п у. Смерць забойцу!

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Таму вырак Светлага Суда – справядлівы!

Г а л а с ы  з  н а т о ў п у. Смерць яму! У бак яго! У бак! У бак! *(Бургамістр званіць у званок)*

Б у р г а м і с т р. Прашу цішыні!

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. А зараз перад намі выступіць Яе Светласць Веліора Паліорг. Песня называецца “Паветра ў тунелі”. Словы і музыка Яе Светласці Веліоры Паліорг. *(На “трубу-рынг” пад бурныя воплескі натоўпу падымаецца жонка бургамістра)*

В е л і о р а (*спявае*).

Тоненькай трубачкай
Выцягнем вуснaчкі
І спяем: “У-уууу”,
Так вее паветра
У нашым тунэлі,
Ну, чаму, ну, чаму-уууу
Мы з табой гэтак
Стрэліся позна
Й закахацца пасмелі?

Ну, чаму, ну, чаму-уууу
Мы з табой гэтак
Стрэліся позна
Й закахацца пасмелі?

Побач з рубільнікам
Стаю пад свяцільнікам,
Цябе я чакаю-уууу.
Хай вее паветра
У нашым тунэлі.
І хай спявае – уууу…
Чаму з табой гэтак
Стрэліся позна
Й закахацца пасмелі.
Ну, чаму, ну, чаму-уууу
Мы з табой гэтак
Стрэліся позна
І кахацца пасмелі?

*(Веліора кланяецца. Натоўп захлынаецца авацыямі, крыкі “брава”)*

Б у р г а м і с т р. А зараз паводле закону мы павінны вызначыць руку правасуддзя!

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. На рынг, на левы край запрашаецца Тэона Адэльжа. *(Выходзіць Тэона ў суправаджэнні трэнера, які яе абмахвае ручніком. Яна паднімаецца на "трубу-рынг" і становіцца злева)*

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. На рынг, на левы бок запрашаецца Руата Фірэла. *(Выходзіць Руата – замест трэнера ў яе жаўнер-ахоўнік. Узбіраецца на тую ж трубу і становіцца справа. Тэона і Руата размінаюцца).*

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Прашу рабіць стаўкі. *(Чалавек са скрынкай падбягае да Бургамістра, той апускае ў скрынку паперку. Шэпча нешта на вуха сваёй жонцы. Тая таксама робіць стаўку. Чалавек са скрынкай пабег у натоўп – там робяць стаўкі).* Стаўкі зробленыя! (*Падыходзіць да "трубы-рынгу", цяпер ён – рэферы*)

Нагадваю, двубой доўжыцца да дзвюх перамог! Якая з удзельніц першая дакранецца падлогі – тая і прайграла. Пераможца, паводле старажытных законаў і канонаў, абвяшчаецца чэмпіёнам горада і рукой правасуддзя! Пачалі!

*(Руата і Тэона ўчапляюцца адна ў адну. Роў натоўпу. Тэона скідае Руату з трубы. Сама яна таксама не ўтрымліваецца, але Руата першая ступіла на падлогу).*

Г а л о ў н ы  П с і х а а н а л і т ы к. Стоп. Першы раўнд выйграла Тэона Адэльжа. *(Авацыі, свіст, крыкі. Спаборніцы займаюць свае месцы на трубе – цяпер яны памяняліся краямі)*

Пачалі! *(На гэты раз перамагае Руата).*

Другі раўнд выйграла Руата Фірэла. Вырашальны раўнд. *(У трэцім раўндзе ў адчайнай барацьбе выйграе Руата).*

Перамагла Руата Фірэла.

Г а л а с ы  з  н а т о ў п у. Слава Руаце! *(Да пераможцы падыходзяць дзяўчаты, адна з іх на аксамітнай падушцы нясе карону з чорнага металу.* Бургамістр бярэ карону, падыходзіць з ёй да Руаты).

Б у р г а м і с т р. Паводле нашага закону васпанна становіцца рукой правасуддзя. Васпанна перамагла і павінна прывесці вырак у выкананне. Але васпанна можа (*з відавочнай намінкай*) адмовіцца ад перамогі і ўзяць сабе за мужа прысуджанага. Што васпанна выбірае?

Р у а т а (*аглядаецца на Ін-Йорма, які стаіць пад шыбеніцай з пятлёй на шыі, на людзей*). Я выбіраю… перамогу! (*Шум і віншаванні ў натоўпе).*

Б у р г а м і с т р *(ускалдае на яе карону).* Руата Фірэла – абвяшчаецца чэмпіёнам нашага горада! Слава Руаце!

Г а л а с ы з н а т о ў п у. Слава Руаце!

Г а л о ў н ы П с і х а а н а л і т ы к. Зараз васпанна абавязана выканаць свой абавязак!

*(Руата падыходзіць да Ін - Йорма, нахіляецца, вырывае ў яго з-пад ног падстаўку… І раптам… сама падае замест падстаўкі, каб ён абапёрся на яе. Карона з яе галавы злятае)*

Р у а т а. Я выбіраю яго!... (*Да Ін - Йорма*) Трымайся, станавіся на мяне! (*Начальнік варты падбірае карону і аддае яе Галоўнаму Псіхааналітыку. Ін - Йорм у гэты час ужо стаіць на Руаце, адчайна хапае паветра ротам. Галоўны Псіхааналітык падыходзіць да Бургамістра)*

Г а л о ў н ы П с і х а а н а л і т ы к (*ціха*). Я ж казаў, Ваша Светласць, што яна яшчэ толькі перспектыўная *(аддае карону Бургамістру).*

Б у р г а м і с т р. Такім чынам… Руата адмовілася ад сваёй перамогі. Чэмпіёнам нашага горада абвяшчаецца – Тэона Адэльжа *(ускладае на яе карону).* Слава Тэоне!

Г а л а с ы з н а т о ў п у. Слава Тэоне!

Г а л о ў н ы П с і х а а н а л і т ы к. Нагадваю, паводле старажытных законаў і канонаў, усе стаўкі на Руату Фірэлу – прайгралі. Слава Тэоне Адэльжы!

Г а л а с ы з н а т о ў п у. Слава Тэоне!

Г а л о ў н ы П с і х а а н а л і т ы к (*ахоўнікам*). Здымеце яго! *(Ахоўнікі вызваляюць Ін - Йорма. Руата і Ін - Йорм падыходзяць да Бургамістра. Той звяніць у званок)*

Б у р г а м і с т р. Імем нашай дзяржавы абвяшчаю вас мужам і жонкай. Надзяляю Ін-Йорма Даляшорзаха правамі і абавязкамі нашага грамадства. Мы рэгіструем вас, віншуем і адпускаем з мірам! Цяпер прашу вас пакінуць нас! Святкуйце сваю радасць з гонарам і годнасцю ў зацішным месцы. І заплацеце падаткі за мерапрыемства.

Р у а т а. Я заплачу…

В е л і о р а. Васпанна падарыла нам столькі трывожных хвілін.

Б у р г а м і с т р *(да ўсіх).* А мы будзем ушаноўваць новага чэмпіёна! Слава Тэоне!

Г а л о ў н ы П с і х а а н а л і т ы к. Слава Тэоне!

Н а т о ў п. Слава Тэоне! *(Агульнае святкаванне)*

Зацямненне

# Сцэна 3

Паляна ў лесе. Раншай і Ін-Йорм.

Р а н ш а й. Яна ўбачыла цябе і пашкадавала. А шкадоба, гэта не каханне.

І н - Й о р м. Не, не шкадоба… Яна сказала, што ўбачыла мае вочы і закахалася з першага позірку. Пазней, калі я апавёў ёй пра свае сны, пра тое, што мне адкрылі вешчуны, пра мой шлях, яна глянула на мяне іншымі вачыма.

Р а н ш а й. І яна вырашыла пайсці з табой?

І н - Й о р м. Так… Але… Не… Не зусім так. У яе таксама быў свой шлях. Яна хацела стаць вялікай спартсменкай. Я не мог жа сваімі мроямі перакрэсліць яе жаданне. Мы вырашылі сумясціць нашыя шляхі. Сталі вандраваць з горада ў горад, з паселішча ў паселішча – туды, дзе ладзілі спаборніцтвы.

Р а н ш а й. І пакаранні…

І н - Й о р м. Не будзем пра гэта… Не мы ж гэта прыдумалі… Мы кахалі адно аднаго. Усюды, дзе мы спыняліся – мы знаходзілі куткі, далёкія ад цікаўных вачэй. Яна магла быць вельмі пяшчотнай. А калі ішла падрыхтоўка да спаборніцтваў, я шукаў свой шлях. Распытваў мясцовых пра патаемныя лёхі і выпытваў паданні пра неба, зоры, сонца, пра Шлях. І калі я паказваў сваю татуіроўку, казаў, што я пакліканы ісці ўверх, і некаторыя адкрываліся мне.

Р а н ш а й. І цябе не арыштавалі надзіральнікі за парадкам альбо служба псіхалагічнай чысціні, альбо, у скрайнім выпадку, асенізатары?

І н - Й о р м. А прычым тут асенізатары?

Р а н ш а й. Маглі палічыць цябе біялагічным смеццем.

І н - Й о р м. Не.... Я дзейнічаў вельмі асцярожна. Хоць тыя, з кім я размаўляў, часам знікалі з майго поля зроку… Яны, пэўна, хаваліся.

Р а н ш а й. Альбо іх хавалі… І што ж ты выведаў?

І н - Й о р м. Шмат што. Ёсць людзі, якім сніцца тое самае, што і мне – неба, аблокі, сузор'і. Яны не могуць растлумачыць гэтыя сны. Кажуць, што дзесьці ёсць патаемная бібліятэка з кнігамі пра паверхню зямлі і небасхіл.

Р а н ш а й. Я не чуў пра такія кнігі. Калі б яны былі, іх бы ўжо знішчылі.

І н - Й о р м. За што? Чалавеку ўласціва фантазаваць. Усе,

што вакол нас – гэта фантазія. Фантазія нашых продкаў і тых жа старажытных Творцаў!

Р а н ш а й. Не, старажытныя Творцы не фантазавалі, а вынаходзілі і будавалі свет з дапамогай дакладных разлікаў. І якіх фантазій ты наслухаўся?

І н - Й о р м. З розных аповедаў я сабраў агульную легенду. Ёсць Шлях наверх, які вядзе да Каменнага Моста. Ён раскінуты над прорвай, дно якой засеянае чалавечымі косткамі… Калі ідзеш па ім – усчыняецца ураган, толькі спрытны і моцны можа ўтрымацца і не сарвацца ўніз. За Мостам – Залатая Брама. Пройдзеш праз яе – апынешся ў Пячоры. А вось яна вывядзе да неба…

Р а н ш а й. Ды за такія трызненні можна не толькі ў турму патрапіць…

І н - Й о р м. Усе гэтыя звесткі я вывудзіў па макулінках з небыліц пра падземных драконаў, чорных ведзьмаў, што ўзнікаюць папросту з цемры…

Р а н ш а й. І ты не паверыў у драконаў і ведзьмаў?

І н - Й о р м. Чаму ж. Калі людзі кажуць, то значыць, нешта ў гэтым ёсць. Мяне цікавіў Шлях да Брамы.

Р а н ш а й. І што было далей?

І н - Й о р м. Руата вайгравала і паступова стала знакамітай. Са славай прыйшоў дастатак. Мы жылі багата і весела. І, нарэшце, Руата прабілася ў вялікі фінал, які павінен быў адбыцца ў сталіцы.

Р а н ш а й. Пэўна, была выкрыта чарговая змова апантаных? Чалавек дваццаць.

І н - Й о р м. Пяцьдзясят. Яны даказвалі, што побач з нашым трубным светам існуе паралельны, і спрабавалі прабураваць ход да яго …

Р а н ш а й. Такія ж, як ты – вар'яты.

І н - Й о р м. Руата стала чэмпіёнкай краіны! Сам Старэйшы Канцлер запрасіў яе да сабе. Быў грандыёзны баль! Калі да гэтага мы ўжо жылі добра, то цяпер мы сталі жыць раскошна. Перад намі – перад Руатай, ну і перада мной, як яе афіцыйным мужам, расчыніліся дзверы. Нас запрашалі ў дамы арыстакратаў, модных салонах. Мы жылі ў найлепшых гатэлях. Руата сама выбірала, у якіх спаборніцтвах будзе ўдзельнічаць. Божа, што вакол рабілася, калі яна выходзіла на рынг…

Р а н ш а й. А як жа твая мроя… Шлях да зор?

І н - Й о р м. Разумееш… Усё так закруцілася. Я казаў сабе – пасля, потым, заўтра. Цяпер нам трэба пайсці на той прыём, на

гэты. Руата выступіць з прамовай перад заўзятарамі ў тым павеце, у іншым… А пасля выступу мы адразу адправімся на пошукі майго Шляху.

Р а н ш а й. У грамадзян цэнтральных пераходаў усё дакладна размеркавана, усё ў іх, у прынцыпе, ёсць… Толькі не стае відовішчаў – вось найдэфіцытнейшы з дэфіцытаў.

І н - Й о р м. Аднойчы я сышоў. Сабраў рэчы і адправіўся на верхні ўзровень. Я прайшоў пару сотню крокаў за горадам. І падумаў – а куды я іду? Да неба?.. Неба – небыліца! А Руата – была рэальная, яна мяне кахала… Яе вочы – вось – неба! Яе радасць – сонца ў ім, усмешкі – зоры. І я хачу іх бачыць! Я не пайшоў, я пабег назад…

Р а н ш а й. І што ты ёй сказаў? Дзе быў?

І н - Й о р м. Праўду. Шукаў Шлях наверх… Яна абняла мяне. Сказала: “Не пакідай мяне!” І шапнула: “Мы заўсёды будзем разам!”

Р а н ш а й. Чаму ты гэтак кажаш, са смуткам?

І н - Й о р м. Пасля чарговай перамогі быў карнавал з выступамі лепшых артыстаў. Затым – званая вячэра ў бургамістра. Але пасля карнавалу я ачуўся ля гарадской брамы. Ляжаў на зямлі. Як я там апынуўся – не памятаю. У напой нешта падмяшалі. Я кінуўся шукаць Руату. Вартаўнікі гарадской брамы, да якіх я звярнуўся па дапамогу – пасмяяліся з маёй гаворкі і кінулі мяне ў шахту паветраводу. Я ледзь не разбіўся. Струмені паветра, што йшлі ўверх, выратавалі мяне. Я апусціўся на самае дно… зноў на самы нізкі ўзровень. Але не там, дзе былі мае супляменнікі – з іншага краю. Колькі дзён я швэндаўся па тым узроўні. Толькі цьмянае святло ледзь асвятляла яго. Які той узровень быў жудасным… А потым я апынуўся ў яшчэ больш жудасным месцы.

Зацямненне

# Сцэна 4

Закінутая звалка. У гурбах смецця корпаюцца людзі ў лахманах. На скрыні сядзіць чалавек з галаўным уборам, падобным да пірамідальнай чалмы. Ён думае. Уваходзіць Ін - Йорм.

І н - Й о р м. Выбачайце, добры дзень…

О я р е т – С. *(уздрыгвае).* Я згодны, па ўсім відаць, што дзень добры. Прымаю вашыя выбачэнні.

І н - Й о р м. З вамі можна паразмаўляць?

О я р э т - С. Паразмаўляць… Гэта значыць вакалізаваць сваю інфармацыю такім чынам, каб я ад вас яе ўспрыняў, апрацаваў і выдаў ужо сваю інфармацыю. Вы пра гэта кажаце?

І н - Й о р м. Н-ну, так.

О я р э т - С. Добра… Але спачатку я павінен ведаць крыніцу.

І н - Й о р м. Якую крыніцу?

О я р э т - С. Крыніцу, адкуль я атрымаю вашую інфармацыю…

І н - Й о р м (*здагадваючыся*). А… Я – Ін-Йорм Даляшорзах з *вемасутаў.*

О я р э т - С. Оярэт – С. Кіфандоарвай-Міц, вандроўны філосаф і магітатар. *(Рукаюцца правымі, а затым крыж-накрыж левымі рукамі)*

І н - Й о р м. Магітатар?

О я р э т - С. Так. Гэта той, хто даследуе магію з пункту гледжання навукі і выкарыстоўвае яе на карысць чалавецтва, фаўны і флоры... Так сказаць – навуковы чараўнік. А ты значыць з тых шаманаў-далакопаў…

І н - Й о р м. Так. Але я не люблю, калі нас так называюць.

О я р э т - С. Я адчуваю, як у мяне да цябе пашыраецца давер… І гэты давер мне падаецца зыходзіць… Зыходзіць вось адгэтуль *(паказвае на торс Ін - Йорма).*

І н - Й о р м. Дакладна! Перад тым як нашыя старэйшыны адправілі мяне наверх, мне тут зрабілі татуіроўку. Яна дапамагае знаходзіць агульную мову з людзьмі.

О я р э т - С. Пакажы. (*Ін - Йорм паказвае татуіроўку. Оярэт - С. дастае са свайго саквояжа лупу – разглядае)*

О я р э т - С. Выдатна! Вакол магічных малюнкаў ідуць словы на таемнай гаворцы шаманаў – гэта замова паразумення і ўзаемадавер’я. Зашыфраваная па спіралі, яна стварае інфармацыйныя імпульсы, звязаныя з біццём твайго сэрца, дыханнем і эмоцыямі! Выдатна! Проста выдатна! Вашыя шаманы наблізіліся да тых ведаў, якія адкрыў я… Увогуле, мой дарагі, носьбіт такой татуіроўкі – павінен быць крышталёва шчыры. Я сказаў бы, небяспечна шчырым.

І н - Й о р м. Небяспечна шчырым?

О я р э т - С. Так, бо шчырасць бездапаможна бязглуздая і можа пашкодзіць самой сабе і навакольным. Напрыклад, вымавіць тое, чаго не варта вымаўляць… Але ж я цябе за гэта

ўзнагароджу!

І н - Й о р м. Узнагародзіш? Чым?

О я р э т - С. Так, я ўзнагароджу цябе сваёй тэорыяй. Ты будзеш першым чалавекам, які цалкам яе пазнае! І хай дасягненні майго розуму жывуць у людзях! Ты ж іх сумленна ім перадасі! *(Здымае чалму дастае з яе кавалак белага хлеба, падобнага да плястыку.)* Жуй. Ты галодны. І слухай. *(Начапляе чалму. Ін - Йорм адкусвае кавалак, пачынае жаваць).*

Што падштурхоўвае ўсё да развіцця? Бо развіццё адмаўляць неразумна. Мы расцем... Старэем. І ўсё жывое расце, старэе... У чым унутраная энергія развіцця?.. Дык вось, усё, што вакол нас… *(аглядаецца. Ін - Йорм таксама аглядаецца. Глядзіць, як людзі разбіраюць смецце, нізкарослы Кара - Кор знаходзіць штосьці ядомае ў гурбы смецця. Дзяўчынка-падлетак Сэйна прымярае парваны капялюшык...).*

Усё вакол, і я, і ты, і гэтыя бядакі – набор пэўных інфармацыйных зарадаў. Гэтыя зарады можна падзяліць на прысутнасць і адсутнасць пэўнай інфармацыі, такія сабе інфачасцінкі “так” і “не” альбо “плюсы” і “мінусы”. А іх спалучэнне ўтварае наборы кодаў, якія кіруюць усімі працэсамі ў Сусвеце. І мы можам навучыцца разумець і расшыфроўваць, дзе стаіць “плюс”, а дзе “мінус”. І цікава, што “мінус” і “плюс” зблытаныя паміж сабой.

І н - Й о р м. І ты навучыўся разблытваць гэта?

О я р э т - С. Амаль, мой сябра, амаль… Пакуль, праўда, несвядома, на звышсвядомым узроўні, але ўсё-ткі…

І н - Й о р м. А якая практычная карысць ад тваёй тэорыі?

О я р э т - С. Эх, маладзёне. Вам, смелым але няспелым, толькі практычную карысць падавай... Але ж апроч практычнай карысці ёсць і непрактычная карысць.

І н - Й о р м. Што?

О я р э т - С. Не практыкай адной жыве чалавек. Думка спараджае думку. І скажу больш – дзеля таго, каб з’явілася думка, – і зарадзіўся ўвесь наш Сусвет! Хаця… Ну вось адкажы мне, што было раней – курыца ці яйка… Добра… гэта ўсім вядома… Калі казаць наконт практыкі… То што галоўнейшае для арганізму – мозак альбо страўнік? Пры пустым мозаку страўнік жа таксама пусты! А на пусты страўнік мозак неверагодным чынам пачынае напаўняцца такімі рознымі задумамі… З табою, мой сябра, такога не здаралася?

І н - Й о р м. Ну вядома. Есці захочаш – на пальму

ўскочыш. Прыдумаеш, як дастаць какос.

О я р э т - С. Вось менавіта… Па-першае, мая тэорыя гэта яшчэ адзін крок да запаветнай мары чалавека: ведаць усё і ўсім кіраваць. Фактычна распазнаючы, дзе стаяць гэтыя “так” альбо “не”, гэтыя “плюсы” альбо “мінусы”, мы можам знайсці філасофскі камень – той універсальны код інфармацыі, які адкрывае ўсе таямніцы мінулага і будучыні. А па-другое... *(Оярэт - С. дастае з саквояжа яйка, кладзе на падлогу, круціць).*

Бачыш, не круціцца. Сырое (*накрывае яйка чалмой, дастае з саквояжа маленькі бонг).* Я зараз буду біць у бонг. Удар – гэта “плюс”, цішыня – гэта “мінус”. Паспрабую з дапамогай маёй магітарнай звышсвядомасці падабраць коды гэтага яйка і падправіць іх (*б’е ў бонг, усё паскараючы тэмп. Робіць гэта з поўнай аддачай, потым адкідваецца і ляжыць непрытомны).*

І н - Й о р м. Гэй… Філосаф… Магітатар… Як цябе там… Ты жывы?

О я р э т – С. *(ачуняўшы).* Жывы… Проста пад час магітатарскага сеансу свядомасць адыходзіць у звышсвядомасць, і цяпер трэба пачакаць, калі яна апусціцца на сваё месца. Галоўнае, каб яна не апусцілася ніжэй.

І н - Й о р м. Ніжэй? Гэта куды?

О я р э т - С. Як куды – у падсвядомасць… Ану, глянем (*падыходзіць да сваёй чалмы, паднімае яе. Паказвае на яйка).* Правярай. *(Ін - Йорм кладзе яйка на падлогу, круціць. Яйка хутка круціцца).*

І н - Й о р м. Ого! Укрутую.

О я р э т - С. Калі ласка, частуйся. (*Ін - Йор абірае яйка).*

І н - Й о р м. Усё ў парадку – нармалёва зваранае яйка.

С э й н а (*падыходзіць да яго*). Дайце мне, калі ласка! *(Ін - Йорм хоча адразу даць ёй, але адкусвае, пераконваецца, што гэта, усё -ткі, звычайнае яйка – аддае Сэйне. Тая выхоплівае яйка і адбягае).*

І н - Й о р м. Навошта так мучыцца, калі на кожным скрыжаванні ёсць мікрахвалевыя печкі – а бактэрыі выпрацоўваюць электрычнасць.

О я р э т - С. Яйка – драбяза. Калі трэба, можна выкарыстаць не бонг, а вялікую сурму, у якую калі як след падзьмухаць, то разваляцца гарадскія сцены! Уздзейнічаць на коды чалавека можна, робячы напоі з розных траваў, прамаўляючы адмысловыя інфармацыйныя заклёны. Альбо можна абкурваць чалавека асаблівым фіміямам. Усім гэтым карыстаюцца рознага роду ведзьмакі і вядзьмаркі. А бяспечней за ўсё – складаць песні ці

вершы. Пра гэта добра ведалі старажытныя трубадуры. Моццу паэзіі яны выклікалі ўкаханне з яснапаннаў. Трэба толькі ўкласці свой набор інфачасцінак “так” і “не” такім чынам, каб яны траплялі ў рэзананс з інфачасцінкамі абранай асобы. Аднак для гэтага трэба валодаць вялікім майстэрствам і талентам. Хочаш, я зараз падбяру гукавыя склады, матыў і заспяваю песню, і ты сам сабою пачнеш танчыць?

І н - Й о р м. Не-не!

О я р э т - С *(б’е ў бонг і спявае).* Ой-па-фа-я-ку-на-ла-мі-ро-са, Ой-па-фа-я-ку-на-ла-мі-ро-са… (*Ін - Йорм не затанчыў, затое пачаў смешна танчыць Кара - Кор).*

К а р а - К о р *(падпявае і танчыць).* Ой-па-фа-я-ку-на-ла-мі-ро-са… *(Пачынае гучаць музыка, Кара - Кор пускаецца ў недарэчныя скокі, за ім пускаецца ў скокі сам Оярэт - С, затым Ін - Йорм і ўсе, хто знаходзіцца на сцэне. Яны ўсе спяваюць: “Ой-па-фа-я-ку-на-ла-мі-ро-са”).*

О я р э т - С. Досыць! Досць! Не спявайце… Не танец, а сутаргі нейкія… (*Усё рэзка перастаюць танчыць).* Трэба песню падкарэктаваць… *(Да Ін - Йорма)* Я табе вось што параю – лепш пішы вершы, малады наш суженец.

І н - Й о р м. Што ты сказаў? Адкуль ты ведаеш?

О я р э т - С. Што я ведаю?

І н - Й о р м. Што я суженец.

О я р э т - С. А ты сапраўды суженец?

І н - Й о р м. Так, толькі цяпер без суженкі… Яна знікла. Можа, ты ведаеш – чарнявая, такая, стройная. Завуць Руата. Руата Фірэла. Славутая спартсменка. Ты бачыў Руату?

О я р э т - С. Я не бачыў. Але дакладна ведаю, што той бачыў яе *(паказвае на Кара - Кора).*

І н - Й о р м. Як гэта? Ён табе казаў?..

О я р э т - С. Не, але мне дакладна падаецца, што ён бачыў яе.

І н - Й о р м. Як гэта – дакладна падаецца?

О я р э т - С. Падаецца на ўсе сто адсоткаў! Ён бачыў яе.

І н - Й о р м *(да Кара - Кора).* Гэй! Шаноўны!

К а р а - К о р. Я?

І н - Й о р м. Пастойце! (*Кара - Кор уцякае, хаваецца ў гурбах смецця).*

І н - Й о р м *(да Оярэт - С.).* Што вам яшчэ дакладна падаецца?

О я р э т - С. Ён бачыў яе з Упляйкам.

І н - Й о р м. З кім?

О я р э т - С. Я не ведаю, хто гэта. Але падчас танца, у маім розуме ўсплылі імёны – Руата, Упляйк. Гэтых людзей ён бачыў.

І н - Й о р м. Упляйк – гэта Галоўны Асенізатар. Як ён мог яго бачыць?

О я р э т - С. Ён мог яго бачыць тут… На гэтым узроўні… Упляйк камандуе атрадам асенізатараў.

І н - Й о р м. А прычым тут мая Руата?

О я р э т - С. Адкуль мне ведаць… У гэтага Кара-Кора такі ў галаве гармідар.

І н - Й о р м. Гармі... дар… А дзе ён яе бачыў?

О я р э т - С. Зараз… Успомню… Падаецца там. *(Паказвае ў бок.)*

І н - Й о р м. Падаецца альбо дакладна там?

О я р э т - С. Дакладна там.

І н - Й о р м. Дзякуй… Мне трэба ісці.

О я р э т - С. Пачакай… Я табе яшчэ нешта не паказаў.

І н - Й о р м. Потым… Я спяшаюся…

О я р э т - С. Хвіліначку *(дастае зернейка яблыка)*. Я зараз гэтае зернейка пакладу на падлогу, сыграю на флейце і проста на тваіх вачах вырасце яблыня. А потым на галінках утворыцца завязь, а потым з’явіцца яблык, а потым ён саспее... Звычайнаму дрэву на гэта трэба гады чатыры…

І н - Й о р м. Я ведаю такі фокус… *(хоча сыйсці, Оярэт - С. затрымлівае яго.)*

О я р э т - С. Вазьмі яго. Перад тым як пасадзіць – прыкладзі там, дзе ў цябе татуіроўка.

І н - Й о р м. Добра-добра, стары… Мне трэба ісці.

О я р э т - С. Схавай зерне пад шво сваёй сандалі.

І н - Й о р м. Куды?

О я р э т - С. Вось сюды *(нахіляецца і сам хавае зернейка пад шво сандалі Ін - Йорма.)*

І н - Й о р м. Усё. Бывай, стары!

О я р э т - С. Да стрэчы, Ін - Йорм! Мне таксама трэба ісці і цяпер я ведаю куды. *(Ін - Йорм сыходзіць туды, куды паказаў маг-філосаф, сам Оярэт - С. – у іншы бок).*

Зацямненне

# Сцэна 5

Тая ж закінутая звалка, толькі людзей, што корпаюцца ў гурбах смецця, прыкметна паболела. Спаміж іх Сэйна і Кара - Кор. Уваходзіць Ін - Йорм.

І н - Й о р м. Тунэлі перакрытыя. Усюды кра́ты.

К а р а - К о р. Такія кра́ты, што і краты́ не пралезуць. Асенізатары перакрываюць дарогі.

І н - Й о р м. Навошта?

К а р а - К о р. Збіраюць наш народ сюды.

І н - Й о р м. Ваш народ?

К а р а - К о р. Мы *звонгі*. Жывем на адзін узровень вышэй, чым вы, краты́-*вемасуты*.

І н - Й о р м. Адкуль ты ведаеш, што я з *вемасутаў*?

К а р а - К о р. Краты́-*вемасуты* самі забетанавалі ўсе праходы ўніз. Пакінулі патаемныя і вузкія паветраводы. Асенізатарам да іх не дабрацца.

І н - Й о р м. А гэты фокуснік не вяртаўся?

К а р а - К о р. Оярэт-С? Ён пайшоў у турму?

І н - Й о р м. Яго арыштавалі?

К а р а - К о р. Не, ён сам пайшоў. Даведаўся праз мяне, дзе яна знаходзіцца. Раней гэта была бібліятэка. А потым з яе зрабілі турму. Хоць бібліятэка і турма ў чымсці падобныя. Людзей няволілі спаміж кніг, і забаранялі чытаць. Хто не мог утрымацца і чытаў, атрымліваў дадатковы тэрмін. І ўсе вязні сталі пажыццёва асуджанымі. Нават тыя, хе-хе-хе, хто не ўмеў чытаць.

І н - Й о р м. Як гэта?

К а р а - К о р. Вучыліся… Ну а таму, хто ніяк не мог навучыцца чытаць, усё-ткі вельмі карцела даведацца, што ж у тых кнігах напісана. Яны прасілі пераказаць.

І н - Й о р м. Хіба́ ўсе яны самі прызналіся, што чыталі кнігі?

К а р а - К о р. Начытанага чалавека адразу ў натоўпе адрозніш. Друкаванае слова выдрукоўваецца вось тут (*паказвае на лоб*).

І н - Й о р м. Значыць, гэта ўсё праўда пра зоры?

К а р а - К о р. Можа праўда, а можа фантазія. Ніхто не бачыў зор. Гэта вера.

І н - Й о р м. Праўда – не праўда, вера – не вера, я праверу!

К а р а - К о р. Кніг даўно няма, бібліятэкі даўно няма. І

турмы таксама няма. Народу стала шмат, таму…

І н - Й о р м. Асуджаных аддаюць бактэрыям.

К а р а - К о р. А перад гэтым... Ты жа сам усё ведаеш.

І н - Й о р м. Значыць, Оярет-С не вяртаўся?

К а р а - К о р. Ён лічыць, што сцены закінутай турмы – таксама кнігі. У іх шмат, як ён кажа, назапашана інфармацыі.

І н - Й о р м. Ён пайшоў туды? *(Паказвае рукой)*

К а р а - К о р. Сцены – гэта таксама кнігі.

І н - Й о р м *(сабе).* Туды! (*выбягае ў бок, куды раней сыйшоў О я р э т - С. Хутка вяртаецца).*

І н - Й о р м *(у жаху).* Там! Нешта чорнае…

К а р а - К о р. Труба.

І н - Й о р м. Што гэта?

К а р а - К о р. Асенізатары прыбіраюць смецце.

І н - Й о р м. Прапусцілі б нас, а пасля цягнулі б трубу.

К а р а - К о р. Гэта нам труба…

І н - Й о р м. Што ты вярзеш?

К а р а - К о р. Мы *звонгі...* Паводле класіфікацыі Упляйка – біялягічнае смецце. І мы зараз усе выляцім у трубу!

І н - Й о р м. Вы – смецце? *(Крычыць.)* Гэй! Я – *вемасут...* Я – не *звонг!* Выпусцеце мяне... Чуеце! Я – грамадзянін Цэнтру! Мне трэба наверх, угору. Я муж вялікай спартсменкі Руаты .

К а р а - К о р. Не крычы, яны выдатна цябе чуюць. Яны ўсё чуюць... І нават бачаць.

І н - Й о р м. Я іду угору!

К а р а - К о р. Так – твая праўда. Паводле класіфікацыі Упляйка *вемасуты* – не біялягічнае смецце. Вы біялягічнае забруджванне.

І н - Й о р м *(прыкладвае далонь да рота, шэптам).* Упляйк, Руата з табой?

Г о л а с У п л я й к а. Ты не герой, варты шанавання. І не слабак, варты жалю. Ты не разумны і не глупотны… Наогул ніякі! Дзікун, экзатычнасць якога прыелася. А яна Чэмпіён Свету. Вялікая спартсменка. Вялікая!

І н - Й о р м. Яна кахае мяне!

Г о л а с У п л я й к а. Я пашыру межы Цэнтру. Я дам больш паветра. Будзе больш дзяцей! Герой – гэта я!

І н - Й о р м. Дай мне з ёй перамовіцца!

Г о л а с У п л я й к а. Тут твае правы не дзейнічаюць! Разам з табой, сярод гэтага смецця, твае правы таксама сталі смеццем!

І н - Й о р м. Дай з ёй перамовіцца!

Г о л а с Р у а т ы. Ін-Йорм…

І н - Й о р м. Руата! Я кахаю цябе!

Г о л а с Р у а т ы. Як жа гэта адбываецца... Мроя заплывае тлушчам. Спачатку такім тонкім. А потым пухленькім, мякусенькім, а затым цяжкім, пластуецца лустамі, збіраецца зморшчынамі, дрыжыць, калі яго крануць… і не ўдыхнуць...

І н - Й о р м. Руата, я не магу без цябе!

Г о л а с Р у а т ы. Мроя задыхаецца ў бязволлі, без жадання, без імкнення, без парывання, без дзівацтва, без крыку, без жывога жыцця…

І н - Й о рм *(крычыць).* Без цябе я ж не мог сысці! Мы кляліся адзін аднаму, што заўсёды будзем разам. Але ты больш не хацела ісці вышэй і вышэй.

Г о л а с Р у а т ы. Менавіта я ішла вышэй і вышэй…

Г о л а с У п л я й к а. А цяпер яна захацела пайсці ўніз. Са мной!

І н - Й о р м. Гэта праўда? Цябе не выкралі? Ты сама?

Г о л а с У п л я й к а. Уключыць! (*Гучыць ляск матора, нібы працуюць чыгунныя кавадлы. З тунэля паказваецца чорнае жарала трубы. На сцэне паднімаецца вецер, узмацняецца. Прадметы, затым і людзі струменем паветра "засмоктваюцца" ў жарала. У жарала "пацягнула" і Кара - Кора. Ін - Йорм хапае яго за руку, як можа ўтрымлівае. Побач змагаецца са струменем ветру Сэйна. Ін - Йорм другой рукой хапае і яе. Роў матора ўзмацняецца, узмацняецца і вецер. Паступова на сцэне заста-юцца ўсяго некалькі прадметаў і гэтыя трое. К а р а - К о р ледзь-ледзь чапляецца за руку Ін - Йорма).*

К а р а - К о р. Ідзі заўсёды супраць!.. *(Зрываецца, струмень паветра цягне яго да жарала).*

І н - Й о р м. Супраць!? Супраць чаго!? (*У гэты час з яго рукі выслізгвае Сэйна. Ін - Йорм паспявае яе перахапіць. Раптам каля іх адрываецца ад падлогі кавалак пліты і ляціць да жарала).*

І н - Й о р м. Пройма! Давай сюды!

С э й н а. А вы?

І н - Й о р м. Я не пралезу!

С э й н а. Што?

І н - Й о р м *(з сілай запіхвае Сэйну пад падлогу).* Сыходзь, хавайся, уцякай!

С э й н а. Што будзе з вамі?

І н - Й о р м. Ідзі паветраводамі! Цябе ўкрыюць *вемасуты*, на самым ніжнім узроўні! (*Сэйна знікае пад падлогай, струмень*

*паветра адкідае Ін - Йорма).*

К а р а - К о р *(крычыць ля самога жарала).* Ідзі супраць ветру да канца! А-а! *(Знікае ў жарале.)*

І н - Й о р м. Супраць ветру? Там жа глухая сцяна!

Г о л а с К а р а - К о р а *(аддалена).* Супраць глухіх… Сцен… (*Ін - Йорм змагаецца са струменем ветру, ідзе, затым паўзе да процілеглай ад жарала сцяны. Вецер і роў матора ўзмац-няюцца. І н - Й о р м ужо ля самой сцяны).*

Г о л а с У п л я й к а. Табе канец, дзікун!

І н - Й о р м. Руата, я кахаю цябе!

*(Роў становіцца невыносным, ён заглушае словы Ін - Йорма. Раптам сцяна, перад якой ляжыць Ін - Йорм не вытрымлівае напору, разрываецца. Ін - Йорм чапляецца за выступы і перапаўзае ў пралом. Роў і вецер спыняюцца. На сцэну выбягае Упляйк і некалькі ўзброеных дзідамі жаўнераў з яго атраду і Руата).*

У п л я й к. За ім! Дагнаць! (*Жаўнеры, Руата і Упляйк знікаюць ў праломе сцяны).*

Зацямненне

## Сцэна 6

Паляна ў лесе. Раншай і Ін-Йорм.

І н - Й о р м. За праломам быў невядомы лёх, які вёў да пад’ёмніка. Слава Творцам, пад’ёмнік быў спраўным. Ён закінуў мяне на самы верх і тут жа пацягнуўся ўніз. Я зразумеў, – пад’ёмнік спускаецца за Упляйкам і яго людзьмі. Але я не змог ані выключыць, ані зламаць гэтую машыну. Тады я кінуўся наперад праз кароткі тунэль і раптам апынуўся на краю стромай сцяны. Я стаяў у вялізнай зале, далёка ўнізе чарнела пашча прорвы, а процілеглая сцяна залі хавалася ў цемры. Дзіўны быў столь – вялізныя шэрыя скляпенні. У мяне ўсё паплыло перад вачыма, закалола ў пятэкі, быццам я наступіў на металёвыя калючкі.

Р а н ш а й. Нічога дзіўнага. Ты ніколі не быў у такой вялікай і пустой зале. Гэта боязь адкрытай прасторы і боязь вышыні.

І н - Й о р м. Ды не. Я падумаў, што вось яно – неба.

Р а н ш а й. Шмат хто так памыляўся.

І н - Й о р м. Я пашыбаваў па вузкім гзымсе, шырынёй

паўметра, не болей. Злева цягнулася халодная сцяна – справа прорва. Неасцярожны крок, і я мог бы саслізнуць у прадонне. Людзі Упляйка гналіся за мной. Я чуў дзіўнае рэха іх галасоў у гэтай зале. Адбітае ад сценаў і скляпення, яно падавалася вурчаннем пачвар. Я паскараў крок, разумеў, што калі мяне нагоняць, то скінуць у прорву. Я ні пра што не думаў, апроч уцёкаў. І раптам гзымс, па якім я ішоў, скончыўся. Над прорвай выступала пліта, нібы гэта быў трамплін у басейне. Але ўнізе была не блакітная вада, а цёмны правал. За спінай я ўжо чуў блізкія крокі. У поўнай роспачы я ступіў на пліту. Знізу, з цемры паднялася калона. Мне нічога не заставалася, як пераскочыць на яе вяршыню. Тут жа з прадоння паднялася наступная, затым яшчэ і яшчэ. У гэты час пачаўся моцны вецер. Мне трэба было чапляцца за калоны, як котка. Раптам я пачуў: “Ін-Йорм! Я іду за табой!” – Гэта быў голас Руаты. Я азірнуўся і ўбачыў, што Упляйк схапіў яе. “Не! – крыкнуў ён, – Гэй, вы! За ім!” – загадаў ён жаўнерам. Але ж першага, які ступіў на калону, вецер скінуў у прорву.

Р а н ш а й. Ісці за табой – было самагубствам!

І н - Й о р м. Пэўна… Раптам я ўбачыў проста перад сабою Залатую Браму, і як толькі апынуўся пад ёй, вецер узмацніўся, падхапіў мяне. Такі рэзкі, што ўспорваў і зрываў з мяне адзенне. Некаторы час я боўтаўся ў віхуры і знепрытомнеў... І ачуўся ў пячоры. З якой я выйшаў у гэты лес.

Р а н ш а й. Сад.

І н - Й о р м. Так, сад.

Р а н ш а й. Вось ты і прайшоў свой Шлях. І сам упэўніўся, што Каменны Мост і Залатая Брама – не выдумка.

І н - Й о р м. Дзіўны мост з пад’ёмнай каланады, незразумелая брама, і вецер, шчыльны такі.

Р а н ш а й. Праверка на бясстрашнасць і моц жадання. Але тваё жаданне здзейснілася – зоры! *(Паказвае на неба, дзе з’яўляюцца зоры).*

І н - Й о р м. Гэтыя маленькія мігатлівыя кропкі?

Р а н ш а й. Іх зараз стане шмат. І ты ўбачыш зорныя малюнкі і Зорны Шлях.

І н - Й о р м. Я сапраўды бачу... Зорныя малюнкі падобныя да малюнкаў, якія зрабіў у мяне на скуры Вярхоўны Шаман.

Р а н ш а й. Вось гэта і дзіўна. Для выпадковага супадзення – малаверагодна.

І н - Й о р м. Шкада, што тут столькі дрэваў – замінае гля-

дзець.

Р а н ш а й. Заўтра ўвечары можна падняцца ў горы. Там лепш відаць, зоркі ярчэй, бліжэй. *(Раскладае сабе і Ін - Йорму цыноўкі).*

І н - Й о р м. А чаму не цяпер?

Р а н ш а й. Позна ўжо. І каб ісці ў горы, трэба падрыхтавацца. У горах халодна. Давай спаць. *(Падкідае галлё ў вогнішча, укладваецца на сваю цыноўку.)*

І н - Й о р м. Ты спі, а я яшчэ пагляджу на зоры... Глядзі, адна ўпала!

Р а н ш а й. Бывае.

І н - Й о р м. А гэта не страшна?

Р а н ш а й. Не. Яна ўпала далёка.

І н - Й о р м. А калі ўпадзе сюды, да нас, пад ногі.

Р а н ш а й. Колькі я тут жыву, такога не было. Не бойся. Калі зорка падае – лаві імгненне! Трэба паспець загадаць жаданне. Паспееш – спраўдзіцца.

І н - Й о р м. Наступным разам – абавязкова паспею.

Р а н ш а й. Ну-ну *(пазяхае).*

І н - Й о р м. Слухай, а я магу перамовіць з тваімі старэйшынамі альбо шаманамі... У вас ёсць шаманы?

Р а н ш а й. Ну, так.

І н - Й о р м. Апавядуць мне пра зоры. Як яны называюцца. Чаму загараюцца і падаюць.

Р а н ш а й. Добра, заўтра пабачым. Пара спаць.

І н - Й о р м. Ты кладзіся, а я яшчэ пагляджу на зоры. Палаўлю жаданні.

Р а н ш а й. Далёка не сыходзь, заблукаеш. Як стомішся, прыходзь спаць. Падкінеш галля, будзе цяпло *(накрываецца рагожай, засынае.* Ін - *Йорм ідзе ў глыб лесу).*

Зацямненне

## ДЗЕЯ 2

## Сцэна 1

Паляна з тлеючым вогнішчам. Раншай і Ін - Йорм.

Р а н ш а й. Дабрыдзень, Ін-Йорм. Ты хацеў перамовіцца з маімі старэйшынамі. Я табе даю трошкі часу на гэта.

І н - Й о р м. Што гэта? *(Спрабуе ўзняцца, але не можа праз вяроўкі на руках і нагах.)* Чаму я звязаны?

Р а н ш а й. Засцярога. На ўсякі выпадак.

І н - Й о р м. Дзе ж яны?

Р а н ш а й. Тут. Я і ёсць увесь мой народ. Значыць і ўсе старэйшыны, і шаманы – гэта я.

І н - Й о р м. Ты жывеш тут адзін?

Р а н ш а й. А ты хацеў сюды вывесці сваіх кратоўдалакопаў, каб яны ўсё тут перарылі? Так ім было б нецікава, глеба ў Садзе мяккая, зямля ім будзе падавацца пухам… Зрэшты, табе таксама… А якая трава на ёй расце сакавітая! А якія дрэвы ўрадлівыя! Патрасеш, вось табе і сняданак, і абед, і вячэра. Твае людзі такога не бачылі і не каштавалі... І як ні шкада, ніколі не ўбачаць і не пакаштуюць.

І н - Й о р м. Калі я змог сюды прыйсці, то і яны змогуць зрабіць тое ж самае. Яны прыйдуць маім шляхам…

Р а н ш а й. Яны не прыйдуць *(дастае нож).* Ведаеш, я магу, моўчкі, усадзіць гэты нож табе ў сэрца, нічога не тлумачачы, але тады ты памрэш з надзеяй, што за цябе адпомсцяць, што людзі падзямелля выйдуць са сваіх нор на паверхню, дзякуючы табе. Ты будзеш пачувацца героем. А героем паміраць не так цяжка. Мне не хочацца цябе шкадаваць. Я спадзяюся, ты добра памятаеш Залатую Браму? Я сам калісьці, дрыжучы ад страху, ступіў у яе. Дык вось, тысячы гадоў таму яе пабудавалі нашы мудрыя продкі – старажытныя Творцы, як вы іх называеце. Яна створаная такім чынам, што пакуль у гэтым Садзе знаходзяцца два чалавекі, яна нікога не прапусціць. Для трэцяга яна зачынена! І жыць тут трэцяму не дадзена!

І н - Й о р м. Калі ты мяне заб’еш, то зноў застанешся адзін, і Брама зможа прапусціць мацнейшага за цябе, ён адпомсціць за маю смерць!

Р а н ш а й. Паводле твайго аповеду – сюды рызыкне пайсці толькі дзяўчына.

І н - Й о р м Дзяўчына таксама моцны і хітры спаборнік.

Р а н ш а й. Я табе прызнаюся, за тыя гады, што я тут жыву, мне давялося пазбавіцца ад вялікай колькасці мужчын і жанчын, якія здолелі прабрацца сюды. Павер, досвед і падступнасць сваё возмуць. Я забіў папярэдняга гаспадара Саду, старога Маянтоха, выхадца з Паўночных тунэляў, і сам стаў гаспадаром. Тады на працягу ўсяго наступнага года я кожны дзень падыходзіў да выйсця з пячоры, каб упэўніцца, ці не

з’явіліся сляды прыхадня. Але мінула амаль пяць год, перш чым прыйшоў Лесма – жыхар сталіцы. Я адчуў гэта адразу, хоць і знаходзіўся цалкам у іншым кутку Саду. Птушкі спяваюць не так, дрэвы шумяць не так. І потым сам Лесма пачаў гарлапаніць пра сябе на ўвесь Сад… А я ціха сачыў за ім і зарэзаў, калі ён заснуў.

І н - Й о р м. Навошта табе забіваць? Сад – вялікі, досыць месца для дваіх.

Р а н ш а й. Ты думаеш, я вар’ят? Хоць некалі я шчыра пераконваў сябе, што мне цікава забіваць людзей. Але гэта не так. Усё вельмі проста, я вымушаны забіваць кожнага, хто прыйдзе сюды.

І н - Й о р м. Значыць, ты вартаўнік Саду, і продкі загадалі табе нікога сюды не пускаць?

Р а н ш а й. Можа і так… Гэты Сад, пасаджаны нашымі продкамі, адзінае, што ўзбагачае і ачышчае атмасферу планеты. Памятаеш – зоркі падаюць. Мільёны гадоў таму сюды ўпала хвастатая зорка. Выбух падняў гэтыя горы. А рэчыва зоркі змяшалася з пустэльняй. І толькі тут на планеце можа існаваць жыццё. Гэты аазіс стварае самае неабходнае для вас. Вам па трубах паступае чыстае паветра. І калі раптам тут паселіцца племя, што будзе ў такіх цяплічных умовах неабмежавана размнажацца, пачнецца знішчэнне Саду. Сад знікне, а разам з ім на планеце знікне жыццё. І там пад зямлёй.

І н - Й о р м. Трэба было растлумачыць гасцям, што тут нельга жыць і адпусціць іх назад, уніз.

Р а н ш а й. Не кожны пасля ўбачанага тут захоча вяртацца ўніз. Як ты думаеш, колькіх людзей, з тых, хто наведаў Сад, зададуць пытанне, чаму нехта можа тут жыць, але я не? Нашы продкі мудрыя. Яны зрабілі Мост і Браму, гэта фільтр, шлюз, які прапускае найгоднейшых.

І н - Й о р м. Калі ты мяне развяжаш, я пайду назад, да сваіх, і скажу, што шляху наверх няма, што гэта толькі легенда.

Р а н ш а й. Рэч у тым, што дарогі назад няма! Продкі разумелі, што легенда будзе жыць вечна, і што нават сярод годных будуць тыя, хто захоча прывесці сюды жонак, дзяцей, цешчаў, бабуль, дзядуль... Таму Брама назад не прапускае!

І н - Й о р м. Значыць, хто прайшоў па Мосце – назад не вернецца ніколі, каб не пацьвярджаць легенду.

Р а н ш а й. Апроч таго, я павінен табе сказаць: калі ты праходзіў праз Мост і Браму, ты сам змяніўся, твае біярытмы

перабудаваліся пад біярытмы Саду. На тваёй мове гэта азначае, што на Мосце ляжыць заклён. Мудрыя продкі, рыхтавалі ідэальнага садаўчнічага, які будзе жыць, пакуль будзе жыць Сад. А гэта амаль вечнасць.

І н - Й о р м. Так навошта тады прапускаць у Сад новага чалавека? Досыць пакінуць аднаго вечнага садоўніка?

Р а н ш а й. Ты не разумееш, што такое вечная самота… Стары Маянтох сам прасіў мяне забіць яго. Я не ведаю больш выскароднага за яго чалавека.

І н - Й о р м. Пад зямлёй таксама існуе самота!

Р а н ш а й. Продкі і гэта прадугледзелі. Чалавек у поўнай самоце схільны да вар'яцкіх учынкаў, да самагубства. Вось яны і пастанавілі прапускаць у Сад канкурэнтаў… Якія тое, што ты тут зрабіў – зменяць, перакруцяць, увядуць іншыя парадкі, і развядуць іншыя расліны.

І н - Й о р м. Я не ўяўляю, як займацца раслінамі. Я ніколі гэтага не рабіў.

Р а н ш а й. Сад падкажа. Адчуеш. Але ты не ведаеш галоўнага! Як толькі ты прайшоў Мост і Браму, ты сам стаў носьбітам заклёну! Тваё біяполе робіцца шкодным для людзей, што знаходзяцца побач з табою. Кажучы тваёй мовай – цяпер ты маеш небяспечныя для кожнага чалавека сурокі, і дзе бы ты ні быў у гэтым Садзе, альбо пад зямлёй, тыя, хто апынуцца побач з табой, пачнуць смяротна хварэць, аддаючы табе сваю жыццёвую энергію, якой ты павінен падзяліцца з Садам.

І н - Й о р м. Ты хочаш сказаць, што я цяпер нясу пагрозу людзям?

Р а н ш а й. Так, усім. А калі паблізу жывуць два такіх "выклятыя" канкурэнты, выжыве той, чыё біяполе мацнейшае! Але гэта не сумленны двубой… Выбірае Сад, ён павялічвае біяполе таго, хто яму "спадабаўся". Раней садаўнічыя – не ведалі гэтага. Жылі ўдвух, пакуль хтосьці адзін з іх за кароткі час не згасаў. Цяжка, калі на тваіх руках памірае чалавек, да якога ты паспеў прывязацца. Стары Маянтох усвядоміў, што яго біяполе мацнейшае за маё, я чэзнуў на вачах. А ён стаміўся жыць адзін і прывязаўся да мяне.

І н - Й о р м. Хочаш сказаць, што я цяпер цалкам адрэзаны ад свайго народа, ад каханай, і нават калі незнарок іх стрэну, то буду для іх забойцам?

Р а н ш а й. Непрыкметным забойцам… Нязгодным забіваць забойцам.

І н - Й о р м. І цяпер ва ўсім свеце для мяне існуюць толькі ты і я, і гэты Сад?

Р а н ш а й. Так!

І н - Й о р м. Не можа быць! Гэтага не можа быць!

Р а н ш а й. Зразумей, што гэта хітрая, адмыслова зробленая пастка, каб прымусіць цябе альбо мяне, – таму, хто з нас больш здатны, з усіх сваіх сіл клапаціцца пра гэты райскі куток.

І н - Й о р м. А ці можа быць рай для аднаго?

Р а н ш а й. Рай для аднаго… Я жыву тут амаль трыста гадоў. Гэта мая краіна, маё племя і мой род. Вось бачыш гэтую пальму? Яна мая сястра. А вунь мой брат – чырвона-жоўты папугай. А ты для іх ніхто. Ты вораг!

І н - Й о р м. Чаго ты хочаш?

Р а н ш а й. Чаго я хачу... Я хачу, каб ты пакінуў мне мой Сад.

І н - Й о р м. Каб я пагадзіўся на смерць?

Р а н ш а й. Так.

І н - Й о р м. Каб я сам сябе забіў?

Р а н ш а й. Так.

І н - Й о р м. А ты ўпэўнены, што ўсё, што ты мне апавёў – праўда?

Р а н ш а й. Так.

І н - Й о р м *(пасля паўзы).* Шлях да неба – шлях да скону… Дзіўна, чым вышэй я падымаўся, тым болей мяне хацелі забіць… Дай мне падумаць. Я клянуся ўсім сваім родам, што наўмысна не зраблю табе нічога дрэннага.

Р а н ш а й. Добра, падумай… Як толькі сонца з іншага боку кране вяршыні гор, падыдзі да мяне *(схіляецца да яго з нажом, разразае вяроўкі).*

І н - Й о р м *(устае, размінаецца).* Як жа я цябе знайду?

Р а н ш а й. Знойдзеш. Мне пара. Тут шмат працы… *(сыходзіць. Над горамі паказваецца край сонца, Ін - Йорм глядзіць на яго і ідзе насустрач світанню).*

Зацямненне

## Сцэна 2

Падножжа гор. З аднаго боку сцэны скала, за ёй ўзвышаюцца горы; з іншага – пачынаецца Сад і відаць бераг возера. У цэнтры – стаяць валуны, нібы надмагільныя камяні. На зорным небе свецяць два месяцы. Ін - Йорм адзін.

І н - Й о р м. Я ведаю, што ты тут… Ты мне не сказаў, што на небе яшчэ ёсць такія прыгожыя свяцілы.

Г о л а с Р а н ш а я. Неба поўніцца загадкамі. Але тое, што ты мяне падманеш – для мяне не было загадкай. Мы з табой так хораша прыдумалі.

І н - Й о р м. Я паднімаюся вышэй і вышэй… Угору ў горы… А потым лячу ў Нябёсы!

Г о л а с Р а н ш а я. Ты ж сам казаў, што неба зачароўвае. Зацягвае.

І н - Й о р м. Але я зразумеў, што я не толькі хачу гэта бачыць. Я хачу ведаць, чаму ўначы ўстаюць два месяцы, запальваюцца зоры. А днём свеціць сонца…

Г о л а с Р а н ш а я. Але ты мне даў слова.

І н - Й о р м. Той, хто хоча што-небудзь даведацца, не стане сябе забіваць. Раз мы апынуліся ў такой сітуацыі, няхай усё вырашаецца само па сабе.

Г о л а с Р а н ш а я. Не, нічога само па сабе вырашацца не будзе *(кідае з цемры нож).*

І н - Й о р м. Што гэта?

Г о л а с Р а н ш а я. Гэта табе.

І н - Й о р м *(падымае нож).* Навошта?

Г о л а с Р а н ш а я. Азірніся. Глянь на гэтыя камяні. Цябе як быццам адмыслова сюды прывялі. *(Ін - Йорм аглядае валуны).* На кожным выбіта імя. Тут – ляжыць Маянтох… Там жрыца Дэкея з паўднёвых ускраін. Ваяр Бордывар. Медык Аспэто, навуковец Прэок. Усе яны пагадзіліся са мной. І перш чым выканаць сваё абяцанне, яны апавялі мне гісторыю свайго жыцця, перадалі ўсе свае веды. Сад узмацняе памяць, я помню кожнае іх слова. І цяпер усе яны жывуць у маёй галаве. Ты можаш далучыцца да іх.

І н - Й о р м. Гэта значыць, далучыцца да іх у тваёй галаве і… пасля тут *(паказвае на магілы).*

Г о л а с Р а н ш а я. Я табе пастаўлю выдатны валун. Такі вялікі і шурпаты. Шурпата-прыемны. Яго прыемна гладзіць. А калі раптам Сад выбярэ цябе, усе яны памруць разам са мной. Зірні – ты адзін і гэтулькі супраць цябе людзей.

І н - Й о р м. Людзей?... *(вачамі лічыць-аглядае валуны).* Ды чаму ён выбярэ мяне? Я не маю шанцу. Я ніколі не займаўся садоўніцтвам. З твайго боку было б высакародна даць мне пражыць апошнія дні ў цяню гэтага Саду. Я дапамог бы апрацоўваць яго.

Г о л а с  Р а н ш а я. Кожны павінен апрацоўваць свой Сад! Але, на жаль, мы не ведаем альбо не хочам ведаць, дзе канчаецца свой Сад і дзе пачынаецца чужы.

І н - Й о р м. Але я ж дайшоў! Я стаў годным, каб патрапіць сюды, каб убачыць усё гэта!

Г о л а с  Р а н ш а я. Ты – чужынец! Ты даваў мне слова!

І н - Й о р м. Я прасіў час, каб падумаць. І я падумаў *(адкідвае нож).*

Г о л а с  Р а н ш а я. Я ведаў, што ты не захочаш сябе забіваць. Той, хто толькі ўявіў сябе героем, сам ніколі не будзе ахвяраваць сабою. Правільна казаў Упляйк… Ты не можаш аддаць жыццё дзеля чалавецтва.

І н - Й о р м. Дзеля чалавецтва? Але гэта толькі камяні. І для каго ўсе іх веды, калі ты заўжды адзін?

Г о л а с  Р а н ш а я. Я захоўваю… Я захавальнік.

І н - Й о р м. Захавальнік – пахавальнік… Я хачу пражыць адпушчаны мне час. І я буду змагацца за свой час, за кожную хвіліну!

Г о л а с  Р а н ш а я. Ты хочаш двубою?

І н - Й о р м. Навошта двубой? Мы можам жыць у розных часцінах Саду. Альбо, наогул, я пайду ў горы. Высока-высока!

Г о л а с  Р а н ш а я. Гэта нічога не дасць, пакуль ты будзеш знаходзіцца ўсярэдзіне кратэра, то-бок, з унутранага схілу гор... А перайсці горы немажліва.

І н - Й о р м. Але я хоць бы паспрабую! Няхай пераможа той, каго выбярэ Сад, і пахавае таго, хто прайграе… Ты пахаваеш мяне.

Г о л а с  Р а н ш а я. Я? Гэта не двубой, гэта латарэя, у якой я буду вымушаны даць табе шанц. Але я не збіраюся ні ў чым саступаць чужынцу! (*Ён выходзіць з цемры. Яго галава ўся сівая).*

Р а н ш а й. Я не збіраюся ні ў чым саступаць чужынцу!

І н - Й о р м. *(спыняе погляд на яго сівізне, але не падае выгляду).* Пастой! Я ўспомніў! (*Ён нагінаецца, дастае з-пад шва сандаля яблычнае зернейка).*

Р а н ш а й. Што гэта?

І н - Й о р м. Падарунак Оярэт-Са. Зернейка яблыка.

Р а н ш а й. І?

І н - Й о р м. Ён жа казаў, што гэта дапаможа.

Р а н ш а й. Ты ведаеш, колькі трэба гадоў, каб з зерня вырасла дрэва і пачало даваць плады?

І н - Й о р м. Стары казаў, што можна іграць на жалейцы, а можна біць у бонг і на вачах у нас вырасце дрэва, з’явіцца завязь, плод. У цябе ёсць бонг альбо жалейка?

Р а н ш а й. Гэта ўсё фокусы.

І н - Й о р м. Трэба паспрабаваць. Я зраблю жалейку…

Р а н ш а й. Ты ўмееш граць?

І н - Й о р м. Стары казаў, што трэба адчуць, як трымцяць інфакоды, а раптам мы адчуем. *(Прыкладае зернейка да сэрца, дзе ў яго татуіроўка, а потым паказвае яго.)* Вось наш шанц! (*Раншай ударае яго па руцэ, зернейка падае і губляецца).*

І н - Й о р м. Ты што?

Р а н ш а й. Катастрафічна хутка знікае час… Яго ўжо не стае нават на тое, каб біць у барабаны.

І н - Й о р м. Я зараз *(шукае вачамі)* – вунь тая калода, сыдзе за выдатны барабан!

Р а н ш а й. Позна! Не кранай! *(Больш гучна)* Я тут гаспадар! (*На гэтых словах з-за скалаў і валуноў выступаюць Тэона (цяпер яна выглядае, як зомбі) і два ваяры-зомбі. Яны ўтраіх дзіўнай хадой накіроўваюцца да Ін - Йорма).*

І н - Й о р м. Што гэта? Усё, што ты мне казаў – хлусня?

Р а н ш а й. Самота… Хто я людзям… Для каго я садаўнічы? Для людзей? Для сябе? Я стаміўся ад самоты. Калі я не магу быць з людзьмі, то я магу зрабіць сурагат людзей! Гэта доля тых, хто гэтак жа, як ты, не захацеў…

І н - Й о р м. Забіць сябе!?

Р а н ш а й. Захаваць сябе ў памяці *(паказвае на сваю галаву).* Жрыца Дэкея мне перадала вельмі цікавыя веды. Вучонасць Прэока і медыка Аспэто таксама спатрэбіліся. Я ставіў вопыты на гэтым матэрыяле. Прамінула шмат гадоў і атрымалася. Наогул мне патрэбныя працоўныя. А хто яны – ніхто не ведае і ўжо не даведаецца.

І н - Й о р м. Я яе ведаю. Гэта Тэона Адэльжа! Была вялікай спартсменкай…

Р а н ш а й. І катам… А якія веды, якія сакрэты свайго жыцця і сваёй прафесіі яна захоўвала? Усё знікла… Яны не аддалі мне свае веды, а некаторыя з іх я не ўзяў сам, яны непатрэбныя анікому і нават шкодныя… За гэта я забраў іх целы. Глядзі. *(Раншай робіць танцавальныя рухі, Тэона і ваяры - зомбі паўтараюць за ім. Пачынаецца танец зомбі пад музыку, складзеную з гукаў Саду. Раптам Раншай выцягвае рукі. Тэона і ваяры робяць тое самае).*

Р а н ш а й. Задушэце яго. Толькі акуратна! (*Тэона і ваяры - зомбі ідуць хутка на Ін - Йорма, акружаюць. І раптам яны застываюць).* Што гэта*? (Стомлена садзіцца на валун, трымаецца за сэрца. Тэона і ваяры - зомбі хапаюцца за сэрца, а потым, як манекены, падаюць на зямлю).*

І н - Й о р м. Ты ўвесь сівы.

Р а н ш а й. Хутчэй да мяне! *(Падае з валуна падціскае ногі.)* У нас мала часу. (*Ін - Йорм падбягае да яго).*

Р а н ш а й *(ціха).* Запамінай! Маянтох Букульб нарадзіўся ў Паўночных Тунэлях, у сям'і арандатара цяпліц. Бацька вырашыў з дзяцінства навучыць першынца свайму рамяству. І да шаснаццаці год Маянтох важдаўся з раслінамі, якія яго сям'я вырошчвала пад вялікімі лямпамі…

Зацямненне

## Сцэна 3

Тое ж падножжа гор. Спаміж надмагільных камянёў можна заўважыць чатыры новых валуны. У цэнтры – невялічкая яблыня, з адным зялёным маленькім яблыкам. Уваходзіць Ін - Йорм з драўляным вядром.

І н - Й о р м. Ты мяне чакала? *(Палівае дрэва, аглядае яблык).* Такая прыгажуня… неўзабаве станеш дарослай. Птушкі будуць спяваць у тваіх галінах. (*Прыслухваецца да спеваў птушак у Садзе).* Не! Яшчэ рана! Я нікога не хачу ані ведаць, ані бачыць! (*Уваходзіць Мазей у вельмі падранай вопратцы, але трымаецца годна).*

М а з е й. Што? І нават мяне!? Дазвольце прэзентавацца – Мазей Пышарон! Услаўлены паэт Цэнтральных і Вышэйшых тунэляў! Вы чулі, ведама ж, чулі пра маю нашумелую паэму: "Скрыжаванні-павукі".

Скрыжаванні-павукі
І сляпыя матылькі!
Колькі колькі матылькоў
Стане ежай павукоў!

Папярэдзім матылька!
– Не ляці да павука!..

Ну і гэтак далей.

І н - Й о р м. Я – Ін-Йорм Даляшорзах… З *вемасутаў*.

М а з ей. Ты з гэтых… Якія там, у самім доле, наводзяць на ўсіх пожах… Шаманы-далакопы. *Краты… раты… а ты… ты… ыыыы? (смяецца)…* Трэба запомніць экспромнцік… *(смяецца).* Любіш авангардную паэзію?

І н - Й о р м. Я не люблю, калі так нас называюць… І ў чым сэнс тваёй паэмы?

М а з е й. А сэнс у сапсаванасці месцаў, дзе вялікае скопішча людзей! Дзе віруюць натоўпы, там няма месца далікатнаму матыльку. То-бок, вытанчанай душы. Такой, скажам, як я.

І н - Й о р м. Але без скрыжаванняў, дзе сустракаюцца людзі, на жаль, ніяк нельга.

Ма а з е й. Можна! Я выступаю за пабудову абыходных тунэляў! Скрыжаванні – гэта вораг усяму жывому. Гэта крыж на ўсім! А доля такіх матыльковых душаў, як мая – адзінота і самота. Бачу тут у вас удосталь месца для адзіноты і самоты – пад кожным кустом! Я тут столькі паэм напішу! Напрыклад, Першую Паднябесную Паэму!

І н - Й о р м. Значыць, і ты ішоў да неба і да зор.

М а з е й. Я – не… Гэта ўжо састарэла. Кожны графаман піша забароненыя вершыкі пра Нябёсы, а потым дрыжыць, – ах, ах – і шэпча – ты чуў, што я напісаў, і толькі нікому ні гу-гу, а то мяне пасадзяць альбо на трубу падчэпяць, а потым да бактэрый кінуць. А сам так і прагне, каб менавіта яго крамольнае рыфмаплёцтва поўзала з вуснаў у вушы. І дамачкі-мадамачкі кідалі позіркі на будучага пакутніка, якому так не хочацца пакутаваць… Я адкрыта напісаў:

Гэй, Неба, гэх, Зоры!
Не ўзнось ты свой нос
і спазоры!
Што ёсць – не развальвай,
Але ўдасканальвай!

І н - Й о р м. Ты не ішоў да неба, і трапіў сюды выпадкова?

М а з е й . Чаму ж… Так, я не ішоў да неба, але я ішоў да мора.

І н - Й о р м. Да мора?

М а з е й. А што тут дзіўнага? Павінна ж быць дзесьці мора. Пражэктар – сонца, лямпы – зоры, столь – неба… А гра-

мадскі басейн – гэта мора? Дзе мора? *(Азіраецца).*

І н - Й о р м. Мора тут няма… Але ёсць возера – вунь там возера… Хадзем, пакажу, і дарогаю мне трэба табе сёе-тое апавесці.

М а з е й. Эх, возера… Малавата… Але, пойдзем. А я табе дарогаю прачытаю паэму пра мора-акіян. Дарэчы забароненую.

Мора, мора, акіян
Плача, стогне велікан.

І н - Й о р м. Потым, потым… (*Адыходзяць у бок возера).*

Зацямненне

## Сцэна 4

Вяртаюцца на тое ж месца. Відаць, што Мазей выкупаўся ў возеры.

М а з е й. Вадзіца супер. Я паляжаў бы яшчэ на беражку. Паслухай, што мне натхнілася, калі я ўбачыў гэты натуральны вадаём:

Такое крывабярэжнае возера
Не зробіць пастух электрабульдозераў!
*(Дастае жалейку, грае.)*

І н - Й о р м. Шчыра кажучы, пра пастуха электрабульдозераў зусім няясна.

М а з е й *(перастае граць).* Вось я – паэт! Я пастух словаў! А пастух бульдозераў – гэта вобраз! Паэтычны вобраз. Нават тысячы машын пад кіраваннем геніяльнага будаўніка не ствараць прыгажосці натуральнага вадаёму. І гэта пахабна.

І н - Й о р м. Што пахабна?

М а з е й. Папросту пахабна тлумачыць паэзію! Пастух бульдозераў…

І н - Й о р м. Ага, цяпер я пачынаю разумець, нешта ў гэтым ёсць сёе-тое… А ты ўсё зразумеў, што я табе сказаў?

М а з е й. Зразумеў. З нас дваіх хтосьці неўзабаве аддасць канцы і адчаліць у мора нябыту. Таксама гучыць пахабна.

І н - Й о р м. Але рэальна.

М а з е й. Рэальнасць заўсёды пахабная. Таму што банальная.

Вось яна праўда рэальнасці –
Жуй свой банан банальнасці!

І н - Й о р м. Нам трэба з’есці гэты яблык. На дваіх. Каб нашы коды супалі.

М а з е й. Нашы коды, што каб зрабілі?

І н - Й о р м. Супалі. Каб нашы мінусы і плюсы з’ядналіся.

М а з е й. З’ядналіся, кажаш…

І н - Й о р м. Каб нашы “не” і “так” пачалі трымцець сінхронна. І мы самі сталі б адным цэлым…

М а з е й. Мы з табой адным цэлым?

І н - Й о р м. Ну так. Ты адкусваеш, я адкусваю…

М а з е й. І мы трымцім сінхронна… Нешта неяк… Усё-ткі мы, як бы… Гэта значыць, каб я з’еў яблык і стаў з табой адным цэлым, так бы мовіць, супаў з табой і з’яднаўся…

І н - Й о р м. Так, вядома…

М а з е й. Але… Супаў і з’яднаўся.... Гэта неяк… Гэта ну ні як… Папросту ніяк… І яшчэ адзін момант – потым ты станеш такім жа вялікім паэтам, як я?

І н - Й о р м. Ну, думаю, цалкам можа быць. Але, я шчыра кажучы, не хачу.

М а з е й. Не хочаш… Але… Гэта мажліва… Тады ты зможаш, зможаш быць як я і… напісаць “Паднябесную паэму”?

І н - Й о р м. Так, а што тут такога?

М а з е й. Што тут такога!.. *(Пераводзіць пагляд на яблык.)* Яно яшчэ не спелае!

І н - Й о р м. Так, гэта праблема. Хаця... У цябе ёсць жалейка! Ты сыграеш, і яблык можа паспець паспець.

М а з е й. Паспець паспець... Нядрэнна сказаў... Сарваў у мяне з языка. Можа ты ўжось… таго… паэцееш?

І н - Й о р м. Паэцею?

М а з е й. Робішся, як я, паэтам?

І н - Й о р м. Кінь пра гэта…Нам трэба паспець з’есці яго, пакуль нехта з нас...

М а з е й. Не паспее на той свет. Дзіўны яблык.

І н - Й о р м. Яго зернейка мне даў Оярэт-С.

М а з е й. Хто даў?

І н - Й о р м. Оярэт-С. Магітатар… то-бок, мудрэц.

М а з е й. А мудрэц, ну вядома, магітатар-мудрэц… І вы з ім супалі і з’ядналіся…

І н - Й о р м. Не, мы з ім толькі размаўлялі.

М а з е й. Значыць, вы з ім толькі размаўлялі...

І н - Й о р м. Грай…і пастарайся пачуць інфакоды яблыка і паглыбіцца ў іх.

М а з е й. У інфакоды кіслага яблыка? Зараз... Зараз, зара́за, паглыбімся!

І н - Й о р м. Ад гэтага залежыць жыццё і смерць аднаго з нас.

М а з е й. Я разумею. (*Пачынае граць на жалейцы. Надзімае шчокі, чырванее… Грае нейкую мелодыю. З яблыкам нічога не адбываецца).*

І н - Й о р м. Пэўна, ты не можаш глыбока паглыбіцца ў інфокоды. Я табе дапамагу. *(Бярэ самаробны бонг – б'е ў яго. Мазей і Ін-Йорм выконваюць дзікую рытмічную мелодыю. Стамляюцца. Глядзяць на яблык. Але з яблыкам нічога не адбываецца).*

М а з е й. Ды чаго надрывацца! Пачакаем, калі яно само паспее.

І н - Й о р м. У нас мала часу. Раншай памёр усяго толькі за содні.

М а з е й. Раншай… Ты ж сам казаў, што яму было больш за трыста год. А мне няма яшчэ і трыццаці. Так што час у нас ёсць. Паспее яблычак, а затым мы яго пакусаем…

І н - Й о р м. Ты не разумееш. Сад узмацняе біяполе аднаго з нас і аслабляе поле другога!

М а з е й. Трымай, патрэніруйся *(аддае жалейку).* Можа табе ўдасца. А я пайду яшчэ паплаваю. *(Ідзе да возера).*

(І н - Й о р м вучыцца граць на жалейцы. У яго спачатку нічога не выходзіць, а затым нешта пачынае ўдавацца).

І н - Й о р м *(крычыць).* Мазей! Паслухай! Я прыдумаў нядрэнную мелодыйку. Паслухай. Мазей! Мазей! *(Глядзіць у бок возера. Бяжыць туды.)* Мазей!

Г о л а с М а з е я. Шэдэўры тонуць! Шэдэўры гінуць!

І н - Й о р м. Трымайся! *(Бяжыць у бок возера.)*

Зацямненне

# Сцэна 5

Тое самае падножжа гор. Яблыня з зялёным яблыкам. Уваходзяць Ін - Йорм і Сэйна (гэта ўжо не дзяўчынка-падлетак, а дзяўчына, адзенне на ёй парванае, але зашытае.

І н - Й о р м. І чаму ўсе госці прыходзяць да мяне, калі

яшчэ яблык няспелы?

С э й н а. Шмат у цябе іх было?

І н - Й о р м. Гасцей? Не – двое… Ты другая. Да цябе быў паэт.

С э й н а. І дзе ён?

І н - Й о р м. Тут *(паказвае на сваю галаву)* і… *(хоча паказаць на валун, але спыняецца.)* І ўсё яго паэмы тут.

Скрыжаванні-павукі
І сляпыя матылькі!
Колькі колькі матылькоў
Стане ежай павукоў…

От, ліха… засела ў галаве… Добра, пачакай. (*Ін - Йорм адыходзіць за скалу і хутка вяртаецца).* Пад скалой вечна халодная крыніца. Там я трымаю яблыкі ад папярэдняга ўраджаю. *(Дастае з-за пазухі яблык.)* На, кусай.

С э й н а. Я не галодная.

І н - Й о р м. Так трэба. Ты павінна адкусіць, затым я.

С э й н а. Гэта няправільна. Падаецца, я павінна табе даць гэты яблык, ты ўкусіш, потым я.

І н - Й о р м. Ну добра, хай будзе па-твойму, толькі давай хутчэй. (*І н - Й о р м затым Сэйна кусаюць яблык).*

С э й н а. Ты што-небудзь адчуваеш?

І н - Й о р м. Я… Ды быццам бы не… Слухай, давай яшчэ адзін яблык з’ямо. *(Дастае яшчэ яблык.)*

С э й н а. А я адчуваю.

І н - Й о р м. Што ты адчуваеш?

С э й н а. Мне дрэнна… Вельмі дрэнна.

І н - Й о р м. Хутчэй, давай другое. (*Ледзь не сілай ён прымушае яе адкусіць яблык, затым кусае сам. Яны хутка жуюць і глытаюць).* Ну як?

С э й н а. Яшчэ горш.

І н - Й о р м. Зараз. *(Дастае трэці яблык.)*

С э й н а. Не. Мне дрэнна таму, што ты кахаеш яе.

І н - Й о р м. Каго?

С э й н а. Руату!

І н - Й о р м. Што з ёй!?

С э й н а. Яна…

І н - Й о р м. Кажы!

С э й н а. Яна… Выйшла замуж за Упляйка. Усюды пра

гэта шумелі! Бо ведала – тыя, хто прайшлі Каменны Мост – не вяртаюцца!

І н - Й о р м. Я сам бачыў, што яна хацела ісці за мной! Хоць бачыла, як жаўнер перад ёй сарваўся ў прорву… Але добра, што яна не пайшла на Мост.

С э й н а. А я верыла, што прайду! І я тут. Ой!

І н - Й о р м. Што з табой?

С э й н а. Закахалася…

І н - Й о р м. У каго?

С э й н а. У цябе…

І н - Й о р м. Не гарэзнічай!

С э й н а. Ой-ёй! Мне дрэнна. Слабасць у нагах. *(Пáдае. Ін - Йорм падтрымлівае яе.)*

І н - Й о р м. Ці яблыкі не дзейнічаюць, ці толькі свежы мае моц! *(Саджае яе і рэзка адыходзіць.)* Не набліжайся да мяне ніколі! Ты зразумела!?

С э й н а. Ты гэта праз Руату? Ты яе кахаеш? І што ж мне рабіць? Яна здрадзіла табе, а я прыйшла да цябе…

І н - Й о р м. Мы не можам быць разам. Я сыходжу ў горы.

С э й н а. Я не ўсё сказала! Яна не змагла жыць з Упляйкам. Уцякла ад яго і пайшла на Каменны мост…

І н - Й о р м. І што!?

С э й н а. Яе больш няма на свеце… Няма! А я ёсць! *(Падыходзіць да яго.)* Я з табой…

І н - Й о р м *(адштурхоўвае яе).* Я знайду перавал праз гэтае замкнёнае кола. А ты, калі хочаш мне дапамагчы, будзеш прыносіць мне ежу. Я буду спускацца ва ўмоўленае месца, а ты там пакідаць садавіну, гародніну, карэнні… І ні ў якім разе не падыходзь туды, калі я там буду!

С э й н а. Я не разумею – чаму?

І н - Й о р м. Таму, што я – смерць для цябе! А ты – для мяне… (*Сыходзіць. Сэйна падымаецца).*

С э й н а. Ін-Йорм, пастой! Мне ўжо лепш! Ін-Йорм, са мной усё добра! *(Ідзе за ім.)* Я пажартавала! Ін-Йорм!

Зацямненне

## Сцэна 6

Горная мясцовасць. Унізе віднеецца Сад. Пасярод сцэны пусты мех. Сэйна прыходзіць з цяжкім мехам на плячы, кладзе яго і, паглядзеўшы ў горы, бярэ пусты мех, адыходзіць. З'яўляецца Ін -Йорм з пустым мехам. Кладзе яго. Глядзіць, куды сышла Сэйна. Бярэ поўны мех і сыходзіць.

Зацямненне

## Сцэна 7

Тая ж горная мясцовасць.

С э й н а, згорбленая, састарэлая… з цяжкасцю цягне мех (увесь залатаны-пералатаны), ён меншы за той, што быў, але несці, відць, яго цяжэй. Кладзе яго, забірае пусты і сыходзіць. З'яўляецца Ін - Йорм – ён зусім не змяніўся. Кладзе пусты мех, забірае поўны, сыходзіць.

Зацямненне

## Сцэна 8

Тая ж горная мясцовасць. Сэйна (у яе вельмі хворы выгляд) павольна паўзе, цягнучы за сабою цяжкі мех. Яна пакідае яго на ўмоўленым месцы, забірае пусты мех, адпаўзае. Але недалёка. Траціць прытомнасць. З'яўляецца Ін - Йорм. Кладзе пусты мех, затым падбірае поўны. Заўважае Сэйну.

І н - Й о р м. Сэйна! Што з табой?.. (*Сэйна без прытомнасці. Ін - Йорм падбягае да яе).* Сэйна… Мілая… Ты не павінна была ісці на гэты выкляты мост… Сэйна… Гэта я вінаваты… Пачакай... Гэта ты павінная застацца ў гэтым Садзе… Сэйна чуеш! Ты чуеш! Адкрый вочы! Глянь! Я кахаю цябе!

С э й н а. Ін-Йорм… Каханы… Аднясі мяне да яблыні… Я не хацела зрываць без цябе. (*Ін -Йорм бярэ Сэйну на рукі і выносіць за сцэну).*

Зацямненне

# Сцэна 9

Падножжа гор. Яблыня з чырвоным яблыкам. (*Ін - Йорм прыносіць на руках Сейну. Кладзе пад самую яблыню. Зрывае яблык).*

І н - Й о р м. Наша апошняя спроба. Ты чуеш? *(Кладзе яе галаву сабе на калені)*

С э й н а. Мне цяпер так добра.

І н - Й о р м. Паспрабуй.

С э й н а *(адкусвае маленькі кавалак).* Смачна, каханы. Вельмі смачна.

І н - Й о р м *(сам адкусвае).* Ты што-небудзь адчуваеш? Табе хоць на драбніцу лепей?

С э й н а. Так, нашмат лепей.

І н - Й о р м. Ты кажаш праўду?

С э й н а. А ты мне сказаў праўду?

І н - Й о р м. Я?.. Так.

С э й н а. Паўтары, калі ласка.

І н - Й о р м. Я кахаю цябе!

С э й н а. Я ж цяпер такая непрыгожая.

І н - Й о р м. Ты най- най- найпрыгажэйшая! Ні сонца, ніводны месяц не параўнаюцца прыгажосцю з табой… Ні адна зорка неззяе прыгажэй за цябе!

С э й н а *(вельмі ціха).* Неба прыгажэйшае.

І н - Й о р м. Ты маё неба!

С э й на. Пацалуй мяне! (*Ін - Йорм цалуе яе, Сэйна траціць прытомнасць. Ін - Йорм абдымае яе).*

І н - Й о р м *(акуратна кладзе яе).* Я сюды больш не вярнуся. Я пайду ў горы і буду ісці ўгору, угору і ўгору. Мой Шлях да неба і зор яшчэ не завершаны! А ты, каханая, ты адчуеш… Табе адразу стане лепш. Цяпер твая чарга жыць у гэтым Садзе. (*Ужо амаль адыходзіць і раптам спыняецца. Прыслухоўваецца).* Гэтага не можа быць! Трэцяму не дадзена. Трэцяга Брама не прапускае! *(Прыслухоўваецца).* Падалося. *(Збіраецца сыходзіць, зноў спыняецца. Уваходзіць Оярэт - С. Ён голы – у сваёй пірамідальнай чалме і з саквояжам у руцэ, якім прыкрываецца).*

О я р э т - С. А… О, мой дарагі сябар… Я цябе адразу пазнаў… Ці ёсць чым захінуцца? (*Ін - Йорм дае яму мех*). Гэтак ты паважаеш старасць і мудрасць?

І н - Й о р м . Я магу даць вам сваю кашулю.

О я р э т – С. Не трэба (*Усміхаецца. Выкарыстоўвае мех, як*

*туніку*). Такі дзікі вецер, ён мяне круціў, кідаў, сюды, туды. Як быццам чакаў, калі мяне можна выкінуць у цёмную пячору. Усё садраў і хацеў вырваць сакваяж… Але я трымаў з усіх сіл.

І н - Й о р м. Але гэтага не можа быць!

О я р э т - С. Чаго не можа быць.

І н - Й о р м. Разумееш, вакол – гэта Сад, у якім можа жыць толькі адзін чалавек – адзін садаўнічы.

О я р э т - С. Так, разумею… Пакуль усё супадае.

І н - Й о р м. Што супадае?

О я р э т - С. Не што, а з чым… Усё супадае з інфармацыяй, якую мне ўдалося сабраць са сцен турмы-бібліятэкі. Людзі чыталі кнігі, думалі пра тое, што напісана. Шапталіся, апавядалі адзін аднаму і нават зашыфроўвалі ў малюнках і надпісах. Бачылі, нарэшце, сны паводле кніг. Мне столькі сілы розуму давялося патраціць, каб усю гэтую інфармацыю сабраць, расшыфраваць. Значыць, адзін садаўнічы жыве тут, на паверхні і Залатая Брама прапускае аднаго канкурэнта. І гэты Сад разбілі тут старажытныя Творцы, то-бок, нашыя продкі.

І н - Й о р м. Разбілі. Каб яго разбілі!

О я р э т - С. Усё акурат так, як я і дазнаўся. (Ін - Йорм кідаецца да Сэйны).

І н - Й о р м. Сэйна, каханая! Сэйна *(катурхае яе!)* Ачуйся! Ты чуеш мяне! Каханая! *(да Оярэт - С.)* Так, цяпер усё зразумела... Вось чаго чакаў гэты вецер.

О я р э т - С. Чаго? *(заўважае Сэйну, падыходзіць да яе)*

І н - Й о р м *(з жалем.)* Усё правільна… Мы засталіся ўдвух. Ты і я. Вось чаму Брама цябе прапусціла.

О я р э т - С. *(аглядае Сэйну – яна без прытомнасці).* Так-так…

І н - Й о р м. Яна толькі што памерла. (*Оярэт - С. правярае яе пульс, прыкладае вуха да яе сэрца).*

І н - Й о р м. Я не паспеў сысці!

О я р э т - С. Калі ласка цішэй! (*Ін - Йорм у роспачы адыходзіць у глыб сцэны. Оярэт-С. дастае з сакваяжа флакончык, дае панюхаць Сэйне).*

С э й н а *(да Оярет-С.)* Каханы, мне лепш… Ой, а хто вы? *(прыўзнімаецца).*

О я р э т - С. Оярет-С. Кіфандоарвай-Міц, вандроўны філосаф і магітатар.

С э й н а. Хто?.. Я вас ведаю! *(У страху) А* дзе Ін-Йорм!?

І н - Й о р м *(падбягае).* Сэйна, я тут! А гэта што? Цуд?

Цудоўны флакончык.

О я р э т - С. Гэта Зэ-Зэ-Цэ.

І н - Й о р м. Што?

О я р э т - С. Занадта Звычайны Цуд.

І н - Й о р м. Гэта ўсё дзякуючы вашаму падарунку.

О я р э т - С. Падарунку?

С э й н а. Яблыні і яе яблыку.

О я р э т - С. Ну, можа быць, можа быць. Хаця ў флаконе – нашатыр. А над тым зернейкам я сапраўды праліў столькі поту.

С э й н а. І як жа гэта здарылася, што вы тут з намі?

О я р э т - С. Элементарна, мае сябры. Зараз вы і гэты маладзён падаецеся Саду адным цэлым, вашыя інфакоды, вашыя “плюсы” і “мінусы”…

І н - Й о р м. Нашыя “не” і “так”.

О я р э т - С. Цалкам супадаюць.

І н - Й о р м. І трымцяць ва ўнісон.

О я р э т - С. І Сад не можа вас, так сказаць, дыферэнцаваць альбо, прасцей кажучы, адрозніць.

І н - Й о р м. Але цяпер мы ўступаем у барацьбу з табой, шаноўны Оярэт-С. Нас двое, а ты адзін… Таму ў цябе мала шанцаў.

О я р э т - С. Шанцы заўсёды ёсць. Але не хочацца наогул уступаць у якую-кольвек барацьбу.

І н - Й о р м. А яблыкаў на яблыні больш няма.

О я р э т - С. Вы прапанавалі б мне з’есці гэты яблычак ўтраіх?

С э й н а. А чаму бы не.

О я р э т - С. Гэта цікава… Але ж, яблыкаў жа няма.

І н - Й о р м. Аднак выхад ёсць! Памятаеш, ты мне казаў, што можаш сыграць на дудцы і вырасціць з зернейка дрэва, а потым яно заквітнее і прынясе плод.

О я р э т - С. Вядома, памятаю!

І н - Й о р м. Так не чакай!

О я р э т - С *(корпаецца ў саквояжы)*. На вялікі жаль, я забыў сваю флейту ў турме.

І н - Й о р м *(дастае жалейку Мазея)*. Гэта жалейка вялікага паэта – прыдасца?

О я р э т - С. Думаю, будзе акурат. (*Оярэт - С. пачынае граць*).

О я р э т - С. Фу… Даўно я гэтым не займаўся. Дапамажэце мне, а то я стаміўся. (*Ін - Йорм б’е ў бонг. Граюць палымяную ме-*

*лодыю. Гэтая мелодыя цалкам вяртае сілы Сэйне. Яна танчыць вакол яблыні. На яблыні з’яўляецца завязь. Потым плод. Перастаюць граць. Оярэт - С. падыходзіць да яблыні зрывае плод, але ён не яблык, а груша).*

І н - Й о р м. Што гэта?

С э й н а. Можа і груша пасуе?

О я р э т - С. Не, груша не пасуе. Але мы з вамі толькі што зрабілі выдатнае адкрыццё. Мы дыстанцыйна прышчапілі да яблыні іншую расліну!

І н - Й о р м. Гэта што? Жарт ад Мазея?..

О я р э т - С. Цалкам можа быць (*глядзіць на жалейку).* Была *жалейка*, стала *жарцейка*. Затое якое адкрыццё!

І н - Й о р м. Гэта груша не датычыць нашай праблемы.

О я р э т - С. Так-так. *(Задумваецца).* Хаця некаторыя праблемы могуць лопацца як мыльныя бурбалкі! Мне трэба да гэтага інструмента прынаравіцца... *(Дзьмухае ў жалейку, і раптам з яе вылятаюць мыльныя бурбалкі).* Ого, як здорава!

С э й н а. Ой! Я адчуваю.

І н - Й о р м. Што з табой?

С э й н а. Нічога.

І н - Й о р м. Нічога… Чорт!

С э й н а. Што з табой?

І н - Й о р м. Таксама нічога.

С э й н а. Нічога, такое ж самае, як і ў мяне!? *(З трывогаю глядзіць на яго.)*

І н - Й о р м. Так... Усё ясна…

С э й н а. Што ясна!

І н - Й о р м *(да Оярэт - С.).* Шаноўны магітатар… Я схіляюся перад тваім розумам… Аднак па ўсім відаць, што нас ён раскусіў.

О я р э т - С. Хто раскусіў?

І н - Й о р м. Сад. Ён зразумеў, што мы ўдваіх, як адзін чалавек. Што мы яго падманулі! І таму выбраў цябе.

О я р э т - С *(думаючы пра сваё)* Мяне…

І н - Й о р м. Паслухай, чорт бяры! Ты адзін, а нас двое. Ты ўжо даволі пажылы, а мы маладыя…

О я р э т - С. І што?

І н - Й о р м. Справядлівасць!

О я р э т - С.. Так-так-так…

І н - Й о р м. Двое – гэта заўсёды больш, чым адзін.

О я р э т - С. Не… Не кажэце так. Напрыклад, вашыя веды

пра Сусвет нават складзеныя разам будуць нашмат меншыя за мае.

С э й н а. Ой! *(Скалынаецца і хапаецца за сэрца. Адначасова з ёй скалынаецца і хапаецца за сэрца Ін - Йорм).*

І н - Й о р м. Але ж мы складаем не веды, а жыцці! Апроч таго, свае веды ты можаш нам перадаць, як гэта зрабілі Раншай і Мазей, і іншыя!

О я р э т - С. Добра…І што далей? Што будзе з вашым дзіцём?

С э й н а. А што будзе з нашым дзіцём?

О я р э т - С. Калі Сад выбярэ яго. Вы памрэце, ён застанецца адзін, малы, як ён выжыве? Альбо ён памрэ ў вас на руках…

С э й н а. Мы заплануем так, каб накарміць яго і сябе спелым яблыкам.

О я р э т - С. А наступных дзяцей?

С э й н а. Такім жа чынам – з’ямо яблык усей сям’ей.

О я р э т - С. І наколькі чалавек хопіць таго яблыка?

*(У Сэйны і Ін - Йорма адначасова з’яўляецца грымаса болю).*

І н - Й о р м. Карацей так. Альбо ты цяпер перад намі вырошчваеш спелы яблык. Пастрайся, калі ласка, адчуй гэтую жалейку, адчуй яблыню…

О я р э т - С. Альбо?

І н - Й о р м. Ты стары, разумееш сам. Будзеш жыць тут *(паказвае сабе на галаву жэстам Раншая).*

О я р э т - С. А ў цябе там досыць месца?

С э й н а. І тут *(паказвае на сваю галаву).*

І н - Й о р м. Ты сам вінаваты, што прыйшоў сюды.

С э й н а. І вы ж усё ведалі! (*Сэйна і Ін - Йорм адначасова скаланаюцца ад болю).*

І н - Й о р м. Давай, магітатар, дзьмухай у дудку!

О я р э т - С. Калі ты так хочаш. *(Пачынае граць, але выходзіць нейкая няскладная мелодыя, нарэшце ён стамляецца. Адкладае жалейку).* Наогул, рэч можа быць зусім і ні ў яблыку.

І н - Й о р м. Ні ў яблыку?

С э й н а. А ў чым.

О я р э т - С. Я ж казаў. Занадта Звычайны Цуд.

І н - Й о р м. Што гэта.

О я р э т - С. Ні яблык, а біяхвалі кахання прымусілі вашыя інфакоды біцца ва ўнісон.

І н - Й о р м. І ты – трэці лішні?

О я р э т - С. Мажліва.

С э й н а. Навошта вы сюды прыйшлі!?

І н - Й о р м. Ты зразумеў, што ты трэці лішні? *(Падступае да яго.)*

О я р э т - С. Я…

С э й н а *(падступае да Оярэт - С.).* Навошта вы сюды прыйшлі!!

І н - Й о р м. Ты зразумеў!? Ты лішні!

С э й н а. Навошта вы прыйшлі!!!

О я р э т - С. Я хацеў пабачыць. Мне трэба ўбачыць.

І н - Й о р м. Што?

О я р э т - С. У турме-бібліятэцы я быў у камеры, дзе калісьці знаходзіўся незвычайны арыштант. Ён быў цалкам сляпы... Аслеп пад старасць. А пасадзілі яго за тое, што ён быў апошнім астраномам на нашай планеце. Ён памятаў кожную зорку на небе і пакінуў шмат цікавага на сценах. Хоць ніхто не разумеў, што ён на іх выдрапаў.

С э й н а. А вы зразумелі?

О я р э т - С. Не буду выхваляцца, але сутнасць ухапіў.

І н - Й о р м. Ухапіў! І ты нам цяпер будзеш гэта апавядаць?! Калі на нас ужо дзейнічае заклён Саду…

С э й н а. Нам трэба тэрмінова нешта рабіць!

І н - Й о р м. Што нам рабіць!?

О я р э т - С. Чакаць!

І н - Й о р м. Але ў нас катастрафічна бракуе часу.

О я р э т - С. Час… – гэта прыродная сіла і мноства інфармацыі. І важна яго дакладна вылічыць. І навучыцца кіраваць ім. Тады браку часу і браку ў часе не будзе… (*Ён дастае з чалмы вялікі гадзіннік, на якім стрэлкі адлічваюць гады, месяцы, дні, гадзіны, хвіліны і секунды. Усе стрэлкі, апроч секунднай паказваюць на чырвоную рысу. Секундная стрэлка бяжыць па коле. Ін - Йорм і Сэйна глядзяць як яна бяжыць, пры тым відаць, што ім з кожнай секундай усё больш і больш баліць).*

І н - Й о р м *(не вытрымлівае).* Стары, даруй! *(Ён хапае Оярэт - С. за горла.)*

О я р э т - С *(хрыпіць).* Пачакай.

І н - Й о р м. Калі я пачакаю – будзе катастрофа. (*Секундная стрэлка на гадзінніку падыходзіць да чырвонай рыскі. Неба азараецца. Удалечыні раздаецца выбух. Ін-Йорм адпускае Оярэт - С.*

О я р э т - С. Вось гэта катастрофа! (*Усе трое падаюць на зямлю).*

С э й н а (*праз некаторы час*). Што ж гэта такое?

І н - Й о р м. Што здарылася?

О я р э т - С. Аскепак хвастатай зоркі, якая стварыла гэтае кола гор – вярнуўся.

С э й н а. Гэта прадказваў сляпы астраном?

О я р э т - С. Так... І я думаю, цяпер кола разамкнёнае! Ідзем! Там за мяжой Саду, на вонкавых схілах, вы мне, маладыя людзі, нястрашныя. І я вам таксама. (*Утраіх устаюць*).

І н - Й о р м (*да Сэйны*). Ты можаш ісці ў горы?

С э й н а. А ты?

І н - Й о р м. Я – так.

С э й н а. І я – так.

О я р э т - С. Я жыў у вузкіх цьмяных тунэлях, жыў на сметніку, у закінутай турме-бібліятэцы, чаму б мне не пажыць у горнай цясніне на вонкавым баку кратэра?

І н - Й о р м. Што ты кажаш?

О я р э т - С. Спадзяюся, вы мяне не забудзеце, маладыя людзі, і будзеце прыносіць плады з вашага чароўнага Саду?

С э й н а. Вядома, не забудзем.

І н - Й о р м. Падсілкуем, падхарчуем.

О я р э т - С. А ў мяне будзе ўдосталь часу, каб падумаць, як прымусіць Залатую Браму прапускаць людзей адгэтуль туды. Уся праблема ў запаветных інфакодах, гэтых самых “плюсах” і “мінусах”, гэтых “не” і “так”, што трымцяць і цікаюць ва ўсім, як у гадзінніку, – “цік-так” “цік-так”… “ці так”, “ці так”… вось так, маладыя людзі. Але галоўнае – кола разамкнёнае! Кола разамкнёнае!

Сыходзяць насустрач святлу

**Канец**



Адзінаму, непаўторнаму
ў сваім біяграфічным і творчым выяўленні
паэту Знічу,
мысляру, музыканту, манаху Іаану
– выбітнай Асобе
ў беларускай духоўнай культуры,

**Алегу БЕМБЕЛЮ**
– 80 гадоў



*Заўсёды самыя сардэчныя*
*і шчырыя віншаванні*
*ад “белавежцаў”*



Анхела Эспіноса РУІС

# З пакоя нарцысавых ценяў

***

Я хачу цалаваць твае шчокі,
Як цалуе зямлю далягляд,
Як цалуюць нябёсы аблокі,
Як цалуе зіму лістапад,

Як цалуюць старонкі паэты,
Як цалуюць радкі чытачоў,
Як цалуюць агонь цыгарэты,
Як цалуе самоту любоў,

Як цалуе падушку світанне,
Як цалуе паветра святло,
Як цалуе шчаслівых маўчанне,
Як цалуе сініца крыло...

Ты бязлітасны, крохкі, далёкі,
Ты між памяццю ды забыццём.
Я хачу цалаваць твае шчокі,
Як цалуюцца смерць і жыццё.

***

А ці знаеш, што з вежы,
Што мы збудавалі з табой
Бачна мора,
І снегу сярэбраны рой
І пакой,
Дзе мы ўчора
Згубілі надзею?
Адсюль бачна, як хмары ў палёце,
Як добрыя феі,
Фарбуюць нябёсы агнём небасхілу.
Цякуць пацалункі ў самоце,
Ці чуеш, мой мілы?
Ці бачыш?
І ласкі знікаюць пяском...
Мілы, плачаш?
Вось, ціха: ўспаміны
Грукочуць, як гром.
Глядзі: з нашай вежы
Відаць яшчэ месяц, як з гліны,
Святлом ночы рэжа...
А раптам сцямнела,
Рукамі малюю абрыс твайго цела.
Ня бачна нічога:
Між намі суценне,
Трымценне,
Дыханне,
Каханне?
Дарога
І зорная кроў.
Мы з табой нават не гарады,
А смуга залацістая між гарадоў.

***

А шчаслівыя людзі павінны лятаць у нябёсах:
Падарожнічаць светлымі хвалямі зорных палётаў,
Зіхацець над зямлёю, бы цень агнявых альбатросаў,
І вязаць сабе крылы сярэбранай ніткай самоты.

А шчаслівыя людзі павінны лятаць над планетай,
І глядзець на журбу з вышыні, як на кінуты дом,
Танцаваць за надзор'ем, за крокамі зніклых каметаў,
Калі лютаўскі вечар аблокамі пахне й дажджом.

А шчаслівыя людзі павінны лятаць – хай і зрэдку,
І трымацца ў паветры, каб не пабрудзіць сваіх ног,
Дагараць, нібы знічкі, ды ціха згасаць, неўзаметкі,
І памерці ў абдымках халодных начэй дарог.

**Танцы**

Мяне падняў на рукі незнаёмы
І станчыў вальс са мной на даху дома.
Міжволі я гублялася ў аблоках,
Мы танчылі шалёна ды высока.
Палохалі і бегласць шпаркіх рухаў,
І моц непрадказальных светлых духаў,
Палохалі нябачныя ўспаміны,
Палохаў небасхіл, халодны й сіны,
Палохала мяне жывая кроў,
Палохала гарачая любоў,
Мяне палохаў вялы пах лілеі,
І страчаная музыка надзеі.

А дзе ты быў, каханы мой, ўчора?
Чаму не запаліў на небе зорак?
Глыбокай ноччу цемра панавала:
Уласных думак мне было замала.
Над даляглядам блыталіся ногі

Праз недахоп птушынае дарогі.
А можа, я даўно не помню крокі:
Заўжды была нязграбнай, адзінокай...
Ляцелі мы, не танчылі, мой мілы,
Бо нам з табой перашкаджалі крылы.

***

Першы подых жыцця падхапілі вясновыя ветры
З тваіх вуснаў, і шэраю раніцай зніклі, бы мроя.
Ты ляжыш сярод штучных нарцысаў у белым пакоі...
Дзьмухаўцом-пацалункам вярнуць бы густое паветра,

І шаптаць табе ў вуха б імя таямніча-святое,
І расці б з ледзяных тваіх рук старажытнае дрэва,
Прыляцець бы празрыстай імглой і птушыным стаць спевам,
І прыдумаць бы колеры золку між сценаў пакоя.

Разбудзіць бы цябе, каб пасеяў мяне сваім Словам,
Тваім пальцам бы зноў падчыніцца, бы цёплая гліна,
І з рабра б нарадзіцца твайго першабытнай Жанчынай,
І каб ноч нас з табой абняла жураўлём папяровым.

Мне б хацелася скочыць з табой з Вавілонскае вежы,
І без слоў узляцець аж да раю на крылах каметы,
І салодка спазніцца з табою на першы дзень лета,
Каб кахацца за злым небасхілам, дзе месяц нас рэжа,

І стаць дымам з табой залацістым, нябачным, прыгожым,
Абы знікнуць увосень, як пар недапітай гарбаты.
Паглядзі, мой анёл, у люстэрка, ты моцны й крылаты...
А з пакоя нарцысавых ценяў мы збегчы не можам.

***

І настала вясна – ты квітнееш ля кожнай дарогі,
Карані крадуць з сэрца майго мімалётную кроў:
Вось твае дзьмухаўцы пралятаюць на крылах трывогі,
І фарбуе табой небасхілы сівая любоў.

Ты хацеў уцячы лёгкай птушкай – у вырай са мною,
Ты хацеў, знаю я, аж да смерці насіць на руках,
Ты хацеў, каб з табой падняліся блакітнаю мрояй...
Вышыні, непагоды, вятры? Перашкодзіў твой страх.

Ты хацеў узляцець – быццам мёртвы лунаеш над светам,
І між стомленых зорак самотна спявае струна.
Я забыла цябе – я забыла палёты, каметы,
Я забыла твой боль, і любоў... І настала вясна.

*******

А ўсё ж такі няцяжка
Знайсці цябе і ў лесе
Замарожаных твараў,
Бо помніш, як мы падалі з табою,
Як грэшныя анёлы,
Як вогненыя знічкі з па-за хмараў?..
Зірні, вунь паглядзі,
Як нам зайздросцяць
Ганарыста-каляровыя паўліны,
Хай вытанчана і ходзяць па траве,
Але ж яны так пырхаюць нязграбна...
Няхай на дзве хвіліны
Стаць хочуць альбатросамі Бадлера,
Як і мы. А час плыве:
Я разумею, што з табою растуць крылы:
Ды што нам гонар, мілы?
Што зямля? Я буду шчырай:
Не трэба бегаць мне, ні танцаваць,
Калі з табою будзе вырай…

## ЭЛЕГІЯ ТАРАСУ МАТВІЕНКУ (1991—2019)

*А й правда, крилатим ґрунту не треба.*
*Землі немає, то буде небо.*
Ліна Кастэнка

*Калі сонца Варшавы хоць рэдкасным днём мігаціцца з-за хмараў*
*Гэта толькі з таго, што яно праглынула няўзнакі крылатую мару.*

### I

Ты пайшоў.
Ты пайшоў нечакана
(А на жарты пакуль яшчэ рана
А ўсё ж, ты пайшоў),
А ў мяне на душы быццам сотня нажоў:
Той халодны й глухі, а той – цвёрды, сёй – рэжа.
На плячах адчуваю вагу Вавілонскае вежы.
Але хопіць ужо пра мяне.
На душы... Ёсць душа? Мо няма,
А як ёсць, дык міне.
Як жа рана прачнулася зорка!
Як жа рана парвалася нітка!
(Ці позна зноў выткаць
Спачатку цябе?)
Як жа рана і смерць пакахала
Старонкамі Лоркі,
Зялёна ды вечна, наіўна ды горка.
Ты казаў, што кахання няма... Існуе?
Калі так, дык няважна:
Міне.

### II

У Варшаве за Віслаю дрэмле піварня старая.
Пад зямлёю. Плыве з яе кранаў вада з Мнемазіны,
І чэшскае часам ліецца салодкім і цёмным.
Пад зямлёю ты спіш – маё сэрца ляжыць непрытомным.

Пад зямлёю прашу ў забыцця даць яшчэ хоць хвіліну.
Мае куфлі глядзяць і пытаюць: чаго ты сівая?
І я п’ю за сябе:
За цябе не магу – яшчэ рана.
І я п’ю без сябе:
На падлогу ліюцца мне з кранаў
Бяспынна ўспаміны,
Бо ты быў адзіным,
Хто ведаў, што смех і святло, і размовы
Застаюцца ў паветры, а рэха са сценаў лунае,
Як снег лістападаўскі лепяцца словы,
І так назаўжды.
У гэтай кавярні (прыслухацца трэба) ёсць ты,
І ляціш, быццам дым залаты.
А чаго я сівая?

**III**

Каб я верыла ў прывідаў, духаў і казкі пра Бога,
То яшчэ б, як той кажа, нічога...
Ты прабач, што я зноў пра сябе,
Па душы (ёсць душа?) мяне б’е
Тваё неіснаванне
(Ёсць душа? Ёсць каханне?)...
Дык глядзі – каб я верыла ў Бога,
Не было б, можа быць, і трывогі:
Ты пайшоў хутка-хутка, дажджом бы каметным,
Захавай крэсла побач з сабой ля агню ў апраметнай
(Знаеш ж ты – ідэальных няма,
І прыкідвацца зараз – дарма).
А на жаль, знаю я, дружа мой,
Што не вернеш ужо запазычанай кнігі,
І не ўбачыш так доўга чаканай адлігі,
Ні прыходу вясны
І не вып’ем з табой
За канец
Той праклятай
Вайны.

**Аксана ДАНІЛЬЧЫК**

# *Universalis*

I

*Промні-нажы вакол майго сілуэта*
*уваходзяць ў мяккую сцяну драўлянага дома,*
*да якога я прыціскаюся, каб мае капіляры запоўніліся*
*любоўю, што саграваа мяне ў дзяцінстве,*
*арганічнасцю існавання разам з дрэвамі,*
*травой, яблыкамі ў траве.*
*І калі хтосьці шукаў праўду быцця,*
*то яна была тут.*

*Колькі разоў абнаўляецца кроў за жыццё?*
*Кожнае абнаўленне памяці*
*самы ніжні пласт? Ці верхні?*

*І што адбываецца,*
*калі яна перастае аднаўляцца?*

*Мае думкі заўсёды блукалі*
*па нейкіх паралельных сусветах,*
*але непазбежна вярталіся да коміна,*
*распаленага ў восеньскіх прыцемках.*

*О, тыя нешаляваныя сцены, я памятаю вас…*
*Як памятаю першыя прачытаныя словы.*

*А сонца, кідальнік нажоў, працягвае свае гульні*
*ў свеце, які не паддаецца дэканструкцыі.*

*Можа таму яго спрабуюць знішчыць?*

## II

окно кухни
глядит на дорогу и фьорд
в окне отражается мамина мама

*Хеге Сіры (пер. з нарв. А.Пановай)*

*Акно кухні глядзіць на дарогу і лес, мама маёй мамы не ведала нават, што дзесьці існуюць фьёрды (тады я таксама нічога пра іх не ведала, затое ведала пра Гаспадыню травы і Аканійдзі). Ніхто не спяваў ёй у беларускім лесе. І алені не хадзілі пад нашымі вокнамі, тут ніхто не гадаваў аленяў. Я ведала, што холад становіцца белым ядлоўцам, што ягель прарастае праз сцены. Мама маёй мамы прыручала агонь, каб доўгай зімой я магла хавацца на печы між залатых вянкоў цыбулі і чытаць саамскія казкі.*

*...белы снег плач не плач*
*голас твой не пачуе неба…*
*Аканійдзі, маці сваёй дачка*
*…золата знікла твань затрымцела*
*што за бяда тваю песню скруціла…*
*Аканійдзі, маці сваёй дачка*
*…слабасць чужая сілу тваю забірае*
*скварнасць чужая звязвае горш за кайданы…*
*Аканійдзі, маці сваёй дачка*
*…толькі ўсё роўна сонечны промень*
*непадуладны памкненням зласлівым…*
*Аканійдзі, маці сваёй дачка*

*Акно кухні гэтаксама глядзіць на лес, што падыйшоў да самай хаты, і на дарогу да фьёрдаў, па якой сышла мама маёй мамы.*

III

*Зімовы дзень у шуканні абсалюта*
*прытуляецца да халоднай шыбы,*
*а я прытуляюся з другога боку,*
*каб адчуць рознасць унутранага і знешняга.*

*Маё спаралізаванае горла –*
*скрынка з мёртвымі гукамі,*
*клетка ўвязненых калібры,*
*што б'юцца за нектар*
*запунсавелага маку.*

*Падтопленая промнямі лінія далягляду*
*крышыцца і правальваецца*
*ў пустоты між будынкамі.*

*Снежныя рэкі сцякаюць па дрэвах.*

*Немагчымы крык*
*прымае форму сонечнага святла,*
*падпаўзае да маіх пальцаў*
*і накрывае іх цёплай нябачнай далanёй.*

*Нешта застанецца, я ўпэўнена,*
*нешта ад усяго гэтага застанецца.*

*Можа быць згадкі аб кіпцях калібры,*
*а можа быць упартае сонца,*
*што  хапаецца за дрэвы, каб утрымацца*
*і не даць зацягнуць сябе за далягляд...*

IV

*Дзіўныя, дзіўныя дні,*
*расцягнутыя як транспаранты,*
*пасля іх здымуць і выкінуць на сметніцу,*
*і ніхто іх не знойдзе і не будзе шукаць.*

*Дрэва болю ўкаранілася ў сэрцы*
*і пайшло расці па ўсім целе,*
*аплятаючы галінамі артэрыі,*
*прарастаючы праз мышцы –*
*жывая матэрыя праз жывую матэрыю.*

*Што я магу сказаць гэтай жанчыне*
*пра жыццё, якое нікому нічога не гарантуе,*
*тым больш захаванне самога сябе?*

*Што я магу сказаць гэтай жанчыне,*
*якая чакае, але не дачакаецца.*
*Супакоіць яе тым, што яна сама і дух, і душа?*

*Я кажу: нішто не прадвызначана –*
*ні слова, ні водгук..*
*А яна кажа: прадвызначана ўсё.*

*Доўгія, доўгія дні,*
*расцягнутыя як транспаранты*
*пад запаволеным падзеннем снега.*

*Што я магу сказаць гэтай жанчыне?*

*Прысутнасць важней за словы,*
*нават калі мы ведаем: у пэўны момант*
*снег пачне пралятаць праз шкло*
*і запоўніць увесь пакой.*

V

*Апынуўшыся па-за часам, па-за дзеяннем, па-за*
*рухам ідэй і думак, вятроў і часінаў года,*
*у бесперапыннай стагнацыі, дзе крык нагадвае*
*шэпт, шэпт робіцца большым за крык, а шоргат*
*лісця ў падзенні гучыць як грукат камення, дзеля*
*чаго мы пішам гэтыя недарэчныя вершы, гэтыя*
*неўратычныя нататкі, дзе на кожным слове*

*пячатка паталагічных сэнсаў… дзеля чаго ўся гэтая канкрэтызацыя болю, гэтыя ўвасобленыя параноі, дзеля чаго ўвесь гэты страх*

*не паспець*

*вызваліць дрэвы,*

*што лямантуюць сашчэпленымі галінамі, не могучы скрануцца з месца нават калі з усіх бакоў агонь вада канец света, усе іх магчымасці – адна суцэльная немагчымасць-бясплённасць – безвыніковасць, іх не ратуе нават вышыня, куды ім найпрасцей узняцца, бо цесна вакол так цесна, што не расправіць вецце, а свет сціснуты да памераў спавядальні,*

*дзе не відаць,*

*ці ёсць хтосьці з другога боку.*

VI

*Дрэвы сыходзяць.*
*У вечаровай смузе –*
*лісце на плечы… Неверагодна ціха.*
*А ты пішы. Супрацiўляйся тузе.*
*І вучыся дыхаць…*

*Пішы. Спасцігай*
*неабходнасць роста,*
*каб раптоўна пераканацца –*
*памерці так проста.*
*Выгляд рабі быццам не чуеш,*
*што адступіць – мудра,*
*што павярнуць неіснаванне*
*супрацьлеглым бокам –*
*лёгка, калі ўсё навокал супраць.*

*Пішы. Хоць паэзія –*
*толькі сведка зацятая,*
*што не заўсёды нават*
*знаходзіць смеласць сказаць праўду,*
*але менавіта яна – невінаватая.*
*Хоць верш – толькі сведчанне,*
*толькі жыцця падсвечванне,*
*хоць усё роўна любая дарога завершыцца*
*асобы каменным пасведчаннем.*
*Нажніцы вуліцаў*
*разразаюць тканіну горада як паперу.*
*І верш калі-нікалі*
*бывае гатовы памерці за веру*
*ў асэнсаванасць…*

*І дрэвы сыходзяць*
*у восеньскі змрок –*
*непакаяныя паломнікі.*
*Засынай,*
*а дождж ператворыць*
*краявід за акном*
*у кадры старой кінахронікі.*

VII

*Прадчуванне дажджу захоплівае неба,*
*неба, што зрабілася цямней за лён,*
*які ўжо выцягнуў зялёнае цела*
*на дастатковую даўжыню,*
*каб сваімі блакітнымі пялёсткамі*
*паказытаць хмару.*
*А можа гэта хмара апусцілася занадта нізка?*
*Званочкі звіняць, што дождж ужо блізка,*
*што завяршаецца заваёва нябёсаў,*
*і гэта – самая галоўная падзея*
*сённяшняга дня.*

*Гэта проста жыццё ў цішыні,*
*калі толькі гром – і ніякіх іншых гукаў,*
*ніякіх крыкаў за вокнамі,*
*толькі ластавак палахлівыя цені*
*выдаюць прысутнасць іншых істотаў.*
*Вінаград абвівае дрот*
*і раскідае ў розныя бакі парасткі,*
*што спатыкаюцца аб адсутнасць апоры*
*і матляюцца непрыкаяна.*

*Ніткі травы і сцяблінкі суніцаў*
*уплятаюцца ў сетку,*
*зрастаюцца з ёю – з нежывым – жывое.*
*Час увасабляецца ў нежывых рэчах,*
*займае месца ў шафах, на кніжных паліцах,*
*а пасля адыходзіць, пакідаючы пранізлівы сум*
*завяршэння жыцця – свайго і чужога,*
*калі здаюцца нязначнымі і няважнымі*
*адарваныя ручкі ў шафе, пагнутыя цвікі,*
*паштоўкі, лісты, старыя манеты –*
*увесь гэты скарб… якога недаравальна многа…*
*Аднойчы я перачытаю старонкі напісаных ім кнігаў,*
*перагляжу яго фотаздымкі, ведаючы,*
*што ўсе яны непазбежна знікнуць,*
*ператворацца ў цемру глухую…*

*А пакуль я проста гляжу на ваду –*
*нябесную і зямную.*



**Сяргей БЕЛАЯР**

# АНГУМУАЗСКАЯ ТРАВА

*Навукова-фантастычнае апавяданне*

“...версія пра “folie ŕ deux”, наведзенным вар’яцтве, знайшла пацверджанне. На жаль, выявіць прыроду і характарыстыкі выпраменьвання, пад якое трапіў персанал навукова-даследчай станцыі “Алексіс Бувар”, не ўдалося. Базавы каланіяльны арганізм і ўзор, змешчаны на часовае захоўванне ў металічную шафу, загінулі ў сілу неўстаноўленых прычын. Высветліць матывы, якія заахвоцілі Клаўса Дзітмара, начальніка станцыі, звязваць інжынера-фізіка Арчыбальда Чысхолма з цемрай, таксама не ўдалося...”.

У дзверы каюты, якую займаў інспектар Дэпартамента пазаземных крымінальных расследаванняў, пастукалі.

– Хто?

– Прашу прабачэння, што патурбаваў, спадар Сарва, – перад поглядам інспектара паўстаў камандзір міжнароднай касмічнай станцыі “Сірс Кук Уолкер IV”, – але вам давядзецца перапыніць адпачынак. Толькі што выяўлены мёртвым бортінжынер Тэафіль Герэн.

– Дзе? – інспектар пачаў паспешліва апранацца. “Folie ŕ deux” нагадвала пра сябе лёгкім галаўным болем. Не паспей дапамога з “Сірса Кука Уолкера IV”, усё магло б скончыцца куды больш сумна.

– У курыльным пакоі. Герэна знайшлі біяінжынер Рэндолф Грыфіт і інжынер-фізік Фергюс Уолш. Падумалі, што яму дрэнна стала. Паднялі, а ён не дыхае. Грыфіт за лекарам збегаў... Піна кажа, сэрца спынілася.

– Меліся падставы? – інспектар узяў абавязковы чамаданчык са следчым інструментарыем і пайшоў за камандзірам

станцыі.

– У тым і справа, што не. Тыдзень таму ўсе члены экіпажа прайшлі абавязковы паўгадавы медыцынскі агляд. Герэн быў абсалютна здаровы. Калі б было інакш, я ніколі б не дазволіў яму ступіць на Няптун. Нават у складзе выратавальнай экспедыцыі.

– Піна досыць кампетэнтны, спадар Худ?

– Па-мойму, спадар Сарва, у вас было дастаткова часу для таго, каб пераканацца ў гэтым асабіста.

– Нават майстры са шматгадовым стажам памыляюцца, – штучная сіла цяжару на станцыі была роўная зямной, у чым інспектар знаходзіў несумнеўны плюс: вестыбюлярны апарат перыядычна нагадваў пра сябе накатваючай млосцю. Развітае ўяўленне – добра далёка не заўсёды.

Камандзір МКС толькі паціснуў плячыма.

Перад гермадзвярыма дзяжурыў Джэйкаб Парсанс, намеснік Худа. Калідор быў агульным для лабараторый фізікі атмасферы, палеакліматалогіі і хімічнага аналізу.

– Спадар Піна зараз дзе? – інспектар рашуча павярнуў запорнае кола і ступіў унутр.

– У Далорэс Сан-Сегунда. Гэта – жанчына Герэна. Па вяртанні на Зямлю яны збіраліся пабрацца шлюбам, – камандзір МКС зайграў вужлакамі. – Мяне на вяселле паклікалі.

– Курыльны пакой заўсёды зачынены? – Борт-інжынер ляжаў на спіне, раскінуўшы рукі і падагнуўшы левую нагу.

– Гэта загадана тэхнікай бяспекі. І выцяжка спажывае менш энергіі.

– Бачу, доступ у курыльны пакой свабодны, – з магутнай лупай інспектар прысеў над трупам.

– У мяне на дваццаць тры чалавекі адзінаццаць тых, хто курыць. І днём і ноччу дымяць. Забарані – пачнуць курыць паўсюль. Трэба казаць, да чаго гэта можа прывесці?

– Здагадваюся... Якія адносіны ў спадара Герэна складваліся ў калектыве? – Камбінезон бортінжынера на грудзях быў запэцканы цыгарэтным попелам. Роўны круг выглядаў так, як быццам армаваную тканіну спрабавалі прапаліць. Прыляпіліся да тканіны і валокны тытуню. Попел і валокны інспектар акуратна змясціў у грыпер.

– Герэн стараўся падтрымліваць сяброўскія адносіны з усімі, – камандзір МКС, нахмурыўшыся, сачыў за тым, як інспектар расшпільвае камбінезон бортінжынера і агаляе яму грудзі. – Я, са свайго боку, прыкладваю максімум намаганняў для таго, каб гасіць любыя канфлікты ў зародку. Падбухторшчыкі спакою мне на арбіце не патрэбныя. Сваім людзям я павінен давяраць як самому сабе.

– Жаданне сябраваць з усімі зусім не азначае, што астатнія таксама прапануюць табе сяброўства. – У нагруднай кішэні зусім нядаўна ляжаў прастакутны прадмет.

– Герэна што – забілі? – без хітрыкаў удакладніў камандзір МКС. Да двух глыбокіх складак паміж бровяў дадалася трэцяя.

– Festina lente, спадар Худ. Давайце не будзем спяшацца з высновамі... Спадар Герэн займаўся кантактнымі відамі спорту?

– Захапленні Герэна далей за гексаганальныя шахматы і матэматычныя галаваломкі не распасціраліся. Максімум, на што яго хапала, – гэта загаданы інструкцыямі набор практыкаванняў для барацьбы з мышачнай атрафіяй... А чаму вы пытаецеся пра гэта?

– Работа такая, – сышоў ад прамога адказу Сарва. Гематома на грудзях бортінжынера, падобная на адбітак дробнай манеты, была нядаўняй. – Адпрацоўваю ўсе версіі і толькі потым выношу вердыкт... Чым займаўся спадар Герэн?

– Ён адказваў за камандна-вымяральную апаратуру на станцыі.

– Якія цыгарэты ён курыў? – абодва недакуркі, знойдзеныя на падлозе, інспектар разапхнуў па грыперах і падпісаў пластыкавыя пакеты перманентным маркерам.

– Не ведаю, – паціснуў плячыма камандзір МКС. – Ніколі не звяртаў на гэта ўвагі. У кішэнях павінен быць пачак.

Ад агляду цела інспектар перайшоў да агляду модуля. Асаблівую ўвагу надаў рабрыстай падлозе.

– Скажыце, спадар Худ, на станцыі ёсць 3D-прынтар?

– Так, спадар Сарва. Часам нам тэрмінова патрабуюцца запчасткі. Каб не губляць часу на дастаўку, Зямля адпраўляе нам чарцяжы і схемы, а мы раздрукоўваем іх. Станцыйны 3D-прынтар забяспечаны функцыяй друку адвольных формаў.

– Доступ да 3D-прынтара абмежаваны? – інспектар агледзеў

гермадзверы, але нічога падазронага не выявіў. А вось агляд “прылазніка” даў станоўчы вынік.

– З чаго б? – здзіўленне заняло не больш за секунду. – А якое дачыненне да смерці Герэна мае 3D-прынтар?

Камандзір МКС патрабаваў адказу. Адгаворка пра службовы абавязак яго не задавальняла.

Інспектар вырашыў пачаць здалёк.

– Зброя на станцыі ёсць?

– Няма і быць не можа. Мы – навукоўцы, а не паліцэйскія або салдаты! – камандзір МКС асекся. Яму спатрэбілася ўсяго імгненне для агучвання здагадкі. – Вы хочаце сказаць, што...

– Яшчэ раз паўтару, спадар Худ, festina lente. Не трэба спяшацца з высновамі, – Сарва ссыпаў у грыпер крошкі, падабраныя ля гермадзвярэй. – Электронны мікраскоп у вас знойдзецца?

– Так, у лабараторыі хімічнага аналізу.

– Зрабіце ласку, спадар Худ, дайце загад, каб цела спадара Герэна даставілі ў медыцынскі адсек. Хай спадар Піна агледзіць бортінжынера яшчэ раз. Я павінен дакладна ведаць, ад чаго ён памёр... Спадары Грыфіт і Уолш хай чакаюць – я пагавару з імі, як толькі скончу з рэчавымі доказамі.

Крошкі памерам з запалкавую галоўку аказаліся ні металічным парашком, ні керамічным шламам, ні тэрмапластыкам, ні фотапалімерам, а пратэінавай мукой.

Інспектар запоўніў бланк у планшэтным персанальным камп’ютары, затым заняўся недакуркамі. На абодвух знайшліся сляды ДНК. Двух розных людзей, адзін з якіх да таго ж пакутаваў на адэрматагліфію.

А пальцы бортінжынера Герэна былі звычайнымі...

– Я перадаў вашыя просьбы, спадар Сарва, – сказаў камандзір МКС, які вярнуўся і якому роля пасыльнага відавочна замінала. Худу хапіла розуму зразумець, што мітусня выкліканая выключнымі абставінамі, таму незадаволенасці ён не выказаў.

– Дзякуй, спадар Худ. Пакажыце, калі ласка, ваш 3D-прынтар.

– Прашу за мной.

Станок, які выкарыстоўваў селектыўнае лазернае спяканне,

да біяпрынтараў не меў дачынення. Інспектар старанна праверыў картрыдж і выявіў у ім мікрачасцінкі мукі.

– Арганічныя складнікі ў замоўных вамі дэталях прысутнічаюць?

Камандзір МКС наліўся крывёю.

– Спыніце гаварыць загадкамі, спадар Сарва! Я хачу ведаць, што адбываецца. Герэна забілі?

– Так.

Камандзір МКС цяжка апусціўся на зэдлік, які верціцца. Нейкі час моўчкі асэнсоўваў кароткі адказ. Пасля чаго ціха спытаў:

– Хто забойца?

– Самы час пагутарыць з біяінжынерам і інжынерам-фізікам.

У якасці месца сустрэчы інспектар выбраў курыльны пакой. На гэтую хвіліну ў Сарвы мелася афіцыйнае заключэнне пра смерць бортінжынера Герэна.

Грыфіт і Уолш выглядалі не больш, чым усхваляванымі. Натуральная смерць – з кім не бывае? У космасе такое здараецца вельмі часта.

– Спадарства, мне неабходна задаць вам некалькі пытанняў, – інспектар пацiснуў біяінжынеру і інжынеру-фізіку рукі. – Шмат часу гэта не адбярэ. Раскажыце, пры якіх абставінах было знойдзена цела спадара Герэна?

Навукоўцы пераглянуліся. Пагладзіўшы бараду, пачаў Уолш.

– Мы з Рэндалфам пакурыць выйшлі. Адкрылі гермадзверы ў “курылку”, а Тэафіль на падлозе ляжыць і не рухаецца...

– Паклікалі – не адгукаецца, – скарыстаўшыся паўзай, уставіў Грыфіт.

Уолш кіўнуў і працягнуў:

– Сталі яго па шчоках пляскаць, трэсці, а ён не рэагуе... Тады я сказаў Рэндалфу, каб за лекарам бег.

– Гэта ўсё? – інспектар перавёў погляд з Уолша, які замаўчаў, на Грыфіта. Абодва заківалі. – Вы заўсёды ходзіце курыць разам?

– Стараемся, – пацвердзіў Уолш. – Я заходжу за Рэндалфам, і, калі ён не заняты, мы ідзём у “курылку”.

– У гэты раз гэтак жа было?

– Не, – матнуў галавой Грыфіт. – Я прыйшоў першым. Працы шмат навалілася, вось і вырашыў мазгі выветрыць. А Фергюс мяне ўжо ля “курылкі” нагнаў.

– Sapienti sat... – інспектар вытрымаў паўзу і, сочачы за рэакцыяй навукоўцаў, абвясціў: – Спадарства, адзін з вас – забойца.

Заява Сарвы выклікала абурэнне. Інспектар дазволіў навукоўцам выпусціць пару, пасля чаго пачаў:

– Адказ мне падказала ангумуазская трава, ці тытунь. Спадара Герэна забілі стрэлам з пісталета, раздрукаванага з пратэінавай мукі на 3D-прынтары. Замест пораху забойца выкарыстаў сціснутае паветра, а куляй паслужыў недакурак.

– Недакурак? – камандзір МКС паглядзеў на інспектара з падазрэннем. Ці не пачалі адбівацца наступствы ўздзеяння каланіяльнага арганізма?

– Калі стрэліць недапалкам з блізкай адлегласці прама ў сэрца, можна выклікаць яго спыненне.

Усе трое ўтаропіліся ў заключэнне пра смерць: навукоўцамі валодаў недавер.

– Смяротны зыход наступіў у выніку моцнага ўдару ў вобласць, што мяжуе з сэрцам... Пасля здзяйснення злачынства забойца з’еў пісталет і вярнуўся на працоўнае месца.

– У нас няма выхада ў Старнэт, спадар Сарва, – нагадаў камандзір МКС. – Усе неабходныя даныя нам дасылаюць з Зямлі і Месяца інфармацыйнымі пакетамі.

– Забойца прывёз чарцяжы пісталета з сабой – адсачыць перасоўванне носьбітаў інфармацыі практычна немагчыма.

– Для чаго камусьці спатрэбілася забіваць Тэафіля? – падаў голас Грыфіт.

– Забойца забраў мікрадыск, які спадар Герэн пастаянна насіў з сабой. Тканіна нагруднай кішэні прыняла характэрную форму плексігласавага футарала... Што на выкрадзеным дыску, я пакуль не ведаю, аднак абавязкова даведаюся. Дастаткова правесці асабісты дагляд.

– Без санкцыі пракурора не дазволю! – катэгарычна заявіў камандзір МКС.

– Забойца ўзяў недакурак з попельніцы, – погляды прысут-

ных перамясціліся на пустую бляшанку з-пад зялёнага гарошку. – Пакінуць на цыгарэтным фільтры адбіткі пальцаў ён не баяўся.

– Чаму? – спытаўся Уолш, задуменна цярэбячы бараду.

– Усё таму, што ў забойцы адэрматагліфія – надзвычай рэдкая генетычная мутацыя, якая характарызуецца поўнай адсутнасцю адбіткаў пальцаў.

Ні адзін з навукоўцаў на ўласныя рукі не паглядзеў. Затое Грыфіт, Уолш і Худ прыняліся з жывой цікавасцю разглядаць чужыя.

– Калі чалавек страляе, ён, як правіла, трымае пісталет на ўзроўні падбародка ў выцягнутай руцэ. Характар гематомы дазваляе па куце нахілу зброі вылічыць рост забойцы. У вас розны рост, так што дваякага трактавання быць не можа.

Інспектар змоўк і дастаў кайданкі. Усе трое былі ўсхваляваныя, аднак не напалоханыя.

– Прапаную злачынцу чыстасардэчна ва ўсім прызнацца.

Прайшла хвіліна. Мінула другая, разгубленасць змянілася гневам.

– Што за дзіцячыя гульні, спадар Сарва? – выбухнуў камандзір МКС. – Назавіце імя! Зараз жа!

– Ці выбачцеся! – запатрабаваў Грыфіт.

– Чыстасардэчнае прызнанне змякчае прысуд... – ніхто не адрэагаваў. – Што ж, вольнаму – воля... На недакурку, якім стрэлілі ў спадара Герэна, засталася себум – скурнае сала. І мікрачасціны тытуню дзвюх розных марак, – інспектар паставіў на стол чамаданчык са следчым інструментарыем і выцягнуў цыліндр даўжынёй з прадплечча дарослага мужчыны. – Гэта – удасканалены варыянт генетычнага дактыласкопа. Дазваляе ствараць ДНК-профіль на аснове паслядоўнасці нуклеатыдаў ДНК...

Сарва дастаў з грыпера ватовую палачку і сунуў яе ў аналізатар, а затым задаў праграму рэканструкцыі.

– Працэдура зойме каля пяці хвілін...

Вытрымцы злачынцы заставалася пазайздросціць. Або прызнаць тое, што недзе была дапушчана прыкрая памылка.

– Толькі адна дзясятая працэнта паслядоўнасцяў ДНК чалавека індывідуальная, але і гэтай колькасці цалкам дастаткова для ідэнтыфікацыі. Генетычны дактыласкоп аналізуе мікрасатэліты, кароткія тандэмныя паўторы. Шаснаццаць мар-

кераў плюс маркер полу. Для пабудовы ДНК-профілю досыць пяцідзесяці піктаграмаў ДНК... На недакурку іх значна больш.

Усе не адрывалі поглядаў ад галаграфіі, якая патроху набывала падабенства з мужчынскай галавой.

– ДНК ніколі не хлусіць. Праграма адсейвае фонавую, другасную і забруджаную ДНК...

Рысы твару маглі належаць любому з траіх навукоўцаў.

– Аднак нельга будаваць расследаванне выключна на ДНК-дактыласкапіі. Варта звяртаць увагу і на іншыя дробязі. Недарма кажуць, што “Der Teufel steckt im Detail”. Д’ябал у дэталях. І гэтыя дэталі часам маюць вызначальнае значэнне.

– Пра якія дэталі, чорт вазьмі, вы кажаце, спадар Сарва?

– Пра крошкі ад з’едзенага пісталета ў барадзе спадара Уолша, спадар Худ.

*12–13 кастрычніка 2018 года*

# БЛАКІТНАЕ І РУЖОВАЕ

*Фантастычнае апавяданне*

*У цемры ўсе колеры аднолькавыя.*
Фрэнсіс Бэкан

За апошнія гады горад прыкметна папрыгажэў, і заставалася толькі дзівіцца таму, што маркотныя тоны, якія не маглі выклікаць нічога, акрамя перманентнай дэпрэсіі, не забаранілі раней. Зрэшты, нічога дзіўнага ў шэрасці не было: любы таталітарны ўрад цалкам зацікаўлены ў наяўнасці масы раздушаных жыццём грамадзян. Такія не здатныя ні на супрацыў, ні на творчы выбух.

Эміль Манчыні звярнуў з праспекта, аднак ужо праз тузін метраў прыйшлося спыніцца – лопнула шына.

Карэктар вылаяўся і, уключыўшы аварыйную сігналізацыю, вылез з электрамабіля. З покрыўкі тырчаў гнуты заржаўлены цвік. Ужо адным сваім выглядам ён парушаў душэўную гармонію.

Манчыні палез за смартфонам, але тут увагу карэктара адцягнула катэгарычная заява:

– Не буду я гуляць з гэтай дрэнню!

– Расціслаў, ты як выражаешся? – прыйшоў у жах мужчына пад сорак. Яго суправаджаў малады кампаньён, які трымаў на руках ёркшырскага тэр’ера з бледна-ружовай – апошняй моды – афарбоўкай поўсці.

– Яна мне не падабаецца! – дзіця гадоў шасці ў сэрцах шпурнула сферу на тратуар. Ад удару аб дробнаштучную плітку цацка выбухнула ружова-блакітнымі пластыкавымі аскепкамі.

– Нязносны хлапчук! Не смей так абыходзіцца з падарункам бацька нумар два! – мужчына ўляпіў сыну аплявуху. Галава дзіцяці матнулася, аднак яно не заплакала.

– Яна – брыдкая! Брыдкая! БРЫДКАЯ!

Дзіцячы голас літаральна звінеў ад нянавісці.

– Трэ было здаць гэтага маленькага ўблюдка ў Выхаваўчы дом, – працадзіў малады кампаньён, нервова пагладжваючы сабаку. – А ўсё – тваё ідыёцкае жаданне мець дзяцей!.. І навошта я цябе толькі паслухаў?

– Прабач, каханы! – бацька нумар адзін, забыўшыся пра дзіця, кінуўся даганяць бацьку нумар два.

– І чым табе цацка не дагадзіла? – зласліва пацікавіўся Манчыні, у думках ухваляючы дзеянні мужчыны. На яго месцы яшчэ і дадаў бы. Каб назаўжды адбілася ў памяці. – Крафтавая ж.

– У ёй няма фарбаў, – адбітак далоні на шчацэ дзіцяці імкліва наліваўся крывёю, але слёз усё адно не было.

– Як гэта няма? – у карэктара з’явіліся падазрэнні, што ён звязаўся з дзіцём, якое мае цяжкасці пры навучанні. Раней такіх называлі “разумова адсталыя”. – Яна – блакітная і ружовая.

– Яна шэрая. – дзіця адфутболіла бліжэйшы да яго аскепак і пакрочыла ўслед за бацькамі. Жыццё ў аднаполай сям’і (а іншых больш не засталося) відавочна гадзіла дзіцяці.

– Якімі ўсё ж такі няўдзячнымі бываюць дзеці... – успомніўшы, што спазняецца на працу, Манчыні выклікаў тэхнічную дапамогу. Пакуль чакаў прыбыцця эвакуатара, паспеў выкурыць тры цыгарылы.

У таксі патэлефанаваў Клім Эльзэсэр.

– Эміль, ты дзе?

– У дзесяці кварталах.

– Зглуздзіў? – занепакоенасць саступіла месца абурэнню. – Ведаеш, якая зараз гадзіна?

– Ведаю, любы, добра ведаю. І памятаю, што Агюстэн загадаў прыйсці крыху раней, але ў мяне – форс-мажор.

– Традыцыяналісты? – спалохаўся Эльзэсэр. – Ты не пацярпеў?

– Усяго толькі пракалоў шыну. Дзякуй за клопат, любы. Хутка буду.

На пяты паверх, дзе размяшчаўся галоўны офіс, карэктар убег – не хацелася губляць часу, чакаючы ліфта. Дамінуючым у зале нарад быў перванш, які ўдала падкрэсліваў лазурытавыя камбінезоны тых, хто сабраўся.

– А вось і Манчыні... – выскаліўся Шарль Агюстэн. – Вы не надта і спяшаліся, як я пагляджу. Маглі б скарыстацца гіраскутэрам. Я ж папярэджваў, што сёння ў нас размеркаванне “перазапісаных” па аддзелах.

– Прабачце, шэф, – счырванелы карэктар заняў свабоднае месца.

– Прабачэнняў будзе недастаткова. Я паніжаю ваш сацыяльны статус на адзінку, – далей ішоў доўгі і нудны інструктаж, на працягу якога толькі сіла волі не дазваляла Манчыні звяртаць позірк на партнёра. Усюдыісныя камеры відэаназірання фіксуюць усё. Потым праблем не абярэшся. – За работу!

Аддзел карэкцыі казак шырмамі сіняга колеру быў падзелены на боксы. Памерамі яны саступалі магілам. Карэктар прайшоў на працоўнае месца і неадкладна прыступіў да выканання службовых абавязкаў. Пабудаваць новы, лепшы свет без таго, каб да падмурка не разбурыць стары, было немагчыма. Любое невыкарчаванае пустазелле – гэта верагоднасць рэцыдыву.

Манчыні не меў права дазволіць цемрашальству паўстаць з мёртвых і з прычыны гэтага ўзяўся за “Стойкага алавянага салдаціка” з усёй адказнасцю. Думкамі, праўда, раз-пораз адцягваўся. Бо сёння – асаблівы дзень.

Час да абедзеннага перапынку, які звычайна пралятаў з хуткасцю кулі, расцягнуўся на вечнасць – карэктару здавалася, што ён звар’яцее ад чакання.

Сталовая разам з агульнай для мужчын, жанчын і трэцяга

гендэра прыбіральняй з’яўляліся адзінымі месцамі, дзе можна было перакінуцца парай слоў. Калі, вядома, не звяртаць увагі на плазменную панэль, якая навісала над залай. Адзіны дазволены тэлеканал ніколі не выключалі.

– Спадзяюся, гэта тое, пра што я думаю? – спытаў Эльзэсэр, прымаючы зробленую на заказ аксамітную скрыначку легальных блакітнага і ружовага колераў.

– Адчыні, убачыш, – хітра ўсміхнуўся Манчыні.

Партнёр дрыготкімі ад хвалявання рукамі, з другой спробы, адкрыў скрыначку і не здолеў стрымаць радасці пры выглядзе кальца для заручын. Неадкладна надзеў яго на палец.

– Нават не пытаюся, ці прымаеш ты прапанову рукі і сэрца, любы...

– Я кахаю цябе, Эміль! – Эльзэсэр перагнуўся цераз абедзенны стол і пацалаваў Манчыні ў вусны. Па целе карэктара прайшлі дрыжыкі. – Гэта – самы лепшы дзень у маім жыцці!

– У маім таксама, – абсалютна не пакрывіў душой Манчыні. Настрой азмрочвала тое, што прапанову прыйшлося рабіць у сталовай, а не ў рэстаране. Аднак тут нічога не папішаш – партнёра на тры з паловай тыдні адпраўлялі ў службовую камандзіроўку. А падзяліцца сваімі пачуццямі хацелася прама цяпер, не адкладваючы.

– Што там у цябе здарылася? – удосталь налюбаваўшыся кальцом, пацікавіўся Эльзэсэр, падсоўваючы талерку. – Смачна есці!

– Дзякуй, і табе!.. Так, глупства, – па прыкладзе Эльзэсэра прыступаючы да ежы, Манчыні распавёў пра ранішні інцыдэнт. – Ведаеш, што мяне ўразіла больш за ўсё, любы?.. Тое, што хлапчук назваў сферу шэрай. Шэрай, ты ўяўляеш?

– Можа, ён – іншабачачы?

– Ніякай альтэрнатыўнай візуальнай арыентацыі. Хлапчук назваў цацку так свядома. Я б нават сказаў, што ў ягоных словах прысутнічаў выклік грамадству.

– Мяркуеш, што...

– Дзіця з дэфектам, – упэўнена кіўнуў Манчыні. – І дэструктыўны пачатак даў пра сябе ведаць.

– Спадзяюся, ты апавясціў Службу Захавання Сацыяльнай Стабільнасці?

– Зразумела, – Манчыні машынальна пакасіўся на камеру відэаназірання. – Гэта мой грамадзянскі абавязак!

Гучнасць гуку павялічылася аўтаматычна. Усе, хто ў гэты момант знаходзіўся ў сталовай, павярнуліся да экрана – чакалася важнае паведамленне. Вядучы ў касцюме колеру фуксія не хаваў радасці:

– Служба Захавання Сацыяльнай Стабільнасці паведамляе пра затрыманне небяспечнага злачынцы!..

Паведамленне суправаджалася кадрамі спецаперацыі – бронетэхніка, узброены да зубоў блакітна-ружовы спецназ, скручаны традыцыяналіст, шматлікія "трафеі", захопленыя разявакі.

– Ніколі не разумеў людзей, якія так упарта трымаюцца за мінулае, – сказаў Манчыні, калі вядучы перайшоў да іншых навінаў.

– Некаторым падабаецца корпацца ў гаўне, Эміль. Патрэбны час, каб нават самы апошні рэтраград усвядоміў, які шанец выпаў чалавецтву... Спадзяюся, з гэтай пачварай цырымоніцца не будуць.

– А калі гэта Служба Захавання Сацыяльнай Стабільнасці міндальнічала?.. Тое, што знайшлі ў фанатыка, цягне на разувасабленне асобы.

– Смерці для рэтраграда недастаткова! – Крык Эльзэсэра выклікаў адабрэнне ў зале.

– Згодзен, грамадства занадта ліберальна ў адносінах да традыцыяналістаў, але, на жаль, навука пакуль яшчэ не навучылася ўваскрашаць людзей...

– Было б добра падвергнуць ворага прагрэсу множнаму разувасабленню! – Эльзэсэру не патрабавалася даказваць сваю лаяльнасць. Ён шчыра верыў у тое, пра што казаў. – Усё, Эміль, я пабег.

Пацалунак апаліў шчаку Манчыні.

Карэктар таксама не стаў заседжвацца – пераацэнцы і выпраўленню падлягала яшчэ шмат чаго. І адкарэктаваць мінулае патрабавалася як мага хутчэй.

"Перазапісаная" – а новага работніка з прычыны адсутнасці якіх-небудзь указанняў на гендэрную прыналежнасць Манчыні аднёс да жанчын – з'явілася ў Аддзеле а палове на трэцюю. Яе суправаджаў негаманлівы супрацоўнік Службы Захавання

Сацыяльнай Стабільнасці. Ружова-блакітная ахоўная экіпіроўка і зброя рабілі яго падобным на іншапланецяніна–агрэсара з нізкабюджэтнага фільма.

– Сардэчна запрашаем у калектыў! – сказаў Манчыні, калі супрацоўнік Службы Захавання Сацыяльнай Стабільнасці, атрымаўшы электронны лічбавы подпіс Кларка, начальніка Аддзела, таксама моўчкі пайшоў.

Карэктар ужо даўно заўважыў, што ні ён адзін успрымае супрацоўнікаў Службы Захавання Сацыяльнай Стабільнасці як робатаў. Поўная адсутнасць эмоцый і сляпое прытрымліванне літары Закона.

– Пакажыце мне маё працоўнае месца, – “перазапісаная” магла хоць бы ўсміхнуцца.

– Сюды, калі ласка! – замітусіўся начальнік Аддзела. – Вяртайцеся да работы!

Карэктары таропка разышліся па боксам.

Манчыні даручылі перапісаць “Рапунцэль” братоў Грым. За справу ён узяўся заўзята, але карэкцыя нечакана пайшла са скрыпам. Вочы Агнэс Гізельберт палохалі сваёй пустатой – быццам у бездань зазірнуў...

Ад “перазапісанай” не засталося нічога, акрамя пустой абалонкі.

Стала жудасна.

Шклянка вады з кулера не дапамагла – дзве чорныя дзіркі моцна заселі ў мозгу. Колькі ні матай галавой, пракляты вобраз ніяк не жадаў знікаць. Яшчэ і сціскаў сэрца ледзянымі цііскамі.

Яны не пакінулі Агнэсе Гізельберт нават дзіцячых успамінаў...

Нейкі час карэктар спрабаваў сумленна выконваць свае абавязкі, пасля чаго падняўся і рашуча накіраваўся да выхаду з офіса.

– Куды? – грозна ссунуў бровы Кларк і кіўком паказаў на насценны электронны гадзіннік. Тыпавое блакітнае і ружовае.

– У туалет.

Начальнік Аддзела падціснуў вусны – час дазволенага перапынку яшчэ не наступіў, аднак пярэчыць не стаў.

Манчыні падставіў пад струмень складзеныя чашай далоні і плюхнуў халодную ваду ў твар. Карэктарам валодала раздра-

жненне – здалася яму гэтая “перазапісаная”! Колькі такіх ужо прыняло грамадства? І колькі яшчэ прыме?

– Эміль, з табой усё ў парадку?

– Ты мяне напалохаў, Клім, – сэрца карэктара калацілася так, нібы ён прабег марафон. Дзверы ў туалетны пакой адкрываліся ціха, але зусім не бясшумна.

– Прабач, я не хацеў... Што здарылася?

– Усё добра, – запэўніў Манчыні, выціраючы твар насоўкай, – проста... – павісла паўза. Ці варта адкрываць душу? – Нават не ведаю, што сказаць... Накаціла нейкая меланхолія.

– З чаго б? – на твары Эльзэсэра адбілася здзіўленне. Погляд партнёра на імгненне затрымаўся на кальцы для заручынаў. І без тлумачэнняў было зразумела, што дзве гэтых рэчы абсалютна не спалучаюцца.

– Гэта ўсё з-за новенькай...

– Цябе што, пацягнула на жанчын? – Эльзэсэр скрывіўся. Укусі ён лімон, рэакцыя была б менш эмацыйна афарбаванай.

– Не, што ты! – жахнуўся карэктар. – Я выконваю зако-ны!.. Але яе вочы... Як у робата... Мяне ў дрыжыкі кідае, як успомню...

Манчыні перасмыкнула.

– Ты прыняў словы Агюстэна занадта блізка да сэрца, – Эльзэсэр абняў партнёра. – Табе трэба супакоіцца.

– Шэф тут зусім не прычым, Клім, – з гарачнасцю запэўніў Манчыні. – Ты калі-небудзь задумваўся пра тое, ці ўсё мы робім правільна?

– Пра што гэта ты? – Эльзэсэр адсунуўся і з трывогай паглядзеў на карэктара.

– Мы пачалі з пазітыўнай дыскрымінацыі, а скончылі ўсеагульным мозгавыпраўленнем. Нашыя догмы ў сто, тысячу, мільён разоў горшыя за ранейшыя – да нас у людзей хаця б заставаўся выбар... Мы прыгаворваем людзей да шчасця… Вось толькі паняцце шчасця ў нас своеасаблівае…

– Мы будуем ідэальны свет, – нагадаў Эльзэсэр. – Свет, пазбаўлены нецярпімасці.

– Я не ўпэўнены ў тым, што мы правільна разумеем ідэал, Клім. Нельга прымусіць чалавека быць шчаслівым – людзі розныя... Калі ўсё пачыналася, сімвалам прагрэсу з’яўлялася

вясёлка. Ад яе сямі колераў мы пакінулі толькі два... Дакладней адзін. Шэры.

– Ты занадта драматызуеш паніжэнне свайго сацыяльнага статусу, Эміль. – Эльзэсэр адступіў на крок. Камеры відэаназірання меліся і ў туалетным пакоі. Аб прыватнасці даўным-даўно забыліся. – Не рабі з прыкрага непаразумення драмы.

– Шэры – гэта не толькі чорны і белы, Клім, але яшчэ і ўся колеравая гама ў кучы. – Манчыні знайшоў словы партнёра смешнымі. – Дзіця, пра якога я расказваў табе, можа, і не разумела, што робіць. А ці разумеем мы?

– Мне не падабаецца твой настрой, Эміль, – Эльзэсэр зрабіў яшчэ адзін крок назад.

– У старым свеце, пры ўсіх яго недахопах, было месца для ўсіх. У новым – толькі для "правільнамыслячых". Крок у бок, і ад тваёй асобы не застанецца нічога. Нават успамінаў.

– Разувасабленне і ментальная карэкцыя – гэта сродкі абароны!

– У англійскага філосафа Гобса ёсць цікавае сачыненне. "Левіяфан, або Матэрыя, форма і ўлада дзяржавы царкоўнай і грамадзянскай". Новы шэры свет гэта і ёсць тая самая пачвара Левіяфан. "Перазапіс" і разувасабленне – сродак яго выжывання.

– Любая дзяржава мае права на самаабарону! – ускрыкнуў Эльзэсэр, ссоўваючыся да дзвярэй.

– Толькі калі гэта дзяржава не пажырае ўласных грамадзян... Мы будуем дыктатуру, Клім. Квінтэсенцыю дыктатур.

– Давай пагаворым пра гэта пазней, Эміль. Калі табе палепшае.

– Мне не стане лепш. Усім нам будзе толькі горш. – сум адольваў. – Паліткарэктнае грамадства – невылечна хворае грамадства...

– Я не хачу пра гэта чуць! – Эльзэсэр закрыў рукамі вушы і выбег з прыбіральні.

– Ніхто не хоча чуць праўду... – Манчыні выдыхнуў і пад зычлівыя позіркі начальніка Аддзела вярнуўся ў бокс.

Утаропіўшыся ў перарывісты курсор, карэктар злавіў сябе на думцы, што проста выконваць тое, што прадпісвалася шматлікімі законамі і правіламі, было ўжо недастаткова. Па-

трабавалася яшчэ і думаць аднолькава. Любое сумненне аўтаматычна азначала нелаяльнасць.

А ад нелаяльнасці пазбаўляліся з дапамогай ментальнай карэкцыі...

Грукат каваных ботаў супрацоўнікаў Службы Захавання Сацыяльнай Стабільнасці нельга было зблытаць ні з чым. Манчыні сумна ўсміхнуўся – абавязак грамадзяніна новага свету аказаўся сільнейшым за каханне. Або ніякага кахання ніколі і не было?..

Ці ёсць наогул яму месца ў паліткарэктным грамадстве?

Або ўсё вырашае страх?

*5–10 снежня 2017 года*

# СУБОТНІК

*Фантастычнае апавяданне*

*Суботнік – гэта калі тыя, хто ніколі не смеціць,*
*прыбіраюць за тымі, хто ніколі не прыбірае.*
Народная мудрасць.

Адарваная ад дзясятага кантынентальнага сняданку майстар цэха па вытворчасці лямп агульнага прызначэння Тупіла ўварвалася ў цэх і, не звяртаючы ўвагі на пякельную спякоту, панеслася да канвеера, прымушаючы наладчыкаў спалохана кідацца ў бакі, а цягнуўшых канвеер коней – рвацца з аброці і багата дэфекаліць.

– Рыхтуйцеся, – папярэдзіў таварышаў Бегемоцік, – зараз нарэжа баявых задач!

– Ты думаеш? – Кетцалькаатль узяў паўзу для таго, каб закурыць новы джойнт.

– Можаш не сумнявацца, – падключыўся да гутаркі Бык, спрытна закідваючы на калёсы пяціпудовыя скрынкі з колбай, – спяшацца Манька можа толькі ў трох выпадках – за ежай, да каханка і па распараджэнні начальніка цэха. Сталовая, магазін і

буфет знаходзяцца ў процілеглым баку, вампір Д. здае кроў. Застаецца толькі Дзягіль!

– Заўтра суботнік! Каб былі як штыкі! – на адным дыханні выпаліла майстар і пазначыла намер вярнуцца да перапыненай трапезы, каб яшчэ паспець на абед, але не прамаўчаў Бык:

– А калі ўжо пачнуць цікавіцца жаданнем людзей?.. Можа я не хачу ісці ні на які суботнік. У мяне могуць быць свае планы. І наогул, удзел у суботніку – гэта справа цалкам добраахвотная!

Здавалася, вочы майстра вось-вось выскачаць з арбіт ад здзіўлення – Тупіла ніяк не чакала пачуць нешта падобнае. Словы грузчыка былі параўнальныя з узрушэннем асноў светабудовы. Мінулі не менш за чатыры гадзіны, перш чым Марына Мікалаеўна перайшла ў контрнаступленне:

– Не разумнічай!.. Даўно на стайні не лупцавалі?.. Ты павінен працаваць ад зары да зары і з радасцю выконваць усе загады кіраўніцтва!

Кетцалькаатль і Бегемоцік запярэчыць Быку не далі – нешта даказваць Тупіле было абсалютна бессэнсоўна, тым больш што са сталовай пацягнула водарам смажанай на маржовым сале каўбасы. З хуткасцю, якая перавышала хуткасць святла, майстар памчалася ў сталовую, а грузчыкі так да канца змены ні разу і не прыселі: прыбыў цокаль з Сірыуса і электроды з Бетэльгейзе.

Раніца новага дня сустрэла Бегемоціка, Кетцалькаатля і Быка грымеўшай з усіх рэпрадуктараў "Мuркай" у выкананні Хасэ Карэраса, Лучана Паварoці і Пласіда Дамінга. Ля пакрыўленай драўлянай брамы ў цэх адказны майстар Паша Баран вёў строгі ўлік прыбываючых, меланхалічна пераціраючы сківіцамі галоўку часныку.

– Ужо паспеў прычасціцца! – прыгнечана паківаў галавой Бегемоцік. – Ні дня без самагонкі.

– І як толькі пячонка вытрымлівае? П’е ж усялякую гадасць! – Бык зацiснуў нос рукой у брызентавай рукавіцы: сівушнатыяэфіравае амбрэ літаральна валіла з ног. – Ад яго наладчыкі нават флюс вымушаныя хаваць!

Кетцалькаатль, які толькі нядаўна ўладкаваўся на працу, глядзеў на Барана са святым трапятаннем і раз за разам ахінаў сябе хросным знакам, мармычучы:

– Джа, выратуй і захавай!

Спякота ў цэху за ноч не спала, паколькі сістэма вентыляцыі ў мэтах эканоміі электраэнергіі была адключаная, а вокны і пажарныя выхады ў рамках барацьбы з курэннем – наглуха заваранымя.

Як толькі апошні чалавек прыбыў у цэх, ахоўнікі замкнулі звонку браму і падпёрлі яе тоўстымі бярвеннямі, а па ішоўшым паверсе дзесяціметровай вышыні плота калючым дроце пусцілі электрычны ток. У калідор выпусцілі зласлівых заводтэр'ераў і цэхбулей, якія папросту перагрызалі бетонныя блокі.

Восем разоў сарваўшыся, Баран узлез на інсталяцыю ў выглядзе лямпы аўтарства Зураба Цэрэтэлі, якая ўзвышалася пасярод цэха, і паднёс да вуснаў скручаны з аркуша ватмана рупар. Аднак замест асэнсаванай прамовы пад закапцелымі скляпеннямі, якія з-за мноства дзірак нагадвалі друшляк, загрымела:

– Und ich spiele auf... ік... der Strasse zieh Harmonika sogar... ік... Leider feiert man Geburtstag nur einmal im Jahr... ік...

Пергамент з указаннем фронту работ давялося раздаваць Сан Санычу, таму што парася аказалася адзіным, хто змог праціснуцца ў акно кабінета майстроў – Баран катэгарычна адмаўляўся адчыняць дзверы да таго часу, пакуль яму не прынясуць бітон бурбона і віяланчэль.

– Ты хоць ведаеш, што гэта такое? – спытаў Сан Саныч, з трывогай гледзячы на тое, як Баран балансуе на дзвюхсотметровай вышыні. Рупар цягнуў майстра да краю лямпы.

– Маган Барыбір!

– Што значыць “табе пляваць”? Дзе мы табе віяланчэль возьмем? Ды й не ўмееш ты на ёй граць!.. Злазь! – у адказ Баран паказаў Сан Санычу кукіш. Няёмкі рух выклікаў зрушэнне цэнтра масы, і майстар паляцеў уніз. – Лавіце яго!

Разбіцца Барану не дазволіла гіганцкая расцяжка “2+2=5”, якая прыкрывала расколіны ў задняй сцяне цэха. Майстар заблытаўся ў брызенце і прызямліўся дакладна на дах кабінета, адкуль зваліўся прама ў рукі цвергаў-слесараў.

– Замкніце яго ў кабінеце! – загадала парася. – Хай праспіцца!.. Бегемоцік, бяры сваіх людзей, і прымайцеся за працу! Не выканаем распараджэння Дзягіля, праблем здабудзем.

На першым месцы ў доўгім спісе стаяла ўборка працоўнага

месца начальніка цэха.

– Думаеш, гэтага хопіць? – Бык кіўком паказаў на штабель упаковак з пакетамі для смецця. Да столі штабель не даставаў усяго нейкіх двух метраў.

– Будзем спадзявацца! – Бегемоцік злавіў сябе на неапраўданым аптымізме.

Адных толькі службовых запісак, складзеных Марынай Мікалаеўнай, набралася больш за дзве з паловай тоны.

– Гэта толькі за пяць рабочых дзён! – удакладніў Бык, прымусіўшы Кетцалькаатля нервова выкурыць запар шаснаццаць джойнтаў і праклясці той дзень, калі ён вырашыў уладкавацца на працу ў цэх № 1.

Бегемоцік, Кетцалькаатль і Бык нагрузілі мяшкамі са службовымі запіскамі калёсы, і васьмігаловы цмок Ямата-но ароці павёз яе да печаў шклянога цэха, на хаду выхопліваючы ў неруплівых заводчан бутэрброды з кішэняў.

– А цяпер ідзём у кабінет майстроў, вызвалім манькіну шафу!

Варта было Бегемоціку адчыніць дзверцы, як яго з галавой накрыла хваляй, якая складалася з абгортак, бляшанак, туб, каробак, пластыкавых бутэлек, пакетаў, скамечанай плёнкі і іншых упаковачных матэрыялаў, якія выкарыстоўваюцца ў харчовай прамысловасці.

Прайшлі дзве гадзіны, перш чым таварышы адкапалі Бегемоціка з-пад завалаў.

– Жывы! – з палёгкай выдыхнуў Кетцалькаатль, калі пасля некалькіх аплявух Бегемоцік нарэшце расплюшчыў вочы. На радасцях Кетцалькаатль закурыў чарговы джойнт.

– Нешта не падабаецца мне яго погляд, – нахмурыўся Бык, – падобна на кантузію!.. Ну-ка, бяры, панясём да Таблеткіна!

Бык і Кетцалькаатль паклалі таварыша на каляску і накіраваліся ў медпункт. Ля варот грузчыкаў спынілі ахоўнікі.

– Што вязем? – гугнявым голасам пацікавіўся Цыклоп.

– Не бачыце, ці што? Чалавеку дрэнна! – адказаў Бык і зрабіў спробу працягнуць рух, аднак упёрся ў аб’ёмны жывот Цыклопа.

– Ведаю я вас, сімулянтаў! Абы не працаваць, а лайдачыць!.. Заварочвай аглоблі!

– А за пяць долараў прапусціш?

Адзінае вока Цыклопа загарэлася сквапнасцю. Ахоўнік прыняў рашэнне імгненна:

– Пяцьдзясят!

Бык аддаў Цыклопу эквівалент гадавога заробку, і брама са страшным скрыпам даўно нязмазаных завес адчынілася. Транспартаваць Бегемоціка прыйшлося беражліва – падлогу ў калідоры пакрывалі шматлікія ямы і выбоіны. Месцамі з-пад бетонных пліт білі гейзеры. Па абодва бакі калідора ў адзінаццаць ярусаў узвышаліся паддоны з гатовай прадукцыяй – канкурэнтаздольнасць лямпы пакідала жадаць лепшага.

Фельчар-практолаг адгукнуўся не адразу – грузчыкі збілі ўсе кулакі аб сталёвую перагародку, перш чым у праёме паказаўся апухлы ад сну твар Таблеткіна.

– Я ж сказаў Барану – больш спірту не дам!

– Мы не за спіртам, Валідол Карвалолавіч. Бегемоціку патрэбна тэрміновая дапамога. У яго – кантузія!

– Зноў бэлька абвалілася?

– Не, адкрыў шафу Тупілы.

– Небарака! Зараз я пастаўлю яму анальгінавую клізму – праз паўгадзіны будзе як агурочак. Завозьце!

– А ён іншыя спосабы лячэння ведае, акрамя анальгіну? – спытаў Кетцалькаатль, калі за Таблеткіным зачыніліся дзверы аперацыйнай.

– Колькі яго памятаю, заўсёды лячыў метамізолам натрыю.

Фельчар-практолаг сваё слова стрымаў – роўна праз трыццаць хвілін Бегемоцік вярнуўся да таварышаў. Аб тым, што адбылося, нагадвала толькі курчанае левае вока Маціяса Кыйва.

Наступным пунктам у спісе значылася вызваленне падсобнага памяшкання ў кабінеце майстроў ад пустых бутэлек, якія засталіся пасля Барана. На гэты раз грузчыкі не сталі рызыкаваць і ўзялі на складзе ахоўную экіпіроўку – будаўнічыя каскі, ватовыя курткі і чыгунныя кломпы. Смеццевыя пакеты для разнастайнай тары не падыходзілі, таму Бегемоцік адправіў у транспартны цэх паштовага голуба з просьбай даслаць бартавы “БЕЛАЗ”, а лепш – два.

– Хлопцы, вы Барана не бачылі?

– Уцёк, Сан Саныч?

– Прагрыз брызент і праламаў сценку, – патлумачыла парасё,

не спыняючы круціць галавой у пошуках майстра.

– Дык яна ж з тытанавага ліста двухмятровай таўшчыні! – папярхнуўся дымам Кетцалькаатль.

– Калі Баран хоча выпіць, спыніць яго не зможа ніщто! – удакладніў Бегемоцік. – А вось і “БЕЛАЗ”!

Грузавік здзейсніў тры рэйсы.

Пасля таго, як у падсобным памяшканні не засталося ніводнай бутэлькі, грузчыкі ўзялі курс на цэхавы склад, дзе начальнік змены Фаціма захоўвала касметыку. Велізарнае памяшканне было застаўлена ISO-кантэйнерамі, упрыгожанымі лагатыпамі вядучых сусветных вытворцаў.

– Мэйд ін Чайна, – прачытаў Кетцалькаатль. – І бяруць?

– Яшчэ як, – кіўнуў Бегемоцік, – паспрабуй толькі не купі ў начальніка! Ніхто і не глядзіць, што цана ў Елены Цэрбераўны ў сорак разоў больш, чым у афіцыйнага дылера.

Навесці парадак на складзе аказалася няпроста – ў распараджэнні Быка, Кетцалькаатля і Бегемоціка мелася толькі аднаадзіная іржавая вілачныя каляска.

– Што там у нас далей у спісе?.. Кабінет Таўсталобіка. Зноў давядзецца часопісы мужчынскай моды і шары для боўлінга прыбіраць! – Бегемоцік у думках вылаяўся.

Тым часам у цэху поўным ходам ішоў суботнік: наладчыкі фарбавалі лініі проста па тоўстым пласце пылу і бруду; цвергі развешвалі па сценах дадатковыя бігборды “2+2=5”; пакавальшчыцы паліравалі ўстаноўленыя ў цэху семсот дзевяць бюстаў правадыра сусветнага пралетарыяту; прыбіральшчыца Яхідна, мацюкаючыся на дваццаці мовах, вымятала адусюль недакуркі; падсобныя рабочыя перастаўлялі па фэншую двухсотлітровыя бочкі з сіняй фарбай, якой на заводзе пакрывалі літаральна ўсё; передавікі вытворчасці ў якасці заахвочвання ад дырэктара чысцілі яго персанальныя стайні. Работы хапала ўсім, акрамя Барана: няўрымслівы майстар, скарыстаўшыся ўсеагульнай занятасцю, узяўся за пошук спіртазмяшчальных вадкасцяў.

– Тыпу пазапланавы агляд інструментальных шафаў! – Бегемоцік прыгнечана паківаў галавой.

Дарэмна наладчыкі спрабавалі схаваць флюс – Баран валодаў здольнасцю чуць нават кроплю спіртнога за чатыры кіламетры. Знойдзенае выпіваў тут жа, на лініі. Пры гэтым майстра зусім не

хвалявала адсутнасць закускі.

У ацэнцы характару работ Бегемоцік не памыліўся – кабінет намесніка начальніка цэха быў завалены глянцавымі часопісамі і тоўстымі каталогамі.

– І калі ён толькі паспявае ўсё гэта праглядзець? – Кетцалькаатль не пасаромеўся вырваць некалькі аркушаў для джойнта.

– Пакуль астатнія працуюць! – растлумачыў Бык, прыкідваючы, колькі часу сыдзе на вызваленне кабінета ад макулатуры: памяшканне магло даць фору канцэртнай зале Нацыянальнага цэнтра выканальніцкіх мастацтваў Кітая.

– І не баіцца?

– А чаго яму баяцца, калі ў яго ў сабутэльніках лічыцца атожылак дырэктара?.. І куды Таўсталобік мог дзець шары? – погляд Бегемоціка рушыў па кабінеце. Хаус-болы выявіліся ў шуфлядах, забітых настолькі, што месца для дакументацыі проста не заставалася.

Ад навядзення парадку грузчыкаў адцягнулі страшны грукат і разгойдванне сцен. Бегемоцік, Кетцалькаатль і Бык выскачылі з кабінета, каб убачыць галапіруючага на Ямата-но ароці Барана. Васьмігаловы цмок насіўся сярод ліній, спрабуючы скінуць майстра, які ўчапіўся яму ў вушы.

– Спыніце яго, а то ён зараз увесь цэх разнясе! – закрычала парасё, якое з апошніх сіл спрабавала нагнаць Ямата-но ароці.

Кетцалькаатль так і не зразумеў, каго трэба было спыніць, але інстынктыўна абраў правільную мэту. Кувалда ўрэзалася ў лоб Барана, і ён кулем паваліўся на падлогу, падняўшы цэлае воблака пылу. Цмок, які адчуў свабоду, панёс да слясарных майстэрняў.

– Забіў! – стаў шэрым Кетцалькаатль, не адрываючы вачэй ад распластанага на бетоннай падлозе нерухомага цела.

– Такога не заб’еш! – Бегемоцік дастаў з кішэні маленькую бутэлечку з адэкалонам і адкрыў яе. Варта было толькі майстру ўлавіць пах “Kölnisch Wasser”, як ён адразу ж ажыў. У Бегемоціка не было ні адзінага шанцу – Баран вырваў флакон і за адну секунду ўсмактаў яго змесціва, пасля чаго пайшоў, напяваючы:

– Murka, mein kleines sübes Kind... ік... Murka, mein Kätzchen, das mich liebt... ік...

Задыханаму парасю заставалася толькі махнуць на майстра нагой.

– Зноў Барану захацелася працягу банкету? – Бегемоцік масіраваў адбітую руку.

Сан Саныч кіўнуў.

– Вырашыў з’ездзіць за гарэлкай у магазін, аднак забыўся пра тое, што Ямата-но ароці не пераносіць паху перагару... Цяпер прыйдзецца зноўку наводзіць парадак!

– Ці нам прывыкаць? – хмыкнуў Бык.

Учынены Бараном вэрхал адрозніваўся шырокім размахам – работы па навядзенні парадку зацягнуліся да глыбокай ночы. Ніхто не наракаў. І справа тут была зусім не ў страху перад кіраўніцтвам, а ў тым, што краіна чакала працоўных подзвігаў.

*25–28 мая 2015 года*



## Аляксей БЕЛЫ

### Прыгарад

Не раз такое ў нас ужо было,
І не  падобны гэты час на казку…
Шыбуем на выходныя ў сяло
Ў аўтобусе, набітым “пад завязку”.

Між пасажыраў ты – нібыта госць,
Што на пустым прыпынку ціха сыдзе…
Цяпер няшмат іх, прыгарадных, ёсць –
Здараецца, што толькі раз на тыдзень.

Сціраюць людзі з твараў горкі пот –
З “кандышынамі” транспарту нямнога.
Дзядуля “па старынцы” п’е кампот
Не з пластыка, а з слоіка шклянога.

Гавораць пра ў полі недарод –
Спякотным вельмі выдалася лета.
І пра ўладу ўзгадвае народ –
Нядобра ўспамінае, без імпэту.

Іх у салоне – быццам пчол між сот, –
Для весялосці тут няма прычыны,
Ніхто не зарабляе па пяцьсот
“Зялёных” – тыя ездзяць на машынах.

…Рака змялела, гушкалка рыпіць,
Пыл. Сад здзічэлы у аконнай раме.

І сырадою болей не папіць –
Куплюць людзі  малако ў краме.

Пабіла часам чарапічны дах…
Шмат вёсак г э т а напаткала гора.
……………………………………………
Праведаць сваіх блізкіх на кладах,
І зноў – у горад…

***

Хопіць пра замкнёны магазін, –
Лёс  не правядзеш свой на мякіне…
Час надыдзе – кроў твая астыне.
На Палессі – нібы ў Грузіі –
Там сваіх бацькоў ніхто не кіне!

У доме састарэлых іх няма,
Дажываюць пры сваіх палосках,
І калі надарыцца   зіма –
Ёсць і дровы ў іх, і ежы ўдосталь.

Не праб’ецца з сэрца цяжкі ўздых,
Не папросяць ва ўлад прытулку,
А таму, што *дзеці* ёсць ў іх –
Што раслі ля лесу і рачулкі.

***

Тут даўно не спяваюць,
забыліся ў вёсцы пра танцы,
Не палююць вяскоўцы больш
ні на бабра, ні на выдру…
А на могілках засаўка,
быццам затвор на бярданцы –

Паважалі тут зброю
І трыццаць другога калібру.

А на могілках пуста,
Няма больш дубовых алей,
(Сельсавет палічыў непатрэбным
тут гэта і лішнім)…
А раней прытуліўся да дрэва –
І быццам цяплей,
(Можа і не цяплей, але што
ўжо дакладна – зацішней).

…Птушка тут не прысядзе,
У сад паляціць, *на сяло*.
Тут апошні прытулак,
–Апошні прычал чалавечы.
…І прысніцца мне бацька,
І скажа: а лепей было…
Бацька ў лесе *сваім* быў,
А тут ані дрэўца. Пустэча.



# Цяжкі шлях да роднага слова

Уладзімір Бародзіч нарадзіўся ў Віцебску ў 1956 годзе. Закончыў матэматычны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута, зараз універсітэта. У студэнцкія гады праявіў цікавасць да філасофскіх пытанняў матэматыкі. Пасля заканчэння ўніверсітэта паступіў у аспірантуру на філасофскае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (Мінск). Хутка напісаў змястоўную дысертацыю, бліскуча абараніў яе, а потым вярнуўся ў сваю Alma Mater, дзе стаў выкладаць філасофію і логіку для студэнтаў, магістрантаў і аспірантаў. Працуе ў якасці дацэнта і на сённяшні дзень.

Паралельна з выкладчыцкай і навукова-даследчай працай пачаў займацца герменеўтычным аналізам мастацкіх тэкстаў паэтаў розных гістарычных часоў і краін, адшукваць сінхронныя і дыяхронныя сацыяльна-культурныя, лінгвістычныя і іншыя сувязі напісанага імі. Даў мноства арыгінальных каментараў да класічных паэтычных тэкстаў. І, нарэшце, пачаў пісаць уласныя паэтычныя творы.

На маё паўжартаўлівае пытанне, як ён, таленавіты матэматык, дыпламаваны філосаф, добры шахматыст (кандыдат у майстры спорту), у недалёкім мінулым неблагі спартсмен "дайшоў да жыцця такога", Уладзімір сказаў літаральна наступнае:

*Поэзию я полюбил в раннем возрасте. Во многом "виноват" отец, Митрофан Фёдорович. Вместе читали (в детстве). Напевали (и это – в строку будет). Он и сам когда-то пробовал – причём на мове! Даже печатался в "районке".*

*Помню, как на спор завелись, кто быстрее выучит всего "Евгения Онегина". Ещё – бабушка, Анна Тимофеевна. Здесь (через неё) – не только моё маленства, но и как-то "польский след". По её уже материнской линии. Потому и к этому "краю" не равнодушен. А сама:* гаворка, казкі…

*Дальше… девушка, жившая стихами. И я – ни то, ни сё. Любовь. Разрыв… На этой волне ушёл почему-то в Есенина. Вобрал его*

*поэзию практически целиком (опыт с “Онегиным”). Каюсь: во многом к нему остыл.*

*Библиотека. Собирал классику. Понятно, зачитывался. Не более того. Любил песню. И не только слушать. Понимаю, что всё не просто. В отношениях. Поэзия – музыка. Поэзия – стихосложение. Песенные тексты... Но – так случилось. В начале 2000-х почувствовал, что катастрофически проседает память. Стирается многое, чем так дорожил. Сел за Рубцова. И к каждому его тексту (а Николай Михайлович перепет был вдоль и поперек) подбирал свою мелодию. Так и заучивал.*

*Потом был Бунин (именно его поэзия). Кусками – Блок и т.д. В 2009 году открыл для себя Николая Шипилова, умершего осенью 2006-го и похороненного у нас под Минском. Мелодиями (часто – своими) я их (поэтов) возвращал и усваивал. Последним, в этом ряду, оказался Леонид Губанов. Он-то меня и всколыхнул по-настоящему. И уже без привязки к мелодии. Песни на его стихи слушал, но сам больше этим “синтезом” не увлекался.*

*О “философическом влиянии” на моё “поэтическое кредо”: А.Ф. Лосев, М.М. Бахтин, а где-то М. Хайдеггер. Символизм, диалогизм, герменевтика. Лосевская философия слова (имени, символа, мифа) засела в меня крепко. “Роман со словом”! Оклики-отклики-переклики. Весь – в аллюзиях и “подсознании”.*

*А* мова*… Родное! Нами (и мною!) обиженное. Так что – я билингв. Причём по-своему уникальный. Уязвлённый и прокажённый. При безусловной доминации русского, сумленне (а его интенция и интонация – иные, чем у “совести”!) не отпускает. Но это уже отдельный разговор.*

*В 2011 году наконец-то удосужился посетить родину отца (при его жизни так и не довелось). Слядневичи в Лепельском районе. Застал двоюродную тётку Пелагею и её сына. Здесь мне и открыли нашу “польскую составляющую”, о которой в семье ходили разве что слухи. Отец тётки, Пётр Бородич, родной брат моего деда Фёдора, был женат на польке, приходившейся двоюродной сестрой уже моей бабушке Ане. Так у них всё перекрутилось!*

*Тут-то меня и потянуло к мове. По-другому, об этом, не представлял. Хотя потом опять вернулся (в стихосложении) к более привычному русскому.*

*И, наконец, ещё один штришок. “Седина в бороду”. Она самая. Любовь очень зрелого мужчины! Это моя Наташа.*

*Мне не к лицу и не по летам*
*Пора, пора мне быть умней!*

*Но узнаю по всем приметам*
*Болезнь любви в душе моей.*

Ад сябе дадам, што некалькі гадоў таму назад я пазнаёміў Уладзіміра Бародзіча з навуковай і паэтычнай творчасцю свайго добрага знаёмага, а калі ён пагодзіцца з гэтым, то сябра Яна Чыквіна, які, на маю думку, з'яўляецца ўнікальнай з'явай у руска-беларуска-польскай культуры.

Уладзімір быў вельмі ўражаны прачытаным. Як водгук – некалькі паэтычных замалёвак, прысвечаных Яну Чыквіну.

*Міхаіл Слямнёў,*
*доктар філасофскіх навук,*
*прафесар*



# Уладзімір БАРОДЗІЧ

## НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ (27 ліпеня 2011 года)

Слядневічы. Вёсачка. Ад дарогі – могілкі.
З боку непрыкметныя, сціплыя клады.
Таткаў братка, цётачкі, сваякі ўвогуле…
На крыжах адмеціны: прозвішчы, гады.
Адвячорак ліпеньскі. Ледзь спякота мінула.
На бярозках лісцейка – роўна аксаміт.
Вы даруйце, крэўныя! Выбачайце, мілыя!
За марудства гэткае, за такі візіт.
Як манкурты-здраднікі, родам адлучоныя,
Паразбегліся ўсе, больш – па гарадах.
А ў самай вёсачцы – жыхары лічоныя.
Іх сялібы кволыя, запусценняў жах.
Цётка Пелагеюшка… З двух бакоў аж родная!
З Віцькам (сын старэйшанькі) засталася тут.

Рана аўдавелая, долейка гаротная,
Колькі пацярпела ты здзекаў і пакут?
Залятаюць з Віцебску дзеткі – Натка з Ваняю.
Унучачка Таццянка – слаўнае дзяўчо.
Ды ўсё роўна садніцца сэрца даўняй ранаю,
На двая скалоўшаю ладнае жыццё.
Частавала бульбачкай. Самагонцы келішак
Прыгубіла з госцейкам пэўна раз-другі.
Успамінаў шэрагі – пра дзядоў, пра селішча,
Дзе дзяцінства канула. Лёгка, без тугі.
А тужыць было аб чым. Чорны трыццаць восьмы год…
Бацьку, нібы злодзея, пацягнулі ў Менск.
Там Пятрок Рыгоравіч з хапуна пайшоў у расход.
Пакрышылі тысячы пад круты замес.
На сям’ю наехалі. На двор з хаты выгналі.
Прытуліцца некуды: адно – памірай.
Ды сваячка ўдовая да сябе паклікала.
Разам лёсу горкага есці каравай.
Сваіх дзетак трое аж. Дуня. Міцька з Паўлікам.
У «расстрэльцаў» – дзеўкі ўсё. Сын – ужо стал***ы***.
Ганна Цімафееўна… Як жа вам жылося там?
Чым гуртом карміліся у ліхалецце вы?
У прысед на канапчыку разглядаем з цёткаю,
З Пашай-Пелагеюшкай, памятку-альбом.
Вось яны – Бародзічы, Гаўрыленкі, Дзёмкіны.
З шлюбамі, з хаўтурамі, з горам і святлом.
Няма тае хатачкі. Ушчэнт усё пазнішчана.
Бэз адзін па дворышчу ды травы разгон.
Мерцвяка-калодзежа трухляное гнілішча.
Сумная відовіна – як з хваробы сон.
Што да тых гаротнікаў: амаль усе – па кладзішчах.
А найпершы – Паўлачка. Тутачкі палёг.
Скаланула вёсачку выбухам. З вайны яшчэ
Ўтойвалася брыдкая – чорт яе сцярог.
Міцька ж праз вучылішча (да навукі квапны быў!)
У інстытут пасунуўся. Там партэйцам стаў.
Там спаткаў і дзеўчыну – добрую, прывабную.

Навучанне скончыўшы, за сябе пазваў.
Працаваў дырэктарам. Потым сакратарстваваў
Па раёне Лёзненскім. Матка з ім была.
Жонцы ў дапамогу – ў хаце, з гаспадаркаю.
Гадавала дзетачак, казкі ім пляла.
Звонку змрок націснуўся. Хутка Віцька з’явіцца.
Камбайнёрскі дзень вялік: з ранку – да цямна.
Нешта ў сенях бразгае. Мабыць, кот забавіўся.
Пацягнула ветрыкам у шчыліну з акна.
Вось і атрымалася, пра што з бацькам думалі.
Загарнуў на спадчыну, на яе абшар.
Хоць ня дужа радасна, нават болей сумнага.
І не вельмі зрушыўся ад душы цяжар.

**Не то, чтобы покаянное…**

Зёрна мысли в гранках слова.
Остальное – шелуха.
Плод участия. Незлого.
В час глубинного разлома…
Будто лодку колыхал.

И несло её по Речи
– Ни ветрила, ни весла.
*Роднай спадчыны галеча*
*адгукалася балюча…*
Я топил её
– Без зла.
Обескоженная *Мова*
на державном поводке.
*Кволасць думкі, млоснасць слова.*
*Ненаўмысна, выпадкова…*
Разметало по реке.

# РОДНАЯ МОВА

### Чёрная ночь в Минске. 29-30 октября 1937 г.

Город вздрагивал вороватo.
Были ночи гораздо черней.
Словом ласковым «*Куропаты*»
не стращали ещё дочерей.
*Мову* легче гнобить в острогах.
За глаза, по навету казнить.
С кволой нации мало проку.
С ней, мужицкой, не будет возни…
Вам –
взнуздавшим и оглушившим
не какую-то горе-страну,
а шестую без малого суши.
Вам –
которым весь мир на кону.

Не икалось Борису Берману?!
Для него – ни своих, ни чужих.
Сокол сталинский станет демоном.
А ему, что еврей, что мужик…
Будут ночи, куда хрустальнее!
Рухнут Рейхи и «Новый Мир».
Снова где-то поставят на Сталина.
Что с того беларусам немым?!

### 1. Алесю

Выбачай мяне, Алесю!
Што на мове не змагу.
Што даўно загнаў у крэсы
я мужыцкую тугу.
Не чужынец я, не злодзей.
Бо з дзяцінствам успрыняў

з навакольным асяродзем
водар іншых слоў і з'яў.

## Вас, принявших «свет з Усходу»

Вас, принявших «*свет з Усходу*»,
смыло бешеной волной.
Мы ж хлебали эту одурь
не в эпоху «параной».
Не пуляли нам в затылок.
«*Што дазволена – гутарь*».
Мне ж на мове – не пастыла…
Ты прости меня, Дударь!
Ты прости, что «всенародный»
тихой сапой душит нас.
И рукой, от страха потной,
по дешёвке клянчит газ.
«*Брат старэйшы*» куролесит,
уж который строя Рим.
*Выбачай мяне, Алесю*!
Бо не знаем, что творим.

## 2. Тодару

Адгарэлі заранкі. Цымбалы адгойкалі.
Адляцела, як лісце з галін, маладосць.
Васільковае шчасце слязінкаю горкаю
і апошняй пакутай табе адлілось.
Выйшлі з нетр цемрукі, што нашчадкі Жахлівага.
Падманулі спакусай пра волю з нябёс.
Колькі знішчылі вас людаеды-калігулы?!
Колькіх выбіў няўмольны бязлітасны лёс?!

***

У есенинских образов – не рязанский раскрас.
В них озёрная синь и дубровы туманные.
Комсомолит весна, и под чад папирос
маяки замигали обманные.
Разойдутся круги вековечных обид –
панской ласки и жезла державного…
А на сердце – туга! А ночами знобит.
И слова зачерствели дежурные.
*«Спахмурнела заранка»*. Стальные ветра
ледяные заторы навесили.
Догорает в острожном притворе тетрадь.
Серп и молот орлуют на вензеле.

**3. Міхасю**

Паміж пустак, балот беларускай зямлі
на падмурку ўлады рабочай
рос прыгожы чарот і нібыта ў галлі
летуценні бліскучыя бачыў.
Тое-сёе спяваў, ды знянацку замоўк,
абарваўшы канцоны-рулады.
На зямельку насоўваўся жудасны змрок
па загаду той самай улады.

***

Раскатали в пух и прах
академиков-«*нацдэмаў*».
В спину ткнули напослед –
Подмигнул Лук***а***ш.
Жилка – трутень. Вацлав – враг.
Вырвать с корнем из Эдема!
Вот и варимся во зле.
Строим «Новый наш»…

Уж которая волна
корчей в мутном сериале.
Бьются куклы на крюках
бога-маньяка.
Снова те же имена.
Ретро крутится «в реале».
Повторяется «трюкач».
Капают века…

## ЗВАРОТЫ ДА РУСКАМОЎНЫХ СЯБРОЎ

**1.**

Улад! Паслухайся Сярожу.
Значны вопыт. Добры густ.
Смех выдатна дапаможа
боль здаволіць, скінуць груз.
Той, што туліцца пад сэрцам.
Раскуроч хваробы ўшчэнт!
Ну, а з тым, каб ўраз памерці,
устрымаемся яшчэ.

**2.**

Гуляем часам не дарэмна
з гарэзай-музай ў «бу-ры-мэ».
Міхась!
Яно, бадай, прыемна
знянацку тэзу атрымаць.
Адчуць адносіны да Рыму
маёй збянтэжанай Літвы.
Як быццам згіне жах гарэма
і гвалт чыноўніцкай братвы.

## ДЫПЦІХ ДА ДНЮХІ

**1.**

Ад Чыквіна, з Падляшша,
Да нашай талакі
Паштоўка прыйдзе з вершам.
Там сціплыя радкі:
«Міхась, шаноўны дружа!
Прымі маю любоў.
Я ведаю, ты здужыш
Няўрымслівасць гадоў.
Няхай твой светлы розум,
як зорка зіхаціць.
Паэтаў брат, філосаф.
Гарэзам-музам розным
цвярозы камандзір».

**2.**

Дзядзька Міхась! Выбачайце за мову.
Нам да Купалы расці і расці.
Слоў не хапае амаль напалову.
Зноў захлынуўся ў патоку Краціл.
Чыквіну дзякуй! Памог небаракам.
Слоўца падкінуў і нешта сплялось.
Быццам усё атрымалась неблага.
Добрыя людцы. Магутная брага.
Чарка да чаркі: жыццё ў весялосць.

**З нагоды…**

Неспадзявана… Нават што прыемна!
Калісьці бацька вершык друкаваў.
Нязграбны па-юнацку.
У «раёнцы».

А я…
Амаль на самым донцы,
як немаўлятка, мовы сербануў.
З надзеяй: быццам адгукнецца.
А ўсё – прыемна. Што яшчэ казаць!?
Бадай, адно:
прабачце за нязграбнасць…

**Вось і верасень**

Вось і верасень да алтара
праз прытвор вызначае шлях
хутка знікне цяпло з двара
быццам госцейкі ад жылля
птушкі ў вырай каханне ў вір
з горкіх вуснаў самоты хмель
восень свой паднясе пацір
светлым жалем у твар дыхне

## ТРЫПЦІХ

**1. Да Мовы…**

Якісьці жах!
Бацькоўскай хаты папялішча
ў вачах.
І прыцемкі ў крыжах.
Раптоўна адчуваю жаль.
Бо вельмі ўжо спазніўся на Падляшша.
Да Чыквіна.

Не. Сам я не адтуль.
І бацька мой –
з-пад Лепеля. Не Польшча!
А зараз бачу:

Бельск ці Беласток.
І Дубічы Царкоўныя, дзе Янка
з маленства да Радзімы прырастаў…
Ратуй мяне, гаротніка
– Ратуй!
Вуголле – у нутры.
Не перабольшу.
Ня майстра я. І нават не мастак.
А ўсё ж душы самотную дзялянку
дарэмна я з пагардай карыстаў…
Да Мовы…

### 2. Не горш за іншых наша мова

Не горш за іншых наша мова
а нават лепей,
бо на ёй
тыраны пену не ўздымалі
дзеля свабоды ўсіх рабоў,
пачварам, што смакталі кроў,
псалмоў і гімнаў не спявалі

### 3. Термопилы

Благоговением и трепетом
окрашен символ Термопил.
Народный гений. Кровь и пепел
увековечил. Окропил
высокой музыкой и слогом.
«Гружусь» Ив***а***новым  и Блоком.
Внимаю классикам-богам.
Но есть иные берега…
И битвы. Тихие.
Без крови.

**Благоговение**

*(Па матывах верша Яна Чыквіна*
*“Вячэрні Беласток каханнем апантаны”)*

Вечерний Белосток, отравленный любовью.
Влекомый откровением соблазнов молодых.
Окрашен флёром алости наперсников сердечной боли.

Личины барышень – лампады Алладина.
Их губы – кубки пьяного вина.
Альковный шёлк.
Монисто рук блудн***и***ц, танцующих невинно.

Девичьим поприщем п***ы***рскают блики мадонн.
Обманно колышатся перья на шляпках.





Мікола Бушчык, *Сустрэча дня і ночы*, 2002 г.

Павел ГАЙНТШ

## Прадвызначэнне

### Усім самотным

Каму чарнейшая маркота
як не нам сціснутых самотай
і каму нябёсныя вароты
так лёгка адчыняюцца шырока

Каму як не нам рачулкі
шлюць блізкае мігценне
і хто як не мы ценяў цені
цэлым светам ў свеце гулкім

Нішчымна марыць аб рэчах
не апісаных ў кнігах пакрысе
і праклінаць аўтарытэты
ды ймкнуцца ў чароўныя высі...

Ёсць шляхі як адно бездарожжа
яны не для смяротных мэтаў
і думкі ёсць найсаладзейшыя можа
і стрэлы самыя меткія з меткіх

Ёсць словы – гарачыя сонцы
ды іскры што势 стануць пажарам
і стыхіяў ёсць пераможцы
што йдуць высока над краем

Трымацца аберуч шчасця
з сілаў усіх – і над зямлёю лётаць:
вось вечнае жаданне-радасць
вось вечная наша самота

## СТАРЫЯ ВЕРШЫ ПРАРАСТАЮЦЬ

развіваюцца
маюць сцябліны
і лісце

затым цвітуць
і тады там уюць гнёзды
спеўныя радасці

хоць перацвітаюць
але ж
у маладых вачах
у новых далонях
вернуцца
іншымі вуснамі раскажуць
што іх карэнне
вечнае

## А КАЛІ БОГ…

А калі Бог прыйдзе ў той дзень канчатковы
і явіць вачам маім паўнату моцы сваёй неаспрэчнай,
і будзе такі магутны і вечны, і блізкі і знаёмы,
пра што не гаварылі ў кнігах даўніх ніякія прарокі?..

І здзівіць прастатою, як наш хлеб, штодзённай,
сваёй Адзінасутнасцю ў Тройцы чалавеку невыслоўнай,

калі празрысты, як плод дасканалай формы,
сваім таемным бляскам цёмную рассее мройнасць
і мізер выявіць усёй маёй зямное пыхі –
як вуснамі крануся я вечнасці келіха?..

І калі ўблытаны ў складанасці сусветаў,
здыме з шаляў шматвbooговых –
на любоў сваю адзінамету
і скажа: "Ад мяне ў цябе такое сэрца" –
А яно патрэскана... І амаль не свеціць?

## БЕЛАВЕЖА

у паўзмроку пушчы
жыццё драбязою
у ягадах кружыць
гудзе ў насякомых
пнецца да неба
івай ялінай
зяленіць Бога
поўняй шчаслівай

пушчу знішчыць
то сябе падставіць
пад Яго святыя
гнеў і нянавісць

там імхом накрыты
ляжыць веліканам
стары дуб каралеўскі
пад ім час несціханы
перад вялікаю справай
і бітваю грознай
у шуме лагодным
заснуў спакойна

стань ў задуменні
на хвілю-імгненне
хмарыцца зверам
ваўком імкнецца
цікуе лісою
у хмызе знікае
дзікам цяцерай
і законам стада
шчыльна ўрослы
моцна ўбіты
у глей, цвіль, пень ссохлы
прыцемак і ранак

яшчэ зыдзем
у зямныя падворы
дзе схапіліся
корань за корань
а голле за голле
ў барацьбе шалёнай
за прасветы
для жыцця свайго
зялёнага

яшчэ спалучым
сцежкі продкаў
вязкаю з лыка
палянаў падковы
ў буданы з’яднаем
укапаем ў ямы
каб з таго енку
успыхнула слова таксама

лагодным павевам
пасля сумных падзеяў
сюды пранікала
шчасце людзеяў

прыходзім сюды
падыхаць гэтаю моцай
у ёй наш паход пачаўся
ля вогнішча з дымам
кавалы мясішча
мёд борцяў дзікіх
бярвенне на частаколы
на абаронныя валы
на вуллі хаты калодкі да колаў

сюды вярнуцца
каб зноў быць сабою
а значыць Ягайлам
пад тым там дубам
ў густым бездарожжы
стацца лясною істотай...

не згубіць той сцяжыны
як не раз бывала
як тады калісьці
разоў столькі стала
і каб не адстала

## ПУСТЫНЯ

Ад долу да верху
між пяскоў і зорак
расплываецца час
губляюцца дарогі
шукаем ўсляпую
не зблІжаецца мэта
кружым
уперамежку
між чарнатой
і светам

хто ж знойдзе выпадкам?
патрэбны мапы
бусолі
слупы верставыя
этапы

а мы так кружым
згубленыя
ў зморы
сярод зорак
і пяскоў
бязводнай прасторы

## АСЕННЯЯ СЛОТА

не апярэдзіш імклівай думкі
і не схаваеш неба ў далонях

адлятаюць птушкі і песні
адляцім і мы пасля іх
у тым накірунку

куды бяжыш рыхлай
шэрай парою?
куды спяшаешся
сумны
без перадыху?

з адкрытых палёў
з пушчаў адменных
чуецца
крок раўнамерны
прадвызначэння

## ВЯРТАННЕ

(Над магілаю бацькі)

Яна ўсё тая ж,
вечная,
штодзённая,
нязменная ў шматколькасці рэхаў-дарог.

Колькі ні йшоў я, вяртаўся.
І як ні блукаў, знаходзіў выхад.
Толькі выраслі дрэвы
і цені
даўжэйшымі сталі
і ўсё больш мне дарагія.

Недзе музыка не моўкне,
з старога насення
зялёныя травы, надта высокія...

І тут *тады* абарваліся словы,
і тут тыя сціхлыя крокі –
і бачу:
магіла мае ў сабе святло,
адзінокае.

## ПАКІНУТАСЦЬ

Вецер прыгнаў да вуха
ціхую мову анёла,
стаяў пры мне блізка,
стаяў і гаварыў глуха.

Чыйсці дзіцёнак заплакаў.
Прайшоў я подбегам міма:

бег жа шукаць анёла
ў глушы немітуслівай.

Там быў ягоны голас
і гаварыў мне з болем
пра дзіця на дарозе,
што рыдала там з гора.

Вярнуцца было запозна,
застацца – ніякай патрэбы...
Сялібы мяне абміналі
пад бязмесячным небам.

## МАЛІТВА

Тут я. Пад купалам неба
чакаю з’яўлення Бога.
І бачу, як чорныя дрэвы
ў белую ціш ідуць дарогай.

Дрыжу, як нада мною сузор’і,
хоць у вушах ціша стаіць бязлікай,
каб Яго, калі да мяне Ён падыдзе,
ў цішы найцішэйшай змог я аклікнуць.

..................................................

Ты даў мне святло, каб бачыў,
каб вочы мае сузіралі Тваё тварэнне,
а я ўмаліў Цябе ў свае песні,
што гараць па небакраю.

Ты несмяротны навечна, Авва.
Я рассыплюся ў пыл дазвання.

Дазволь абмінуць майму слову
званы майго пахавання.

Няхай ідуць за маёй труною
шчыльнай жывою калонай.
Няхай чыесці вусны
будуць вуснамі маімі

па-за мною, па-за мною...

Пераклад з польскай
*Ян Чыквін*

---

* **Павел Гайнтш** (Paweł Heintsch, 1924 – 2008), народжаны ў Львове ў сям'і лекараў. Ксёндз, адзін з найвыдатнейшых польскіх паэтаў-святароў другой паловы XX стагоддзя. Вывучаў медыцыну, затым польскую філалогію і хрысціянскую філасофію. Даследаваў творчасць Цыпрыяна Норвіда.

Назва гэтага цыкла вершаў – ад перакладчыка. (*яч*)





Марыя Стамаці, *Гранат (Сябрам на шчасце)*, 2015 г.

*Радзім ГАРЭЦКІ*

# ЖЫЦЦЁВЫ МЕЛАНЖ

**2018-2019**

## Ці ва ўсіх ёсць родны кут – “Малая Радзіма”?

Кіраўнік дзяржавы Беларусь абвясціў 2018 год годам “Малой Радзімы”. І праўда, кожны чалавек, асабліва ў сталым, а тым больш у старым узросце, з замілаваннем і любоўю ўспамінае і наведвае сваю малую Радзіму, а лепей – свой родны кут. Нездарма Якуб Колас пісаў:

*Мой родны кут, як ты мне мілы!...*
*Забыць цябе не маю сілы!*

Я пачаў разважаць: “Дзе мой родны кут?” На вялікі жаль, я на гэтае пытанне не змог даць станоўчы адказ. Нарадзіўся 7 снежня 1928 года ў Менску, дзе жыў з бацькамі, старэйшым братам Усеславам і бабуляй (мамінай маці – Марыяй Міхайлаўнай, як мы яе звалі Булей) у службовым драўляным доме, які знаходзіўся ў садзе па вуліцы Правіянскай, 37, кв. 5 (цяпер вул.Захарава). Улетку я з Булей жыў у Прылуках, дзе на селякцыйнай станцыі працавала Мама. Тады я быў яшчэ такі малы, што ў мяне ад таго часу не засталося ніякіх успамінаў. 1929 год стаў годам “вялікага пералому”, калі Савецкі Саюз пачаў ператварацца ў сапраўдны “архіпелаг ГУЛАГ”, а з Масквы прагучаў сігнал супраць “нацдэмаў”. Супраць іх пачаліся нападкі ў газетах (у тым ліку і на Максіма і Гаўрылу Гарэцкіх), вызваленне з пасад многіх вядомых дзеячоў і нават арышты. Адчуваючы такую задушлівую атмасферу, браты Гарэцкія вырашылі, пакуль ёсць яшчэ магчымасць, адпачыць. У чэрвені 1930 г. Максім паехаў у Крым, а Гаўрыла – у Хосту, у дом адпачынку вучоных. Пачаліся арышты галоўным чынам інтэлігенцыі па інспіраваных АДПУ справах “Саюз вызвалення Бе-

ларусі" і "Беларускі філіял працоўнай сялянскай партыі": па першай справе 108 чалавек, па другой 59. З Беларускай акадэміі навук – 33 вучоныя (1/3 ад усяго складу БАН). 18 ліпеня былі прыняты пастановы аб арышце Гарэцкіх: Максім у той жа дзень у Менску, куды ён вярнуўся на дзень нараджэння сына Лёні, а Гаўрылу – 24 ліпеня ў Хосце. Я першы раз у сваім зусім нядоўгім жыцці прыгадваю Тату на вакзале ў Менску. Было лета, цёплыя дні жніўня 1930 года. Мне каля 1,5 годзіка. Мы ўжо некалькі разоў сустракалі Тату, які павінен быў прыехаць з поўдня цягніком (дакладней, яго павінны былі прывезці як арыштаванага), а яго ўсё няма. Аднойчы ўзяла мяне Буля на рукі і стаіць на пероне, а Мама пайшла наперад да вагонаў. Раптам бачым Тату, ён радасна ўздымае рукі, Мама кідаецца да яго, але чырвонаармеец перагароджвае шлях і адкідвае яе, а я крычу: "Тата, Тата!" і ручкамі да яго цягнуся. Сумныя вочы, няголены твар, няпэўныя рухі – звычайна такога рашучага і моцнага чалавека – урэзаліся ў памяць малога хлопчыка. Я інтуітыўна адчуў, што здарылася нешта несправядлівае, здзеклівае, крыўднае, сціснуўся ў камячок і горка заплакаў. Толькі праз чатыры гады я зноў убачыў Тату...

Мама трапіла ў вельмі цяжкае становішча: звольнілі з працы, выселілі са службовай кватэры, амаль усе былыя "сябры" адвярнуліся... Пераехалі на прыватную кватэру па вуліцы Заслаўскай, якая належыла палякам Яніне і яе мужу (яна ласкава называла яго Кісай). Яны між сабой і з намі размаўлялі па-польску, а мы адказвалі па-беларуску. Я часта сядзеў каля вакна і, калі бачыў гаспадара, крычаў: Яня, Яня! Ваш Кіса ідзе". Ёй гэта падабалася і яна мяне любіла. Але я нечакана захварэў на мацнейшы каліт. Добра, што брат бацькі – Парфір, які вучыўся на рабфаку БДУ, дапамагаў і нярэдка заставаўся з малым, які бясконца плакаў. Нічога яму не дапамагала – ні лекі, ні розныя адвары. Таяў хлопчык на вачах... Ён вельмі любіў яблыкі, асабліва печаныя, але дактары ні ў якім разе не дазвалялі іх яму даваць. Аднойчы спяклі яблыкаў, а хлопец плача і так жаласліва просіць яблык, цягнецца да яго. Мама глядзелаглядзела і падумала: "А дам яблык, няхай хоць перад смерцю асалоду атрымае". З прагнасцю з'еў я яблык – на наступны дзень стала лепей, павесялеў. Зноў спяклі яблыкі – і хлопчык ачуняў.

З цяжкасцю атрымала Мама працу на доследнай сельскагаспадарчай станцыі Брылёва пад Гомелем. На наступнае лета старэйшага сына адправіла ў Малую Багацькаўку да бацькоў Таты, а малодшага з Буляй – да Дзеда на станцыю Мокрая (каля

Запарожжа), дзе той працаваў начальнікам чыгуначнага вакзала. Мокрая была зусім малая станцыя – там нават добрай крамы ня было, а ў ларочку можна было купіць толькі хлеб. Таму Буля мусіла ездзіць па прадукты ў Запарожжа. Дзеда – на працы. Куды малога? У службовым пакоі, у якім мы жылі недалёка ад вакзала, быў шырокі падаконнік. Буля садзіла мяне на яго, абгортвала рознымі коўдрамі і загадвала, каб сядзеў ціха і ня дужа круціўся, бо можна ўпасці. Часта давала лупіць вараную бульбу. І вось я гадзінамі сядзеў на гэтым падаконніку – не адзін раз у мокрых штоніках – баючыся паварухнуцца, каб не зваліцца, лупіў бульбу, глядзеў у вакно, як ідуць туды-сюды паравозы, цягнікі. Гэта было добраю для мяне выпрацоўкай дысцыпліны, цярплівасці і ўпартасці, што пазней так спатрэбілася ў жыцці.

А бацька амаль год адседзеў у "амерыканцы" менскага КДБ: быў асуджаны па справе "Працоўнай сялянскай партыі" да вышэйшай меры пакарання (расстрэлу), якую замянілі заключэннем у канцлагер тэрмінам на 10 гадоў[1].

Тату накіравалі ў Салаўкі (Салавецкія лагеры асобага прызначэння), дзе пашанцавала, бо трапіў у групу зняволеных з вышэйшай адукацыяй, якую адправілі ў Мядзведжую Гару, дзе знаходзіўся Беламорска-Балтыйскі камбінат (ББК). Тут ён трапіў у геалагічную базу і так актыўна працаваў, вучыўся геалогіі, што малады акадэмік-эканаміст зрабіўся юным геолагам, а ў 1933 годзе выйшла першая друкаваная праца па геалогіі ў часопісе "За качество" (выданне Белбалтлаг АДПУ). З улікам залікаў за добрую працу тэрмін заключэння быў скарочаны і ў кастрычніку 1934 года Тата быў вызвалены, але яму катэгарычна прапанавалі застацца працаваць на ББК.

Тата заехаў у Багацькаўку, дзе апошні раз бачыўся з маці і бацькам, а потым забраў сваю жонку з яе бацькамі і двума сынамі. Пасяліліся каля Мурманска ў пасёлку Кола (на беразе Кольскага заліва), дзе жылі ў доўгім бараку – былой стайні. Тут кожнае стойла было перароблена пад маленечкія пакойчыкі. У нас іх было два: у адным начавалі Буля, Дзеда і я, у другім – Мама, Тата і Славік. Гэтыя новыя мясціны зрабілі на нас вялікія ўражанні і надоўга засталіся ў нашай памяці, але "родным кутом" для мяне не сталі, як і пазнейшыя, якіх мне ў час дзяцінства давялося мецць вельмі шмат.

[1] Гл.: Гарэцкі Р. Арышт другі // Полымя. 1997. № 1, 2; "Ахвярую сваім "Я" (Максім і Гаўрыла Гарэцкія)". – Мн.: Беларуская навука, 1998. – 287 с. Максіма Гарэцкага па справе СВБ асудзілі на 5 гадоў высылкі ў Вятку.

Нам, малым хлопцам (Славік ужо хадзіў у пачатковую школу, а я яшчэ не), усё было цікава. Лавілі камбалу на пляжы ў час адліву ў Кольскім заліве. У рацэ Кола на вуду бралася сёмга – чырвоная рыба. Любілі лазіць на крутую вялікую гару Салаварака. У многіх мясцінах працавалі зняволеныя. Сярод іх было многа ня толькі палітычных, але і крымінальнікаў, – яны будавалі дамы, дарогі, капалі канавы. Сярод іх круціліся і мы. “Школа” была “паспяховая”: мы хутка навучыліся гаварыць брыдкія словы, паліць папяросы, дзёрзка паводзіць сябе, ня слухацца. Хваляванняў бацькам дастаўлялі шмат, асабліва даставалася Булі і Дзеду, бо Тата і Мама ўвесь дзень да вечара былі на працы. Мама настаўнічала ў школе для дарослых, а Тата ездзіў на працу ў Мурмашы, дзе часта нават начаваў. Дахаты загнаць нас было немагчыма, асабліва ў летнія дні белых начэй: мы страчвалі адчуванне дня і ночы і толькі каля поўначы нас з цяжкасцю дзе-небудзь знаходзілі і прыводзілі дадому. І ўвесь час нейкія здарэнні: то нехта патануў, то некаму галаву прабілі, то бойка адбылася, то нявольнік збег і яго лавілі з сабакамі, а то Слаўка прыйшоў троху п’яны...

Аднаго разу, у гадавіну смерці маці Гаўрылы Іванавіча (багацькаўскай бабы нашай) 4 сакавіка 1936 года мяне клічуць і клічуць дахаты, а я не іду, бо вельмі цікава мы разгуляліся з кампаніяй такіх жа хлопчыкаў і дзяўчынак. Тата, які так любіў і шанаваў сваю маці, у гэты дзень быў вельмі сумотны: успамінаў гады дзяцінства, дабрыню маці, яе песні, гараваў, што ня змог паехаць на яе пахаванне (не адпусцілі)... Бацька зноў і зноў выйшаў, каб паклікаць мяне дахаты. А я вельмі раззлаваўся, што не даюць дагуляць са сваімі сябрамі ў такую цікавую гульню. Тата ўзяў мяне за руку і пацягнуў да ганку, а мяне ўзяла такая злосць, што я вылаяўся матам... Тут Тата не вытрымаў, схапіў мяне, кінуў на ложак і першы раз у жыцці моцна адлупцаваў па адпаведным мяккім месцы. А я быў упарты – не крычаў, не плакаў, не прасіў прабачэння – вытрымаў усё моўчкі, хоць было не столькі балюча, а вельмі крыўдна...

На наступны дзень я напісаў Тату першы свой ліст (у школу яшчэ не хадзіў, але пісаць вялікімі літарамі ўжо мог) і кінуў яго за куфэрак, каб бацька ўбачыў яго не адразу, а сам пабег з дому. Ліст быў кароткі: “Тата чорт і халера”. Увечары Тата ласкава ўзяў мяне на рукі, пасадзіў на калені і растлумачыў мне, што гэтая лаянка раней мела адпаведны сэнс і ўтрымлівала яшчэ адно, чацвертае слова – “татарын”, што з’явілася яно ў часе мангольскага іга, а цяпер уяўляе бязглуздзіцу – вялікі здзек над жанчынай, а гэта

значыць і над мамай, бабуляй... Я ўсё зразумеў, і пасля гэтага каштоўнага ўрока больш ніколі матам не лаяўся.

***

У лютым 1937 года мы пераехалі ў пасёлак Мурмашы – бліжэй да будаўніцтва ГЭС. Там я пайшоў у першы клас. З Татам зрэдку хадзілі ў “паходы”, збіралі розныя прыгожыя каменьчыкі, кераміку і чарапкі з неалітычных стаянак. Потым у школе і ў пасёлку адкрылі невялічкія музеі, куды я перадаў некалькі нашых найбольш цікавых знаходак і вельмі ганарыўся, што ў музеі каля іх было напісана: “З калекцыі Р. Гарэцкага”.

На пачатку 1937 года Тату прызначылі старшым геолагам Аддзела даследаванняў Волгабуда, і мы пераехалі пад Рыбінск, дзе меркавалася правесці геалагічныя працы пад будаўніцтва Рыбінскага мора і ГЭС. Там жылі нядоўга, каля паўгода, бо Тату раптам выклікаў начальнік будаўніцтва і паведаміў, што з Масквы паступіў загад, каб усіх, хто некалі быў асуджаны па артыкуле 58-6 (шпіянаж), безадкладна звольніць з працы. Ён параіў Гарэцкаму вярнуцца назад у Мядзведжую Гару і паступіць зноў на працу ў сістэму “Гідрапраекта”, на якую той загад не распаўсюджваўся. Ён напісаў паперу, каб Тату далі накіраванне ў Мядзведжую Гару.

Пра Рыбінск у мяне ў памяці захавалася вельмі мала. Памятаю, што ў першы клас пачатковай вясковай школы прыйшлося хадзіць пешшу некалькі кіламетраў праз прыгожыя лугі і ляскі. У класе мяне неўзлюбіў мясцовы хлопчык, які верхаводзіў усімі, а я яму не хацеў падпарадкавацца – дык мы з ім часта біліся, прычым ён быў мацнейшы за мяне, але я ўсё роўна яму не паддаваўся. Найбольш моцнае ўражанне пакінуў такі выпадак. Уначы збегла некалькі зняволеных і раніцою шмат ахоўнікаў (вохраўцаў – ваенізаваная ахова) з аўчаркамі іх шукалі. Ну, мы, малыя, тут як тут – нам усё цікава. У нас запыталіся, ці не бачылі каго – адказваем, што не, хоць самі бачылі аднаго хлопца, які схаваўся на даху будоўлі. Яго хутка і знайшлі. Каля дома былі выкапаныя глыбокія канавы пад каналізацыю. Бачым, сабака капае адну з такіх ужо прысыпаных пяском і глінай канаваў – праз некалькі хвілін адтуль дасталі двух маладых хлопцаў з зусім сінімі жудаснымі тварамі. Аказваецца, каб схавацца, яны закапаліся ў гэтых канавах і там задыхнуліся.

***

У Мядзведжай Гары, куды мы пераехалі ўлетку 1937 года, Гарэцкі стаў кіраўніком групы інжынернай геалогіі Аддзела вышуканняў ББК, але працаваць доўга не давялося: ужо ў канцы кастрычніка ён быў арыштаваны, бо лічылася, што тая катэгорыя былых вязняў, якая была асуджана па артыкуле 58-6 (шпіянаж), "не разоружилась". Ды і наогул дабіралі недабітых "ворагаў народа".

Маму адразу ж выгналі са службовай кватэры, якую далі па прыездзе сям'і Гарэцкага ў Мядзвежку пасля таго, як мы некаторы час пажылі ў гасцініцы. Але свет, як той казаў, не без добрых людзей. Яшчэ на Туломе бацькі пазнаёміліся з Ізаксонамі – мужам і жонкай, вельмі сардэчнымі, добразычлівымі інтэлігентнымі людзьмі. Ізаксон ня быў нявольнікам, яго проста выслалі на ББК і таму ён быў вельмі абмежаваны ў сваім пасяленні. Ізаксоны раней за нашу сям'ю пераехалі ў Мядзведжую Гару і жылі ў маленькім пакойчыку на самым верхнім паверсе гатэля. Знаёмства неўзабаве перайшло ў сяброўства. Ксенія Георгіеўна – значна старэйшая па ўзросце – старалася апекаваць Маму, дапамагала ёй ня толькі маральна, але і матэрыяльна. Як толькі Мама з дзецьмі засталася на вуліцы, яна хутка адшукала сваю знаёмую – Еўдакію Сямёнаўну, якая мела драўляны невялічкі домік на беразе хуткаплыннай рачулкі Кумсы, і тая згадзілася пусціць бяздомнікаў у сваю кухню – маленькі квадратны пакойчык плошчай каля 8 квадратных метраў. Для Мамы гэта было выратаваннем і проста шчасцем, бо знайсці дзе-небудзь пакой было амаль немагчыма: усюды вялікая перанаселенасць. Ды і пускаць да сябе сям'ю "ворага народа" было небяспечна і вымагала ад чалавека значнага гераізму (блізка да таго, як ратаваць габрэяў у акупацыйных раёнах у часе вайны з фашыстамі).

Пакуль сям'я будзе ўладкоўвацца ў Мядзведжай Гары, Мама вырашыла адаслаць мяне і Булю ў Запарожжа, да свайго роднага брата Сяргея Восіпавіча, які працаваў майстрам-брыгадзірам на авіяцыйным заводзе і жыў з жонкай Тусяй (Эстэр Зіноўеўна Валавік) і дачкой Інай. Там я пражыў амаль год і вучыўся ў 2-м класе.

Увосень 1937 года план па выкарчоўванні "ворагаў народа" быў спушчаны і на авіяцыйны завод. Ноччу прыехаў "чорны воран", прыйшлі тры вайскоўцы, пачалі рабіць вобыск. Я і мая стрыечная сястра Іначка, маладзейшая за мяне на 4 гады, нічога не разумелі, што адбываецца. Нам стала весела, што нас пабудзілі

сярод ночы, зрабілі ў хаце гармідар. Мы скакалі і смяяліся. Калі адзін з вайскоўцаў, заканчваючы вобыск, спытаў: “А хто яшчэ ў вас ёсць?”, я адказаў: “У нас ёсць Баранэсачка!” (мы так жартам называлі Іначку). Ён насупіўся, і яны яшчэ больш упарта пачалі нешта шукаць, працягнуўшы вобыск не менш чым на паўгадзіны. Дзядзьку Сяргея забралі. Буля і Туся, якая была цяжарная прыблізна на 6-м месяцы, былі разгубленыя і пасля адыходу “начных гасцей" заплакалі. Вось тут і мы, малыя, зразумелі, што здарылася вялікая бяда, і прыціхлі. Цікава, што наш сусед, па якога таксама ў тую ноч прыехалі, выскачыў у вакно і збег. Ён хаваўся блізу месяца, а потым прыйшоў на працу і яго ў той час не забралі, бо, як казалі, ужо выканалі план на заводзе на колькасць неабходных “ворагаў народа”.

У апошні дзень года нарадзіўся сын, якога ў гонар асуджанага бацькі назвалі Сяргеем. Бацька і сын так і не пабачылі адзін аднаго. Ужо пасля вайны прыслалі пасведчанне аб смерці – хлусню аб тым, што Сяргей Парфяновіч памёр ад хваробы лёгкіх у 1940 годзе. І толькі пасля смерці Сталіна даведаліся праўду: Сяргей Восіпавіч быў расстраляны ў канцы снежня, амаль у той час, калі нарадзіўся ягоны сын.

***

У канцы вясны 1938 года па заканчэнні другога класа мяне прывезлі з Запарожжа ў Мядзведжую Гару да бацькоў. Мінула зусім мала часу, як зноў прыйшла бяда. 8 мая Мама і Тата ўвечары пайшлі ў кіно, а я з Дзедам былі дома. Падышоўшы да хаты, Мама заўважыла машыну, якая стаяла побач. Скаланулася сэрца: “Няўжо – зноў?!” Тата адразу трапіў у “чорны воран”.

Буля вярнулася назад у Запарожжа, бо ў Мядзведжцы не было дзе жыць: у нашым пакойчыку ледзь мясціліся два вузкія ложкі, стол і некалькі крэслаў. Я спаў разам з Дзедам, а Славік – на стале ці пад сталом. А калі да нас улетку ненадоўга прыехаў Лёня – сын Максіма Гарэцкага, дык гаспадыня дазволіла пакласці яго нанач у прахадным пакойчыку разам са сваім сынам Дорыкам (Хведарам) і нават не брала за ягонае пражыванне грошы.

Мама працавала настаўніцай у школе для дарослых – там былі класы і для зняволеных, і для тых, хто ўжо адседзеў свой тэрмін (большасці вызваленых таксама часта забаранялася пераязджаць на іншае месца). Каб пракарміць сям’ю, яна брала максімальную колькасць гадзін і прападала на працы ледзь не да

ночы. Каб забяспечыць сябе харчаваннем, мы з дазволу гаспадыні завялі каля дому невялічкі агародзік, а таксама пачалі трымаць некалькі курак і качак. Дзеда і я асабліва любілі займацца гэтай “падсобнай гаспадаркай”.

Цацак тады ў нас ніякіх не было, канькоў і лыж таксама. Наша кампанія малых хлопцаў любіла іграць у фанцікі, якія мы рабілі з цукерачных абгортак. А дзе іх узяць? У хаце цукеркі калі і былі, дык гэта – голыя падушачкі ці сасулькі-мандарынкі, якія мне і да гэтага часу здаюцца смачнейшымі за шакаладныя. Лазілі па скрынях-сметніцах і знаходзілі там абгорткі, з якіх рабілі фанцікі. Іншым разам траплялася і больш цікавае – нават манеткі грошай. Праўда, апошнія часцей сустракаліся на кірмашы ці ў парку адпачынку – таму выпрацавалася звычка глядзець пад ногі і нешта шукаць.

Сама цікавымі былі тры гульні (і ў школе, і на двары): у фанцікі (з далоні кідалі адзін фанцік на другі – калі ён перакрываў, то і забіраўся); у пёркі (трэба перакуліць пёрка для чарнільнага пісьма з “брюшка” на рабро – асабліва цанілася пёрка № 86); у грошы (дробныя манеткі ставіліся ў кон, іх білі біткай, каб перавярнуць з рэшкі на арла).

У кутку нашага пакойчыка ў мяне быў цэлы склад фанцікаў – сотні, а то і тысячы. Аднойчы Мама, прыбіраючы хату, узяла і амаль усе мае фанцікі выкінула. Для мяне гэта было такое велізарнае гора – я сядзеў, доўга глядзеў у свой кут, дзе ўжо не было фанцікаў, і моўчкі глытаў слёзы. Мама падышла да мяне, узяла на рукі, папрасіла прабачэння і заплакала... Яна потым расказвала, што ёй доўга было сорамна за тое, што яна так груба пазбавіла мяне такой рэдкай на той час радасці...

Мы прыносілі Маме процьму клопатаў і хваляванняў. Калі па Кумсе сплаўлялі лес, бярвенні амаль поўнасцю запаўнялі рэчку, налазілі адно на адно ці падныrвалі, круціліся, а мы спаборнічалі, хто шпарчэй перабяжыць па бярвеннях на другі бераг рэчкі – гэта было небяспечна, але нас Бог бярог, а вось пудзель Ізаксонаў – вялікі, калматы і прыгожы – пабег за намі і ўтапіўся. Калі Анежскае возера пакрывалася зусім яшчэ тонкім ільдом, мы бегалі катацца: нам падабалася, як ён трашчыць, ды і цікава было глядзець праз яго празрыстасць пад ваду і на дно. Так захапляліся гэтым, што часам адбягалі ад берага на кіламетр і болей. У парку адпачынку лазілі на высачэзную парашутную вышку, збіралі бутэлькі, каб потым іх здаць і купіць сасулек. Дзеда зрабіў

драўляныя канькі (замест ляза прымацаваў тоўсты провад на маіх каньках). Мы кручкамі чапляліся за аўтамашыны (ГАЗ-АА) і шыбка каціліся.

Бедная Мама прыходзіла з заняткаў позна ўвечары (а нярэдка і апоўначы) стомленая і мусіла далучацца да Дзеда, які ўжо з гадзіну ці больш шукаў нас – і знаходзілі на возеры ці на рэчцы, у парку ці на кірмашы... Але ўсё ж мы стараліся да прыходу Мамы з працы быць ужо ў хаце.

Жанчыны, у тым ліку і Мама, нейкім шостым пачуццём ці невядомым нікому цудоўным тэлепатычным тэлеграфам часта ведалі, калі зняволеных павядуць куды-небудзь з турмы – у лазню, на допыты, на працу. Турма знаходзілася прыблізна ў паўтара кіламетрах ад нашага доміка вышэй па рацэ Кумсе на другім яе беразе. У такія дні Мама казала, каб мы гулялі каля рэчкі і сачылі, калі павядуць вязняў і ці будзе сярод іх Тата. Мы заўсёды разумелі сур'ёзнасць задання, бездакорна слухаліся Маму. Славік ужо быў разам са мной і не адганяў мяне, як надакучлівага сабачку. Часта прыходзілася чакаць некалькі гадзін, а то і ўвесь дзень. Але якая была радасць, калі мы сярод шэрых панурых фігур бачылі нашага Тату! Мы радасныя беглі да хаты і расказвалі як мага падрабязней, што мы бачылі, як выглядаў Тата. Але былі досыць часта і расчараванні, калі зусім нікога не выводзілі ці сярод групы не было нашага Таты.

Абвінавачванні былі ўсе па старой справе і галоўнае – артыкул 58-6 (шпіянаж на карысць польскай і нямецкай разведак). Зноў пайшлі частыя допыты, якія асабліва жорстка вялі следчыя Мядзведзеў і Рэзнік. Яны нярэдка так разыходзіліся, што білі кулакамі і ў твар, і ў грудзі... Больш стрыманы і прыхільны быў следчы паляк Батоўскі. Турмы былі перапоўненыя, умовы вельмі цяжкія, шмат разоў даводзілася пабыць у страшэнным карцэры, ад недаядання, а то і проста ад голаду ледзь трымаліся...

Часцей за ўсё вязняў выводзілі за вароты турмы, садзілі на грузавыя машыны, крытыя брызентам, і некуды вазілі. Мы выбягалі на дарогу, па якой павінны былі праязджаць машыны, і нам пашчасціла некалькі разоў пабачыць бацьку. Аднойчы вялі пешшу невялікую групу праз мост, а мы тут як тут. Заўважылі Тату: няголены, худы, паніклыя вочы, на апухлых нагах нейкія падраныя тапачкі, прывязаныя шпагатам (на ногі ні чаравікі, ні нават тапкі ве налазілі). Убачыўшы нас, Тата неяк яшчэ больш сагнуўся, апусціў галаву, бо, відаць, яму было няёмка ад таго, што сыны бачаць яго ў

такім выглядзе, вочы трошкі ўсміхнуліся, і ён махнуў нам рукой – як быццам развітаўся назаўсёды... Мы ня ведалі, як і расказаць Маме пра такі стан бацькі.

Праз некаторы час Мама неяк была ў Ізаксонаў, да якіх у наведкі прыехала іх нявестка Клава – жонка малодшага сына з Масквы. Гаварылі. Мама выглянула ў вакно і раптам бачыць – вядуць яе мужа. Яна крыкнула: “Гурыка вядуць!” – і кінулася ўніз. За ёй Клавачка, якая адразу пачала размову з вартаўніком на самыя розныя тэмы, каб адхіліць яго ўвагу. Тым часам Мама змагла трошкі пагаманіць з Татам. Ён быў вельмі змарнелы, ледзь рухаўся. Папрасіў перадаць яму лязо – трываць здзек, голад сілаў больш не было... Ды і наперадзе, напэўна, чакаў расстрэл...

Пазней Мама ўклала лязо ў каўнер сарочкі і разам з ёю перадала мужу. Добра, што Тату хапіла мужнасці і вытрымкі не скарыстаць яго...

Тым часам вялікую групу зняволеных падрыхтавалі да расстрэлу і паслалі ў Маскву на зацверджанне іх спіс. Туды ўваходзіў і Г. Гарэцкі. Пасля кансультацый з Масквой, улічваючы важнасць такой фігуры “немецкого и польского шпиона”, як Гарэцкі, склалі спецыяльны пратакол, падабралі дакументы, якія разам з вязнем накіравалі ў Маскву. Мядзведзеў і Рэзнік склалі дакумент аб тым, што ён “злосный неразоружившийся враг советской власти и народа” і яго трэба знішчыць – расстраляць. Але Батоўскі выказаў асобную думку аб тым, што гэты вязень – невінаваты.

Гаўрыла Гарэцкі зноў трапіў на Лубянку і ў Бутыркі. У апошняй сядзеў у вялікай камеры чалавек на 60, сярод якіх было многа досыць вядомых людзей, а старастам прызначаны Мікалай Крыленка – грамадскі дзеяч, у нядаўні час былы наркам юстыцыі. Той бадзёрасці і нават весялосці, якая была ў 1930-х гадах, тут ужо не было – усе разумелі, што іх чакае...

У справе Гарэцкага значылася, што ён не толькі сам працаваў на польскую і нямецкую разведку, але і завербаваў такіх вядомых людзей, як М.М. Галадзед і А.Р. Чарвякоў. Калі параўналі лічбы, дык выйшла, што ён іх завербаваў ужо пасля таго, як гэтыя людзі былі ўжо мёртвымі (адзін скончыў жыццё самагубствам 21 чэрвеня 1937 года, а другога расстралялі ў чэрвені 1937 г.). Было відавочна, што абвінавачванне не адпавядае праўдзе, яно надуманае і сфабрыкаванае. Бацьку адправілі назад у Мядзведжую Гару з прапановай вызваліць. 22 чэрвеня 1939 года Тата быў у хаце.

На наступны дзень бацька пайшоў да Цімафеева – начальніка

ББК, каб уладкавацца на працу, а той праз сакратарку: “Я шпионов на работу не принимаю!” І ўсюды такі адказ. Тата тады пасылаў лісты з заявамі, тэлеграмы з просьбамі прыняць на працу – галоўным чынам у розныя геолага-вышукальныя партыі і экспедыцыі, якія знаходзіліся ў многіх гарадках і мястэчках. Але адусюль прыходзілі адмовы або зусім ніякага адказу не было. Становішча рабілася невыносным...

Тата шукаў работу і тым часам апрацоўваў геалагічны матэрыял, які назбіраў раней. Не працаваць як вучоны ён ня мог. У часе паміж двума апошнімі зняволеннямі і адразу пасля вызвалення ён змог надрукаваць у маскоўскіх часопісах некалькі навуковых артыкулаў, якія мелі прынцыповае значэнне для геалогіі і археалогіі Кольскага паўвострава і Карэліі: “Некоторые данные о неолитических стоянках Кольского перешейка”, “Новые неолитические стоянки у г. Кеми, в Карелии”, “Доледниковая кора выветривания на Кольском полуострове”.

Зрэдку мы хадзілі на прагулкі: у горад, на рэчку ці Анежскае возера. Аднойчы ішлі па кірмашы. Я, як заўсёды, глядзеў пад ногі і спадзяваўся знайсці манетку, на якую можна будзе купіць якую-небудзь цукерку – падушачку ці мандарынку. Раптам убачыў: у брудзе ляжыць стары падрапаны кашэль і з яго тырчаць ня тое што дробныя манеткі, а добрая пачачка папяровых купюр. Я вельмі ўзрадаваўся, ужо ўяўляў сабе, колькі прысмакаў на іх можна купіць, падумаў, што значную частку грошай аддам Маме, якая (а я гэта добра ведаў) была без грошай і ня ведала, як пракарміць сям’ю. Я радасна ўскрыкнуў і кінуўся да кашалька, каб падняць яго. Раптам перад маім носам мільгануў татаў бот, ад якога кашэль паляцеў далёка ўбок, і я пачуў сярдзіты голас Таты: “Не тваё – дык і не бяры!” Мне так шкада было тых грошай, што я нават у сне іх бачыў. Але гэта быў добры урок на ўсё жыццё...

Прайшло больш за месяц, а станоўчага адказу наконт працы ўсё не было, хоць Тата паслаў запытанні амаль у 30 месцаў. Нават ездзіў у Чкалаў (Арэнбург) і некаторыя іншыя гарады – была надзея, што возьмуць, але не атрымалася і там. І раптам тэлеграма ад Нікадзіма Сяргеевіча Сіманава – галоўнага інжынера будаўніцтва Салікамскага гідравузла з запрашэннем тэрмінова прыязджаць на працу.

4 жніўня 1939 г. Г. Гарэцкі быў прызначаны ст. геолагам Геалагічнага аддзялення 1-га раёна СГУ НКУС, якое знаходзілася ў пас. Ніжняе Мошава пад г. Салікамскам (Пермская вобласць), а

праз 10 месяцаў пераведзены ў галоўныя геолагі.

У Ніжнім Мошаве не было сярэдняй школы, таму Славік, які вучыўся ўжо ў 8-м класе, жыў адзін у знаёмых у Салікамску. Для мяне салікамскі этап нашага жыцця быў працягам пэўнага "геалагічнага" навучання, якое я пачаў яшчэ на Туломе, і захапленнем фатаграфіяй. Тата купіў мне невялічкі прымітыўны фотаапарат з кароткай інструкцыяй. Я патроху асвоіў працэс фатаграфавання, праяўлення здымкаў. Да гэтага часу захаваліся некаторыя здымкі таго мінулага – невялічкага памеру, кепскай якасці, але цікавыя для нас. Вось, напрыклад, наш невялічкі пакой з паліцай кніг і кругам чорнай талеркі тагачаснага радыёрэпрадуктара. Іншым разам Тата браў мяне і маіх сяброў на свідраванне ці абгаленне на Каме – нам такія падарожжы вельмі падабаліся. Зрэдку мы і самі лазілі па крутых берагах ракі, скакалі з абрываў, забіраліся ў шурфы. Аднойчы, запаліўшы свечкі, пайшлі "даследаваць" досыць цёмную штольню, прарытую ў выглядзе тунеля ў высокай гары. Я ішоў першы і раптам паляцеў некуды ўніз. Добра, што машынальна расставіў рукі і павіс на іх, падняўся і вылез. Аказалася, што ў штольні прарылі некалькі шурфоў-калодзежаў. Вось у адзін з іх я і трапіў. Калі мы потым заглянулі ў яго, ахапіў жах: ён быў глыбокі, цёмны і з вадою. Больш асцярожна, але ўсё ж пайшлі далей – цікаўнасць перамагла страх.

Бачылі і больш адмоўныя бакі жыцця (да некаторых з іх ужо часткова прывыклі і лічылі звычайнымі): калоны зняволеных – часцей мужчынскія, але траплялiся і жаночыя (яны рабілі яшчэ больш цяжкае ўражанне), забаронныя зоны з высокім плотам і калючым дротам, з вышкамі і вохраўцамі на іх, чулі жахлівыя расказы пра ўцёкі, згвалтаванні (асабліва ня толькі ўразіла, але і здзівіла, што жанчыны могуць ледзь не да смерці згвалтаваць мужчыну). Аднойчы не заўважылі, як трапілі ў забароненую зону, уцякалі і пачулі ўслед выстралы.

У снежні 1940 г. Гаўрылу Гарэцкага перавялі ў г. Баравічы Наўгародскай вобласці і прызначылі галоўным геолагам аддзела аб'ектаў Ленінградскай вобласці Ленінградскага праектнага ўпраўлення Галоўпрамбуда, а затым галоўным геолагам Мсцінскага інжынерна-геалагічнага раёна таго ж упраўлення. Намячаўся каскад гідраэлектрастанцый на р. Мста, каб забяспечыць энергіяй Ленінград.

Даводзілася хадзіць на прагулку з Мамай і Татам. Я звычайна бег наперадзе, а яны ішлі за мной. Я адчуваў іх ласкавыя

прыхільныя погляды, было так добра і радасна. Я скакаў, куляўся, смяяўся. Тата пытаў: "Што там у цябе?" Я адказваў: "Гэта радасць скача ў маіх грудзях".

***

Пачалася вайна, і ўжо вельмі хутка над горадам лёталі фашысцкія самалёты. Удзень некаторыя штурмавікі так нізка спускаліся, што бачна было лётніка ў кабіне, і мы падалі на зямлю, бо баяліся стрэлаў ад яго, а ноччу каля маста і каля заводаў мільгацелі агеньчыкі – казалі, што шпіёны і дыверсанты падаюць нямецкім самалётам сігналы, каб бамбілі адказныя аб'екты, але тыя з асаблівым злавесным гудзеннем ляцелі міма – казалі, што на Ленінград ці Маскву.

Фашысцкая навала набліжалася – вельмі многія ўжо эвакуіраваліся, дайшла чарга і да нас. Сабралі сем'і вышукальнікаў, пасадзілі на адкрытыя грузавікі, каб ехаць да станцыі Мга, а адтуль па чыгунцы далей на ўсход. З сабой можна было ўзяць толькі самыя неабходныя рэчы, бо месца было мала. Што здавалася каштоўным (некаторыя кнігі, некалькі маленькіх дываноў, посуд ды інш.), запакавалі ў два драўляныя куфэрачкі і закапалі – думалі, хутка вернемся і адкапаем. Больш мы іх ніколі ня бачылі. Калі праязджалі праз вёскі, мясцовыя жыхары вельмі недружалюбна махалі нам кулакамі і крычалі: "Во, сволачы-буржуі, самі бягуць на машынах, а нас тут пакідаюць!" На станцыі Мга наляцелі фашысцкія самалёты, бамбілі, але наш таварны вагон-цяплушка застаўся цэлы. Амаль на месяц гэтая цяплушка стала нашым домам. Паехалі Мама, Дзеда, Буля і я.

***

Славік, які скончыў ужо 9-ты клас, быў мабілізаваны на ваенную службу і адпраўлены ў артылерыйскую школу. Але хутка падхапіў моцны плеўрыт, доўга хварэў, ляжаў у шпіталі і пазней трапіў на ваенны завод у Іжэўск, дзе працаваў рабочым – слесарам, токарам, лякальшчыкам.

Тата таксама быў мабілізаваны на абарончыя работы. Зноў сям'я распалася – пасля ад'езду з Менска разам пажыць задалося зусім невялічкі час у некалькі гадоў – толькі ў Коле, Туломе, Мошаве ды Баравічах. Г. Гарэцкі быў прызначаны галоўным геолагам ва Упраўленне ваенна-палявога будаўніцтва "Галоўабаронбуда" Наркамата абароны – Чацвёртага, затым Дзесятага і, нарэшце,

Другога ўпраўлення абарончых работ. Рабіў розныя даследаванні па ваеннай геалогіі: вышуканні пад будаўніцтва абаронных збудаванняў, ацэнку праходнасці войскамі тэрыторыі, пошукі пітной вады і г.д. Праца праходзіла ў Калінінскай, Ленінградскай, Валагодскай абласцях, пад Масквой. За гэтую работу адразу пасля вайны Гарэцкі быў узнагароджаны медалямі: "За участие в героической обороне Москвы", "За победу над Германией", "За доблестный труд в Великой Отечественной войне 1941–1945 гг."

***

Разам з намі ехалі некалькі сем'яў геолагаў-вышукальнікаў, сярод іх добрыя нашы сябры: Паліна Яўфімаўна Зайцава з сынам Юркам – маім лепшым таварышам, трохі старэйшым за мяне (я скончыў пяты клас, а ён – сёмы), а таксама Надзея Фамінічна Чарнышова з дзвюма маленькімі дочкамі. Па дарозе шмат было самых розных дробных прыгод. Асабліва Мама хвалявалася, калі я і Юрка скакалі пры хадзе цягніка, пералазілі з вагона ў вагон, а то і забіраліся на дах вагонаў. Прыдумалі нават гульню: як толькі цягнік пачынае рухацца, мы перабягаті пад вагонамі – хто больш разоў туды і сюды (але стараліся, каб дарослыя гэтую нашу небяспечную гульню ня бачылі).

Мама і Надзея Чарнышова намерыліся жыць адной сям'ёй (а трапілі мы ў вялікае сяло – раённы цэнтр Вавож Удмурцкай АССР). Пашчасціла зняць сялянскую хату з невялікім дваром, хлеўчуком і агародам на некалькі сотак. Усім жылося цяжка. Мясцовыя жыхары лічылі, што ў гэтым часткова вінаватыя ня толькі вайна, але і прыезджыя – эвакуіраваныя (як многія сяляне казалі – "кавыраныя"), таму да нас ставіліся, як да чужых, насцярожана і не заўсёды добразычліва. Мама працавала загадчыцай кантрольна-насеннай станцыі, Надзея – старшым землямерам у райсавеце.

Праз нейкі час да нас далучыліся Туся з Інай і малым Сярожам. Яны эвакуіраваліся з Запарожжа і доўга рухаліся на ўсход – праз Каўказ, Каспійскае мора, Сярэднюю Азію – з тысячамі прыгод, непрыемнасцяў і цяжкасцяў. Стомленыя, хворыя ледзь дабраліся да Вавожа. Бамбёжкі і іншыя жахі, што зведалі ўцекачы, асабліва падзейнічалі на Іначку, якая ўвесь час вельмі кепска сябе адчувала.

Хлеба выдавалі па 100–200 грамаў на чалавека. Ратавала ўласная гаспадарка (агарод, парсюк), ёю галоўным чынам зай-

маліся Дзеда і я. Вельмі дапамагло тое, што Туся паступіла працаваць бухгалтарам на маслазавод, адкуль нярэдка прыносіла адгон, які мы з прыемнасцю пілі. Але ўсё адно голад прыводзіў да таго, што ў Мамы і асабліва ў Дзеды пачалі апухаць ногі. Яны стараліся менш есці, каб іншым дасталося болей, асабліва дзеткам. Бясконцае недаяданне, пастаяннае адчуванне голаду – цяжкае фізічнае і маральнае выпрабаванне для чалавека. Памятаю, як хадзіў у магазін па хлеб. Адпусцяць на ўсю нашу плойму каля адной буханкі хлеба, нясеш хлеб дамоў (а трэба было ісці амаль 30 хвілін) і калі ёсць невялічкая лустачка дадатку вагаешся – з’есці яго ці не? Утрымацца і ня з’есці было амаль немагчыма, а з’ясі, такі сорам ахопліваў, што няёмка было глядзець у вочы. Мама ўсё разумела, бачыла па мне, калі быў дадатак, а калі не, нават казала, каб я па дарозе яго з’еў і старалася часцей пасылаць мяне па хлеб. Амаль гонар і задавальненне было, калі прыносіў дахаты ня толькі саму буханку хлеба, але і дадатак хлебца.

Пры канцы студзеня 1942 года Іначка захварэла на менінгіт. Паклалі яе ў бальніцу, і там яна неўзабаве памерла. У моргу Іначка – наша баранэсачка, мадонна – ляжала зусім як жывая, такая ж прыгожая, трошку бляднейшая, чым звычайна. Хоць цела яе было вельмі халоднае, але Маме здавалася, што яна проста заснула. Ці не памылка гэты дыягназ – смерць? Раптам глыбокі сон? Адыходзячы, Мама пастаралася запомніць усё: і як ляжаць яе рукі, як пастаўленыя ногі, які паварот галавы...

Стаяў моцны мароз, зямля так глыбока прамёрзла, што магілу змаглі выкапаць толькі з дапамогай двух дужых хлопцаў. І паглынула нашу мілую Іначку тая халодная зямля навечна. Тусі задалося дастаць малака, бохан хлеба. Увечары я еў цёплую бульбу з кавалкам хлеба, запіваў малаком, і было мне так цяжка і балюча на сэрцы і так шкада маю сястрычку, якая ўжо ніколі больш ня зможа паспрабаваць такую смакату... Я не вытрымаў, забіўся ў цёмны кут, далей ад усіх, і кроплі слязінак змяшаліся ў шклянцы з малаком...

Пасля зімы многія паціхеньку хадзілі на калгасныя палі збіраць пакінутыя з восені рэшткі збожжавых зярнятак, бульбу ці турнэпс. Гэта было вельмі небяспечным: ад збожжа, якое праляжала пад снегам, некаторыя моцна хварэлі і нават паміралі; міліцыя і спецыяльныя людзі лавілі “збіральнікаў” – “похитителей государственной собственности” – і аддавалі іх пад суд. Адна наша суседка – адзінокая маці атрымала за такую справу 10 гадоў, а яе

двух малых дзетак адправілі ў дзіцячыя дамы, прычым у розныя.

Школьнікаў вельмі часта пасылалі “на бульбу”: сярпамі жалі авёс, капалі бульбу, збіралі сена, рыхтавалі ў лесе дровы для атаплення школы (мне асабліва падабалася валіць вялікія елкі). Настаўнік хіміі вучыў драць кару з ліпы, а потым плесці лапці. Я таксама сплёў адну пару лапцей, але насіць не давялося – усё ж хапіла чаравікаў і ботаў.

Ад Таты атрымлівалі часта лісты, ён як мог падбадзёрваў нас. Мне ён любіў паўтараць словы У. Дубоўкі: “У перашкодах дух мацнее”. І праўда, усе цяжкасці, якія я адчуў, зрабілі мяне больш сур’ёзным: стараўся, як мог, рабіць з Дзедам па гаспадарцы, нават дапамагаў Маме на станцыі лічыць зярняты на ўсходжасць (было страшэнна многа працы, бо трэба было зрабіць аналізы збожжа з усіх калгасаў раёна, і Мама затрымлівалася да позняга вечара). Прыходзілася замест фурмана ехаць на санях па глыбачэзным снезе ў розныя калгасы, бо Маме там трэба было адабраць насенне на аналізы, а ехаць адной было страшнавата. Снегу ўзімку намятала вельмі многа – да паўтара метра ў вышыню. Санны шлях быў дужа вузкі – толькі на аднаго каня. Калі мы сустракаліся з мясцовым селянінам, ён ніколі не саступаў дарогі, хоць і бачыў, што наперадзе жанчына з хлопцам, і таму нам, слабейшым, даводзілася з’язджаць убок. Конь правальваўся па пуза, я таксама па грудзі і цягнуў яго за вуздэчку, а ён не ішоў, потым неяк падскокваў, каб ногі троху выскачылі са снегу і змаглі зрабіпь хоць крок, а мне здавалася, што ён вось-вось зламае нагу – і што тады мы будзем рабіць і як будзем аплочваць за чужога каня. Мужык азіраўся на нас, з’едліва і самазадаволена ўсміхаўся. Доўга корпаючыся, з вялікай цяжкасцю, але з палёгкаю на сэрцы, выбіраліся на дарогу. Зноў раўнамерна бег конь і каціліся санкі, а мы маліліся, каб не сустрэўся нам яшчэ хто-небудзь. Узімку было вельмі многа ваўкоў, якія былі ня менш галодныя, чым людзі. Голад настолькі іх асмельваў, што яны заходзілі аж у сяло. Дні былі кароткія, і як мы ні стараліся вярнуцца да цямна, гэта нам рэдка ўдавалася. Было страшна, калі чулі прагнае выццё ваўкоў ці бачылі пранізлівы бляск іх вачэй у цемры позняга вечара. Я мацней паганяў каня і адчуваў, як Мама бліжэй падсоўваецца да мяне. Але сустрэчы з мужыкамі мы баяліся больш, чым тых ваўкоў.

Славік, які адзін жыў у Іжэўску, таксама галадаваў. Улетку я некалькі разоў ездзіў да яго. Трэба было пешшу ісці прыблізна 25 кіламетраў да чыгункі, а потым яшчэ каля 5 кіламетраў па шпалах

да станцыі Мажга, а адтуль ужо цягніком да Іжэўска, сталіцы Удмуртыі. Я набіраў у рукзак прысмакаў – бульбы ды іншай гародніны, некаторае адзенне для брата. Аднаго разу за мной пагнаўся нейкі дзядзька, каб адабраць рукзак, – ледзь уцёк... А тады шмат бадзялася нейкіх бяздомных людзей, якія не тое што за рукзак з ежай, але і за буханку хлеба маглі добра адлупцаваць, а то і забіць.

Я быў самым старанным чытачом раённай бібліятэкі – за два гады перачытаў усе кнігі, якія там былі, – у тым ліку вялікую колькасць рускай і замежнай класікі. І вучыцца стаў так добра, што 7-ы клас скончыў на адны пяцёркі, атрымаўшы Пахвальную грамату.

У Вавожы я значна пасталеў, бо адчуваў сябе ўжо не проста малым хлопчыкам, а даволі дарослым чалавекам мужчынскага роду. Пад маім апекаваннем былі малышы – стрыечны брат Сяргейка і дзве дачушкі Чарнышовай – Ірма і Наташа. Яны найбольш за ўсіх менавіта слухаліся мяне, адчуваючы мяне сваім старэйшым сябрам. Апрача таго я быў галоўным памагатым у Дзеда па досыць вялікай нашай гаспадарцы. Да ўсяго я стаў адносіцца больш сур'ёзна, у тым ліку і да вучобы, самаадукацыя ў чытанні і г.д. Мае дзяцінства канчалася, пачыналася малалецтва і юнацтва, але сапраўднага роднага кута – "малой Радзімы" я так і не адчуваў у маім вандроўным жыцці.

Каб не той бальшавіцкі рэжым з яго бясконцымі арыштамі, пры нармальным жыцці з маімі цудоўнымі бацькамі, я мог бы мець свой мілы "родны кут" у Менску на Правіянскай вуліцы ці нават на Заслаўскай, або яшчэ больш прывабнай у малой Радзіме братоў Гарэцкіх – Малой Багацькаўцы, якую яны так любілі і якая ад успамінаў Таты мне здавалася найлепшай, асабліва дзякуючы іх маці Ефрасінні – яе, на вялікі жаль, я так асабіста і не ведаў… Маё дзяцінства на самой справе аказалася зусім "бязроднакутным".

*2018*

**Апантаны навукай**

Калі Міхасю Восіпавічу Мушынскаму споўнілася 80 гадоў, у чытальнай зале Аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтраьнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі адкрылася выстаўка "Знакаміты даследчык літаратурных скарбаў" і адбылася прэзентацы кнігі "Міхаіл Іосіфавіч Мушынскі" з серыі "Біябібліяграфія вучоных Беларусі". Тады Міхась Восіпавіч падараваў мне гэтую кнігу з

жартаўлівым надпісам: *Старшыні Рэспубліканскага фонду братоў Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх акадэміку Радзіму Гарэцкаму.*

*Як Ваш намеснік па Фонду дакладваю, што я, раўняючыся на Ваш жыццёвы вопыт, таксама адолеў адзін з высокіх горных пікаў – 8-тысячнік і залічаны ў ганаровыя альпіністы літаратурнага разліву. У адпаведнасці з альпінісцкім статусам буду і на новай вышыні – за 8000 метраў над узроўнем жыццёвага мора паранейшаму актыўна прапагандаваць дасягненні беларускага прыгожага пісьменства, у тым ліку нацыянальнага гарэцказнаўства, даследуючы невычэрпную мастацкую спадчыну класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. 24.01.2011. Міхась Мушынскі".*

Міхась Восіпавіч напісаў пра дасягненні 8-тысячнай горнай вяршыні не для таго, каб падкрэсліць свае поспехі і атрымаць ганаровую павагу, якую-небудзь узнагароду ці званне, каб пайсці на сумленна "зароблены" адпачынак. Наадварот, як чалавек поўнасцю апантаны навукай, ён быў шчаслівы, што яшчэ ў такія гады мае сілы працаваць над сваім самым любімым захапленнем – вывучэннем літаратуры, бо "класічная спадчына як абярэг нацыі".

Міхась Восіпавіч – чалавек надзвычайнага гумару і аптымізму, а таму і значны кладзеж анекдотаў, якія ў яго заўсёды гатовы да ўсялякай жыццёвай сітуацыі. Таму і тады ён у канцы нашай размовы пра яго юбілей, як гэта часта было, выдаў чарговы анекдот: "Адкрыты новы агульначалавечы закон: чым больш у чалавека юбілеяў, тым даўжэй ён жыве". Але пазней, калі мы пачалі адлічваць нашы 80-ыя гады, мы вымушаны былі згадзіцца з іншым больш сумным варыянтам гэтага анекдота: "Чым больш у чалавека хвароб, тым даўжэй ён жыве". З кожным годам нашы ранейшыя хваробы павялічваліся, ды яшчэ ліплі новыя. Таму мы падбадзёрвалі адзін аднаго, каб памятаць аб нашай дамове караскацца на новую вяршыню.

Як вядома, асабліва цеснае супрацоўніцтва і сяброўства ў нас завязалася пасля святкавання 100-годдзя Максіма Гарэцкага ў 1993 г. З таго часу рэгулярна пачалі праводзіцца "Гарэцкія чытанні", галоўным натхніцелем і кіраўніком якіх стаў Міхась Восіпавіч. У год яго юбілею былі праведзены XIX Гарэцкія чытанні (Мінск, 18 лютага 2011 г.), прысвечаныя праблеме выдання спадчыны братоў Гарэцкіх. Як звычайна, Міхась Мушынскі і я – старшыні пленарнага пасяджэння. М. Мушынскі зрабіў даклад "Падрыхтоўка поўнага збору твораў Максіма Гарэцкага: працяг размовы", а я – "Выданне навуковай спадчыны Гаўрылы Гарэцкага". На заклю-

чным пленарным пасяджэнні М. Мушынскі старшынстваваў і падводзіў вынікі дакладаў.

У канцы 2008 г. выйшла найбольш грунтоўная літаратуразнаўчая манаграфія “Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі. Жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага”, над якой Міхась Мушынскі працаваў шмат гадоў. Ён падараваў гэтую кнігу з прыемным для нас надпісам: *Дарагім Радзіму Гаўрылавічу і Галіне Рыгораўне – з нязменнай павагай і захапленнем іхняй нястомнай, самаадданай працай па захаванні, вывучэнні і прапагандзе літаратурна-мастацкай і навуковай спадчыны волатаў зямлі беларускай Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх – ад прыхільнікаў іх самабытнага таленту і даследчыкаў творчасці – ад Міхася Мушынскага, Тамары Мушынскай і Дзяніса Марціновіча. 09.01.2009*.

На вялікі жаль, Міхась Восіпавіч на XX Гарэцкіх чытаннях (Мінск, 14 чэрвеня 2012 г.) не змог быць, бо захварэў, перанёс аперацыю.

У 2013 годзе – 120-годдзе з дня нараджэння Максіма Гарэцкага, таму ўжо 6 лютага дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры наша слаўная Лідзія Вітальеўна Макарэвіч сабрала галоўных арганізатараў Гарэцкіх чытанняў, сярод якіх на нашу радасць зноў быў бадзёры, жартаўлівы, разумны Міхась Мушынскі. Кацярына Унучак (намеснік дырэктара Музея) сабрала 59 заявак на даклады. У тым жа парадку, як заўсёды, паспяхова і цікава 15 лютага 2013 г. адбыліся XXI Гарэцкія чытанні, якія ў тым жа годзе выйшлі з друку. М. Мушынскі зачытаў даклад “Канцэпцыя нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў у мастацкай і навуковай спадчыне Максіма Гарэцкага і ўспрыманне гэтай канцэпцыі ў заходнееўрапейскім моўным асяроддзі”, я паведаміў пра “Юбілеі Максіма Гарэцкага”.

У снежні 2013 г. мне споўнілася 85 гадоў, у сувязі з чым было надрукавана інфармацыйнае выданне ў серыі “Біябібліяграфія вучоных Беларусі” пра маю навуковую, навукова-арганізацыйную, педагагічную і грамадскую дзейнасць. З дапамогай ЗБС “Бацькаўшчына” выйшла ў свет мая кніга “Жыццёвы меланж: публіцыстычныя артыкулы, лірычныя замалёўкі, мініяцюры, эсе” (Мінск: Кнігазбор, 2013. – 648 с.). На наступны год да дня нараджэння Міхася Мушынскага (24.01.2014) я з прыемнасцю прэзентаваў яму гэтыя выданні.

Мы з Міхасём Восіпавічам рэгулярна тэлефанавалі адзін аднаму, нагадвалі нашу дамову пра тое, што трэба, нягледзячы на

хваробы, караскацца на новыя вышыні, і пільна працаваць па сваіх навуковых і навукова-арганізацыйных справах.

А тут набліжалася 100-годдзе пачатку Першай сусветнай вайны. Прыйшла думка выдаць спецыяльна да гэтага юбілею выдатны дакументальна-мастацкі твор Максіма Гарэцкага “На імперыялістычнай вайне”. Праз даўняга нашага знаёмага аднаго з кіраўнікоў выдавецтва “Беларуская навука” С.А. Нічыпаровіча задалося ўключыць яго ў план выданняў і ў 2014 г. кніга выйшла ў свет. Навуковым рэдактарам і аўтарам вялікай прадмовы стаў М.І. Мушынскі, укладанне і каментарыі зрабіла Т.С. Голуб, а таксама было адзначана, што “Выданне ініцыянавана акадэмікам Р.Г. Гарэцкім”. Кніга вельмі добра была сустрэта чытачамі і хутка разышлася.

XXII Гарэцкія чытанні (Мінск, 26 чэрвеня 2014 г.) былі прысвечаны 100-годдзю Першай і 75-годдзю Другой сусветных войнаў, але Міхася Мушынскага хваляваў сучасны стан і далейшае развіццё гарэцказнаўства, адным з галоўных заснавальнікаў якога ён быў, таму М.Мушынскі зрабіў цікавы даклад “Роздум пра заўтрашні дзень гарэцказнаўства”.

7-8 кастрычніка ў НАН Беларусі прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя “Першая сусветная вайна ў народнай памяці і мастацкім адлюстраванні”, урачыстае адкрыццё якой правялі намеснік старшыні СМ РБ А.А. Тозік і старшыня Прэзідыума НАН Беларусі У.Р. Гусакоў. Выступілі паслы Расіі, Сербіі, Велікабрытаніі, Польшчы, Кітая, консул Румыніі і першы сакратар Пасольства ЗША. На пленарным пасяджэнні доктар філалагічных навук Міхась Тычына зрабіў грунтоўны даклад “Народ і вайна: адлюстраванне Першай сусветнай вайны ў беларускай літаратуры”, у якім досыць значны час пасвяціў дзейнасці Максіма Гарэцкага і яго твору “На імперыялістычнай вайне”.

У другую палову дня адбылося адкрыццё кніжнай выставы “Літаратура і дакументальныя матэрыялы аб Першай сусветнай вайне ў фондах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі”, на якой былі прадстаўлены шматлікія матэрыялы ў выглядзе некаторых дакументаў, газет і галоўным чынам кніжнай літаратуры, у тым ліку і прац Максіма Гарэцкага розных гадоў.

Пасля выстаўкі прайшла “Прэзентацыя выдання кнігі ўдзельніка вайны Максіма Гарэцкага “На імперыялістычнай вайне”, якую вяла загадчык аддзела сацыякультурнай і інфармацыйнай дзейнасці

ЦНБ імя Якуба Коласа Вольга Панаціна. Спачатку быў паказаны змястоўны фільм пра жыццё і дзейнасць Максіма Гарэцкага вытворчасці ЦНБ, а затым выступілі Міхась Мушынскі, Радзім Гарэцкі, Уладзімір Гніламёдаў, галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская навука" Георгій Кісялёў і Тэрэза Голуб.

Шмат добрых слоў я пачуў пра свайго дарагога дзядзьку Максіма.

XXIII Гарэцкія чытанні (Мінск, 17 красавіка 2015 г.) былі прысвечаны 115-годдзю з дня нараджэння Гаўрылы Гарэцкага і 95-годдзю першага выдання "Гісторыі беларускай літаратуры" Максіма Гарэцкага. Як звычайна, пленарнае пасяджэнне вялі Міхась Мушынскі і Радзім Гарэцкі. М. Мушынскі зрабіў даклад "Нарыс М. Гарэцкага "Маладняк" за 5 гадоў: 1923–1928": як падступ да <Гісторыі беларускай літаратуры новага часу>, Р. Гарэцкі – "Гаўрыла Гарэцкі – выхавальнік сыноў".

2016 год – юбілейны для М.В. Мушынскага: новая "вяршыня" – 85-гадовая. З кіраўніцтвам Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры я абмеркаваў, як адзначыць гэтую выдатную падзею, тым больш, што яна пасля сустрэчы Новага Года хутка набліжалася. Але Міхась Восіпавіч нешта кепска сябе адчуваў, я 24.I. павіншаваў яго і дамовіўся ў бліжэйшы час сустрэцца і абмеркаваць пытанне пра юбілей. Але сустрэча не адбылася… 15 сакавіка мне Міхась Восіпавіч сам патэлефанаваў і паведаміў, што дрэнны стан яго здароўя прывёў да зусім кепскай сітуацыі: павінны былі тэрмінова выклікаць хуткую дапамогу, адвесці ў Лечкамісію, дзе адразу зрабілі аперацыю, якая працягвалася не менш трох гадзін. Ён ужо больш тыдня ляжаў на 5-м паверсе бальніцы ў хірургіі, прычым вельмі прасіў яго не наведваць. Цяпер яму ўжо лепш, пачаў патроху хадзіць, але, мусіць, яшчэ даволі доўга прыйдзецца прабыць у бальніцы. Абяцаў перыядычна тэлефанаваць.

Распрацоўка тэматыкі XXIV Гарэцкіх чытанняў (Мінск, 16 чэрвеня 2016 г.) адбылася з удзелам М. Мушынскага, але, на вялікі жаль, яны прайшлі ў яго адсутнасці. Чытанні былі прысвечаны 95-годдзю з дня нараджэння Галіны Максімаўны Гарэцкай і 50-годдзю вяртання на Беларусь Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага. Тым не менш Міхась Восіпавіч падрыхтаваў цікавы даклад "Некалькі штрыхоў да гісторыі майго ліставання з Галінай Максімаўнай Гарэцкай", які закончыў важнай фразай на будучыню: "Публікацыя наступных лістоў Галіны Максімаўны, якая адносіцца да 1994–2006 года, чакае сваёй чаргі". Я паведаміў пра гісторыю пакутлівага звароту

майго бацькі на Бацькаўшчыну, аб чым ён марыў усё жыццё, а змог ажыццявіць толькі праз 50 гадоў.

М. Мушынскі ў кастрычніку 2016 г. пачаў працаваць у Акадэміі без аплаты, але папрасіў, каб пакінулі яму яго маленькі пакойчык, што задалося.

У сярэдзіне студзеня 2017 года мне патэлефанавала Кацярына Унучак, каб параіцца пра правядзенне XXV Гарэцкіх чытанняў. Перад гэтым улады Беларусі абвесцілі 2017 год "Годам навукі". Таму я адразу прапанаваў галоўную тэму "Браты Гарэцкія – навукоўцы". Аргкамітэт дамовіліся сабраць у лютым, а чытанні правесці ў чэрвені. Патэлефанаваў Міхасю Мушынскаму, Вользе Губскай, Тамары Тарасавай – усе прынцыпова згадзіліся з тэматыкай і тэрмінамі. У гэты час паведаміла Кацярына Унучак, што прызначылі новага дырэктара музея – Дзмітрыя Лявонавіча Яцкевіча, а Лідзію Макарэвіч – спачатку загадчыкам фонда музея Вялікай айчыннай вайны, а пазней – загадчыкам архіва Вялікага тэатра оперы і балета.

1 лютага ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры сабраўся Аргкамітэт XXV Гарэцкіх чытанняў пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Яцкевіча разам з большасцю былых арганізатараў: Міхасём Мушынскім, Міхасём Кенькам, Вольгай Губскай, Кацярынай Унучак і Радзімам Гарэцкім. Яцкевіч унёс значную смуту сваімі даволі катэгарычнымі прапановамі: сур'ёзна пашырыць склад аргкамітэта, правесці чытанні не толькі ў Мінску, але працягнуць іх у Магілёве, наведаць Багацькаўку, Мсціслаў, а з часам пашырыць разгляд жыцця і творчасці не толькі Гарэцкіх, але і іншых пісьменнікаў і г.д. Разгарнуліся спрэчкі. У выніку вырашылі XXV Гарэцкія чытанні ў мінулым стыле правесці ў Мінску 22 чэрвеня 2017 г. (хаця я нагадваў, што ў гэты дзень звычайна адзначаем дзень смерці Васіля Быкава), а на наступны дзень працягнуць канферэнцыю ў выглядзе "Круглага стала", прысвечаную музеефікацыі літаратурных мясцін (у Магілёве).

З Міхасём Восіпавічам, які адчуваў сябе не вельмі бадзёрым, мы перыядычна тэлефанавалі адзін аднаму, а то і сустракаліся ў яго невялічкім кабінеціку ў НАН Беларусі. Ён пры кожнай магчымасці імкнуўся прыйсці сюды, каб працягнуць працу над шматлікімі навуковымі артыкуламі, думкі і новыя напрамкі якіх ніколі не канчаліся і выклікалі ў яго душы прыемнае задавальненне і нават, як і раней, асалоду. 4 сакавіка 2017 года мы сустрэліся на XVII з'ездзе Саюза беларускіх пісьменнікаў у вялікай зале Палаца мас-

тацтваў.

XXV Гарэцкія чытанні (Мінск, 22 чэрвеня 2017 г.) былі прысвечаны літаратурна-мастацкай і навуковай дзейнасці братоў Гарэцкіх. У канцы кастрычніка гэтага ж года задалося выдаць Матэрыялы чытанняў, якія я з задавальненнем ўжо у пачатку лістапада перадаў Міхасю Мушынскаму. У XXV Гарэцкіх чытаннях Міхась Мушынскі пачаў размову з такога пытання: “А ці не прыйшла пара распавесці ў навуковым асяроддзі гаворку наконт стварэння “Гісторыі дынастый славутых беларускіх дзеячоў культуры і навукі”. Ён свой даклад назваў “Максім і Гаўрыла Гарэцкія як выдатныя прадстаўнікі слыннай дынастыі ў гісторыі беларускай культуры і навукі”. Я зрабіў даклад “Гаўрыла Гарэцкі – эканаміст і геолаг”.

З 26 жніўня да 11 верасня 2017 г. былі з Галяй у Нарвегіі. Адразу 12 верасня пазваніў Міхасю Восіпавічу і пачуў ад яго сумныя весткі, што ён ляжаў у бальніцы, дзе зрабілі сур’ёзную аперацыю, цяпер ужо тыдзень знаходзіцца ў хаце, з цяжкасцю адыходзіць, вучыцца хадзіць і нават мае ў баку спецыяльны выхад ад мачавога пузыра. Як мог, я падбадзёрваў хворага сябра.

21 лістапада 2017 г. Дз. Яцкевіч сабраў у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры Аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенню XXVI Гарэцкіх чытанняў, прысвечаных 125-годдзю з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. На вялікі жаль, з намі Міхась Восіпавіч прысутнічаць не мог, што адзначылі ўсе прысутныя і прасілі мяне патэлефанаваць яму і расказаць пра наша пасяджэнне (гэта я збіраўся зрабіць і сам). Мушынскі зноў рэзка выказаўся супраць старых прапаноў дырэктара Музея пашырыць аргкамітэт чытанняў, разгляду не толькі жыцця і творчасці братоў Гарэцкіх, а разам з імі іншых пісьменнікаў. Трэба пашыраць і развіваць больш глыбока гарэцказнаўства.

У пачатку 2018 года Аргкамітэт запланаваў 27 лютага адкрыць у Музеі гісторыі літаратуры выстаўку, прысвечаную 125-годдзю з дня нараджэння Максіма Гарэцкага, якую падрыхтавала Паліна Саўген; XXVI Гарэцкія чытанні правесці 19 красавіка 2018 г. Міхась Восіпавіч ухваліў нашу праграму і нагадаў, што абавязкова неабходна больш сур’ёзна і неадкладна ўзнавіць працу па стварэнні капітальнай манаграфіі “Летапіс жыцця і творчасці Максіма Гарэцкага”, першае асобнае выданне якой было выдана да 100-годдзя пісьменніка (1993 г.) і падрыхтавана Таццянай Дасаевай.

Выстаўку “Ахвярую сваім “Я”…”адкрыў Дзмітры Яцкевіч. Алег Вінярскі прачытаў урыўкі з твора “На імперыялістычнай вайне” (ён разам з Кастусём Антановічам рыхтуюць да юбілею пісьменніка новую аўдыёкампазіцыю). Выступілі Таццяна Дасаева, Тамара Тарасава, Тэрэза Голуб, Таіса Грамадчанка, Таццяна Якубоўская, Вольга Губская, Вячаслаў Рагойша, Радзім Гарэцкі (я падкрэсліў важную задачу ў гарэцказнаўстве, якую паставіў Міхась Мушынскі, і нагадаў, што прыкладам такой манаграфіі можа быць яго кніга пра Якуба Коласа).

Паліна Саўген пазнаёміла з экспазіцыяй, якая ўсім спадабалася. Усе прысутныя паслалі калектыўнае прывітанне Міхасю Мушынскаму.

8 чэрвеня 2018 г. Міхась Восіпавіч Мушынскі пайшоў у іншы свет.

19 ліпеня (на сорак дзён пасля смерці Міхася Мушынскага) у Музеі Якуба Коласа сабраліся шматлікія яго сябры, каб падзяліцца журбой пра цяжкую страту выдатнага вучонага, настаўніка, цудоўнага чалавека. Пра вялізарную яго ролю ў коласазнаўстве і правядзенні “коласавінаў” выказалася Зінаіда Камароўская. Далей сустрэчу вяла Таццяна Мушынская. Шмат добрых слоў і цікавых успамінаў прагучала ад былых і сучасных супрацоўнікаў Інстытута літаратуразнаўства, унучак Якуба Коласа Марыі і Веры Міцкевіч, кіраўнікоў Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў А.І. Лакоткі, А.А. Кавалені і інш. Я ў сваім слове выказаў думку пра стварэнне зборніка ўспамінаў, што ўжо падтрымаў дырэктар Інстытута І.В. Саверчанка, а затым і кіраўнікі Аддзялення.

*2018*

## Клопат пра геалагічныя навукі

Нагадаю, што геалагічныя гавукі ў АН Беларусі атрымалі знішчальны разгром у час кіраўніцтва акадэміяй М.У. Мясніковічам, калі Інстытут геахіміі і геафізікі і іншыя геалагічныя ўстановы былі перададзены Міністэрству прыроды разам з іх памяшканнямі, у тым ліку і будынак Інстытута, апрача аднаго блока. Сучаснае кіраўніцтва НАН Беларусі поўнасцю перадало будынак, а некалькі пакояў, у тым ліку і для членаў акадэміі, Інстытут прыродакарыстання здымае ў арэнду. Значны час у Беларусі зусім не было інстытутаў геалагічнага профілю. Толькі ў кастрычніку 2016 года Міністр прыродных рэсурсаў і аховы

навакольнага асяроддзя А.М. Каўхута, перад сваім звальненнем, паспеў выдаць пастанову аб стварэнні Інстытута геалогіі – філіяла “Навукова-вытворчага цэнтра па геалогіі” (“НВЦ па геалогіі”). Улічваючы яго галоўнае прызначэнне, больш правільна трэба было б назваць яго Інстытутам мінеральнай сыравіны, аб чым і была такая дамоўленасць у час сустрэчы Міністра А.М. Каўхуты і старшыні Прэзідыума НАН Беларусі У.Г. Гусакова.

10 кастрычніка 2017 года новым Міністрам прыроды быў прызначаны Андрэй Пятровіч Худык – спецыяліст, далёкі ад геалогіі, і ён стварыў Навуковы савет з прадстаўнікоў розных напрамкаў геалагічных навук (у тым ліку і нашага Інстытута на чале з дырэктарам А.К. Карабанавым), на якім уважліва абмяркоўваў шматлікія геалагічныя праблемы Беларусі.

У пачатку наступнага года А.П. Худык намеціў правесці ў зале “НВЦ па геалогіі” Калегію Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя РБ па пытанні “Аб стане, праблемах і перспектывах развіцця мінеральна-сыравіннай базы Рэспублікі Беларусь”. Да гэтай важнай падзеі пачалі сур’ёзны рамонт унутры будынка, асабліва капітальна галоўнага блока, дзе знаходзіцца дырэкцыя, уся адміністрацыя і зала. Добра аднавілі падлогу, адштукатурылі і пафарбавалі сценкі. Шкада, што са сценак быў зняты шэраг неабходных матэрыялаў, якія віселі яшчэ з часоў Інстытута геахіміі і геафізікі: фотаздымкі лаурэатаў Дзяржаўных і іншых прэмій, пераможцаў конкурсаў лепшых навуковых прац, Тэктанічная карта Беларусі, Міжнародная тэктанічная карта Еўропы і інш. Новы гаспадар вырашыў упрыгожыць і тэрыторыю перад уваходам у будынак “НВЦ па геалогіі”: зрабілі некалькі газонаў з кветкамі, а таксама пасадзілі, пакуль што невысокія, кусцікі туй, а ў пачатку дарогі з яе левага боку змясцілі дошку з надпісам: *Данная аллея туй была посажена при участии Министра природных ресурсов и охраны окружающей среды Худыка А.П. 21.04.2018*.

Пасля даволі працяглага рамонта, у час якога некалькі разоў пераносіўся тэрмін правядзення калегіі, у пачатку чэрвеня 2018 г. У.Г. Гусакоў атрымаў ліст за подпісам Міністра прыроды А.П. Худыка з просьбай накіраваць на пасяджэнне калегіі (15 чэрвеня 2018 г. у $10^{\underline{00}}$) наступных прадстаўнікоў НАН Беларусі:

– *Зам. Председателя Президиума НАН Беларуси Килина Сергея Яковлевича;*

– *Зам. Акад.-секретаря Отделения химии и наук о Земле НАН*

*Беларуси Левашкевича Владимира Георгиевича;*

*– Директора ГНУ "Институт природопользования НАН Беларуси" Карабанова Александра Кирилловича;*

*– Главного науч. сотр. ГНУ "Институт природопользования НАН Беларуси" Айзберга Романа Ефимовича;*

*– Главного науч. сотр. ГНУ "Институт природопользования НАН Беларуси" Гарецкого Радима Гавриловича;*

*– Главного науч. сотр. ГНУ "Институт природопользования НАН Беларуси" Матвеева Алексея Васильевича;*

*– Зав. лабораторией ГНУ "Институт природопользования НАН Беларуси" Грибика Ярослава Гавриловича;*

*– Зав. лабораторией ГНУ "Институт природопользования НАН Беларуси" Жогло Василия Гавриловича.*

У.Г. Гусакоў на пісьме зрабіў візу: "Полагаю, что всех «очень возрастных» приглашать не надо. Пригласите вместо них 4-х руководителей Центров". Дзеля выканання віза прызначалася намесніку старшыні Прэзідыума НАН Беларусі А.В. Сукала, які курыраваў навукі аб Зямлі, акад.-сакратару Аддзялення хіміі і навук аб Зямлі С.А. Усанаву і А.К. Карабанаву. "Клопат" аб геалагічных навуках і мінеральных рэсурсах і наогул "мудрагелістасць" кіраўніка НАН Беларусі ўсіх здзівіла: было ясна, што пад яго арыгінальнае паняцце "очень возрастных" трапляюць тры члены НАН Беларусі, узрост якіх ужо больш 80 гадоў (Р. Айзберг, Р. Гарэцкі, А. Мацвееў), хаця менавіта яны з'яўляюцца найбольш вядомымі спецыялістамі ў пытаннях, якія разглядаюцца на калегіі. Таму А. Худык, хаця і новы Міністр, персанальна папрасіў нас прыняць удзел у калегіі, тым больш, што некаторыя з нас былі ў складзе Навуковага савета Мінпрыроды. Усе кіраўнікі Цэнтраў (апрача А. Карабанава) не маюць ніякага дачынення да азначаных пытанняў. Мы, якім кіраўнік НАН Беларусі даў мянушку "очень возрастных" не пакрыўдзіліся за яе, бо мы і без яго ведалі свой салідны ўзрост, а вось яго адносіны да нас з боку навуковага, проста абразілі. Р. Айзберг вырашыў не хадзіць на калегію, А. Мацвееў быў яшчэ апошні дзень на бюлетні па хваробе і таму таксама не быў на пасяджэнні, а я пайшоў, бо выконваць відавочна абсурдны загад нават ад самага высокага начальства я заўсёды лічыў, мякка кажучы, "не разумным" і не абавязковым.

Калегія была карысная: былі заслуханы 5 дакладаў кіруючых прадстаўнікоў галоўных арганізацый, дзе вядуцца працы па разглядаемых праблемах, у тым ліку і дырэктара нашага інстытута

А.К. Карабанава. Ён улічыў многія пытанні, якія прапанавала ўся наша група. Важна, што шэраг з іх былі прыняты ў рашэнні калегіі (у тым ліку фінансаванне, геалагічная здымка – асабліва буйнамаштабная, прыборная база, кернасховы, кадравыя праблемы). Міністр А. Худык спачатку разгледзеў усе агульныя пытанні, у якіх былі зацікаўлены ўсе запрошаныя, а праблемы "НВЦ па геалогіі" і яго філіяла – Інстытута геалогіі перанёс на пасляабедзенны час. Але калі А.К. Карабанаў і прадстаўнікі нашай групы пачалі прыходзіць на гэтую частку нарады, ён даволі цвёрда выказаўся, што нам прысутнічаць не абавязкова, бо тут праблема "унутраная, толькі нашая". Яна для нас была як раз вельмі цікавая, бо тут разглядаўся стан менавіта геалагічных навук. Як потым даведаліся, Міністр шмат крытыкаваў працу "НВЦ па геалогіі" і ў рашэнні было адзначана, што за 5 месяцаў 2018 г. яго праца прызнаецца нездавальняючай.

*2018*

**Выдатны віленскі беларус, мой сябар Хведар Нюнька**

Хведар Нюнька, поўнасцю адданы Беларушчыне, зрабіў найбольш вялікі ўклад у захаванне, пашырэнне і прапаганду беларускасці ў Літве. Светлы, дабразычлівы, з адкрытым сэрцам да людзей, гасцінны, усмешлівы, з прыгожым тварам і ясным поглядам шэрых вачэй, акуратнай сівой бародкай і вусікамі, заўсёды добра апрануты, невысокага росту, але падцягнуты, стромкі, ён адразу спадабаўся мне, калі мы разам займаліся стварэннем ЗБС "Бацькаўшчына", і пазней, у час майго ўдзелу ў мерапрыемствах Таварыства беларускай культуры (ТБК) у Літве, у вытокаў якога стаяў Хведар Нюнька і якое ўзначальваў дваццаць пяць гадоў. Прыемна было бачыць яго такім энергічным, нястомленым, поўным новых ідэй, цвёрдым у сваіх грамадзянскіх пазіцыях, гатовым адгукнуцца на падтрымку самых розных патрэбных спраў не толькі ў Літве, але і ў іншых краінах. Усё, што ён зрабіў, цяжка пералічыць, дастаткова нагадаць усталяванне больш дзесяці шыльдаў беларускім дзеячам, шэраг помнікаў на могілках Росы, назвы вуліц, працу беларускай гімназіі, выданне шэрагу беларускіх кніг і інш. Хведар Нюнька прыватызаваў сядзібу ТБК, а пазней атрымаў пляцоўку (12 сотак) для Цэнтра культуры Якуба Коласа (тут раней быў дом сям'і жонкі паэта – Марыі Дзмітрыеўны).

Я асабліва ўдзячны яму за ўшанаванне памяці Максіма

Гарэцкага і яго лепшай вучаніцы Першай віленскай беларускай гімназіі Наталлі Арсенневай (мой дзядзька дапамог ёй стаць выдатнейшай беларускай паэтэсай), мемарыяльныя дошкі якіх, дзякуючы намаганням Хведара, усталяваны побач з уваходам у былы будынак гімназіі.

Мне давялося ўдзельнічаць у пяці Канферэнцыях беларусаў Балтыі, якія ТБК правялі ў Вільні, а таксама ў іншых мерапрыемствах ТБК. Таму я разам з маім сябрам, выдатным гісторыкам Анатолем Грыцкевічам, былі прыняты ў ганаровыя члены ТБК.

Хведар Нюнька карыстаўся вялікай павагай як у літоўцаў і ўладаў Літвы (важна, што дасканала ведаў літоўскую мову), так і ў шырокага кола ўсіх беларусаў. Ён – выдатны беларускі адраджэнец Літвы, спадкаемца многіх віленскіх адраджэнцаў мінулага стагоддзя. Для беларускай справы ён гатоў быў аддаць усё. Я ведаю, што каб утрымліваць сядзібу ТБК і добра праводзіць іншыя мерапрыемствы, укладаў свае асабістыя фінансы і нават браў крэдыт і залажыў сваю кватэру. Калі я прыязджаў у Вільню, звычайна з маёй жонкай Галяй, мы спыняліся ў кватэры гасціннага Хведара, а калі ён у Менск – у нас. Часта мы сядзелі доўга за поўнач, бо не маглі скончыць размовы пра нашы справы. У Хведара была вельмі слаўная беларускамоўная сям'я – дачка, сын і ўнукі. Я ўспамінаю, што ў першыя гады майго прыезду ў Вільню, Хведар Нюнька быў у вялікім смутку, бо яго жонка вельмі цяжка і доўга хварэла і ўжо не магла сама ўставаць, і з часам памерла. Для яго гэта была трагедыя, бо між імі было сапраўднае моцнае каханне. Ён на ўсё далейшае жыццё застаўся верны ёй, а на сцяне ў зале кватэры вісеў яе партрэт, з якога на яго і на нас глядзела прыгожая жанчына, а на пісьмовым стале стаяў яе мармуровы бюст. Мы з ім некалькі разоў ездзілі на могілкі Росы, дзе укладалі кветкі ля яе помніка.

Бадзёрым Хведара я сустракаў яшчэ ў 2016–2017 гадах.

26-27 сакавіка 2016 года Хведар Нюнька, які ў той час быў старшынёй Культурнага цэнтра Якуба Коласа ў Вільні, запрасіў групу сваіх сяброў адзначыць свята 25 сакавіка 1918 года – дзень абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Гэта вялікае для ўсіх беларусаў Свята Волі мы вельмі ўрачыста з уздымам правялі ў Беларускім доме правоў чалавека імя Барыса Звозскага. Тады ж вырашылі стварыць Аргкамітэт па святкаванні 100-годдзя БНР. Старшынёй абралі Радзіма Гарэцкага, намеснікам – Марыю Міцкевіч, сябрамі – Лявона Баршчэўскага, Алену Анісім,

Алега Трусава, Міколу Люцко, Алену Макоўскую, Ніну Шыдлоўскую і інш; з Літвы – Алега Аблажэя, Хведара Нюньку, Леакадыю Мілаш.

Па розных прычынах Аргкамітэт больш сістэматычна пачаў працаваць толькі ў канцы 2016 і ў 2017 годзе.

15-16 ліпеня 2017 года ў Менску ў Міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёганаса Рау прайшоў VII з’езд беларусаў свету ЗБС "Бацькаўшчына", галоўная тэма якога: "Беларуская нацыя, беларуская дзяржаўнасць, беларускае замежжа – вынікі сучаснасці і стратэгія развіцця". Сюды задалося прыехаць і Хведару Нюньку, якому на значны час быў забаронены ўезд у Беларусь. Тут мы вялі шмат размоў пра нашы справы.

6 красавіка 2018 года я пазваніў Хведару, каб павіншаваць з 90-годдзем нашага сябра, але адказала Крысціна і паведаміла, што ён на гадзінку пайшоў прагуляцца, і падцвердзіла, што святкаванне юбілею адбудзецца 14 красавіка ў рэстаране, які знаходзіцца недалёка ад іх дома. Яшчэ раней дачка Хведара Нюнькі Ніна паведаміла Алене Макоўскай, што для нас траіх (Галя і я сабраліся з Міколам Люцко на машыне прыехаць на юбілей) заказаны апартаменты на дзве ночы (13.IV – прыезд, 14.IV – святкаванне, 15.IV – ад’езд у Менск). Там жа знаходзіцца і рэстаран. Хведар жа, на жаль, кепска сябе адчувае, бо зваліўся і вельмі саслабеў. Каб яго даглядаць, да яго прыехала Крысціна і дапамагае яму. 13 красавіка раніцою мы выехалі з Менску і без якіх-небудзь ускладненняў (нават на мяжы Беларусі і Літвы) у другой палове дня былі ў Вільні, пасяліліся ў апартаментах і ўвечары пайшлі да Нюнькі (зусім недалёка адсюль). Нам адчыніла дзверы Крысціна, а за ёй і Хведар – абняліся і былі рады нашай сустрэчы. Добра пагаманілі, павячэралі. Хведар, праўда, моцна здаў, не быў ужо такім бадзёрым, як заўсёды. Шкадаваў, што вымушаны быў пасяліць нас не ў сваёй кватэры, як звычайна.

На наступны дзень у $13^{\underline{00}}$ адзначалі 90-годдзе Хведара Нюнькі. Прыйшло шмат гасцей з Вільні (у тым ліку і прадстаўнікі віленскіх улад), а таксама многія прыехалі з Беларусі, Польшчы, Латвіі. Кіравала святкаваннем дачка Ніна, вельмі ўдала па-майстэрску, як і раней 85-годдзем. Было шмат добрых віншаванняў, падарункаў, адзначалі шматлікія дасягненні Нюнькі, за якія выказвалі ўдзячнасць. Хведар стараўся быць бадзёрым, але выглядаў стомленым, у вачах быў сум, і мне здалося, што гэта – развітанне. Тым не менш, як і раней, добра глытаў чарку за чаркай. З сумам

абняліся, развіталіся, пажадалі трымацца і быць здаравейшымі.

Пазней мы ў гэты дзень і палову наступнага павандравалі па Вільне, наведалі памятныя месцы Максіма Гарэцкага і іншых беларускіх адраджэнцаў і ўвечары дабраліся дахаты.

У самым пачатку траўня, а потым і пазней некалькі разоў званіў Хведару Нюньку, але нехта падыходзіў да тэлефону і тут жа адключаў яго. Так адбывалася даволі доўга і я вырашыў, што Хведар не хоча, каб яго турбавалі. Ніхто з ЗБС "Бацькаўшчына" і інш. не ведалі, у чым справа. 13 жніўня я ўзяў адпачынак і вырашыў паехаць у "Лечкамісію", якую перавялі ў новы будынак у Ждановічах, каб атрымаць кансультацыю ў уролага па маіх старых хваробах, якія мяне пачалі трохі турбаваць. 15 жніўня мяне паклалі там у бальніцу на невялікую аперацыю. У той жа дзень па мабільніку мне паведамілі, што 15 жніўня памёр Хведар Нюнька. Алена Макоўская сказала, што ёй пазваніла дачка Хведара Ніна і патлумачыла, што хутка пасля юбілею яе Тата выйшаў з хаты і проста тут жа зваліўся, пабіў галаву, атрымаў некалькі пераломаў, страціў прытомнасць. Яго адвезлі дахаты і там ён пад наглядам Крысціны так і ляжаў, пакуль не памёр (таму мне ніхто і не адказваў на званкі). Пахаванне намечана на 17 жніўня. На жаль, толькі Генадзь Вінярскі змог прысутнічаць на пахаванні. ЗБС "Бацькаўшчына" і інш. паслалі свае спачуванні. Рыхтуюць бюлетэнь "Беларусы ў свеце", прысвечаны памяці Хведара Нюнькі. Я таксама напісаў гэты кароткі ўспамін. Беларускае грамадства панесла вялікую страту. Але імя вялікага беларускага адраджэнца заўсёды застанецца ў гісторыі Беларусі. Няхай пухам будзе Віленская наша зямля Хведару, а для нас Вільня без Хведара Нюнькі ўжо зусім іншая Вільня.

*2018*

**Помнік паэту па яго жаданні**

Для Ніла Сымонавіча Гілевіча самым галоўным у жыцці былі бязмерная адданасць Бацькаўшчыне і вялікае каханне да любай жанчыны Ніны. Адыход яе ў іншы свет быў для Ніла страшэнным ударам, ад якога ён ужо ніколі не мог адысці. Яна жыла ў сэрцы паэта і нават у тым свеце ён быў з ёй:

*Да астатку дзён*
*Па самы апошні ўздых,*

*На гэтай зямлі*
*Ты – светач душы маёй.*
*І там будзеш ім, і там…*

Таму Ніл Сымонавіч загадаў пахаваць сябе побач з Нінай Іванаўнай, што яго родныя і сябры зрабілі 1 красавіка 2016 года на Кальварыйскіх могілках.

Для Ніла Гілевіча ў значнай ступені сімвалам роднай беларускай зямлі былі валуны, якія ўплывалі на фарміраванне духоўнага міру беларускага народа. Ён пісаў:

*Дзе па роднай зямлі ні крочыў –*
*Скрозь – ад Прыпяці да Дзвіны –*
*Перш за ўсё мне ласкалі вочы*
*Жыта, сосны і валуны.*
*…………………………………..*
*І па самай высокай мерцы*
*Мне ўжо ясна, што да труны*
*Данясу я няшмат у сэрцы:*
*Жыта, сосны і валуны…*

У апошні год жыцця Ніл Сымонавіч папрасіў сына паставіць на яго магілку помнік з валуна і нават намаляваў, як ён павінен выглядаць. Праз некаторы час Сяргей Нілавіч пазваніў мне, каб я дапамог выканаць жаданне бацькі. Мы некалькі разоў сустракаліся па гэтаму пытанню. Я далучыў В.Ф. Вінакурава, які раней шмат гадоў займаўся зборам валуноў для нашага музея і таму ведаў месцы, дзе іх можна знайсці. Мы нават збіраліся з'ездзіць у шэраг месцаў, якія знаходзяцца бліжэй да радзімы паэта – Лагойшчыны, але не атрымоўвалася з машынай. Я неяк Сяргею Нілавічу сказаў, што галоўным чалавекам, які павінен выбраць патрэбны валун, павінен быць не геолаг, а скульптар – будучы аўтар помніка і прапанаваў запрасіць знаёмых мастакоў, з якімі я ўжо меў падобную справу (Валер Янушкевіч, Алесь Шатэрнік). Сяргей Гілевіч паступіў вельмі разумна: ён звярнуўся да мастака і паэта, старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгора Сітніцы, каб той параіў скульптара. Такім беларускім скульптарам стаў Ігар Засімовіч, які раней ужо выконваў помнік Касцюшку. Пошукі валуна скончыліся ўдала, тым больш, што ён быў адабраны з валуноў, якія знаходзяцца зусім блізка ад месца, дзе некалі жыў будучы народны паэт Беларусі і хутчэй за ўсё нават наведваў той куток

Лагойшчыны.

20 лістапада 2018 года мне пазваніў Сяргей Нілавіч і паведаміў, што 23 лістапада, у пятніцу у $13^{\underline{00}}$ будзе адкрыццё помніка Нілу Гілевічу. У гэтыя дні Міхась Скобла, як карэспандэнт "Народнай Волі", хацеў убачыцца са мной, каб пагаманіць у сувязі з маім 90-годдзем. Ён збіраўся паехаць і на адкрыццё помніка, таму захапіў мяне і Галю, прычым гэты дзень супаў з днём нараджэння Скоблы, якому споўнілася 52 гады. Паказаўшы маё пасведчанне інваліда 2-ой групы, мы змаглі праехаць да могілак Гілевічаў. Дзень выдаўся вельмі халодны з даволі моцным ветрам, але ўсё роўна прыйшло шмат дзесяткаў чалавек. Убачылі шмат знаёмых твараў, не менш і незнаёмых, прыемна было наглядаць значную колькасць моладзі, сярод якіх і ліцэістаў незалежнага Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Коласа, з прыемнасцю сустрэліся з шматлікімі родзічамі Ніла Сымонавіча, у тым ліку братам Міколам Гілем, сястрой Святланай, пляменніцамі і інш.

Сяргей Гілевіч і Ігар Засімовіч разрэзалі стужку, упала покрыўная тканіна і адкрыўся помнік – валун авальнай формы, з адным крутапакатым бокам і адшліфаваным другім, на якім выбіты з нахілам подпіс "Ніл Гілевіч", а пад ім гарызантальны напіс "Ніл Гілевіч 30.IX.1931 – 29.III.2016". У групе моладзі ўверсе залунаў бел-чырвона-белы сцяг.

Урачыстую цырымонію распачаў старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, які прыгадаў вялікія заслугі Ніла Гілевіча перад Беларуссю і падзяліўся асабістымі ўспамінамі пра апошнія гады жыцця паэта. Як старэйшы сябра паэта, слова атрымаў акадэмік Радзім Гарэцкі, які распавёў не толькі пра ўніверсальнасць асобы Ніла Гілевіча ў літаратуры, культуры, навуцы, адукацыі і нязломнасць яго духу, але і пра яго вядомую дзяржаўную і грамадскую дзейнасць, а таксама нагадаў, што адным з лепшых яго помнікаў будзе "Нацыянальны ўніверсітэт імя Ніла Гілевіча", пра сітуацыю з якім распавёў яго выконваючы абавязкі рэктара Алег Трусаў. Прыгожа і натхнёна пра народнага паэта Беларусі сказалі старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца і намеснік старшыні Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Валер Герасімаў. Шмат добрых слоў і цікавых успамінаў прагучала ад даўняга найлепшага сябра паэта Анатоля Вярцінскага, а таксама ад пісьменнікаў Сяргея Законнікава, Міхася Скоблы, Уладзіміра Арлова і многіх іншых.

Напрыканцы ўрачыстасці Сяргей Гілевіч шчыра падзякаваў

усім, хто прыйшоў пакланіцца і ўспомніць народнага паэта Беларусі.

*2018*

### Нам разам ужо 160 гадоў (ці новы юбілейны выбух “Стральцоў”)

5 гадоў з 2013 прамільгнулі, як 5 дзён. Пра той час я змог прачытаць у сваёй кнізе “Апантаны Бацькаўшчынай. Жыццёвы меланж – два” (“Кнігазбор”, 2018), у якой ёсць раздзел “Юбілейны выбух <Стральцоў>”. Вось тады я зразумеў, што недарма я прыдумаў новы літаратурны жанр – “жыццёвы меланж”, які мне шмат разоў хацелася кінуць, бо надакучыла пісаць і часу не хапала, але мае некаторыя чытачы і сябры, асабліва Галіна Тварановіч, Лідзія Савік, Анатоль Вярцінскі і інш. патрабавалі працягу.

У 2018 годзе юбілеі “Стральцоў” былі больш сумныя. Праўда, 70 гадоў Галі (5.XII), якая выглядала прыгожай і нашмат маладзейшай, і асабліва мае 90 (7.XII), якія здараюцца не так часта, ды яшчэ ў такім даволі бадзёрым стане, – выклікалі значную цікавасць, бо ў такія сумарныя 160 гадоў большасць знаёмых усё яшчэ бачаць іх разам шчырымі і закаханымі адзін у аднаго.

На жаль, у той жа кнізе мне давялося ў раздзеле “Маркотны пачатак вясны” напісаць, як у сонечны святочны дзень 8 сакавіка 2014 года пайшла з жыцця заснавальніца беларускай этнамузыкалогіі, вядомы славіст і беларусіст Зінаіда Якаўлеўна Мажэйка, якой зусім нядаўна (6 снежня 2013 г.) адзначылі 80-годдзе. 6 снежня 2018 г. 85-годдзе З.Я. Мажэйкі адзначылі ўжо без выдатнай беларускай дзеячкі і цудоўнай слаўнай нашай сяброўкі, імя якой назаўсёды застанецца ў памяці беларускай навукі і культуры.

***

8 снежня 2018 г. споўнілася 100 гадоў акадэміку Аляксандру Сямёнавічу Махначу, які пакінуў нас назаўсёды 7 кастрычніка 2006 года. Гэты слаўны юбілей быў адзначаны 21-22 лістапада 2018 г. правядзеннем Міжнароднай навуковай канферэнцыі “Праблемы геалогіі Беларусі і сумежных тэрыторый”.

***

11 снежня 2018 г. споўнілася 75 гадоў матушцы Раісе, якая ўзначальвае Бабруйскі жаночы манастыр, з якой мы даўно па-

сябравалі, і яна часта заязджала да нас на сваёй службовай машыне. У апошнія гады яна моцна хварэла, ёй рабілі некалькі разоў аперацыю, і мы перыядычна тэлефанавалі адзін аднаму. Матушка Раіса нечакана павіншавала з юбілеямі Галю і мяне і паведаміла, што толькі нядаўна вярнулася з бальніцы, дзе ёй змянілі кардыёстымулятар і пры гэтым ледзь не памерла, цяпер ляжыць у сваім манастырскім пакоі і нават не бярэ мабільнік, таму мы не маглі датэлефанавацца да яе. Але ёй ужо лепш і яна ўдзельнічае ў службах і моліцца, у тым ліку і за нас. Мы яе таксама сардэчна павіншавалі і шчыра пажадалі добрага здароўя.

***

15 снежня 2018 г. Станіславу Станіслававічу Шушкевічу (яшчэ аднаму "Стральцу") споўнілася 84 гады. Пра яго я пісаў у кнізе "Жыццёвы меланж" (Мінск: Кнігазбор, 2013) – "Славуты палітык", калі яму адзначалі 75-годдзе. Ён шырока вядомы ў свеце як адзін з тых трох "белавежскіх зубраў", якія 7-8 снежня 1991 г. канстатавалі і падпісалі "Белавежскае пагадненне аб развале СССР і стварэнні садружнасці незалежных дзяржаў – СНД". Ён тады стаў першым кіраўніком новай незалежнай парламенцкай краіны Еўропы – Рэспублікі Беларусь. Пры ім адбылася кароткая па часе, але вельмі важная хваля руху нацыянальнага Адраджэння (С. Шушкевіч звычайна выступаў на добрай беларускай мове, а пры неабходнасці і на чыстай рускай). Мае бацькі, а пазней і я, сябравалі з бацькам кіраўніка нашай дзяржавы – пісьменнікам Станіславам Пятровічам Шушкевічам, які быў двойчы рэпрэсаваны, высланы ў Сібір, дзе прабыў 20 гадоў, працаваў лесарубам і ў геалагічных экспедыцыях, і толькі ў 1956 г. вярнуўся ў Беларусь. С.С. Шушкевіча, як прарэктара БДУ, народнага дэпутута СССР, а з 1996 г. і члена-карэспандэнта АН БССР, я добра ведаў, а пазней, калі я працаваў разам са сваімі калегамі-кіраўнікамі АН Беларусі, мы пасябравалі. На сустрэчы на пасяджэнні Малай Рады МГА "ЗБС Бацькаўшчына" як члены Рады мы сустрэліся з С. Шушкевічам, які падараваў сваю новую кнігу "Моя жизнь, крушение и воскрешение СССР. 25 лет спустя" (Дніпро: "Середняк Т.К.", 2018 – 499 с.) з такім аўтографам:

*Маім дарагім Галіне Рыгораўне і Радзіму Гаўрылавічу з дабразычлівасцю. С. Шушкевіч. 5.XII.2018, "Офіс" Бацькаўшчыны, Менск.*

***

16 снежня 2018 г. Эдуарду Агуновічу споўнілася 80 гадоў, а 18 снежня ён у сваёй майстэрні адзначыў гэты слаўны юбілей разам з сябрамі: мастакамі, дэпутатам нацыянальнага сходу РБ і яго калегамі, рэчыцкімі прадстаўнікамі, кіраўнікамі "БФК" Т.І. Стрыжэцкім і А.І. Бутэвічам, а таксама са мной і Галяй. Сярод землякоў прысутнічала рэчыцкая прыгажуня Ірына Дар'іна, якая прывезла газету "Дняпровец" (№ 145 ад 15 снежня 2018 года), у якой надрукавала свой вялікі артыкул "Эдуард Агунович. С любовью к Речице через годы и расстояния", прычым на першай старонцы змешчаны добры каляровы здымак выдатнага мастака, а на старонках 4-5 – падрабязныя звесткі пра яго жыццё і творчасць з шэрагам каляровых здымкаў. Эдуард Агуновіч – чалавек складанага лёсу: па маці быў з таленавітага роду Смяянаў, дзіця вайны, які пазнаў усе цяжкасці налёту нямецкіх самалётаў, эвакуацыі, хвароб і смерці брацікаў, гібелі бацькі на фронце. У яго памяці кругасветная вандроўка на цеплаходзе "Пётр Машэраў" з наведваннем больш сарака партоў розных краін і г.д. Яго таленавітая творчасць выклікае захапленне сваёй разнастайнасцю, плённасцю, шчырай любоўю да Беларусі і асабліва да роднага кута – дарагой Рэчыцы, Прыдняпроўя. Ён працуе ў вельмі шырокай палітры: кніжнай і станкавай графіцы, акварэлі, мастацкім афармленні музеяў, выставак, спяктакляў. За афармленне музея М. Багдановіча ў Мінску Агуновіч атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі (1993). Пералік яго шматлікіх прац, узнагарод, званняў, грамадскіх пасад патрабуе шмат старонак.

Пералічу толькі яго выдатныя працы. Я вельмі ўдзячны за яго афармленне шэрагу з'ездаў беларусаў свету, асабліва Першага з'езда (1993 г.), да якога ён зрабіў лагатып і харугву ў выяве Ефрасінні Полацкай – галоўны сімвал ЗБС "Бацькаўшчына. Агуновіч і я – даўнія члены "БФК", па ініцыятыве сучаснага кіраўніка якога – Уладзіміра Гілепа, яшчэ ў 1991 годзе 40 прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі падпісалі зварот аб перазахаванні праху Максіма Багдановіча з Ялты ў Беларусь. На 75-годдзе Гілепа (11.III.2013 г.) юбіляр уручыў дырэктару музея Таццяне Шэляговіч гэты дакумент, прычым сярод падпісантаў назваў А. Вярцінскага, Э. Агуновіча і Р. Гарэцкага, якія прысутнічалі на вечары і ўжо забыліся пра гэта. Успомніліся розныя паездкі з Эдуардам і асабліва цікавай была вандроўка на Беласточчыну, у Гайнаўскі музей беларускай культуры, у афармленні якога Агуновіч прымаў

удзел. З вялікай любоўю ён зрабіў шэраг помнікаў у сваёй роднай Рэчыцы. Я разам з Агуновічам прысутнічаў на святкаванні здабычы 100-мільённай тоны нафты ў Прыпяцкім прагіне (1998 г.), які праходзіў менавіта ў Рэчыцы, дзе было найбольш багатае радовішча нафты. Эдуард Канстанцінавіч тады працаваў над помнікам беларускім нафтавікам, і я яму дапамагаў парадамі як геолаг-нафтавік. У знак падзякі ён падараваў мне выяву Капліцы Ефрасінні Полацкай, зробленай на дэкарацыйна-мастацкім камбінаце. Мая Галя і я, як і ўсе, хто прыходзіць да нас у кватэру, перш -наперш бачаць гэтую карціну і адчуваюць супакаенне і радасць жыцця. У родным горадзе мастак паставіў помнік воінам-інтэрнацыяналістам.

У сувязі з 80-годдзем з дня нараджэння Э. Агуновіч быў узнагароджаны Ганаровай граматай Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь; Медалём "За заслуги 1 степени Белорусского союза ветеранов войны в Афганистане"; Граматай Паўла – мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага; Медалём гомельскай епархіі Беларускай праваслаўнай царквы. Шматлікія прысутныя паднеслі юбіляру розныя падарункі, вітальныя адрасы, а "БФК" – Ганаровую грамату.

Апошні "стралецкі" юбілей 19 снежня 2013 года адзначыў Валерый Васільевіч Стралко, якому тады споўнілася 75 гадоў, аб чым я напісаў у сваёй апошняй кнізе "Апантаны Бацькаўшчынай" (2018). Украінец з Чарнігаўшчыны, ён шырока вядомы як таленавіты перакладчык паэзіі з усходнеславянскіх моў і аўтар арыгінальных вершаў на ўкраінскай і беларускай мовах. Дзякуючы Стралко найбольш выдатныя творы беларускіх, украінскіх і рускіх творцаў сталі вядомымі на мовах суседніх краін. Ён быў амаль аднначасова прыняты ў Нацыянальны саюз пісьменнікаў Украіны і Саюз беларускіх пісьменнікаў, адзначаны літаратурнымі прэміямі. 20 снежня 2013 года Саюз беларускіх пісьменнікаў і ЗБС "Бацькаўшчына" наладзіў сустрэчу Валерыя Васільевіча з яго сябрамі.

Тады да яго юбілею выйшла з друку мая кніга "Жыццёвы меланж", якую я з добрымі пажаданнямі ўручыў юбіляру. У гэтай кнізе я напісаў пра наша сяброўства і сустрэчы на розных вечарынах, прынамсі ў Амбасадзе Украіны. Так, 30 студзеня 2009 г. адбылася прэзентацыя кнігі Валерыя Стралка "Трыяда славянскай паэзіі" (Київ: Кніга, 2008. – 246 с.). У кнігу вельмі ўдала ўключаны найбольш выдатныя творы паэтаў-класікаў Украіны, Беларусі і Расіі, якія прыведзены на трох мовах. Кніга зрабіла вялікае ўражанне, бо пераклады зроблены так выдатна, што ў

кожным вершы захаваўся не толькі сэнс, але і рытм, мілагучнасць, эмоцыі, прычым перададзены тонкасці і нюансы самых розных маштабаў. На маё 80-годдзе Валерый Стралко падараваў мне сваю кнігу "Трыяда славянскай паэзіі" з надпісам *Шаноўны Радзім Гаўрылавіч! Няхай класікі дапамагаюць Вам дажыць шчасліва да 180! З вялізнай павагай. Валер Стралко. 07.12.2008.*

20 траўня 2011 года Валерый Васільевіч запрасіў мяне на фільм "Невядомы Шаўчэнка", які стварылі ўкраінскія майстры кіно. У пасольстве Украіны, якое ўжо ўзначальваў новы пасол, вельмі сімпатычны Раман Бяссмертны, сабралася поўная зала. Мы ўбачылі невядомыя і малавядомыя старонкі нялёгкага і складанага жыцця і творчасці маладога Тараса Шаўчэнкі, яго часам трагічнае сталенне як паэта і мастака. 3 сакавіка 2017 года давялося быць на сустрэчы з Уладзімірам Даніленкам, адным з лепшых празаікаў – майстроў апавядання ў сучаснай Украіне, дзе была прэзентацыя яго кнігі "Клетка для Івалгі: раман, аповесць, апавяданні" (Мінск: Кнігазбор, 2016 – 360с. – Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка", вып. 72). Пераклад В. Стралко і Б. Пятровіча. Сустрэча і сама кніга зрабілі вялікае ўражанне.

Апошнія некалькі гадоў Валеру Стралко прыходзілася вельмі складана, бо цяжка хварэла яго каханая жоначка Раіса Савельеўна (ажаніліся ў студзені 1961 г.), якая 1 снежня 2017 года памерла. Для Стралко гэта быў жудасны ўдар, які перажыць яму было проста немагчыма. 19 снежня 2018 года я па мабільніку пазваніў Валерыю Васільевічу, каб павіншаваць з 80-годдзем… Ён ляжаў зусім хворы, ледзь гаварыў, мяне не мог успомніць. На віншаванне і пытанне пра здароўе адказаў: "Зусім кепска… Дзякую"[2].

***

Адыходзяць мае "Стральцы" – старыя сябры, але прыходзяць новыя, сярод якіх Андрэй Каўхута, мой вучань, былы Міністр прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя (25 лістапада 2018 г. – 58 гадоў).

Міхась Скобла (нарадзіўся 23 лістапада 1966 года, у 2018 г. споўнілася 52 гады) – сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў, аўтар шматлікіх паэтычных кніг, фундаментальных паэтычных анталo-

[2] У "Народнай Волі" ад 26.03.2019 з вялікім сумам прачытаў: "На 81-м годзе жыцця не стала перакладчыка Валерыя Стралко".

гій, публіцыст, выдатны шматгранны дзеяч на шляху нацыянальнага Адраджэння. У адказ на маю кнігу “Апантаны Бацькаўшчынай. Жыццёвы меланж – два” ён падараваў мне кнігу “Саркафагі страху” з такім аўтографам: *Шаноўнаму Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму, адна размова з якім – як прышчэпка ад страху. Дзякуй Вам за Вашу мужнасць, за Вашы кнігі. Хай жыццёвы меланж не заканчваецца – гэта спажытак для маёй чытацкай душы. Міх. Скобла. 23.11.2018 г.*

Самы малады “Стралец” (нараджэнне 8 снежня) – Вольга Губская, якая 14 снежня 2012 г. на філалагічным факультэце БДУ выдатна абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму “Раман М. Гарэцкага “Віленскія камунары” ў кантэксце беларускай прозы 1920–1930-х гг.: жанравае наватарства”. Яшчэ з 2010 г. В. Губская як аспірант пачала рабіць даклады на XVIII–XX Гарэцкіх чытаннях на тэму рамана “Віленскія камунары”, а на XXI Гарэцкіх чытаннях ужо пасля абароны дысертацыі выступіла на пленарным (15 лютага 2013 г.) пасяджэнні з канчатковым дакладам “Раман Максіма Гарэцкага “Віленскія камунары”. З таго часу яна засяроджана на вывучэнні жыцця і творчасці Максіма Гарэцкага, актыўна ўдзельнічае ў якасці сябра Аргкамітэта і дакладчыка ў “Гарэцкіх чытаннях” (XXII–XXVI). Вольга Губская – загадчык кафедры беларускай і рускай моваў факультэта міжнародных бізнес-камунікацый Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта і пачала працаваць над доктарскай дысертацыяй.

***

З набліжэннем нашых юбілеяў стала вядома, што ў Інстытуце прыродакарыстання не 7 снежня, як меркавалася, а 11 снежня адбудзецца Вучоны савет, прысвечаны 90-годдзю Р.Г. Гарэцкага. Справа ў тым, што 7–8 снежня дырэктар Інстытута А.К. Карабанаў быў уключаны ў склад дэлегацыі на чале з старшынёй Прэзідыума НАН Беларусі У.А. Гусаковым для святкавання 100-годдзя НАН Украіны і яе прэзідэнта Б.Я. Патона. Нацыянальная бібліятэка Беларусі і Беларускі Фонд Культуры зрабілі запрашэнне. 13 снежня 2018 г., а 16 гадзіне на творчую вечарыну “Апантаны Бацькаўшчынай”, прысвечаную 90-годдзю акадэміка НАН Беларусі Радзіма Гаўрылавіча Гарэцкага ў галерэі “Лабірынт”, 3-ці паверх”. Галя, каб добра завяршыць юбілейныя сустрэчы нармальнымі фуршэтамі, правяла велізарную працу па набыццю смачнай ежы і самых розных напояў.

**Пачатак юбілеяў.** Слухаем тэлефоны (хатнія і мабільныя) – віншаванні ад родных, знаёмых. Асабліва прыемны ласкавы голас Алёнкі Анашынай і яе дачкі Машы з Масквы – асабістае віншаванне Галі. Увечары 5 снежня пасяджэнне Малой Рады, на якім Алена Макоўская зрабіла справаздачу аб дзейнасці ЗБС “Бацькаўшчына” за 2018 г., а Ніна Шыдлоўская паведаміла аб правядзенні Вялікай Рады. Затым яны і члены Рады павіншавалі мяне і Галю з юбілеем, уручылі падарункі, кветкі, адрас, і ўсе перайшлі за святочны стол, дзе быў прыгатаваны фуршэт. Шчырыя добрыя словы і абдымкі расчулілі нас. Ніна, вясёлая, лагодная, пад цікавую агульную гамонку, на сваёй новай машыне нас і Леаніда Лыча развезла па кватэрах. Я, як кіроўца з вялікім стажам і сведка пачатку ваджэння Ніны, з прыемнасцю адзначыў упэўненасць і дакладнае выкананне правіл руху нашым сімпатычным кіроўцам. Адразу хочацца адзначыць, што сярод разнастайнай аранжарэі кветак, якія нам былі падараваны за ўвесь час святкаванняў, букет дарагіх дзяўчат трымаўся свежым і прыгожым з 5 снежня больш за 25 дзён – аж да Новага Года.

6 снежня ў $17^{\underline{00}}$ у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася прэзентацыя аўдыёкампазіцыі да 125-годдзя з дня нараджэння пісьменніка: “Максім Гарэцкі. Дыямант у пабітым шкле. Споведзь разняволенай душы”. Я ўжо раней быў знаёмы з гэтым новым выдатным творам галоўных аўтараў – Алега Вінярскага (кампазіцыя, рэжысёр, мастацкае чытанне) і Кастуся Антановіча (кампазіцыя, кіраўнік праекта), якія яшчэ 2 кастрычніка прыходзілі да мяне на працу з гатовым дыскам і падаравалі мне яго з аўтографам: *Дарагому Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму ў знак удзячнасці і любві. 2.10.18 г. А. Вінярскі, К. Антановіч*. Падмуркам дыска стала аповесць М. Гарэцкага “Ціхая плынь”, гучанне якой займае 5 гадзін $44^{\underline{40}}$ хвілін. А. Вінярскі чытае меншыя па гучанні творы: тры – Янкі Купалы і чатыры – М. Гарэцкага (“У лазні”, “Роднае карэнне”, “Старое замчышча”, “Габрыелевы прысады”). Вельмі задашліва ў пачатку, а пазней у завяршэнні дыска кладуцца на душу ў цудоўным выкананні гурта “Калыханка” творы адмыслова запісаныя для праекта паводле кнігі “М. Гарэцкі і А. Ягораў. Народныя песні з мелодыямі. Менск, 1928”, аб чым я некалі папрасіў аўтараў аўдыёкампазіцыі. Чытанне А. Вінярскага робіць яшчэ большае ўражанне ў сувязі з удалым музычным афармленнем Л. Сваціккавай і І. Псыгіна. Я тады, у кастрычніку, праслухаў значную частку аўдыёкампазіцыі і як дзесяць гадоў таму ад першай

аўдыёкнігі “На імперыялістычнай вайне” зноў быў у захапленні.

Залу музея запоўнілі шматлікія слухачы, наперш усе аглядалі выстаўку пра жыццё і творчасць Максіма Гарэцкага, а перад ёй – галоўныя стваральнікі дыска – Алег Вінярскі і Кастусь Антановіч паведамілі пра доўгі шлях працы і пра ўсіх удзельнікаў, некаторыя з іх прысутнічалі. Далей выступіла Тэрэза Голуб, а Паліна Саўген зноў каротка нагадала матэрыялы выстаўкі. Вінярскі разам са скульптарам уручыў барэльеф М. Гарэцкага намесніку дырэктара музея Настассі Кальцовай. Некалькі разоў адбываліся добрыя музычна-тэатральныя выступленні артыстаў самадзейнай групы з Вілейкі, дзе раней у доме культуры праходзіла выстаўка з удзелам яе стваральніцы Паліны Саўген і прэзентацыяй аўдыёкампазіцыі да 125-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага, з якой пазнаёмілі Алег Вінярскі і Кастусь Антановіч. Цікавае слова прамовіў Анатоль Бутэвіч, а Анатоль Вярцінскі вельмі выразна прачытаў два сваіх вершы, прысвечаныя Максіму, Гаўрыле і Радзіму Гарэцкім. Заключныя словы сказалі Вольга Гулева і Настасся Кальцова. Шмат прысутных набылі дыск. Затым многія перайшлі ў суседні пакой, дзе быў багаты фуршэт з рознай беларускай стравай. Тут было яшчэ шмат прамоў з падзякай за выдатную аўдыёкампазіцыю. На працягу ўсёй сустрэчы Галя і я атрымалі шчырыя віншаванні з нашымі юбілеямі.

7 снежня ледзь паспеў паснедаць, як хатні і мабільны тэлефоны пачалі (асабліва ў першую палову дня) бесперапынна гукаць да сябе – я не чакаў такога, бо адбылося больш за сто віншаванняў, ды каля 20 – ужо 8 снежня. Вельмі прыемна было пачуць галасы з Нарвегіі ад родных Угляніцаў, з Масквы (уся сям’я Анашыных – Алёнка, Марыя, Валодзя; калегі з ГІНа – Валя Уткіна, Мікалай Чамаў, Міхась Анціпаў, мой даўні вучань і супрацоўнік Аляксандр Корж); Санкт-Пецербурга (сям’я нядаўна памерлага Валянціна Тэадарчука – Надзея і Кірыл); Кіева (Україна) – А.К. Карабанаў разам з дырэктарам Інстытута геахіміі, мінералогіі і рудаўтварэння імя Н.П. Семяненка акад. А.Н. Панамарэнкам, дырэктарам Інстытута геалагічных навук акад. П.Ф. Гожыкам, дырэктарам Інстытута геаграфіі акад. Л.Р. Рудэнка; Швецыя (Святлана Багданава і Расціслаў Гарбачоў); ФРГ (Давід Гарбар, Валер’ян Кіслік); ЗША (Вітаўт Кіпель, Сяргей Навумчык і Івонка Сурвіла); Канада (Міхась Кенька). З Бельску патэлефанавала і прыслала нам ліст Галіна Тварановіч, якая ад сябе і Яна Чыквіна павіншавала нас і спытала пра часопіс “Тэрмапілы”, а мы якраз яго атрымалі (№ 22, 2018). З

вялікай удзячнасцю прачыталі “Ад усёй душы сардэчнае віншаванне…” ад сяброў “Белавежы”, а таксама з маім “Жыццёвым меланжам 2017–2018”. Шмат добра знаёмых і часткова ўжо забытых, але мне вельмі прыемных галасоў прагучала са шчырымі віншаваннямі з самых розных месц Беларусі.

Адначасова прыйшло 20 віншаванняў па камп’ютару і пошце, галоўным чынам з Беларусі (у тым ліку ад Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў – г. Дзяржынск; музея Якуба Коласа; ТБМ; ЗБС “Бацькаўшчына”; Горацкага раённага гісторыка-этнаграфічнага музея; Беларускага Дзяржаўнага архіў-музея літаратуры і мастацтва; Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы – Міхася Пінігіна і Вольгі Бабковай; Дженіфер Мур – паверанай у справах Злучаных Штатаў у Рэспубліцы Беларусь), а таксама з Украіны (акадэмікаў П. Гожыка, А. Лукіна – Інстытут геалагічных навук НАН Украіны; М. Арлюка  і І. Пашкевіч – аддзел геалмагнетызма Інстытута геафізікі НАН Украіны).

***

11 снежня а $14^{\underline{00}}$ у Інстытуце прыродакарыстання адбыўся Вучоны савет, прысвечаны 90-годдзю акадэміка Р.Г. Гарэцкага. Папярэдне А.І. Сарокін (наш намеснік дырэктара па гаспадарцы, раней ён разам са мной працаваў у Прэзідыуме АН БССР) прывёў у парадак вялікую залу, а Люда, Наташа і асабліва маладыя хлопцы з нашай лабараторыі (Артур, Сяргей і Павел) пад кіраўніцтвам маёй жонкі Галіны падрыхтавалі ўсё да фуршэту ў малой зале (дзе звычайна бывае наш вучоны савет). Мяне ў кабінеце дырэктара ўжо чакалі першыя госці, якія ад імя Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта (БДТУ) уручылі прыгожы адрас са сваімі подпісамі: рэктар І.В. Войтаў, першы прарэктар А.Р. Цыганаў і дырэктар Міжнароднага цэнтра новых матэрыялаў і інвацыйных тэхналогій БДТУ С.А. Мамчык. Усе мы разам з А.К. Карабанавым добра пагаманілі, адзначылі наша супрацоўніцтва і яшчэ раз шчыра павіншаваўшы мяне, яны ад’ехалі, бо іх чакалі на іншай важнай сустрэчы.

Вялікая зала, якая ўмяшчае 200 чалавек, была амаль цалкам запоўнена, як знаёмымі, так і незнаёмымі людзьмі, прычым даволі шматлікімі маладымі. У Прэзідыуме пасярэдзіне стала пасадзілі мяне, злева побач сядзеў намеснік Старшыні Прэзідыума НАН Беларусі, наш куратар Аляксандр Васільевіч Сукала, за ім – першы намеснік Старшыні Сяргей Антонавіч Чыжык, галоўны вучоны

сакратар НАН Беларусі Аляксандр Уладзіміравіч Кільчэўскі, а справа ад мяне – акадэмік-сакратар Аддзялення хіміі і навук аб Зямлі Сяргей Аляксандравіч Усанаў і дырэктар Інстытута прыродакарыстання Аляксандр Кірылавіч Карабанаў. На экране, які павесілі амаль над нашымі галовамі, з'явілася прэзентацыя ленты пра маё жыццё і дзейнасць (нам гэта бачна і ў ноутбуку на стале). Толькі А. Карабанаў пачаў адкрываць Вучоны савет, як нехта крыкнуў: “Чаму жанчын з кіраўніцтва Акадэміі (яны сядзелі перад намі ў першым радзе) не пасадзілі ў Прэзідыум?” Карабанаў замітусіўся, каб выканаць такую прапанову. Убачыўшы, што ў нас за сталом месцаў няма і такая працэдура зойме шмат часу, я пажартаваў: “Мы спецыяльна зрабілі так, каб нам, мужчынам у Прэзідыуме, можна было бачыць нашых самых прыгожых жанчын Апарата НАН Беларусі!” Усе засмяяліся і далей усё пайшло нармальна. Я даўно ведаў і працаваў з гэтымі сапраўднымі прыгажунямі – Наталляй Мікалаеўнай Аляксандравай (начальнік Упраўлення кадраў і кадравай палітыкі) і Наталляй Міхайлаўнай Ліцвінка (намеснік галоўнага вучонага сакратара), якія з мілай усмешкай засталіся сядзець на сваіх месцах з вялікімі букетамі кветак.

Калі А. Карабанаў знаёміў прысутных з жыццём і дзейнасцю юбіляра і ўсе ўважліва глядзелі прэзентацыю, я некалькі разоў нешта тлумачыў на беларускай мове. Першы слова меў С.А. Чыжык, які таксама пачаў размаўляць па-беларуску, пасля чаго ўся сустрэча прайшла на абедзвюх мовах. Ад імя Прэзідыума НАН Беларусі ён зачытаў адрас за подпісам У.Р. Гусакова, які ўручыў мне, і тут жа падаў пасведчанне № 36 аб тым, што “Гарэцкі Радзім Гаўрылавіч узнагароджаны нагрудным знакам “Залаты медаль Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі” “За вялікі ўклад у развіццё навукі”. С.А. Чыжык прыкалоў мне медаль, Н.М. Аляксандрава падала букет кветак – усе віншуюць. Далей выступіў А.У. Кільчэўскі. А. Карабанаў каротка пералічыў адрасы, якія прыйшлі ў Інстытут, у тым ліку ад Аддзялення навук аб Зямлі Расійскай акадэміі навук за подпісам акадэміка-сакратара акадэміка РАН А.О. Гліко; Аддзялення навук аб Зямлі НАН Украіны і Інстытута геахіміі, мінералогіі і рудаўтварэння імя Н.П. Семяненка за подпісам акадэміка-сакратара і дырэктара ІГМР акадэміка А.Н. Панамарэнка; Інстытута геалагічных навук НАН Украіны (дырэктар акадэмік П.Ф. Гожык); Інстытута глебазнаўства і аграхіміі НАН Беларусі (дырэктар акадэмік В.В. Лапа); кафедры беларускай і рускай моў Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадачай акадэміі (г.

Горкі) і інш.

Ад імя Аддзялення хіміі і навук аб Зямлі юбіляра павіншаваў акадэмік-сакратар С.А. Усанаў, да якога далучыліся генеральны дырэктар аб’яднання “Хімічныя прадукты і тэхналогіі” М.П. Круцько, дырэктар Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі А.І. Кулак і дырэктар Інстытута хіміі новых матэрыялаў У.Я. Агабекаў. Апошні ўручыў мне адрас, а таксама прыгожы медаль залацістага колеру “90 лет с юбилеем”, праз галаву павесіў мне яго на грудзі і з гонарам падкрэсліў, што я атрымліваю ўжо трэці медаль (папярэднія – “80 лет” і “85 лет”). Я не толькі выказваў сваю падзяку тым, хто мяне віншаваў, але, каб было трошкі цікавей і весялей, каротка расказваў пра наша знаёмства і ўспамінаў што-небудзь незвычайнае. Я ўзгадаў, што яшчэ ў 1948 годзе студэнтам быў на вытворчай практыцы ў Грозным і любіў рабіць прагулку на рэчку Нефцянку на ўскраіне горада і часта сустракаўся там з васьмігадовым хлопчыкам, вельмі падобным да Уладзіміра Янокавіча – калі гэта так, дык наша знаёмства і сяброўства цягнецца ўжо 70 гадоў. Наконт трох медалёў я пажартаваў: “Чым больш медалёў ад Агабекава, тым даўжэй жывеш!” З прыемнасцю слухаў віншаванне ад Цэнтра геафізічнага маніторынга НАН Беларусі, адрас ад якога зачытаў дырэктар Г.А. Аронаў, які змяніў на гэтай пасадзе бацьку Аркадзя Аронава (ураджэнец Оршы, шмат гадоў працаваў у Ташкенце, мне давялося прыняць яго на працу ў Інстытут геахіміі і геафізікі і разам аддаваць шмат энергіі па паляпшэнні гэтай установы); Аронаў-старэйшы сказаў добрыя словы, а Вера Філіпава, лепшая перакладчыца з ангельскай мовы, прыпаднесла прыгожы букет.

Выдатны беларускі геолаг-нафтавік і наш даўні сябар, які шмат гадоў таму пераехаў у Ленінград, дзе працуе ў адным з лепшых інстытутаў “ВНИГРИ” галоўным навуковым супрацоўнікам, доктар геол.-мін. навук, прафесар Уладзімір Мікалаевіч Макарэвіч хацеў прыехаць у Менск, аб чым папярэдзіў нашага загадчыка лабараторыі тэктонікі і геафізікі Яраслава Грыбіка. Макарэвіч таксама “Стралец” – ён нарадзіўся 7 снежня 1934 года ў Гомелі, і яму ўжо “стукнула” 84 гады. Ён прыехаць не змог, але прыслаў Грыбіку для мяне некаторыя дакументы да юбілею. Улічваючы, што я шмат гадоў супрацоўнічаў з “ВНИГРИ” у агульных праектах і іншай дзейнасці, мне паднеслі адрас з подпісамі дырэктара О.М. Прышчэпа і У.М. Макарэвіча. Апрача яго, Я. Грыбік мне перадаў ад “Российского геологического общества” “Удостоверение о

награждении медалью имени А.Е. Ферсмана «За заслуги в геологии»” і прымацаваў побач з папярэдняй. Ён перадаў ““Почётную грамоту Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды Республики Коми за большой вклад в развитие геологической науки и в связи с 90-летием со дня рождения” Министр Р.В. Полшведкин, г. Сыктывкар.”

Старшыня Навуковага савета Беларускага рэспубліканскага фонда фундаментальных даследаванняў акад. С.В. Гапоненка ўручыў мне ганаровую грамату “За вялікі асабісты ўклад у развіццё фундаментальнай навукі ў галіне тэктонікі і геадынамікі платформаў, стратыграфіі, літалогіі, палеагеаграфіі, геафізікі, геалогіі нафтавых, газавых карысных выкапняў, развіццё плённага міжнароднага навуковага супрацоўніцтва, актыўны ўдзел і паспяховае выкананне праектаў БРФФД”. Таксама атрымаў выдатны падарунак – фотальбом “Беларусь замкавая” з надпісам: “Паважанаму Радзіму Гаўрылавічу ў дзень 90-годдзя з найлепшымі пажаданнямі ад Беларускага дзяржаўнага фонда фундаментальных даследаванняў”.

Затым адбыліся віншаванні ад дарагіх мне геолагаў, галоўным чынам былых супрацоўнікаў Інстытута геахіміі і геафізікі, а цяпер Навукова-вытворчага цэнтра па геалогіі Мінпрыроды, якія ўручылі прыгожы Адрас са шчырымі словамі. За імі выступілі Алег Лукашоў і Алесь Санько з Адрасам ад імя кафедры рэгіянальнай геалогіі і ўсяго геаграфічнага факультэта БДУ, а таксама атрымаў віншаванне ад калектыву геолага-геаграфічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны (адрас падпісалі дэкан А.П. Гусеў і загадчык кафедры геалогіі і геаграфіі А.І. Паўлоўскі – былы наш супрацоўнік). З пасашком на трыбуну падняўся адзін са старэйшых геолагаў Беларусі Георгій Іванавіч Ількевіч, які шчыра павіншаваў, успомніў шматлікія нашы агульныя справы і падараваў бліскучы шматграннік, назваўшы яго “алмазам”, прычым удала пажартаваў, што ён з той “Лагойскай астраблемы”, у адкрыцці якой Ількевіч прымаў галоўны ўдзел. Прыемна было атрымаць віншаванне ад Інстытута эксперыментальнай батанікі – выступіў мой блізка знаёмы, зямляк Янкі Брыля акад. М.А. Ламан, а Адрас уручыў новы дырэктар інстытута А.В. Пугачэўскі. Адрас ад вытворчага аб’яднання “Беларуснефть”, які падпісаў генеральны дырэктар А.А. Ляхаў і яго намеснік па геалогіі П.П. Поўжык – ён і зачытаў віншаванне. Загадчык кафедры геаграфіі і прыродакарыстання Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта, самы малады член-карэспандэнт НАН Беларусі Максім Багдасараў

ад імя кафедры, а таксама ад сябе і бацькі, з якімі я даўно быў знаёмы, павіншаваў мяне і падараваў сваю кніжку “Янтарь и другие ископаемые смолы Евразии” (Брест: БрГУ, 2017. – 216 с.) з надпісам*: Дорогому Радиму Гавриловичу в день 90-летия с глубокой благодарностью, пожеланиями здоровья и благополучия! М.Богдасаров. 07.12.2018.*

Акадэмік Уладзімір Хрыпач (ІБОХ) падараваў цікавую кнігу “Хурсік Віктар.Vale! Кніга пра род і лёс Магдалены Іванаўны Радзівіл” (Мінск: Выд. В. Хурсік. – 286 с.), на якой зрабіў такі занадта перабольшаны надпіс: *Дорогому Радиму Гавриловичу – выдающемуся белорусскому учёному и общественному деятелю, писателю и, главное, замечательному Человеку, по случаю Большого Юбилея с выражением величайшего уважения и благодарности за дружбу и сотрудничество, с пожеланиями быть хранимым Судьбой к радости всех любящих Вас и гордящихся Вами современников – Владимир Хрипач. 11.12.2018 г.*

Перад выступленнем Ул. Хрыпача прыйшла з гітарай цудоўная беларуская спявачка Таццяна Грыневіч-Матафонава, якая адразу пасля яго выканала песню на словы М. Багдановіча і якую ўсе ўважліва слухалі і шчыра ёй апладзіравалі.

Знакаміты літаратуразнаўца – адзін з самых лепшых спецыялістаў па старажытнай літаратуры (у тым ліку і летапісаў), актыўны ўдзельнік цыкла “Скарына і беларуская культура (Дзяржаўная прэмія Беларусі), цалкам адданы беларушчыне – Вячаслаў Антонавіч Чамярыцкі перадаў для мяне сваю выдатную кнігу “Жыватворная спадчына: выбранае” (Мінск: Чатыры чвэрці, 2017. – 552 с.), з такім надпісам: *Глыбокапаважанаму, дарагому Радзіму Гарэцкаму, волату геалагічных навук і нацыянальнага Адраджэння, які сваёй нястомнай дзейнасцю спрыяе, каб беларускі народ хутчэй дайшоў да Беларусі, з пажаданнем – sto lat! Шчыра, зычліва, з удзячнасцю. В.Чамярыцкі. 7 снежня 2018 г.*

Для заключных афіцыйных віншаванняў Карабанаў даў слова супрацоўнікам нашага Інстытута. Першымі выступілі спецыялісты па торфу, іншых цвёрдых гаручых выкапняў, балот і сапрапеляў (М.М. Бамбалаў, Г.П. Броўка, А.Э. Томсан) пад кіраўніцтвам І.І. Ліштвана. Усіх выступоўцаў я слухаў стоячы, а тут, ведаючы, што Іван Іванавіч заўсёды размаўляе доўга, вырашыў сесці (і правільна прадбачыў). Ад нашых “тарфянікаў” атрымаў прыгожы падарункавы фотаальбом “Полацк 1150”, які важыў не менш 4 кг і які І. Ліштван з цяжкасцю хутчэй перакінуў мне. Са шчырымі вінша-

ваннямі выступіў Г.І. Каратаеў. Нашы кліматолагі і эколагі (В.С. Хоміч, Г.А. Камышэнка і інш.) на чале з В.Ф. Логінавым выступілі з добрымі словамі падзякі за супрацоўніцтва і падаравалі тры прыгожых карціны розных беларускіх краявідаў.

На другім паверсе нас чакаў вялікі стол са смачнай ежай, пітвом, шматлікімі тостамі, з цікавымі, другі раз зусім нечаканымі пажаданнямі, якія чаргаваліся з цудоўнымі беларускімі песнямі ў выкананні нашай прыгажуні Таццяны Грыневіч.

***

Нацыянальная бібліятэка Беларусі і Беларускі фонд культуры 13 снежня 2018 г. а 16 гадзіне правялі творчую вечарыну "Апантаны Бацькаўшчынай", прысвечаную 90-годдзю акадэміка Радзіма Гаўрылавіча Гарэцкага, якая адбылася ў галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі, а юбіляр з жонкай там жа запрасілі прысутных на фуршэт. Пасля таго, як намеснік старшыні "БФК" Анатоль Іванавіч Бутэвіч і я селі за невялікі столік, арганізатар выстаўкі кніг Р.Г. Гарэцкага Ірына Васільковіч пазнаёміла з удала зробленай экспазіцыяй, якая утрымлівала шэсць шафаў: 1 – літаратура пра юбіляра; 2 – кнігі Радзіма Гарэцкага пра братоў Максіма і Гаўрылу Гарэцкіх, а таксама пра яго навуковага настаўніка акадэміка А.Л. Яншына; 3 – кнігі юбіляра пра Беларусь, Адраджэнне, "Жыццёвы меланж" і інш.; 4 – матэрыялы "Гарэцкіх чытанняў", якіх адбылося ўжо 26; 5 – манаграфіі Р.Г. Гарэцкага па геалогіі ў час яго працы ў Беларусі; 6 – яго манаграфіі па геалогіі ў час працы ў Маскве. На выстаўцы былі размешчаны і больш 10 аўтографаў вядомых пісьменнікаў і геолагаў, якія я перадаў у бібліятэку. А. Бутэвіч больш падрабязна распавёў пра жыццёвы і навуковы шлях юбіляра, спасылаючыся на прэзентацыю ленты, якую пачалі паказваць на экране. Завяршыў выступленне віншаваннем не толькі мяне, але разам з маёй жонкай Галяй, якой 5 снежня споўнілася 70 гадоў. Далей да выступоўца далучыліся ўсе кіраўнікі "БФК", старшыня Т.І. Стружэцкі ўручыў мне Грамату "За шматгадовую плённую дзейнасць на ніве беларускай навукі і значны асабісты ўклад у захаванне культурнай спадчыны Бацькаўшчыны". У.А. Гілеп эмацыянальна павіншаваў мяне, успомніўшы наша супрацоўніцтва, і прачытаў прысвечаны юбіляру верш, прычым падкрэсліў, што гэта першы верш за ўсё яго доўгае жыццё. У адказ я павіншаваў усіх з з’яўленнем на Беларусі новага паэта. Стружэцкі ўзняў угару, каб было ўсім відна, прыгожую літаграфію

ў рамцы з выявай двух "стральцоў", якія з лукаў страляюць у нябёсы. Я з вялікай удзячнасцю ўручыў усім кіраўнікам "БФК" сваю кнігу "Апантаны Бацькаўшчынай".

Бутэвіч даў слова мне, каб я распавёў пра некаторыя моманты з майго жыцця, а ў канцы выступлення я перадаў намесніку дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі сваю кнігу з надпісам "З удзячнасцю за шматгранную дзейнасць на карысць Бацькаўшчыны". Народная артыстка Беларусі Таццяна Мархель, наша з Галяй даўняя сяброўка з унікальным талентам, праспявала адзін з варыянтаў песні "Кума мая, кумачка".

Шчырыя словы віншавання прамовілі ўнучкі Якуба Коласа – Марыя і Вера Міцкевіч. Як заўсёды вельмі эмацыянальна і ўзнёсла выступіў вядомы мастак і паэт старшыня Саюза беларускіх мастакоў Рыгор Сітніца, які падараваў багаты альбом "Виталий Цвирко. Живопись. Акварель" (Международная конференция союзов художников, Москва, 2015). Віншавальны Адрас уручыў старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч (Сачанка), цёплыя словы пажаданняў якога працягнуў Алесь Пашкевіч, які перадаў прыгожы букет. У адказ я ўспомніў, як я трапіў у СП і ролю ў гэтым Язэпа Янушкевіча, якога Анатоль Бутэвіч выклікаў да працягу ўспамінаў на тую тэму. Васіль Зуёнак зноў выказаў думку аб тым, што пачынаць пісаць вершы і стаць паэтам можна ў любым узросце (ён меў на ўвазе Уладзіміра Гілепа, якога наша грамадства прызнала новым паэтам Беларусі), таму выказаў цікавую магчымасць, што паэтам можа стаць юбіляр яшчэ больш сталага ўзросту і патлумачыў, што ў прозе Радзіма Гарэцкага адчуваецца шмат рыфмаў. Ён падараваў мне "престиж Блокнот" для будучых вершаў, а каб зрабіць пачатак – запісаў верш

**Школа**

*да 90-годдзя акадэміка Радзіма Гарэцкага*

Гэта факт: ёсць Гарэцкіх школа,
І Радзім – яе выхаванец, –
Летуценны шукальнік-геолаг
І ў пісьменніках не навабранец.

Як зямныя пласты перагортваў,
Як скараў таямніцы глыбіняў,

Так і кніг выпраўляў кагорту
На агляд Францыску Скарыне.

Не прывык кабінетна грэцца
У палоне вучонасці вузкай
Летапісец роду Гарэцкіх,
А тым самым – шляхоў беларускіх.

*Васіль Зуёнак*

Ніна Шыдлоўская з букетам чырвоных руж узгадала мой удзел у стварэнні ЗБС "Бацькаўшчына" і нашу агульную працу па з'яднанні ўсіх беларусаў свету. Кацярына Унучак ад імя Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры ўручыла мне Адрас з віншаваннямі і ўдзячнасцю за супрацоўніцтва, асабліва за плённую працу ў правядзенні "Гарэцкіх чытанняў". Адрас падпісаў новы дырэктар музея М.Л. Рыбакоў. Вельмі цікавым было выступленне Тэрэзы Голуб – лепшай даследчыцы спадчыны Максіма Гарэцкага. Ад Ганны Запартыкі атрымаў выдатны падарунак – кнігу Паўліны Мядзёлкі "Сцежкамі жыцця" (Мінск: Лімарыус, 2018. – 612 с.) з такім аўтографам: *Дарагім Галіне Рыгораўне і Радзіму Гаўрылавічу з прызнаннем вялікіх заслуг у справе захавання дакументальнай спадчыны Беларусі і ўдзячнасцю светлай памяці Ларысе Восіпаўне Гарэцкай, якая прыняла з рук Паўліны Мядзёлкі рукапіс яе ўспамінаў, каб праз многа гадоў яны знайшлі свайго чытача. З юбілейнымі віншаваннямі і пажаданнямі добрага здароўя. 13.12.2018. Г. Запартыка.*

З вялікім задавальненнем атрымаў ад намесніка дырэктара БДМАЛМ Наталлі Гардзіенка віншаванне ад маіх сяброў з ЗША:

*Радзіму Гарэцкаму на 90-годдзе*
*Дарагі шаноўны Радзім!*

*Мы, Вітаўт і Янка, крыху старэйшыя; а разам з намі й нашы маладзейшыя памочнікі, Надзя, Лявон, Наталля й Алеся, сардэчна вітаем Вас з Вашым вялікім юбілеем. Многія лета!*

*Падкрэсліваем, што завілістыя дарогі Вашага й нашага жыцця былі нягладкія, але ў думках мы заўсёды адчувалі падтрымку ад Беларусі, якая жыла, жыве й будзе жыць.*

*З найцяплейшымі пачуццямі й найлепшымі пажаданнямі дасылаем Вам букет.*

*Вітаўт Кіпель і Янка Запруднік, а таксама Надзя Запруднік,*

*Алеся Кіпель, Лявон Юрэвіч і Наталля Гардзіенка.*

Таццяна Мархель выканала яшчэ адзін больш жартаўлівы варыянт песні “Кума мая кумачка”.

На гэтым час нашай імпрэзы закончыўся і таму Анатоль Бутэвіч даў мне заключнае слова, у якім я выказаў усім шчырую падзяку і запрасіў прайсці на фуршэт, які прайшоў жвава, з цікавымі тостамі, жартамі, абдымкамі, многія заставаліся да самага закрыцця Нацыянальнай бібліятэкі.

Шэраг прысутных віншавалі мяне і Галю не пры афіцыйных выступленнях, а проста ў зале, і нават уручалі падарункі, часцей усяго ў выглядзе кветак. Лявон Баршчэўскі падараваў кнігу “Словы і вобразы: Частка І. Ад пачаткаў да эпохі Адраджэння” (Мінск. Выдавец Зміцер Колас. 2017) і “Частка ІІ. Ад Пострэнесансу да Асветніцтва” (Мінск: Зміцер Колас. 2018. – 352 с.). Таццяна Жук-Дасаева падаравала кнігу: Мікола Жук “Запаветнае. Кніга паэзіі” (Любань, 2014. – 127 с.) і зрабіла надпіс: *Дарагім Радзіму Гаўрылавічу і Галіне Рыгораўне Гарэцкім на добры ўспамін пра майго незабыўнага тату – Міколу Жука – аўтара гэтага паэтычнага зборніка. 13 снежня 2018 г. Таццяна Жук-Дасаева*.

Атрымалі добрае выданне кнігі Адамовіча Алеся, Граніна Данііла “Блокадная книга” (Мінск, Мастацкая літаратура, 2015. – 575 с.) “Предисловие – Наталья Адамович; “С чего пошла, начиналась “Блокадная книга” – Алесь Адамовіч. Наталля Адамовіч зрабіла надпіс: *Шаноўнаму, дарагому Радзіму Гаўрылавічу – здароўя, бадзёрасці, выдатнага настрою і няхай Вам шэнціць у працы, а ў жыцці з любай спадарожніцай Галінай! Снежань 2018. Сардэчна Наталля Адамовіч*.

На дзвюх машынах – Ніны Шыдлоўскай і Міколы Люцко, загрузіўшы іх букетамі з кветкамі і падарункамі, адвезлі юбіляраў дахаты, дзе з вялікай удзячнасцю і шчырымі пажаданнямі развіталіся да новых сустрэч.

*2018*

## Удзячнасць разам з сумам

Разглядаў фотаздымкі мінулых часоў. Трапіўся фотаздымак, які быў зроблены 29 студзеня 1972 года ў актавай зале новага будынка МІНХіГП на сустрэчы нашай групы ў сувязі з 20-годдзем з дня заканчэння Інстытута. Я прыехаў ужо з Менску, дзе працаваў

у Акадэміі навук БССР. На фотаздымку 40 былых студэнтаў. Успамінаў іх прозвішчы, імя, адносіны са мной і паміж імі, выпадкі і г.д. Раптам розум балюча стральнуў у сэрца – усе ўжо адышлі ў іншы свет і толькі я адзін 90-гадовы нейкім цудам яшчэ затрымаўся… Розум паслаў жыццёваму лёсу ўдзячнасць, а сэрца – сум.

*2019*

**“Гордость белорусской науки”**

Пад такой назвай газета “Навука” Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі на першай старонцы змясціла артыкул галоўнага рэдактара газеты “Навука” Сяргея Дубовіка пра сустрэчу Прэзідыума НАН Беларусі на чале з яго Старшынёй У.Р. Гусаковым з акадэмікамі, якая адбылася 31 студзеня 2019 г. у Малой зале Прэзідыума. Пасля ўступнага даволі працяглага слова Уладзіміра Гусакова даклад пра некаторыя вынікі дзейнасці ўстаноў Акадэміі навук за мінулы 2018 год зрабіў галоўны вучоны сакратар НАН Беларусі акадэмік Аляксандр Кільчэўскі. Старшыня Прэзідыума НАН Беларусі У. Гусакоў уручыў узнагароды, што па розных прычынах не маглі зрабіць раней. Сярод узнагароджаных – акадэмік Віктар Парфёнаў, якому кіраўнік Акадэміі начапіў залаты медаль НАН Беларусі ў сувязі з яго 85-годдзем, а акадэміку Аляксею Мацвееву з нагоды 80-годдзя – знак у гонар першага Прэзідэнта Беларускай акадэміі навук Усевалада Ігнатоўскага.

Потым прагучала каманда – фатаграфавацца. Любоў Уладзіміраўна Хатылёва ўзяла мяне пад руку, і мы разам пачалі па ступеньках спускацца і аказаліся ў першым радзе. Яна неяк расхвалявалася, што мы наперадзе ўсіх. Я яе супакоіў і сказаў, што на гэта маем права, бо толькі мы ўжо 90-гадовыя акадэмікі. Потым яшчэ дадаў, што яна наогул унікальны акадэмік – адзіная жанчына сярод 82 правадзейных членаў. Апрача таго, мы рэдкія “экземпляры” і па стажу: яна ўжо 29 гадоў мае званне акадэміка, а я нават 42 гады, ды яшчэ і замежны член Расійскай акадэміі навук на працягу 25 гадоў. Любоў Уладзіміраўна зусім супакоілася, павесялела і з усмешкай глядзела на фатографа.

Але мы былі больш задаволены не тым, што ў свае 90 гадоў вылучаемся не толькі ўзростам і іншымі названымі асаблівасцямі, а нават значна больш тым, што паспяхова працягваем нашу любімую навуковую творчасць.

Як прагучала ў дакладзе Кільчэўскага, калі ён пералічваў самыя выдатныя дасягненні НАН Беларусі, якія ўвайшлі ў ТОП-10 па выніках 2018 года, была ўзгадана праца нашай групы геолагаў і геафізікаў з Інстытута прыродакарыстання. 25 студзеня 2019 г. у Дзень навукі ў Вялікай зале НАН Беларусі адбылося пашыранае пасяджэнне Бюро Прэзідыума, на якім адзначалі працы, якія ўвайшлі ў ТОП-10. Нашу групу выклікалі амаль апошняй. Спачатку да Старшыні Прэзідыума акадэміка У.Р. Гусакова пазвалі акадэміка Р.Г. Гарэцкага, якому ўручылі спецыяльны знак для ўсёй групы. Затым яго ўзнагародзілі “Дыпломам” і побач выклікалі члена-карэспандэнта Р.Я. Айзберга, прафесара Г.І. Каратаева і загадчыка лабараторыі Я.Г. Грыбіка. Старшыня Прэзідыума павіншаваў усю групу з узнагародай, дзве вельмі прыгожыя, стромкія дзяўчыны ў нацыянальных строях кожнаму з нас элегантна паднеслі па букецiку чырвоных руж, і мы па чарзе з “Дыпломамі” ў руках спусціліся да сваіх месц, якія ў адпаведнасці з запрашэннямі былі насупраць у першым радзе. “Дыплом” уяўляе сабой даволі прыгожую чорнага колеру папку, на якой у якасці загалоўка зроблена серабрыстая эмблема ў выглядзе вянка з выявай у цэнтры знаёмага будынка Акадэміі, а ў падмурку вянка надпіс ТОП-10. У папку ўклеены напісаны каляровымі літарамі сам “Дыплом”:



Як бачна, тры аўтары працы маюць узрост больш за 80 гадоў і належаць да тых вучоных, якім раней У.Р. Гусакоў даў мянушку "очень возрастные", і дадаў, што таму яны не патрэбны для вырашэння праблем развіцця мінеральна-сыравіннай базы Беларусі. Як пазней вызначылася, менавіта гэтыя вучоныя зрабілі працу, якая трапіла ў ТОП-10 за 2018 год.

*2019*

**Варварства ў Курапатах працягваецца…**

У газеце "Народная Воля" (№ 27, 5 красавіка 2019 г.) пад рубрыкай "незвычайная сітуацыя" надрукавана:

***Курапаты: гром сярод яснага неба***

*Учора ў Курапатах дэмантавалі і вывезлі 70 крыжоў, якія ў мінулым годзе паставіў Дзмітрый Дашкевіч разам з іншымі актывістамі.15 абаронцаў затрымала міліцыя.*

*Крыжы, якія былі вырваны з зямлі кранамі, пагрузілі на машыны з завешанымі нумарнымі знакамі і павезлі ў невядомым накірунку.*

Арцыбіскуп **Тадэвуш Кандрусевіч**, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі напісаў: *Крыж не павінен падзяляць, бо ён яднае неба з зямлёй, а людзей – у адзіную сям'ю братоў і сясцёр". "Курапацкі пантэон" – стыхійны мемарыял, вядомы ва ўсім свеце. Таму нечаканы знос крыжоў выклікае… здзіўленне. … але не коштам абразы пачуццяў вернікаў. …неабходна арганізаваць гармадскае абмеркаванне плана ўпарадкавання тэрыторыі. …Заклікаю … тэрмінова спыніць гэтыя дзеянні.*

**Святлана Алексіевіч**, нобелеўскі лаўрэат: *Нічога падобнага, колькі б я ні ездзіла па свеце, я не бачыла. Курапаты – сімвал народнай самастойнасці, народнай памяці. І дзяржава не хоча з гэтым мірыцца, асабліва перад выбарамі. Курапаты – унікальны народны помнік… сам народ адваяваў яго. …гэта злачынства.*

**Радзім Гарэцкі**, акадэмік: *Гэта проста варварства…*

**Павел Харламчук**, артыст і рэжысёр Купалаўскага тэатра: *Яшчэ раз іх расстралялі… Жахліва! Прыкра і ганебна! Проста жудасна…*

**Аляксандр Мілінкевіч**, былы старшыня руху "За свабоду!": *У нас на вёсцы… не было больш нялюдскага злачынства, чым пашкодзіць крыжы на могілках…*

**Міхась Скобла**: *Няма крыжа – няма і сістэмы каардынат.*

*…І зроблена гэта было дэманстратыўна, напаказ усяму свету, у час Вялікага перадвелікоднага посту. …Нам толькі здаецца, што жывём мы ў хрысціянскай краіне. …На Беларусі Бог жыве? Жыве. …Але і д’ябальшчына ў нашай краіне ўжо не прыхоўваецца, яна – напаказ.*

Прэс-сакратар Аляксандра Лукашэнкі **Наталля Эйсмант** пракаментавала знос крыжоў у Курапатах: *Чытайце прэзідэнта! Падчас "Вялікай размовы" кіраўніком дзяржавы было абяцана, што ў Курапатах будзе наведзены парадак, даручэнне заняцца гэтым было дадзена адпаведным ведамствам. Гэтае месца трэба добраўпарадкаваць, гэта адназначная пазіцыя прэзідэнта, там пахаваны нашы людзі! Але ўсё павінна быць зроблена як мае быць, паводле нашых звычаяў, рэлігійных традыцый, згодна з планам. Будзе зроблена ўсё, каб гэтае месца выглядала годна, але без усякай палітыкі.*

У газеце "Новы час" (№ 13, 5 красавіка 2019 г.) на першай старонцы **Дзіяна Серадзюк** напісала: ***Не чапайце памяць! У Курапатах зносяць крыжы***". Далей: "*Здавалася б, гісторыя яшчэ сто гадоў таму навучыла: не чапайце крыжы, бо кепска скончыце. …Злачынцы – іншай назвы для тых, хто ўчыніў гвалт з Народнага мемарыялу, папросту няма. …Інакш, чым марадзёрствам і псаваннем магіл на дзяржаўным узроўні, на загад найвышэйшага кіраўніцтва, гэта назваць нельга. Атрымліваецца, з тых, хто ляжыць у Курапатах, паздзекаваліся двойчы.*

У газеце "Свободные новости плюс" (№ 14, 9 апреля 2019 г.) **Валерый Карбалевіч** напісаў свой чарговы дыягназ: "***Банальность зла***". *Почему Лукашенко решил разобраться с Куропатами? Приближаются две избирательные кампании… Это борьба не столько с покоящимися в Куропатах мёртвыми, сколько с живыми политическими оппонентами. …картина поваленных бульдозерами крестов вызвала в обществе культурный шок. …Это чисто белорусская иллюстрация к вечной теме конфликта добра и зла, нечто из мотивов Апокалипсиса, борьбы между Христом и Антихристом. Трудно представить большую моральную дискредитацию власти, чем этот крестолом в Куропатах. …А. Лукашенко Куропаты… за 25 лет ни разу не посетил. … Куропаты – это символ того, что власть может быть неправой и даже преступной. … 25 лет единоличного правления при отсутствии обратной связи с обществом не проходят бесследно.*

У той жа газеце дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член камісіі

па міжнародных справах **Анатольй Хіценко** выказаў Радыё Свабода свой погляд на сітуацыю ў Курапатах: ***Приказ поступает из самых высших кабинетов***. Далей: *Куропаты – это общее место скорби. И оно не должно быть никем приватизировано. Ни властью, ни оппозицией. … руководителям низшего уровня нужно перестать списывать всё на более высоких чиновников. … Перед тем как делать такое, как в Куропатах, надо было обязательно поговорить с людьми, узнать их мнение.*

Паэт **Сяргей Законнікаў** выказаў свой "Пункт гледжання": *Амаральная дыктатура цяпер наўмысна здзекуецца з нас, наматываючы людскія нервы на валасаты кулак. Вандалізм у жалобных Курапатах перад Вялікаднём – гэта выпадак, калі пра мярзотнікаў, якія ўчыняюць святатацтва, кажуць: "Крыжа на іх няма.*

На наступных старонках выступіў **Андрэй Паратнікаў**, кіраўнік праекта BelarusSecurityBlog. Ён напісаў: ***Куропаты продемонстрировали слабость власти (...)*** *Десятилетия опека над урочищем была заботой общественных активистов. Власти в лучшем случае игнорировали народный мемориал. …В качестве объекта демонстрации всемогущества властителя было выбрано знаковое место – Куропаты. …Демонтированные кресты можно вернуть на место. А ограда вокруг Куропат может быть установлена и перед крестами.*

Старшыня пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па міжнародных справах **Валерый Варанецкі**: ***Когда мы научимся поступать по-людски?*** Ён напісаў: *Узнал о сносе крестов… Первая реакция: смятение, боль и тревога. Когда мы научимся, как в народе говорят, поступать по-людски? По-христиански? Не оскорбляя чувств и достоинства друг друга.*

"Народная Воля" (№ 28, 9 красавіка 2019 г.) надрукавала пра дэмакратыю па-беларуску: *Грамадскаму актывісту Паўлу Севярынцу далі 15 сутак за Курапаты*, а таксама пра пратэст: ***Зміцер Дашкевіч патрабуе ад пракуратуры…***: *…мы расцэньваем гэты вандалізм як крадзеж маёмасці соцень людзей, якія ахвяравалі грошы на крыжы і іх усталёўвалі. …дэмантаж крыжоў прайшоў без афармлення неабходных дакументаў і без прыняцця юрыдычных рашэнняў. …згодна з пастановай Мінкульта № 70 ад 1 снежня 2013 года аб зонах аховы мемарыяла Курапаты, "на тэрыторыі гісторыка-культурнай каштоўнасці дазваляецца правядзенне работ па ўшанаванні памяці ахвяр палітычных рэпрэсій.*

Калі пра Курапаты – урочышча пад Мінскам, дзе ў лясным масіве ў 1937–1941 гадах карнікі НКУС БССР расстралялі шмат тысяч рэпрэсаваных жыхароў краіны, стала шырока вядома ў 1988 годзе, то пра 1937–1938 гады ў Сандармоху – урочышча пад Мядзвежагорскам (Карэлія) – даведаліся толькі ў 1997 годзе, дзякуючы кнізе "Мемориальное кладбище Сандормох – 1937, 2 сентября – 4 ноября (Соловецкий этап)" – Научно-информационный центр "Мемориал", Санкт-Петербург – 1997.

**Алена Кобец-Філімонава** ў газеце "Народная Воля" (№ 229, 1997) надрукавала артыкул "1937–1938 Сандормох: карельские Куропаты", а таксама ў "Народнай Волі" (1997) артыкул "Беларусь-Соловки-Сандормох 1937: расстрельные списки белорусов и осуждённых в Беларуси". Кіраўнік "Мемориала" (Карэлія) Ю. Дзмітрыеў у "Народнай Волі" (1998) надрукаваў артыкул "Расстрельный список белорусов: 70 человек". Яшчэ ў 1992–1998 гадах дзейнічала Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій, якая друкавала шэраг матэрыялаў у газетах і бюлетэні "Рэха ГУЛАГа".

Прыводжу ўрыўкі з маіх успамінаў з кнігі "Жыццёвы меланж" (2013).

## У край "шчаслівага" дзяцінства

Запрасілі ўдзельнічаць у Міжнароднай канферэнцыі "Глыбінная будова і геадынаміка літасферы", якая павінна адбыцца ў верасні 2002 г. у сталіцы Рэспублікі Карэліі Петразаводску. Адразу даў згоду не толькі таму, што тэматыка канферэнцыі цікавая і ёсць што самому расказаць і абмеркаваць гэтыя праблемы, але яшчэ і таму, што пацягнула пабачыць тыя мясціны, дзе прайшло ўжо, на жаль, далёкае па часе дзяцінства, а ў Карэліі і на Кольскім паўвостраве я пражыў амаль пяць гадоў (1934–1939) з малымі перапынкамі.

Пад лёгкае пакалыханне і ціхае пагрукванне колаў пачалі ўсплываць малюнкі дзяцінства, якое цалкам прайшло пад лозунгам: "Спасибо великому Сталину за наше счастливое детство!" Наогул большая частка жыцця майго ды і папярэдняга пакалення праходзіла пад бадзёрыя бальшавіцкія заклікі, якія былі паўсюдна: на вуліцах, у газетах, радыё, кнігах, падручніках, словах настаўнікаў, начальнікаў і амаль усіх людзей... Насуперак рэаліям нашага жыцця, яны паступова рабілі сваю справу і так моцна ўбіваліся ў галовы, што замбіравалі душы і думкі людзей, ды так

магутна, што многія і да гэтага часу не могуць вызваліцца ад іх.

Петразаводск – чысты, зялёны, прыгожы горад, які прытуліўся да адной з затокаў Анежскага возера і выцягнуўся ўсцяж яго амаль на 25 км. Апошняе, калі зірнуць на геаграфічную карту, мае выгляд далоні, пальцы якой на поўначы ўяўляюць некалькі вузкіх затокаў і завуцца губамі. Найбольш кароткая з іх на захадзе – гэта і ёсць Петразаводская губа, а на ўсходзе – самая працяглая Мядзведжагорская губа, на кончыку якой знаходзіцца горад Мядзведжагорск – у маім дзяцінстве пасёлак Мядзведжая Гара. Амаль 300 тыс. жыхароў Петразаводска рыхтуюцца да 300-годдзя горада. У 1703 г. у вусці ракі Ласасінкі Пётр I заклаў гарматаліцейны завод, вакол якога вырас пасёлак Пятроўская слабада. Горад мае стандартны набор савецкіх назваў: вуліцы Кірава, Дзяржынскага, Куйбышава, Калініна, Пушкіна, Горкага, праспекты Карла Маркса, Актябрскі, плошча Кірава, помнікі Кіраву, К. Марксу і Ф. Энгельсу, Пятру I і г. д. Галоўны праспект – імя Леніна. Апошні ўліваецца ў Круглы пляц (цяпер плошча Леніна) з вялікім помнікам правадыру, які выцягнутай угару рукой паказвае правільны шлях да камунізму. Карэльскі навуковы цэнтр Расійскай акадэміі навук, дзе праходзіла наша канферэнцыя, знаходзіцца ў спецыяльна пабудаваным добрым будынку на набярэжнай, якая акуратна і прыгожа апранута ў скальныя Карэльскія камяні і якая пачынаецца троху далей праспекта Леніна.

У Петразаводску я вырашыў пашукаць справы бацькі ў сувязі з яго арыштамі 1937 г. і 1938–1939 гадоў. У Дзяржаўным архіве навейшай гісторыі (вул. Андропава) ветліва прыняў намеснік дырэктара Аляксей Міхайлавіч Грыгаровіч. Матэрыялаў пра Гаўрылу Гарэцкага ніякіх няма. На той жа вуліцы – Упраўленне Федэральнай службы бяспекі Расіі па Рэспубліцы Карэліі. Ніякіх звестак. У архіве Міністэрства ўнутраных спраў ёсць справы на большасць людзей, якія працавалі на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала. Гэтых спраў больш за 600 тысяч, але разабрана з іх і прыведзена ў парадак толькі 6 тысяч. Сярод апошніх бацькавай справы няма. Прэзідэнт Акадэміі сацыяльна-прававой абароны (грамадская арганізацыя), кіраўнік карэльскага “Мемарыяла” Юрый Дзмітрыеў у сваім камп’ютары таксама не знайшоў імя майго таты.

Нарэшце трапіў у Карэльскі дзяржаўны краязнаўчы музей (плошча Леніна), які займае частку былога палаца генерал-гу-

бернатара Аланецкай губерні. Тут ведаюць пра акадэміка Г.І. Гарэцкага – былога вязня БелБалтлага, нават маюць яго фотаздымак, некаторыя звесткі з біяграфіі, але аб арыштах 1937 і 1938–1939 гадоў нічога няма.

Людзі, з якімі я сустракаўся ў гэтых установах, вельмі прыхільна ставіліся да мяне і асабліва пасля таго, як даведваліся, што я з Беларусі, бо большасць з іх самі былі выхадцамі з нашай краіны ці мелі родных і знаёмых беларусаў.

Аляксей Міхайлавіч Грыгаровіч прапанаваў на яго “Волзе” з’ездзіць у Мядзведжагорск, які ляжыць прыблізна ў 120 км на поўнач ад Петразаводска. Добрая асфальтавая дарога ўецца сярод прыгожых краявідаў: праз ужо пажаўцелыя бярозы праглядвае ласкавы блакіт возера, зялёны сасняк ахоплівае ўсё вакол, амаль голыя скалы троху змрочна глядзяць шэрымі сценамі старажытных замкаў, раптам блісне рознакаляровы гранітны “барані лоб”, некалі адпаліраваны магутным ледавіком...

Аказалася, што Аляксей Міхайлавіч нарадзіўся ў Мядзведжай Гары, а яго жонка – у Павянцы, дзе яны разам вучыліся ў школе. Ён мае беларускія карані па маці і ўкраінскія па бацьку, абодва – дзеці ссыльных.

Мядзвежка за мінулыя больш чым 60 гадоў моцна змянілася, некалі амаль цалкам драўляная – абрасла цэглай і бетонам 2–5-павярховых дамоў. Пазнаў нязменныя каменныя дамы: гасцініца і кіраўніцтва Беламорска-Балтыйскага камбіната. Крыху далей, як і раней, вялізная цёмная сцяна з нацягнутым угары калючым дротам, за якой вядомая ўсім жыхарам горада турма. Сюды некалі вадзілі бацьку на допыты, у лазню з другой турмы (відаць, тыпу следчага ізалятара), якая знаходзілася на правым беразе рэчкі Кумсы. Апошняя з бурлівай паўнаводнай ракі ператварылася ў значна спакайнейшую рачулку. Не плывуць па ёй, як раней, плыты і бярвенні, на якіх мы каталіся і пераскоквалі з аднаго берага на другі, рызыкуючы трапіць пад магутны лясны сплаў, як такое здарылася з прыгожым пудзелем нашых знаёмых. Няма драўлянага дома, дзе мы здымалі настолькі маленькі пакойчык, што брату і мне прыходзілася сцяліць ложак на стале і пад сталом. Кумса так зарасла дрэвамі і кустамі, што цяпер мы не маглі б убачыць з нашага берага на супрацьлеглым, дзе стаяла турма, выводзяць бацьку з яе варот ці не. Знеслі і турэмны будынак, на месцы якога зараз расчышчаюць пляцоўку для нейкай новай будоўлі.

Няма і парашутнай вышкі ў парку, дзе мы бадзяліся ледзь не

да поўначы ў светлыя белыя ночы, дадаючы хваляванняў і клопатаў нашай маці, якая зранку да позняга вечара працавала настаўніцай у школе для дарослых, каб хоць троху зарабіць грошай і пракарміць сям'ю, і замест адпачынку яна шукала нас. А я ўжо забыўся пра недарэчны вопыт скачка з парасонам у Брылёва, і мяне так вабіла вышка, так хацелася прыгнуць з парашутам, што я ўвесь час круціўся там, некалькі разоў нават карабкаўся на яе, але мяне заўсёды не пускалі ці ў хуткім часе з гвалтам здымалі і ледзь не білі, бо дужа надакучаў. Так і прайшло жыццё, а мне і не ўдалося скокнуць з парашутам, хоць і да гэтага часу троху з зайздрасцю і шкадаваннем за сябе гляджу на рознакаляровыя парашуты ў блакітным небе.

А вось і мост праз Кумсу. Раней быў вузкі драўляны, цяпер – больш шырокі і з бетону. Тут я і брат часта гадзінамі вартавалі, каб пабачыць бацьку, якога вазілі ў "чорным воране" ці вялі ў калоне, а то і аднаго ў вялікую турму на допыты, а можа, і ў лазню ці на працу. З кожным разам тата выглядаў усё больш схуднелым, слабым, страшным... Турмы былі перапоўнены – не паспявалі адных расстрэльваць, як напіхвалі новымі вязнямі. Частыя карцэры, зробленыя з сатанінскай выдумкай, здзеклівыя допыты з пабоямі, бесперапыннае недаяданне, а то і сапраўдны голад рабілі сваю працу і даводзілі зняволеных да поўнай абыякавасці, жадання хутчэй пакінуць жыццё, а то і скончыць яго самагубствам.

На першым паверсе гасцініцы цяпер знаходзіцца Мядзведжагорскі гарадскі музей, дзе нас сустрэў вядучы навуковы супрацоўнік Яўген Восіпавіч Тумаш, таксама з сям'і выхадцаў з Беларусі і Польшчы. Невялікі аддзел у музеі, прысвечаны БелБалтлагу. Тут асобны стэнд прысвечаны рэпрэсаванаму Міхаілу Грыгаровічу – бацьку Аляксея Міхайлавіча, шэраг дакументаў, фотаздымкаў таго часу. Сярод апошніх зацікавіў здымак групы пісьменнікаў і дзеячаў культуры на чале з Максімам Горкім. Ён стаіць наперадзе, а за ім троху збоку Янка Купала. Гэты здымак зроблены пры ўрачыстым адкрыцці Беламорска-Балтыйскага канала ў жніўні 1933 года ў Павянцы (пры будоўлі канала казалі: "Павянец – свету канец!"), дзе знаходзяцца другі і трэці шлюзы перад самым выхадам канала з Анежскага возера. Мы з'ездзілі і туды: глыбокія шлюзы, сценкі якіх цёмныя і пашарпаныя, па выглядзе адчуваецца іх сталасць і рэдкае выкарыстанне, бо цяпер асноўныя грузы ідуць не водным шляхам, а чыгункаю і аўтатранспартам. Уявіў, як амаль 70 гадоў назад тут мой бацька –

Гаўрыла Гарэцкі, які быў на беразе сярод шэрага натоўпу зняволеных, сасланых і вольнанаёмных будаўнікоў канала, апошні раз здалёку ўбачыў Янку Купалу, які стаяў побач з Максімам Горкім на палубе белага парахода.

Затым паехалі ў Сандармох – мядзведжагорскія Курапаты (19 км ад Медзведжагорска). Прыгожая мясціна – пясчаныя ўзгоркі, пароcлыя светла-зялёнымі празрыстымі сосенкамі. Адразу ўспомнілася апавяданне В. Быкава "Жоўты пясочак". Не прыгажосць прываблівала бальшавіцкіх катаў да такіх мясцін, а лёгкасць выкапвання катлаванаў, ям і канаў для трупаў расстраляных ахвяр і такая ж лёгкасць іх засыпання на "адпаведную" па інструкцыі глыбіню. Мемарыяльны комплекс пачынаецца выразным помнікам ахвярам Сандармоха: вялізная глыба з каменю і бетону, на пярэднім плане – падаючая фігура забітага з паніклымі крыламі, кветкамі ўнізе і вялікай даланёю, якая моцна сціскае скурчанымі пальцамі букет кветак-ахвяр, а над барэльефам угары надпіс: "Люди, не убивайте друг друга". Імя аўтара нідзе не абазначана, але пазней я з ім пазнаёміўся – скульптар і пісьменнік Рыгор Салтун, тыповага выгляду мастак: жывы, гаваркі, з вялікай барадой і нядбайна адзеты.

Далей стаіць вялікі валун, на якім дошка з надпісам: "Здесь с 27 октября по 4 ноября 1937 г. расстрелены 1111 заключенных Соловецкой тюрьмы". Троху ўбаку стаіць невялікая драўляная цэркаўка. Яна пабудавана на тым месцы, дзе 21 студзеня 1938 года ў 4 гадзіны ночы два штатных каты НКУС Шондыш і Бандарэнка расстралялі 450 чалавек. А яшчэ далей па ўсім лесе ***на участку плошчай 7,5 га расстаўлены сотні крыжоў з прозвішчамі, а часта і з фотаздымкамі расстраляных***. Ёсць і сапраўдныя магілкі-холмікі. Канешне, усе яны не адпавядаюць канкрэтным месцам расстрэлу і пахавання. Больш за тры сотні ям з пахаваннямі знойдзена ва ўрочышчы Сандармох.

Намаганнямі такіх людзей, як дэпутат Дзяржаўнай думы РФ Іван Чухін, трагічна загінуўшы ў траўні 1997 года, Юрый Дзмітрыеў і іншыя, нядаўна выйшла тоўстая **"Кніга памяці"**, ***у якой названы ўсе жыхары Карэліі, рэпрэсаваныя ў 1937–1938 гадах.*** І. Чухін напісаў першую праўдзівую і пакуль адзіную кнігу пра гісторыю будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала "Каналоармейцы" (1990), якую падараваў Янку Брылю, а той перадаў яе мне. Ужо пасля смерці выйшла яго кніжка "Карелия-37: Идеология и практика террора" (1999). ***Юрый Дзмітрыеў выпусціў кнігу***

**“Место расстрела Сандармох”** (1999), ***у якой паймённа пералічыў прозвішчы ўсіх тут расстраляных***. Ён піша: “Подобно тому, как прах расстрелянных в Сандармохе вошел животворным соком в корни зеленых сосен, горькая правда о злодеянии большевистских палачей вошла в память ныне живущих народов. Преклоним колени у покрытых вязью имен надмогильных столбцов, ощутим трагическую и священную красоту этой частички карельского леса, собравшей в себе несколько тысяч оборванных человеческих жизней”. ***Кніжка выдадзена Адмініcграцыяй Старшыні ўрада Рэспублікі Карэлія, адміністрацыяй мясцовага самакіравання Мядзведжагорскага раёна і Акадэміяй сацыяльна-прававой абароны***.

Па архіўных дадзеных у Сандармоху за 14 месяцаў 1937–1938 гадоў расстраляна каля 9 тысяч чалавек, якія складаюць тры групы. Першая група (3,5 тыс. чал.) – гэта мясцовыя жыхары (карэлы, фіны, радзей рускія і інш.) з розных раёнаў Карэліі, галоўным чынам сяляне, рыбакі, паляўнічыя. Яны былі асуджаны пераважна так званай “двойкой”. Другая група (4,5 тыс. чал.) – зняволеныя БелБалтлага, сярод якіх большасць – інтэлігенцыя са ўсіх куткоў СССР многіх нацыянальнасцяў (нават нарвежцаў, немцаў, чэхаў, іранцаў, персіянаў, палякаў і інш.), у тым ліку і беларусаў. Трэцяя група – гэта салавецкі этап. Каля 1,5 тысяч зняволеных Салавецкай турмы былі адпраўлены ў Мядзведжую Гару, але ў “жоўты пясочак” Сандармоху трапіла 1111 чалавек, іншыя памерлі па дарозе. Тут буйныя дзяржаўныя дзеячы, вучоныя, літаратары і інш. – эліта інтэлігенцыі краіны. Сярод іх 102 жыхары Беларусі, у тым ліку акадэмікі АН БССР М. Яворскі і М. Дурнаво, член урада БССР Ф. Валынец, дзяржаўны дзеяч М. Бурсевіч і інш. Узрост большасці ахвяр – да 40–50 гадоў. Каб не тая акалічнасць, што Г. Гарэцкага (“шпіёна і контррэвалюцыянера, завербаваўшага” такіх кіраўнікоў, як Чарвякоў і Галадзед) палічылі найбольш злосным і “важным” “ворагам народа”, за раскрыццё якога можна было б атрымаць падзяку самой Масквы, і таму паслалі ў сталіцу, закончыў бы ён свой жыццёвы шлях у Сандармоху.

26–27 кастрычніка 1997 года, а затым 22 жніўня 1998 года – у гады “Прымірэння і згоды” – каля мемарыяльнага комплекса Сандармох прайшлі міжнародныя акцыі “Пакаянне” ў сувязі з 60-годдзем “Вялікага тэрору” ў СССР – генацыду бальшавіцкіх уладаў супраць свайго народа.

Плошча тэрыторыі Рэспублікі Карэлія прыблізна на 1/4 мень-

шая за плошчу Беларусі, але жыхароў – толькі каля 800 тыс. Сярод іх карэлаў 10%, фінаў – 2,3% і вепсаў – 0,8%. На першым месцы рускія – каля 75%, беларусы – на трэцім (7%), затым украінцы (3,6%). Беларусы і ўкраінцы ўжо амаль усе рускамоўныя, ды, відаць, і многія прадстаўнікі тытульнай нацыі таксама сталі рускамоўнымі (значыць, не менш 90% жыхароў карыстаюцца толькі рускай мовай). Таму за ўвесь тыдзень майго знаходжання ў Карэліі я чуў толькі рускую мову. ***На тэлебачанні і радыё на карэльскай ці фінскай мовах передач няма. Не бачыў на гэтых мовах ні газет, ні часопісаў, ні надпісаў на шыльдах установ і магазінаў, назваў вуліц. Выключэнне – некалькі мемарыяльных дошак. Кажуць, што ёсць толькі адна школа з навучаннем на фіна-угорскай мове (да гэтай групы належыць і карэльская)***. Нягледзячы на тое, што старажытныя вусныя і пісьмовыя помнікі (руны) адносяцца да XIII стагоддзя і на выснове іх створаны ***сусветнавядомы народны эпас "Калевала", сучаснае насельніцтва поўнасцю русіфікавана, і ад карэльскага там засталася толькі назва рэспублікі, і, па сутнасці, краіна цалкам руская. Увачавідкі ўбачыў магчымую будучыню і нашай любай Беларусі***.

**Алена Кобец-Філімонава** надрукавала кнігу **"Карэльскія Курапаты 1937–1938: расстрэльныя спісы беларусаў і асуджаных у Беларусі. Рэха ГУЛАГа"** – Мінск: Кнігазбор, 2007. Выданне кнігі памяці прымеркавана да 70-гадовага юбілею "вялікага тэрору", які адзначаўся ў 2007 г. як міжнародны Год Памяці ахвяр палітычных рэпрэсій прагрэсійнымі слаямі насельніцтва ўсяго свету. Гэта кніга – адно з шматлікіх выданняў, прысвечаных ушанаванню памяці бязвінных ахвяр крывавага сталінскага рэжыму.

Аўтар кнігі падаравала яе мне з надпісам *Шаноўнаму Радзіму Гаўрылавічу з самымі найлепшымі пажаданнямі. Лістапад 2007. А.Кобец-Філімонава*.

Аўтар у прадмове **"ВА ЎРОЧЫШЧЫ СМЕРЦІ"** адзначае:

Выданне кнігі памяці прымеркавана да 70-годдзя "вялікага тэ -рору" 1937 года (1937–2007). У кнізе памяці расказваецца пра тое, як у карэльскім урочышчы Сандармох, што пад Мядзвежа-горскам (Архангельская вобл.), за некалькі дзён было расстраляна 1111 вязняў Салавецкага лагера асобага назначэння (СЛАН), вы-везеных з Салаўкоў па пастанове Тройкі УНКУС Ленінградскай вобласці. Сярод пакутнікаў былі прадстаўнікі амаль усіх народаў СССР, у тым ліку 102 беларуса. І яшчэ 70 беларусаў, якія будавалі Беламор-

канал, знойдзсны ў тым жа ўрочышчы – яны былі рас-страляны крыху пазней. Былі і іншаземцы. Толькі праз 60 год (1 ліпеня 1997) пошукавыя групы Санкт-Пецярбургскага і Карэль-скага «Мемарыялаў» знайшлі месца пахавання расстралянага салавецкага этапу (150 брацкіх магіл) і вязняў Белбалтлага".

У кнізе ўспамінаецца і пра тое, як 27 кастрычніка 1997 года ў сувязі з 60-годдзем трагічнай падзеі ў Сандармоху адбылося ад-крыццё памятных знакаў, арганізаванае Міжнародным таварыс-твам «Мемарыял» і Камісіяй па аднаўленню правоў ахвяр па-літычных рэпрэсій Рэспублікі Карэлія. Адбылася і акцыя пакаяння.

Друкуюцца расстрэльныя спісы беларусаў, знойдзеныя мною ў кнізе «Мемориальное кладбище Сандормох» (Санкт-Пецярбург, 1997) і дзякуючы пошукавай групе Карэльскага «Мемарыяла», якая склала асобныя спісы ахвяраў па нацыянальнасцях.

Ёсць у кнізе і архіўныя дакументы-рапарты карных органаў пра выкананне працэдуры расстрэлаў катамі, якія за адну ноч бязлітасна забівалі па 200–250, а то і па 400 чалавек, каб выканаць план, і за гэту бесчалавечную акцыю яны атрымлівалі падарункі і ўзнагароды. Змешчаны і ўспаміны вязняў ГУЛАГа, якім пашча-сціла выжыць, іх творы аб перажытым.

У далейшым Алена Кобец-Філімонава (сябра Саюза беларус-кіх пісьменнікаў) шмат зрабіла па ўшанаванні памяці свайго бацькі, вядомага беларускага драматурга Рыгора Якаўлевіча Кобеца (нара-дзіўся ў 1898 г.), заслужанага дзе-яча мастацтваў Беларусі, які ста-яў ля вытокаў нацыянальнага тэ-атра і кіно, і які ў 1938 г. быў арыштаваны, у 1939 г. вызвале-ны, а ў 1941 г. паўторна арышта-ваны і сасланы на 10 год у Тай-шэтлаг, затым 22 гады адбываў пакаранне ў Якуціі, Манголіі, За-байкаллі і ў Кіргізіі, і, нарэшце, у 1960 г. рэабілітаваны, жыў у Мін-ску, дзе і памёр у 1990 г.


Международное общество «Мемориал»

Мемориальное кладбище

САНДОРМОХ

1937

27 октября – 4 ноября

*(Соловецкий этап)*

Научно-информационный центр «Мемориал»
Санкт-Петербург
1997

Алена Кобец-Філімонава на-пісала і надрукавала цікавейшую кнігу "Калі ўцякала сонца: твор-

часць Рыгора Кобеца, яго жыццё і пакуты” – Мінск: Кнігазбор, 2006. – 464 с. Яна прэзентавала мне гэтую кнігу з такім аўтографам: *Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму ад аўтара. З глыбокай павагай. А.Кобец-Філімонава. 2007 г., сакавік.*

Я таксама надрукаваў шэраг кніг пра жыццё і дзейнасць маіх дарагіх родных: бацькі Гаўрылы Гарэцкага і дзядзькі Максіма Гарэцкага. Я з вялікай удзячнасцю і сімпатыяй падараваў Алене кнігу “Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. Успаміны, артыкулы, дакументы. Да 100-годдзя з дня нараджэння” – Мінск, “Тэхналогія”, 2000. – 420 с.

Пазней я атрымаў новую кнігу, якая выйшла у Серыі 1. Мастацкая літаратура “Беларускі кнігазбор”, 51 том, “Рыгор Кобец. Выбраныя творы” – Мінск: Кнігазбор. 2009. – 592 с. Надпіс Алены Кобец-Філімонавай (укладанне, прадмова, каментарый): *Паважанаму Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму ад дачкі Рыгора Кобеца. З вялікай сімпатыяй! Шчыра! Жадаю здароўя і даўгалеццproperly ўсім жывым Гарэцкім і хай ніколі не згасне памяць аб тых, каго ўжо няма разам з намі. Люты 2010. Алена Кобец-Філімонава.*

*г.Менск, травень2018 – красавік 2019 г.*





Мікола Бушчык, *Вячэрнія дрэвы*, 2006 г.

*Ян ЧЫКВІН*

# Надслоўе

***

Шукае кастрычнік мая –
Радня разбрылася па свеце:
хто злёг у зямлю, хто ў высях лятае,
хто не помніць, як ён завецца.

Шукае кастрычнік траўня,
каб раз адзін з ім сустрэцца,
тым маладым вечна й спраўным,
хто нараджаецца ў плоймах надрэчных.

Кастрычнік траўня шукае –
і каб зловіць хоць дзе яго вачыма,
то майскім цяплом дні абмаіць,
то расставіць сець павуціння.

***

Туга, трывожная туга,
туга-мяцеліца,
то набяжыць з крыкамі “ура!”,
то мяккай ласкай сцелецца,
займае ўсе куткі дабра
і ўжо нічога і нідзе майго няма.
Аж не верыцца!
І раптам сонца заімжыць
прасветлай завірухай...

Спраўляйся толькі з духам –
так хочацца ізноўку жыць,
дабро рабіць, любіць, тужыць,
не быць ніколі марным пухам.

А дні і месяцы ляцяць…
Цябе няма ніколі дома,
ты – ў цэнтрусе жыцця!
А я – увесь адна трывога,
пасумус і туга
па шчасці невядомым...

Ах, мілая мая! Ага!

## НАШАЕ ЖЫЦЦЁ

О, як незваротна яно!
Ды ўсё незваротней!

Куды мы бяжым
І ад чаго тыя ўцёкі?

З якіх ападаем вышыняў,
Да якіх імкнемся аблокаў?

Часцей і часцей немагчыма
Вярнуцца назад ні выйсці паперад.

І кожны дзень на белы свет
Глядзім апошнімі вачыма.

Якую крохкасць мы
Ў сабе саміх калышам?!.

І што ў нас – жыццё-яно?..

Як бы з разбітага начыння
пад ногі выліваецца віно...

***

Упусцім дождж на поле
І скажам сонцу, каб грэла.
А потым дамо сабе волю
Для думак, сэрца і цела.

А потым з’явяцца ў свеце
З чыстай свабоды і мараў
Нашы вялікія дзеці
І вецер народзяць і хмары.

І ўзяўшы буру ў абдымкі,
І шчасце сваё адчуўшы,
Будзем жыць без стрымаў,
Як недзе жывуць нашыя душы.

І каб жыць у бясконцасць,
Упусцім сонца ў сэрца,
І сэрца станецца сонцам –
І выйдзем у пространь засмерця.

***

Вы зусім маладыя, яшчэ як дзеці,
Ды адно да другога вас цягне штосьці
Неўсвядомленае, і вы к сабе ідзеце –
У імя Дабра, Праўды і Прыгажосці.

Вы ўдваіх у спелым жыце ляжыце,
Вам паўната дадзена шчасця гэтага.
І краса ваша стаіць у зеніце –
У імя Сонца, Вады і Паветра.

За вамі слаўная гісторыя народа
І будучыня глядзіць вашымі вачыма.
І вы трымаеце яе ў сваіх далонях –
У імя Мовы-народа і Маці-айчыны.

Тое стаецца не для святочных дзеяў,
Не на паказ, а для дарагой і дарагога,
Якія жывуць Даверам і Любоўю-Надзеяй –
У імя Айца і Сына, і Духа Святога!

***

Пад небам айчыны вялікай
між прыродай і Богам
стаю ўжо амаль цалкам бязлікі
на канцы чалавечай трывогі...

І жыццё мне здаецца толькі ўдыхам,
і толькі выдыхам адзіным
незразумелага часу і нейкай дарогі.

***

Вясну прадаюць жанчыны –
ні то цёплых кветак букеты,
ні то сланечнікі твараў сваіх.
Яны жыва-моўчкі спяваюць вачыма
і пахучыя ткуць андрамеды малітв.

У халадку праставатым сонца нямее,
свежа-цёплая благадаць ад зямлі...
А яны прадаюць і п’янеюць,
робяць тое, што ад маленства ўмеюць –
дораць сваю дабрыню, прыгажосць і мазалі.
І сум нятленны вісіць павуціннем над светам.

Чаго я чакаю, калі ўсё вядома:
і тут найвыразней гавораць без мовы...

Скверам п’яніцаў гурт, бы сівых аблокаў,
згубіўшы назвы паспалітых рэчаў,
плыве эскадрыляй да сівенькіх мадонаў.
І бязвокія вокны вачэй іх глядзяць у сустрэтыя вокны,
дзе яшчэ цепліцца іхняя вечнасць.

І ў кожным тут жыццё нейкае б’ецца,
нешта святое ідзе адусюль наверх,
такія даверліва-чыстыя тыя душы і сэрцы –
каб не той, згорнуты ў жаль, нейкім рэхам
аднекуь нясецца
ні то плач, ні то смех.

***

О, як няшчадна падзеі ляцяць,
вяжучы нашыя дні ў снапы гадоў!
А мы з табой на дарозе жыцця
яшчэ ж не сустрэлі адзін аднаго,
каб разам – шчаслівым – маўчаць.

Як, якою дарогай ідзём,
якою сцяжынаю-следам?..

О, як прыгожа вечна ісці па прамой
да вышыняў нябёсных, да мэтаў зямных,
як той Дантэ ці Адысей-нястомны Уліс!
І бачыць усё і ведаць напэўна,
што нас не чакае нідзе перадых
ні ў часе злічальным, ні дзе вечнасці міг.

А кім ты будзеш пасля нараджэння?..
Калі, калі ж стрэнемся на сваім вяку?

.................................................................
Маўчанне адно і здранцвенне...

Не, не ўсё дазваляе выявіць мова.
Яна – што ў рукі схапіць раку.



## НАДСЛОЎЕ

Маім Віцебскім Сябрам

І дзень – ледзь-ледзь...
і ноч – не хоча не смылець...

шчыміць мінулае і далягляды –
якіх даўно няма, якіх не будзе

пякуць календары і даты
баляць бальніцы і здагады

зіма баліць, баліць і лета
і болю брат вярэдзіць ціха
баляць пачуцці, думкі, ўздыхі –

баліць за тое там тады
                    і так пякуча?
ці можа ўжо за гэта ліха?

баляць цяпер ўсе веды і няўменні
пра лёс шчаслівы як шчымяць трызненні!

баляць няздзейсненыя планы
баляць пройгрышы дзяржавы

баляць раскладзеныя карты
тэатры, гульні, крыкі малпаў

баляць мас-медыі, наблісты
і апладысменты ім, і свісты

баляць псалмы і оды, і малітвы
да крохкае радзімы, Беларусі-Літвы...

стаю збалелы перад светам і святымі
ачысце мя Словамі і Знакамі сваімі
каб мог зысці з таго я скраю-месца
дзе боль баліць болем ўсё балесней.



***

Я быў з травы і плюскату вады,
і з першых няўменных уздыхаў вясны,
і з  мройных напеваў і сноў маладых.
За мною беглі мае сляды.

Вясною быў я вязам і сасною,
трымаў вянцы над маладою хатай,
калі яна ў сукенцы махраватай
паілася напоем сырадою.

На паплавах я быў пчаліным рухам,
трымаў крыніцы, бы свае далоні,
да гэтых рук ішлі павольна коні
і зноў ад іх жыццё хадзіла кругам.

Я быў світанкам пачуцця і долі,
і цвіў і поўз ў святло святое,
дзе полымя жыцця зялёнае
радніла танец-музыку і слова з полем.

А сонца бачыла ў праменнях свае славы,
як хлопчык па калена ў травах
бяжыць захоплены вясною
і ловіць матыля, які ў той час
і быў жа мною.



# ПАЭЗІС КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ: НАРАТЫЎНЫЯ КОНТУРЫ ТРАГЕДЫІ

***Іван Новік***

(Інстытут філасофіі НАН Беларусі)

## 1. Замест уводзінаў: проза жыцця і мастацкая проза: канцэптуальны падыход да беларускага наратыву 1930-х гадоў

Калектывізацыя, распачатая ў 1928 годзе савецкімі ўладамі, не толькі пазбавіла беларускага селяніна ўласнай зямлі, але і знішчыла тую глебу, на якой узрасла і асталявалася беларуская літаратура. Калектывізацыя ж, у той самы час, уварвалася на старонкі беларускай мастацкай пісьменнасці ў якасці тэматычнай дамінанты бліжэйшых дзесяцігоддзяў, а можа і ўсяго стагоддзя. Разам з ліквідацыяй аднаасобнай гаспадаркі сыходзіла ў нябыт традыцыйная вёска – галоўны і пераважны хранатоп беларускага тэксту; размываліся падставы псіхалогіі і этыкі гаспадара-аратая – крыніца адметнага перспектывізму беларускай літаратуры; змянялася структура сацыяльных адносін і канфліктаў на вёсцы – тэматычны фокус беларускага мастацкага пісьменства; нарэшце, нішчылася сама «метафізіка зямлі» – падстава адметнай філасофіі беларускай паэзіі і прозы. У беларускай літаратуры гэтыя змены адбіліся не толькі ў змене тэматыкі, але прычыніліся да поўнага перstructуравання яе інтанацыйнай і жанравай структуры.

Папярэднюю дыспазіцыю беларускай літаратуры, з пэўнай доляй умоўнасці, можна назваць лірыка-дыдактычнай: яна знаходзіла сябе ў «скалярным» полі паміж голасам інтэлігента і беларускім

народам. Народам зразуметым і «прачытаным» як прынцыпова гамагенная вясковая грамада. Гэтая дыспазіцыя магла імплементаваць трагедыйны сюжэт інтэлігента, адарванага ад ўлоння матчынай мовы і ўласнага быццёвага карэння; прагучаць песняй-жальбай аб занядбанасці і нэндзы народа; быць праінтэрпрэтавана ў тэрмінах паклікання інтэлігенцыі да абуджэння нацыі ці быць «намаляванай» у манахромным малюнку «цемры» вёскі і постаці яе асветніка; адбіцца, нарэшце, у простым апяванні прыроды і вясковых краявідаў, пададзеных праз перспектыву селяніна. Інварыянтам заставалася прынцыповая саматоеснасць функцыі аўтара і аўтарскага голасу. Гэта тоеснасць была знойдзена ў нацыянальнай ідэнтычнасці, структурныя і функцыянальныя моманты якой былі перанесены на беларускую літаратуру, прыўлашчаны беларускай літаратурай.

На пытанне, «хто прамаўляе» праз беларускую літаратуру і ў беларускай літаратуры, напагатове быў адказ: «сын нацыі», «шчыры беларус» – адзін з грамады, адзіны ў грамадзе. Адзін з грамады, бо пяе адвечную песню самой беларускай прасторы, бо агучвае і маніфестуе спрадвеку жаданае беларусамі. Беларускае пісьменства было актам сама-скасавання літары на карысць фанемы, самаахвярай у імя «голасу» народу. Яно не жадала быць толькі пісьмом, але ж – голасам, прыналежным кожнаму з беларусаў, голасам з дакладнымі сацыяльна-гістарычнымі каардынатамі і этнаграфічнымі канатацыямі, са сваім кругаглядам і светапоглядам, «зашытым» у само беларускае слова, але без прывязкі да асобы, як біяграфічнай і псіхалагічнай адзінкі (нават у нагэтулькі пашыраным для ранняй беларускай літаратуры феномене псеўданімаў можна ўбачыць сведчанне гэтага акта аўтаміфалагізацыі).

Адзіны ў грамадзе – бо адасоблены ад народа праз сваю пісьменнасць, бо ўзнёсся на вышыні адукацыі і рэфлексіі і, у той жа час, паў у іх прорву, бо нясе адказ перад гэтай грамадой. Спрадвечная жальба беларускага народу цяпер не знікала ў мімалётнай стыхіі гутарковасці, але была занатаванай, «пачутай» пісьмовасцю, як голас уласнага сумлення. Але менавіта той, да каго гэты голас звяртаўся, той хто быў закрануты і пакліканы яго дакорам – беларускі інтэлігент, тым самым адасобіўся ад грамады, знаходзіў сябе ў вонкавай пазіцыі. У якасці Адысеі вяртання да вытокаў гэтага голасу і разглядала сябе беларуская літаратура першых дзесяцігоддзяў.

Беларускае маўленне праз мастацкі тэкст было сама-ўзвышэннем – голасам адлітым у літары, нахабствам ці мужнасцю «сказаць» у друку тое, што раней гучала толькі ў песні, шапталася «пад саламянымі стрэхамі». А самаахвярнасць беларускага пісьма – адмаўленне ад свайго фактычнага літаратурнага, пісьмовага характару на карысць беларускага голасу, было навочным дакорам для тутэйшай інтэлігенцыі, адказам на папрок вясковай прасторы. Аўтар і чытач беларускай літаратуры нібы на момант забыліся на сваю пісьменнасць, каб вярнуцца да «цноты» простай мовы (у абодвух значэннях гэтага выразу), каб распрастацца поруч з персанажамі на паверхні чыстай гутарковасці. Пісьмо было грахом, які мусіла выкупіць шчырасць навяртання да Беларусі.

Непазбыўная полісемія мастацкага тэксту гасілася, прыпынялася за кошт яго ўяўнага паглыблення ў гутарковую стыхію. Слушнасць і адзінства прачытання вымервалася паводле своеасаблівай этычнай пазіцыі, выдужанай перад лёсам народу і дакорам вясковай прасторы. Гутарковая стыхія, зымітаваная беларускім пісьмом лексічна, інтанацыйна і сінтаксічна, падавалася тым наўпростым шляхам да «саміх рэчаў», які прамінаў усе літаратурныя ўмоўнасці і пасткі полісеміі. Вядома, кажучы з «вышыні сучаснасці», у падобным перакананні былі элементы самападману: як і любое жывое, нязмушанае маўленне, сялянскае маўленне было разамкнёным у неакрэсленую будучыню, адкрыта для розных суб'ектных пазіцый, полімадальна. Толькі залучанае ў «бязрэхавую камеру» беларускага пісьма, дзе яму не супрацьстаяла нічога апроч прадбачанай «непазбежнасці» нацыянальнай будучыні і чулага «вуха» інтэлігенцыі, яно пераўтваралася ў акт самапаэтызацыі. Там, дзе размова ідзе пра голас самога сумлення, там дзе ідзецца пра пакліканне лёсу, не можа быць прынцыпова розных адказаў. Беларускае пісьмо заўжды «ведала», што трэба пачуць у галасах сялянства, ведала, які адказ трэба даць на пачутае.

Вышэй пададзенае ёсць спробай акрэсліць элементы анталогіі беларускага пісьма першых трох дзесяцігоддзяў XX стагоддзя, выявіць тую функцыю, якой былі пакліканы да існавання літаратурныя выказванні гэтага перыяду, функцыю, якая суадносіла мастацкія тэксты з пэўным абшарам сацыяльна-палітычных і культурных прэтэнзій і з сукупнасцю канкрэтных інтэрпрэтацыйных стратэгій. Можна звузіць перспектыву разгляду і, уступіўшы на глебу семіётыкі, сказаць: у папярэдніх абзацах мы спрабавалі рэканструяваць схему (тапалогію) канатацый, у якія былі

пагружаны беларускія літаратурныя тэксты да 28-га года. Прычым, істотным момантам з'яўляецца тое, што за кошт гэтага канкрэтнага канатацыйнага кантэксту «глушыліся» іншыя логікі прачытання: голас беларусаў і «беларускасці» выступаў як прынцыпова саматоесны. Кажучы словамі класіка: адна і тая ж мова, адны і тыя ж перакананні і патрабаванні мусілі гучаць на ўсім прасцягу «ад Вільні да Мазыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...».

Семіятычнае рассейванне тэксту прыпынялася за кошт змыкання гарызонтаў: беларуская інтэлігенцыя рэпрэзентавала беларускае сялянства на палітычным і культурным полі, прамаўляла ад імя патрэбаў і штодзённых турботаў вёскі, а сама сялянская надзённасць замяшчалася беларускім літаратурным тэкстам. Своеасаблівае замыканне контуру семіёзісу станавілася магчымым не за кошт чыстай гутарковасці, але менавіта па фронту сыходжання стыхій гутарковасці і пісьма, на мяжы паміж імі. «Дзве душы» беларускай культуры першай трэці XX стагоддзя размаўлялі адной мовай і адным голасам, прычым менавіта такая «двудушная структура» гарантавала ўстойлівасць азначанага сама-падману і самапаглыбленасць, маналагізм беларускага тэксту. Пераходзячы ад гэтых адцягнутых і «метафізічных» разважанняў да жанравай і стылістычнай канкрэтыкі: такое функцыянальнае размяшчэнне беларускай літаратуры да 1928 года імплементавала дамінаванне ў ёй паэтычнай стыхіі, другаснасць прозы, і асабліва – наратыву. У нешматлікіх жа наратыўных творах яно адбівалася ў адметнай структуры: галоўны герой – вылучаны (але не цалкам, магчыма толькі на пэўны момант і, як правіла, паводле крытэрыя адукацыі) з агульнага гушчару сялянскай масы інтэлігент, музыка, настаўнік, палясоўшчык і д.п. Наратар – ці супадае з гэтым персанажам, ці адасабляецца ў бесстаронную, недыягетычную[1] інстанцыю. Маўленне наратара і персанажаў – прынцыпова аднатыпнае, адсутнічае той феномен, які можна следам за М. Бахціным назваць гетэраглосіяй: множнасцю сацыяльна-ідэалагічных галасоў.

[1] У сучаснай нараталогіі размяжоўваюць дыягетычны і недыягетычны тыпы наратараў: першы сам з'яўляецца ўдзельнікам апавяданай гісторыі, адным з персанажаў, і прамаўляе на правах і ад імя сведкі падзей наратыву; у другім выпадку, адпаведна, наратара нельга атаясаміць з ніводным з герояў, ён цалкам адасоблены ад апавяданай гісторыі ў чыстую функцыю фіксацыі і апавядання падзей.

Калектывізацыі, як і паралельнаму ёй працэсу пераследу «нацдэмаў», было наканавана цалкам змяніць усю вышэй азначаную дыспазію беларускага пісьма, прычым, былі скасаваны само месцазнаходжанне і магчымасць гэтай дыспазіцыі.

Пасля і падчас калектывізацыі і пераследу «нацдэмаў» пазіцыя добраахвотнікаў беларускай вёскі была прыўлашчаная адміністрацыйнай і наменклатурнай элітай, фармуляванне «павесткі дня» болей не належала беларускай літаратуры, дэмаркацыя цёмнага мінулага і жаданай будучыні адбывалася ў партыйных лозунгах, а летуценні і пошукі прышласці былі цалкам экспрапрыяваны бальшавіцкай ідэалогіяй. Болей таго, горш таго, ад беларускага народа, як асноўнага аб'екта беларускай літаратуры, было забрана яго мінулае: новы, непадлеглы абмеркаванню, пастулат уладнай ідэалогіі адмаўляў само існаванне адзінай, гамагеннай беларускай нацыі як у цяпершчыне, так і ў мінулым, пераўтвараў калектывізацыю і раскулачванне ў нібы заканамерную праяву заўжды былога сацыяльнага распластавання беларускай вёскі, заўжды наяўных у ёй сацыяльных і «класавых» антаганізмаў. Пазіцыя выразніка інтарэсаў «вясковага люду» была папросту скасавана.

Беларуская літаратура знайшла сябе ў пастцы сучаснасці 1930-ых. Абуджальнік беларускага народа быў раптоўна і гвалтам абуджаны ад уласнага сну пасярод пустэльні рэальнага, дзе ў яго не было болей свайго народа. Іншародны дыскурс савецкай улады, пранікаючы ў вясковае жыццё, даваў простыя адказы на адвечныя пытанні вясковай трагедыі. Пад ударамі ідэалогіі крышыўся маналіт вясковай грамады і вясковага жыцця – падзеі і ўчынкі штурхалі былых і будучых пратаганістаў беларускай літаратуры у процілеглыя бакі. Была страчана тая выгодная кропка, узнёслая па-над цэлым Беларусі, яе народа і гісторыі, адкуль можна было прамаўляць усёахопную, універсальную паэтычную праўду. Мастацкая праўда 1930-ых раскалолася на шматлікія аскепкі: голас «кулака» дый проста – звычайнага вяскоўца, які не хацеў нічога надзвычайнага, толькі жыць па запаветах продкаў, прыдбаць крыху дабрабыту і сваёй зямлі, каб пакінуць іх свайму сыну; адметная «праўда» бальшавікоў і партыйцаў – ставіць пад сумнеў якую забаранялася, а ў некаторых выпадках не ставала сіл, бо яна занадта доўга ўспрымалася як свая асабістая праўда; голас горада, які ўсё болей адасабляўся ад вясковых патрэбаў і светапогляду, голас увасоблены ў міфалагічнай фігуры брыгадзіра і «двац-

цаціпяцітысячніка»; адметны голас прадстаўніка мясцовай наменклатуры – партыйнага сакратара, старшыні калгаса і д.п., які паняволі мог у любы момант апынуцца ў прасторы толькі сваёй асабістай праўды, адасоблены ад праўды бальшавіцкай, як адказны за «перагібы на месцах» і «галавакружэнне ад поспехаў» і д.п. Крыху спрасціўшы сутнасць справы, можна сказаць: перад беларускай літаратурай з пачаткам калектывізацыі і да самага канца 1930-ых засталося толькі дзве альтэрнатывы – прамаўляць еднае беларускае слова, ад імя ўсяго беларускага ў «Пісьмах беларускага народа таварышу Сталіну», ці стаць пакутлівым у(пера)крыжаваннем асобных праўдаў, загучаць шматгалоссем самой тагачаснай рэчаіснасці.

Апроч таго, у самой інтэлігенцыі з'явіўся новы, далёка не чулы слухач – «аглабельны крытык», цэнзар і службіст. У гэткіх варунках магчымая полісемія пісьма стала разглядацца як даброта, як той лабірынт, у якім можна схавацца ад вока неспагадлівага чытача і ад згрызотаў уласнага сумлення.

Галоўная тэза дадзенага раздзела гучыць так: гэта трагічная проза жыцця 1930-ых сталася асноўным пачаткам беларускай прозы, дакладней – буйнога наратыву. Менавіта пачынаючы з 1930-ых гадоў і ажно да, магчыма, Разанава і Сыса, галоўнае слова беларускай літаратуры будзе сказана прозай – у раманах і буйных аповесцях Чорнага, Мележа, Быкава і Караткевіча. Вядома, прозай пісалі і раней, былі і спробы стварэння буйных беларускіх раманаў да 1928 года, але дагэтуль яны знаходзіліся ў цені беларускай паэзіі. Менавіта з 1928 года пачынаецца час прозы ў беларускай літаратуры, зрыфмаваны з цяжкой прозай беларускага жыцця.

## 2. Наратыўныя стратэгіі беларускай прозы 1930-х гадоў

### *2.1 Гетэраглосія беларускага наратыву 1930-х на матэрыяле урыўка з «Вязьмо» Міхася Зарэцкага*

У папярэднім раздзеле мы некалькі разоў узгадалі ўзбуйненне і ўскладненне наратыўнай структуры ў беларускай літаратуры 1930-ых, як нібы відавочны працэс, але ж, вядома, уніклівы чытач у праве патрабаваць ад нас прыкладаў і абгрунтавання падобнага, зусім не бясспрэчнага тэзіса. Сплаціць гэты пратэрмінаваны аўтарскі доўг нам дапаможа наступная цытата з «Вязьмо» Зарэцкага, і яе нараталагічны разбор:

*Было золка. Азызлы вечар хутаўся ў скрыдлы густога золкага ветру, але не мог сагрэцца і дрыжаў, абцякаючы халодным потам дробнае парасі. У мілай пакорнасці плакалі абапал вуліцы ціхія аганькі ў сялянскіх хатах, выстаўленыя на халодную варту гаспадарскага спакою. Мінаючы іх, Карызна пераносіўся ўяўленнем туды, за невялічкія падслепаватыя вокны, і бачыў скрозь адно:*

*Цьмяныя, закураныя дымам і часам сцены з вялізнымі шчэлкамі ў іх. Над сталом у куце, на цудоўна несіметрычнай высакосці, вісіць лямпа, прыбраная ў дробныя махры выразанай паперы, пажоўклай, замушанай. Над ёй недалужна ківаецца пакарабачаная талерачка, аброслая копатам, – не падабаецца ёй вечнае падкурванне, і яна круціцца, нездаволеная, але рады не дасць, бо навязана на дроціку. Каб адчапіць, пэўна б, пырхнула і паляцела, як мятлік.*

*На лаўцы пры стале сядзіць, панурыўшыся, гаспадар. Ён нічога не робіць і нічога не гаворыць; ён глыбока маўкліва адпачывае. Так можа адпачываць адно чалавек, які страшэнна многа працуе, якому пасядзець у тупой бяздзейнасці – асалода. На прыпечку змардаваная гаспадыня, вуркаючы верацяном, цягне бясконцую, як жыццёвая нягода, нітку. Побач з ёй – суседка ў такой самай паставе і такая самая, як яна, бо роўная доля ці, праўдзівей, роўная нядоля зрабіла іх без меры падобнымі адна да аднае. Ціхім, эпічна-спакойным цурочкам цячэ ў іх бясконцая, як і прадзіва іхняе, гутарка. А яшчэ далей за імі, у самым куточку, заўзята слюмачыць пальцы падлетак-дзяўчынка. Божа мой, гэта ж вы не бачыце – яна ж зусім вялікая дзеўка, яна ўжо мала не спраўляецца з маткай! Прыгледзьцеся-тку, як цягне яна кудзелю, як ходзіць у яе ў меру адстаўлены локаць, як брынчыць верацяно. А як зважна слюмачыць яна свае маленькія пальчыкі. А як, паслюмачыўшы, замамыльвае яна сваю сур'ёзную пысачку! Дарма што ёй толькі дванаццаць год, – яна ўжо зусім вялікая дзеўка. Яна ўжо ў пару з маткай сядзіць за верацяном праз цэлыя зімовыя вечары – і нішто. Толькі ломіць трохі сярэдзіну потым ды пальцы нейкія смешныя робяцца, як нежывыя. Але ж гэта глупства.*

*А на печы ў цёплым таварыстве кошкі і тараканаў ваўтузяцца і шэпчуць малыя. Чаго ў іх толькі няма там! І вялізныя будынкі-камяніцы, як у горадзе, і каўзель, і ліха ведае колькі зайцоў, лісіц, і школа, і піянерскі атрад, і дзядзькава скрыпка, і нават калгас. У іх там такая раскоша, што мімаволі прыслухваецца да іх з таемнай зайздрасцю шчырая дванаццацігадовая папрадуха. Адылі гэта яе не цікавіць, ані не цікавіць, бо яна ж вялікая ўжо.*

*І дрэмле ў хацёнцы спрадвечная, горам прыгбаная ціхасць.*

*Дзе гэта бачыў Карызна такую карціну? Ба, ён не так пытаецца, – дзе ён не бачыў гэтае карціны?*

*Гэта – вобраз яго дзяцінства [4, с. 84-85].*

Першым мы чуем наратара, бо гэта яго голас і замкнёная ў ім асертарычная моц арыентуе нас у часе-месцы дзеяння, а яго паэтычнае ўяўленне апявае золкі вечар сівецкай вуліцы. Але неўзабаве тэкст амаль цалкам затопяць роспач і жаль Сымона Карызны. Ужо словы «мілай пакорнасці» можна прачытаць як першае прадвесце пачуццяў і бачання Карызны, у якія мы занурымся ў наступным сказе.

Сымон Карызна – сакратар Сівецкай партячэйкі, змушаны «партыйным абавязкам» ненавідзець і пагарджаць «састарэлым» сялянскім бытам, паступова прызнае сваю зросласць, тоеснасць з ім. Ва ўрыўку мы знаходзім яго ў хвіліну ўнутранага крызісу, і праз яго вочы, праз яго расколатую свядомасць і сумленне зазіраем ў «падслепаватыя вокны». Само бачанне Карызны разгортваецца як бачанне-ітэратыў. Тут мы абапіраемся на тэрміналагічную дыхатамію ітэратыў / сінгулятыў Ж. Жэнета [2, p. 145-183]. Французскі наратолаг прапанаваў разасабляць дзве мадальнасці, пасродкам якіх аповед можа суадносіцца са з'явамі апавяданай гісторыі ў адносінах супадзення / рознасці частаты. У межах сінгулятыву фабула і аповед (падзея і выказванне аб ёй) супадаюць у колькасным вымярэнні. Сінгулятыў будуецца па правілы – казаць n разоў пра тое, што адбылася n разоў. Адпаведна, адзінкавае сінгулятыўнае выказванне суаднесена з адзінкавым здарэннем. Ітэратыўнае ж выказванне суаднесена адразу з цэлай серыяй здарэнняў, у ім аднойчы кажацца пра тое, што адбылася n разоў («кожны вечар мы...», «штодзень, раніцою я...»). Ітэратыў апісвае адразу некалькі падобных падзей, якія адбываліся (ці ўсё яшчэ адбываюцца) у апавяданай гісторыі з пэўнай рэгулярнасцю і на працягу пэўнага часу. Прычым, рэферэнтныя падзеі апісваюцца менавіта ў інстанцыі свайго падабенства і рэгулярнасці: ітэратыў палягае на разумовай аперацыі, у якой ад складу здарэнняў адбіраюцца толькі элементы, у якіх здарэнні падобныя, паўтараюць адно адное. У выпадку працытаванага тэксту мы маем справу не проста з ітэратыўным выказваннем, але з бачаннем-ітэрацыяй: Карызна не бачыць асобныя вясковыя вокны і індывідуальнае жыццё па-за імі, не разасабляе адзінкавыя сем'і і адметныя ся-

лянскія лёсы, не разрознівае час цяперашні і гады свайго дзяцінства. Наўзамен сінгулярнасці чалавечых сітуацый паўз шыбы кожнай сівецкай хаты яму бачыцца прынцыповая тоеснасць вясковага жыцця, і свая ўласная ідэнтычнасць з ім. Час спыніўся, межы індывідуальнасці распаліся. Так было і так ёсць у кожнай вясковай хаце. У некалькіх постацях і ў простай сцэнцы сямейнага жыцця злілася безліч канкрэтных начэй і безліч канкрэтных сем'яў. Гэта, вядома, псеўда-ітэратыў (у тэрміналогіі таго ж самага Жэнета): у паказанай нам сцэнцы зашмат дакладных дэталяў, каб яна сапраўды магла адбывацца штодня і ў кожнай сялянскай хаце, каб мы маглі паверыць ў Карызнава атаясненне. «Саступіўшы сцэну» голасу і ўяўленню Карызны, наратар неўпрыкмет усё яшчэ ўладарыць тэкстам: акурат праз дэталёвы паказ прымроеннага ім, як і праз паказ нябачання, невідушчасці (да індывідуальнасці жыцця) Карызны, наратар характырызуе яго стан і пачуцці. У той час як сам Карызна цалкам распусціўся ў сваёй крозе, мы самі ўспрымаем яго як таго, хто не можа адасобіць адметныя жыццёвыя пуцявіны асобных вяскоўцаў, таго, хто аслеплепны сваім пачуццём ідэнтычнасці.

Нават да таго, як напрыканцы ўрыўку будзе сказана, што гэта дзіцячыя ўспаміны, сам тэкст падказвае: мы знаходзімся ўнутры дзіцячага бачання, унутры перцэпцыйнай перспектывы дзіцяці – бо толькі у ёй лямпа можа вісець у «цудоўна несіметрычнай высокасці». Мы глядзім на сцэнку вачыма Карызны-малога, але голас, што каментуе бачнае, прыналежыць Карызне цяперашняму: толькі «амаль саракагадовы» Карызна можа сказаць, напрыклад, «горам прыгбаная ціхасць». Вочы Карызны-дзіцяці скажаюць візуальную перспектыву, голас Карызны-сакратара партячэйкі скажае перспектыву ідэалагічную. Але ці мог Карызна, які паводле простага падліку[2] нарадзіўся і пасталеў у дарэвалюцыйныя часы, гуляць у «піянерскі атрад..., і нават калгас»? У бясчассі бачання-ітэратыву эпізод з жыцця Карызны нібы змушаны бясконца паўтарацца ў кожнай з сваіх дэталяў, і толькі змест гульняў «малых» адгукаецца на плынь гадоў. Пасталеўшы Карызна, як і дарослыя ў ягоным відзежы, прыгбаныя жыццёвымі патрэбамі і турботамі, не зважаюць часу, хады гісторыі, і толькі Карызна-малы, з якім марна спрабуе ён атаясаміцца, жыве сучаснасцю.

2 «Зараз» наратыву, гэта год абвяшчэння суцэльнай калектывізацыі, то бок, 1929 год, і «зараз» Карызне «без малага сорак» (4, с. 13)

Часам напружанне паміж галасамі Карызны і наратара гасіцца: інтэнсіўнае маўчанне наратара і гаманлівая сумятлівасць Карызны аднолькава злагоджваюцца ў «нічыйных» гнамічных фразах: «Так можа адпачываць адно чалавек, які страшэнна многа працуе, якому пасядзець у тупой бяздзейнасці – асалода»; «Ціхім, эпічна-спакойным цурочкам цячэ ў іх бясконцая, як і прадзіва іхняе, гутарка». Але наратар час-почас перарывае сваю маўклівасць, урываецца ў аповед-відзеж Карызны, каб запрасіць чытача яшчэ болей занурыцца ў гэтае бачанне, атаясаміцца з перцэпцыяй: «Божа мой, гэта ж вы не бачыце», «Прыгледзьцеся-тку». Глядзіць на сцэнку Карызна-дзіця, цяперашні Карызна агучвае яе, ператварае бачнае ў словы, а пераважна маўклівы наратар «азіраецца цераз плячо», каб убачыць нас – чытачоў і запрасіць больш пільна ўгледзецца ў дэталі і пракаментаваць дэталі незразумелыя, нябачныя з нашай перспектывы.

Але нагэтуль наш аналіз яшчэ не вычарпаў таго рознагалосся, якім расквеціўся гэты, здавалася б, зусім невялікі ўрывак. Бо ў маўленне Карызны / маўчанне наратара ўкліньваецца яшчэ адзін голас – голас яго тагачаснай сястры, дванаццацігадовай дзяўчынкі: «Дарма што ёй толькі дванаццаць год, – яна ўжо зусім вялікая дзеўка. Яна ўжо ў пару з маткай сядзіць за верацяном праз цэлыя зімовыя вечары – і нішто. Толькі ломіць трохі сярэдзіну потым ды пальцы нейкія смешныя робяцца, як нежывыя. Але ж гэта глупства»; «Адылі гэта яе не цікавіць, ані не цікавіць, бо яна ж вялікая ўжо» – гэтыя словы, думкі, пачуцці могуць прыналежыць толькі самой дзяўчыне. Яна не проста ўваходзіць у відзеж-успамін Карызны вонкавай постаццю, яна і ўрываецца ў яго свядомасць сваім мысленнем, сваім маўленнем.

Нарэшце, маўленне маці і бацькі таксама прадстаўлена ў тэксце, хоць і не неўласна-простай мовай, як у выпадку дзяўчынкі, але з вонкавага боку, з перспектывы слухача. Вось вымоўнае маўчанне гаспадара, споўненае сэнсам – праз яго бязмоўнасць выказваюць сябе цяжкая праца, надзённая руплівасць і турботы простага вясковага жыцця. Вось «эпічна-спакойная» размова паміж гаспадыняй і яе суседкай, бясконцае прадзіва гутаркі, мэта якой – нітаваць час і пакаленні (дванаццацігадовае дзяўчо рыхтуецца не толькі заняць матчына месца ля кудзелі, але і яе «месца» сумоўцы ў адвечнай гутарцы), рахмана выказваць сваю нядолю, у тоеснасці якой знайшлі паразуменне жанчыны беларускай вёскі. Незаўважна, без перапынку льецца ў нябыт гэтая гутарка, падобная на само

жаночае жыццё і жаночую працу. Нам уласна і не трэба чуць канкрэтных слоў маці і бацькі, каб зразумець іх светапогляд, каб зразумець, пра што маўчыць гаспадар, як магла б адгукнуцца на бачнае гаспадыня.

Кожнаму з выяўленых ва ўрыўку галасоў можна супаставіць адпаведны дыскурс беларускай літаратуры, кожнаму, без асаблівых цяжкасцяў і інтэрпрэтацыйных нацяжак, можна знайсці суадносны «жанр» у папярэдняй беларускай мастацкай пісьменнасці:

а) Руплівае маўчанне гаспадара, «маўчыць голасам» экзістэнцыялу традыцыйнай вясковай працы, пошукаў лепшай долі і «надзённага хлеба», «голасам» зямлі і палеткаў – спрадвечнага кону чалавека-аратая, гэта маўчанне ахінае сусвет простай і навочнай, але і рыгарыстычнай, патрабавальнай этычнай сістэмай, журботна-празрыстым светапоглядам. Маўчанне бацькі магло б разгарнуцца ў аповед, з простымі, угрунтаванымі ў зямлі персанажамі, са сціплымі, але і важкімі словамі, ашчадным маўленнем, пакліканым да быцця працаю і эканамічнай несправядлівасцю, у аповед-папрок усяму летуценнаму і паквольнаму.

б) Простая гутарка дзвюх гаспадынь «цячэ» пад акампанемент гукаў «вуркатлівага» верацяна: доўжыцца бясконцай ніццю, без пачатку і выразнага заканчэння, явіць гук, фанетычную стыхію мовы. Гэта голас *матчынай* мовы, голас працоўнай песні і шэпту калыханкі, у якіх развінаецца месца для жаночай (ня)долі і повязі часоў, месца дзённых турботаў і міфалагічнай, цыклічнай адвечнасці. Матчыну гутарку магла б падхапіць верш-песня, якая спавіла народ у адзінстве паходжання і роўнасці ніцяў лёсу.

в) Валтузня і шэпт малых на прыпечку развінулі казачны сусвет, у якім аб'ядналіся ў адзінай фантастычнай прасторы лясныя звяры і дзядзька-музыка, былое і прышласць, цуды жыцця і палёт фантазіі; з печы гучыць голас дзіцячага подзіву сусветам, маладосці самога свету. Гэта дзіцячая гульня і дзіцячыя шэпты нібы вымагаюць свайго падоўжання ў казцы-быліцы, у простай мудрасці, якая б паказала адзінства ўсяго жывога і хараство навакольнага, дала б простыя адказы на самыя складаныя пытанні жыцця.

г) Карызна бачыць «скрозь адно» – гэта погляд праз перспектыву адзінства беларускай нацыі, цераз еднасць вясковага жыцця, да якіх ён прыналежыць, зрослы з імі, але і адасоблены ад іх, безнадзейна адарваны – нават у прасторавым значэнні: сцэнка з сялянскага жыцця ўяўляецца сівецкаму сакратару партячэйкі па той бок «падслепаватых вокнаў», вокнаў невідушчых да самога

Карызны і тых золкіх вятроў гісторыі, якімі ён ахоплены. Яго «сённяшняга» няма сярод насельнікаў хаты, там застаўся толькі Карызна-малы, толькі ягоная настальгія, роспачна-замілаваны ўспамін, які ён марна спрабуе перарабіць у нянавісць. Цяперашні Карызна разбурыў сваю ўласную сям'ю і бяжыць ад пустэчы сваёй уласнай хаты. Карызнаў голас – гэта голас вясковага інтэлігента, разарваны паміж замілаваннем «было», сіверам «ёсць» і невыразнасцю будучыні.

д) Адметны, апрычоны голас прыналежыць і дзяўчыне-падлетку. Гэта голас трансгрэсіўны: ён працінае межы замкнёных сусветаў, бо яму аднолькава вядомыя і зразумелыя і казачныя дзівосы дзіцячых гульняў, і свет дарослых турботаў, цяжкая праўда жаночай працы. Голас дзяўчыны пераступае нават наратыўныя ўзроўні, прыўносіць сваё асабістае гучанне, сваё ўласнае слова ў маўленне наратара і непасрэдна чутны чытачу, толькі ёй прыналежыць прывілей і права непасрэдна каментаваць свае ўчынкі, агучваць свае думкі перад чытачом. Гэты голас тоіць у сабе патэнцыю магчымай драмы першага кахання і першага найбольш трагічнага сутыкнення з несправядлівасцю жаночай долі, ён мог бы прагучаць з тэатральных падмосткаў у адвечным аповедзе пра першы, трагічна перапынены світанак пачуцця.

Кожны з прадстаўленых галасоў мог бы разгарнуцца ў адметны, асобны літаратурны голас, развінуцца ў асобны наратыў. Але ж, не: яны «скінуты» ўсе разам, усіх іх аднолькава ахапіла «горам прыгбаная ціхасць». Нягледзячы на ўсё шматгалоссе ўрыўка, у яго канчатковым падрахунку пазначана ціхасць, маўчанне. Асобныя праўды, адметныя светапогляды гасяцца адно ў адным, цішэюць, сышоўшыся разам, пакідаючы месца толькі для бязгучнай, безгалосай трагедыі сялянскага жыцця. Асноўнай крыніцай сцішэння выступае сыход разам галасоў насельнікаў хаты, з аднаго боку, і збалелага послуху Карызны, з другога. Карызна, што тая «талерачка над лямпай»: пакарабачаны лёсам, аброслы копаццю штодзённых турбот, рады быў бы адарвацца ад сваіх успамінаў, ад сваёй пакутнай настальгіі, каб зляцець ад іх матыльком у невядомае, каб згарэць недзе ў рэвалюцыйным агні, але ён навязаны да іх непарыўнай ніццю, і гэтая повязь складае саму яго сутнасць, ёсць ім самім. Менавіта пачутыя, расчутыя сялянскім інтэлігентам, загадчыкам сямігодкі і сакратаром партячэйкі Сымонам Карызнай, галасы вясковай хаты маглі б разгарнуцца ў асобныя літаратурныя дыскурсы, але замест гэтага яны патоплены ў

«ціхасці», бо час змяніўся і ў карызнавай цяпершчыне для іх няма будучыні, усе яны мусяць быць змецены новай калгаснай прышласцю, кожны з іх мусіць быць заменены голасам новага савецкага чалавека, якога не абыходзяць штодзённы клопат гаспадара, журботныя матчыны спевы ці казачныя летуценні... У «зараз» Сымона Карызны няма працягу для гэтых поклічаў сялянскай хаты, ім наканавана згаснуць у паветры, застацца без адказу, як застануцца без адказу і лісты бацькоў Карызны, дзе яны ў роспачы просяць свайго сына даць параду і паратунак. Гэтак жа сама «ледзяным маўчаннем» адгукнецца і сялянская грамада на «гучныя лозунгі», якія Карызна будзе марна кідаць у яе падчас сходу, прысвечанага калектывізацыі [4, с. 90].

Заўважце: ва ўсёй выяўленай намі ва ўрыўку з «Вязьмо» гетэраглосіі і мультытэмпаральнасці «даюцца ў знакі» прыўнесеныя калектывізацыяй ў беларускую вёску і літаратуру дыскурсіўныя і сацыяльныя канфлікты – разарваная на прэнгу ідэалогіі свядомасць і ідэнтычнасць; канфлікт бацькоў і дзяцей; скасаваная новымі акалічнасцямі патрэба беларускай інтэлігенцыі прамаўляць ад імя усёй вёскі і выказваць тоеснасць яе ўнутранага досведу; асуджанае 1929 годам на нябыт, але неадрыўнае ад «сэрца» беларускай пісьменнасці «састарэлае» сялянскае традыцыйнае жыццё.

Роля калектывізацыі і яе ідэалагічнага дыскурсу ў беларускай літаратуры 1930-ых была, вядома, далёкай ад выключна дадатнай: там, дзе трэба было прамаўляць ад імя самога гэтага дыскурсу, там, дзе патрабаваліся хваласпевы новай гаспадарчай палітыцы бальшавікоў, наратыўная будова адгукалася процілеглымі тэндэнцыямі – яе структура і характары герояў «спляскаюцца», рвуцца ніці аповеду, мова не толькі губляе сваю шматвалентнасць да розных галасоў, ідэалагічных пазіцый, але і адпадае ад самога наратара ў стэрыльную безасабовасць[3]. Гэтыя самыя тэндэнцыі заўважныя і ў тым жа «Вязьмо», прычым, заўважныя не толькі нам, чытачам рамана, але і самому Зарэцкаму. Вось, пасля патэтычнага, штучна-паэтычнага апісання падзей калектывізацыі, аўтар перарывае свой аповед, каб папрасіць выбачэння за ненатуральнасць сваіх словаў: «гэта – агульны, троху напышаны, але ў грунце правільны вобраз той пары, што апісваецца ў нашым апавяданні», вось і прызнанне Зарэцкага ў мастацкай няўдачы з вобразам брыгадзіра Зеленюка – увасабленнем палітыкі калектывізацыі: «хоць брыгадзір Зелянюк і

[3] Падрабязней глядзіце ў наступным раздзеле нашай працы.

паказваецца ў гэтым апавяданні як цалкам станоўчы, мала не ідэальны герой сучаснасці …» [4, с. 65, 104][4].

Варта падкрэсліць: узбуйненне наратыўнай структуры, ускладненне тэмпральнай рэферэнцыяльнасці, разгалінаваная і шматузроўневая гетэраглосія – гэта не прамы ўнёсак дыскурсу калектывізацыі ў беларускую літаратуру, бо з гэтага пункта гледжання яго роля была, як бачым, хутчэй цалкам адмоўнай. Гэта яго «рэха» ў папярэдне развітай дыскурсіўнай канстэляцыі беларускага пісьма. Гэта «франтальны» эфект спароджаны ў беларускім наратыве дыскурсам калектывізацыі, семантычная «хваля» ўзнятая перад гэтым дыскурсам, па-за полем яго непасрэднага дзеяння. То бок: праз рознагалоссе беларускага наратыву 1930-ых прамаўлялі сябе, вядома, не сама калектывізацыя і яе дыскурсіўны складнік, а разарваная імі свядомасць беларускай інтэлігенцыі, траўма самой беларускай вёскі. Гэта крык захлынання ў гістарычных хвалях 1930 -ых, які собіў дасягнуць сваёй мастацкай праўды і адвечнасці, і можа быць пачутым нават сёння.

### *2.2 Эпістэміялогія нянавісці: «Мядзведзічы» Кандрата Крапівы*

Той жа самы ўніклівы чытач можа выгукнуць, што мы ізноў паспяшаліся з вывадамі: покуль размова ішла выключна пра «Вязьмо» Зарэцкага, і на падставе аднаго рамана нельга рабіць агульныя высновы аб беларускай літаратуры 1930-ых як такой. Можа ўсё знойдзенае намі ва ўрыўку рознагалоссе гэта выключна плён таленту Зарэцкага?

Па-першае, ні ў якім разе не адмаўляючы талент Зарэцкага-мастака, мы мусім яшчэ раз падкрэсліць: выяўленая шматузроўневая наратыўная структура не з'яўляецца прадуктам чыстай фантазіі, не спароджана «ex nihilo», але паўтарае, люструе дыскурсіўную і сацыяльную дыферэнцыяцыю саміх 1930-ых.

Па-другое, падобнае ж, можа крыху меней красамоўнае і мастацкі дасканалае, расслаенне суб'ектаў маўлення і наратыўных узроўняў можна знайсці і ў іншых літаратурных аповедах таго часу.

Возьмем у якасці прыкладу «Мядзведзічы» Крапівы. Нават ужо першы, меншы за дзесяць старонак, раздзел недапісанага рамана развінаецца праз галавакружную нараталагічную траекторыю,

[4] Гл. больш падрабязна ў: Літаратура 7

падобную да руху ківача: ледзьве не кожны новы абзац будуецца на новай факалізацыі, перцэпцыйнай і эпістэмнай дыстанцыі, адносінах да галоўнага героя раздзела: Уладзі Каржакевіча, злодзея, дэзерціра з Чырвонай арміі, брата аднаго з галоўных кулакоў апавядання – Андрэя Каржакевіча, з рабаўніцтва сялянскіх коней, якім і зачынаюцца ўласна падзеі рамана. «Мядзведзічы» то набліжаюць чытача ў небяспечную блізіню да Уладзі, да тае інтымнасці, дзе немагчыма ўжо, здавалася б, утрымаць да яго вонкавае, адмоўнае і неспачувальнае стаўленне, то ізноў штурхаюць яго назад да нейтральнай абыякавасці, да тае аддаленасці, дзе Уладзь – гэта не болей, чым знешняя постаць, без імя, гісторыі і думак.

«Па Бараўской дарозе ідзе чалавек. Нізкі, нятоўсты, ён ідзе не спяшаючыся…» [6, с. 103]. Першы абзац – уся інфармацыя, апроч месца дзеяння, зарэзерваваная: незнаёмы чалавек крочыць па невядомых патрэбах у нявызначаным напрамку. Наратара, чытача і «чалавека» аб'яднала толькі выпадковая супрысутнасць у часепрасторы. Акрамя гэтай сваёй лакалізацыі побач і адначасна з чалавекам на Бараўской дарозе ніяк не выдае сябе і суб'ектнасць апавядальніка – яго голас паслядоўна і пратакольна ўзнаўляе свой перцэпцыйны шэраг і не шэлегу болей. Магчыма, толькі паўторнае прачытанне адзначыць: «здаецца, што ў чалавеку не ногі, а вельмі кароценькія куксачкі, і ступае ён імі па паветры» [6, с. 103] – у якасці не простага апісання візуальнай ілюзіі, але і як паэтычны намінак (Уладзь адарваўся ад глебы, ад сваёй роднай вёскі, і таму не можа сапраўды ступіць на родную зямлю).

Разам з другім абзацам «чалавек» уваходзіць у тэкст са сваім актуальным ментальным станам і са сваёй перцэпцыйнай перспектывай. Нам і наратару стаецца вядомым, што яму «спяшацца [...] няма куды», мы чуем яго думку: «нечы авёс яшчэ ў бабках стаіць» [6, с. 103], мы глядзім на свет праз ягоныя вочы, адзначаем і разумеем навакольнае сінхронна з «чалавекам».

Праяўляецца і наратар: ён спяшаецца пракаментаваць думку «чалавека» аб аўсы, адмаўляючы ёй у тым гаспадарлівым ураженні, якое, інакш, яна магла б зрабіць на чытача. Не, «чалавек» ужо не руліцца і не цікавіцца вясковымі справамі, яму не руліць мясцовая гаспадарка – запэўнівае нас апавядальнік, – бо інакш, ён бы пазнаў у непрыбраным аўсы бабкі Сымона Курыльчыка. Эпістэмічны гарызонт наратара, такім чынам, набывае канкрэтыку і атаясняецца з вядомым насельніцтву Мядзведзічаў: яму знаёмы іх імёны і іхнія справы. Ведае ён і самога Уладзю Каржакевіча – не

толькі яго актуальныя думкі, але і яго гісторыю (бо толькі такое веданне можа быць падставай меркавання: каб «чалавек» быў больш пільным, то пазнаў бы палетак Курыльчыка). Намінацыя «чалавек» ператвараецца, такім чынам, ва ўмоўнасць, у гульню з чытачом. Разам з суб'ектнасцю наратара праяўляецца і тая часавая дыстанцыя, якая аддзяляе яго ад персанажа – яго маўленне, пачынаючы ад гэтых яго рэплік, разгортваецца пераважна ў наратыўным мінулым часе, у процілегласць да наратыўнага цяперашняга «ідзе, здаецца, ступае» папярэдняга фрагмента.

Некалькі сказаў наратар нібы крочыць побач, усутыч з Уладзем, натуючы яго сцятыя, старожкія пачуцці, то з вонкавага пункта гледжання, то паглыбляючыся ў іх унутраны змест.

«Чалавек лавіў гэтыя гукі, аж выцягваў шыю, здаецца, прынюхваўся да паветра, у якім яны разлягаліся, як воўк, што падкрадаецца да вёскі, каб чым пажывіцца» [5, с. 104]. Уладзь ізноў адчужаны голасам наратара ўжо не толькі ў сваю абстрактную «чалавечасць», але і адчужаецца навочна насцярожаным, варожым стаўленнем да яго. Разам з голасам апавядальніка, які прыўласціў эпістэмічную пазіцыю Мядзведзічаў, вёска адмаўляе Каржакевічу не толькі ў радзіме, але і ўвогуле ў чалавечым статусе, прыпадабляе яго да хцівага звера. Увесь наступны абзац ізноў пабудаваны на вонкавай, адасобленай, аддаленай ад Уладзі (у тым ліку і прасторава) факалізацыі. Але ўжо ў наступным Уладзь урываецца ў наратыў сваімі успамінамі дзіцячых гадоў, пададзенымі ва няўласна-простай мове. Не толькі ўвесь адцінак [6, с. 104-105] дзіцячых згадак Уладзі падаецца яго ўласнымі словамі, мінімальна траспанаванымі наратарам ва ўскосны дыскурс («ён» замест «я» і д.п.), знікаючую дыстанцыю паміж ім і наратарам яшчэ болей падкрэсліваюць эліптычныя сказы з апушчаным дзейнікам («Ледзь вочы прадзярэ – выбежыць на двор, стане каля ганку, задраўшы кашулю, а сонца высакавата паднялася і ласкава грэе яго ногі і жывот», «Вось ужо зусім асмеліўся і ўглядаецца пад страху ў цямны закуток, дзе павінна быць гняздзечка» [6, с. 104, 105]) і цяперашні час дзеясловаў (наратар ужо «прагаварыўся» аб сваёй аддаленасці на тэмпаральнай прамой ад Уладзі, ужыўшы мінулы час, але гэтая дыстанцыя, да якой дадаецца ўласны біяграфічны час персанажа, знікае ў тэксце).

Скончыліся ўспаміны: толькі што мы былі сведкамі яго дзіцячых гульняў і свавольстваў, мы «чулі» яго ўспаміны і думкі, прагучала імя «Уладзік», як і імя яго бацькі, мы, нават, даведаліся, што

бацька быў старастам і карыстаўся павагаю суседзяў, і зноў перад намі «чалавек», нават «той, хто ляжаў у разоры», «той, у гетрах і фрэнчы» [6, с. 106, 109], знадворная постаць.

Наратыў так і будзе да канца першага раздзела калываць чытача, хістацца ў намінацыях і перспектывах: то перад намі «чалавек» і «той»; то Уладзік; то брат Андрэя, асветлены крэўнай спагадай і крыўдай; то падобная ў паводзінах да ваўка постаць. Наратар то слізгае абыякавым вокам па знешнім, то занураецца ў свядомасць персанажаў глыбей нават за іх саміх: «але з глыбіні свядомасці, праз крыўду і яшчэ не астылую злосць, прабівалася нешта прыемнае, нейкая палёгка, покуль што яшчэ не зусім ясная» [6, с. 112].

Пра што кажа гэтая хуткая змена, і, нават, здаецца, нематываваная чахарда пунктаў гледжання, ідэалагічных, прасторавых і тэмпаральных перспектыў, гэтае ўзаемнае пульсаванне суб'ектнасцей апавядальніка і персанажа? Па-першае, ізноў жа: літаратура беларускіх 1930-ых вылучаецца досыць шырокім наратыўным рэпертуарам, валодае і актыўна пераключаецца ў граніцах буйнога спектра тыпаў і рэжымаў суб'ектывізацыі. Але і яшчэ: гэтая нявызначанасць апавядальніка ў адносінах да негатыўнага героя адлюстроўвае саму разгубленасць тагачаснага беларускага інтэлігента. Хто ён – гэты новы «вораг», якога сканструявала для беларускай вёскі бальшавіцкая ўлада: кулак і «ягоны памагаты»? Просты чалавек, вінаваты ў меру сукупнасці сваіх адмоўных вонкавых учынкаў, выяўленых на працягу асабістай гісторыі і злічаных на бесстаронніх шалях? Вырачаны амаль ад самага нараджэння дзеля свайго паходжання і сваяцкіх повязяў? Адрынуты самой сялянскай грамадой, хіжы звер, абярнуўшыся чалавекам, пачварнае ўвасабленне прагі ўладарання і маёмасці, і асуджаны, выкрыты ў першую чаргу менавіта сваёй адасобленасцю ад усяго грамадскага і грамадзянскага? А можа проста – чалавек, адзін з нас, пакараны без дай прычыны?

Увогуле ўсе «Мядзведзічы» як такія (прынамсі, напісаны іх урывак) могуць быць прачытаны як своеасаблівая эпістэміялогія нянавісці, як гісторыя інфільтрацыі бальшавіцкай веды аб новых ворагах, аб новых аб'ектах варажнечы ўлады ў сялянскую грамаду, і як гісторыя паступовага атаяснення часткі грамады з суб'ектам гэтага ведання.

«Гады і кулакі паламалі мне ногі, а я хачу зламаць ім карак» – гэтымі словамі завяршаецца першая (і адзіная з напісаных) частка

рамана: адзін з яго герояў Рыгор Варанец піша ліст «ў камунісцічаскую парцію» з просьбай навучыць яго помсце [6, с. 342]. Уласна гэтае навучанне нянавісці да свайго бліжэйшага сацыяльнага (вясковага) атачэння, апазнанне наяўнага вясковага status quo як непрымальнага і зварот да вонкавых хранатопу Мядзведзічаў сілаў, да вонкавай ім веды і складае асноўную канву рамана.

Напісанне «камунісцічаскую» і іншыя маркёры відавочнай непісьменнасці Рыгора Варанца, шчодра (быць можа, нават празмерна) пакінутыя ў яго лісце Крапівай, тут зусім не выпадковыя: само набыццё пісьменнасці атаясамліваецца ў «Мядзведзічах» з набыццём партыйнага светапогляду і інтэрыярызацыяй бальшавіцкай нянавісці. Параўнайце вельмі характэрны з гэтага пункта гледжання ўрывак, дзе Алеська – дачка адной з галоўных гераінь, Аўдолі, вучыць сваю маці чытанню: «Ку-... ку-ла-кі- на-шы во... вор...во-ра... Вось заўсёды, як дайду да гэтай качаргі, дык і тпру, – скардзіцца Аўдоля.

– От, мама! Якая ж гэта качарга? Гэта ж “г”, – крыўдзіцца Алеська за такую знаёмую ёй літару. – Чаго ж ты ўжо стала? Чытай далей, – падганяе яна матку. – Ну, чытай: во-ра-гі» [5, с. 216].

Насельніцтва Мядзведзічаў непісьменнае, бо ў пераважнасці сваёй не валодае навыкамі чытання, яно ж – недасведчанае, неадукаванае, бо не можа даць назвы і рады той нянавісці, што здавён вядзе рэй у вясковым жыцці. Нянавісць гаспадарыць паміж асобнымі гаспадарамі і ўнутры іх сем'яў, складае саму «матэрыю» вясковай штодзённасці – падказвае і вучыць нас раман. Менавіта як «паказ»[5] атмасферы нянавісці, якая ўладарыць у Мядзведзічах, развінаюцца найболей шматгалосыя, мульты-перспектыўныя ўрыўкі рамана, прысвечаныя сям'і Верамейчыкаў (IV і VI раздзелы). Спынімся асобна на 4-ым раздзеле: тут можна назіраць сітуацыю, падобную да прааналізаванага вышэй уводнага 1-ага раздзела, – наратыў будуецца на хуткай змене і наслаенні розных факалізацый і ідэалагічных перспектыў. Але ў дадзеным выпадку інтэрферэнцыя пунктаў гледжання разгортваецца не паміж наратарам і факалізаваным персанажам, але развінаецца ў партытуру какафоніі галасоў чальцоў сям’і Верамейчыкаў, адначасова з гэтым і карэ-

[5] Да трактоўкі гэтага паняцця ў яго супрацьпастаўленні апавяданню (“дыхатамія Telling і Showing, якая ўзыходзіць да платонаўскага падзелу διήγησις і μίμησις, уведзенага ў "Палітэі") гл.: 1, p. 3-20; 2, p. 184-189.

лятыўна гучанню асобных галасоў у канву апавядання ўплятаецца іншая тэматычная і дыскурсіўная дамінанта: кожны з Верамейчыкаў характарызуецца індывідуальнай пазіцыяй у перакрыжаванні каардынат пісьменнасць – прагматыка пісьма і асветы – палітычная і эканамічная пазіцыя.

### 3. Савецкі дыскурс: калапс суб'ектыўнасці

У аповесці Якуба Коласа «Адшчапец» [5], Андрэй – старэйшы сын галоўнага героя Пракопа Дубягі, піша ў лісце бацьку:

*Пара скончыць з аджытымі формамі гаспадарання на вузкіх палосках і забіць асінавы кол ў магілу індывідуальнай гаспадаркі, дзе людзі гібеюць, а на іх целе расце шкодны грыб – кулак. Наш час – час разгорнутага наступленьня на ўсім фронце на кулацкія элементы і на нэпманскія ў горадзе. Калектывізацыя сельскае гаспадаркі – вось лёзунг сённяшняга дня. Вы-ж там павінны стаць піянерамі калгаснага будаўніцтва. Дык не слухайце кулацкіх правакацый, а першымі запісвайцеся ў калгас* [5, с. 16].

Чые гэта словы? Хто аўтар гэтых радкоў? – У іх нябачна ані Андрэевай персанальнасці, ані яго сапраўдных думак, яго ўласнага стаўлення да калектывізацыі, не чуваць, нават, тых характэрных слоў і аргументаў, у якіх бы ён свае думкі даводзіў / хаваў. Перад намі нібы спраўна перапісаныя радкі адной з перадавіц тагачаснай савецкай прэсы. Увесь сэнс абзаца можна звесці да таго, што Андрэй падзяляе афіцыйныя погляды на калектывізацыю і просіць (змушае?) сваіх бацькоў таксама пагадзіцца з імі і як мага хутчэй запісацца ў калгас. Але ж мы не бачым нейкіх аргументаў, падабраных адмыслова для бацькоў, слоў, якія маглі зачапіць толькі іх, апеляцыі да супольна пражытага жыцця, сямейнай гісторыі, уласнай біяграфіі. Няма адпакутаных довадаў і думак, Андрэевай экспрэсіі, яго самога, як сына Пракопа.

Усе асабістыя, персанальныя звесткі аб жыцці Андрэя з яго ліста пададзены адным сказам, у пераказе і ва ўскоснай мове. А яго ўласны «голас» спатрэбіўся, каб падаць гэты безасабовы панегірык калектывізацыі. Нідзе далей у аповесці мы болей не сустрэнем Андрэя «ў плоці», нідзе болей не пачуем яго голас, яго віртуальнае быццё ўспыхнула на імгненне, каб толькі сагрэць ілюзіяй асабовасці гэты імперсанальны тэкст, каб даць імя ўласнае ата-

нальнаму голасу, што ўварваўся на старонкі «Адшчапенца» са сціжмай клішэ савецкай публіцыстыкі. Але Андрэй уваходзіць у наратыў намарна – цень яго постаці чэзне ў маналіце ідэалагічнага дыскурсу. Колас таксама, відавочна, адчуў няздольнасць голасу Андрэя «перастрававаць» гэты кавалак агітацыйнага тэксту, індывідуалізаваць яго. Таму ён агарнуў ліст у яшчэ адзін голас – у голас Мікіты, другога, малодшага сына Пракопа: «Калі Мікіта дайшоў да гэтага месца, то голас стаў званчэйшы, а тэмп чытання больш паважны... Дачытаўшы апошні сказ, Мікіта выразліва паглядзеў на бацьку» [5, с. 16]. Абодва Пракопавы сыны паўстаюць перад ім і чытачом аповесці аракуламі «савецкага» дыскурсу, вуснамі якіх гэты дыскурс вястуе ўласную саматоеснасць і недакранальнасць.

Апрапрыяцыя галасоў Мікіты і Андрэя «савецкім» дыскурсам ніяк «псіхалагічна» не матываваная, не адыграе ролі ў раскрыцці персанажаў. Тыя ж самыя словы мог вымавіць ці напісаць любы са «станоўчых» герояў аповесці. Больш таго – гэту серыю выказванняў можна пераставіць у іншае месца «Адшчапенца», дадаць да іх падобныя, скараціць, разбіць на асобныя фрагменты і ўлучыць паасобку ў розныя адцінкі тэксту: любая падобная рэкамбінацыя ніяк не адлюструецца на наратыве. Працытаваны ўрывак не мае на ўзроўні наратыўнай структуры свайго функцыянальнага месца.

Мы так падрабязна спыніліся на канкрэтным адцінку з «Адшчапенца» дзеля яго парадыгматычнага характару, менавіта ў ім, на нашу думку, найбольш рэльефна адлюстроўваюцца адметнасці ўваходжання савецкага дыскурсу ў парушаючай наратыўныя механізмы мадальнасці.

Прыклады можна падоўжыць. У тым жа «Адшчапенцы» падчас сходу сельсавета, на якім агучваецца новая рыторыка калектывізацыі, у тканіну наратыву ўваходзіць брыгадзір Брыль. Згодна з тагачасным савецкім маралітэ[6] Брылю наканавана сказаць важкае слова, якое цалкам зменіць перакананні сялянскай грамады на карысць калектывізацыі. Але яго вусны вывяргаюць толькі бяс-

[6] З пачаткам 1930-ых усе персанажы беларускай і ўвогуле савецкай літаратуры, прысвечанай калектывізацыі, мусяць адпавядаць досыць жорсткаму фігуратыўнаму канону: маўклівая, інертная сялянская маса; карыкатурная ў сваёй заганнасці фігура кулака; «галавакружэнне ад поспехаў», увасобленае ў персанажах мясцовай партыйнай адміністрацыі, і брыгадзір-рабочы – актыўны носьбіт партыйнай цноты і камуністычнага клёку. Відавочная схематычнасць і фармальнасць гэтай расстаноўкі роляў, дае поўнае права параўнаць яе з сярэднявечным маралітэ.

концую плынь публіцыстычных догматаў: замежная буржуазія, саюз рабочай класы і батрацкай масы, голас свядомага ворагу і г.д [5, с. 25-28].

Адначасова тая ж самая «дыялектыка» эксклюзіі і інклюзіі разгортваецца і ў плоскасці семантыкі дадзенага дыскурсу:

«Наша задача, таварышы, задача партыі і савецкай улады – захаваць сілу чалавека, зрабіць палёгку ў яго працы [...] наша задача – павялічыць яго прадукцыю, даўшы яму машыны» [5, с. 28]. На момант, у дэйксісе «наша» і «таварышы» ўспыхвае калектыўнае «мы» сходу, «мы», якое ўлучае ўсіх слухачоў і прамоўцу ў адзінае кола актантаў і адказных, праз момант гэта «мы» будзе расколата на пасіўных слухачоў і «партыю», «наша задача» – задача «мяне і вас», ператвараецца ў задачу партыі, якая таксама штомомант гатова расцерушыцца на асобных партыйных, каб пасля абярнуцца трансцэндэнтнай для розуму асобных чальцоў самастойнай існасцю. Сам Брыль прадстае перад сходам і чытачом аповесці ці то адным з партыйцаў, адным са шматлікіх, для якіх «наша задача» – гэта свая задача, то простым рупарам партыйнай волі, рэпрадуктарам слоў КПСС. «Задача партыі» – зноў жа зблытвае ў галавакружным сінтаксісе родны і давальны склоны: партыя высунула задачу ці яна яе выконвае? Хто тут загадвае і хто падпарадкуецца? Калі «партыя» – высунула задачу, то якая роля Брыля? Ён агучвае «нашу задачу», як адзін з тых, хто датычны яе фармуліроўкі ці той, каго гэта фармуліроўка датычыць? Мусіць Брыль сачыць за выкананнем задачы ці паслухмяна яе выконваць? Нарэшце, да семантычнагаківача «партыя і народ», дадаецца яшчэ адзін – антыномія-таясамасць: «партыя і савецкая ўлада». Хто ці што стаіць за гэтымі абстракцыямі, наколькі дыз'юнктыўнае гэтае «і» паміж «партыяй і савецкай уладай»? Аб'ект і мэта «задачы» таксама схаваны за шматзначнай сінекдахай «чалавек». Аб якім чалавеку ці то загадала, ці то абяцала рупіцца партыя і ўлада? Ці наяўнічае ён сярод прысутных на сходзе? Яны таксама «людзі», аб якіх ідзецца ў «задачы», ці толькі расходны матэрыял, які будзе ахвяраваны на алтар чалавечай сутнасці? Гэта чалавек сучаснасці, ці толькі будучы сапраўдны чалавек, якога трэба будзе вынайсці і стварыць? Чыю сілу трэба захоўваць і аб чыёй прадукцыі дбаць?

Крыніца ўлады, «агенс» і «пацыенс» яе зага́даў, аўтарства словаў, слухач і прамоўца – усё гэта зблытана ў тугой полісеміі Брылевай прамовы.

Каб дадаць гэтай чарговай трансляцыі партыйных лозунгаў пераканаўчасці, Колас змушаны звярнуцца да дыягезісных сродкаў:

«*шырокі і звязісты Брыль падымаецца і здаравеннымі мазолістымі кулакамі, парадкам працаваўшымі каля станка, упіраецца ў стол. Ён весела акідае вачамі шэрую сялянскую масу», «голас яго чысты, звонкі», «і яго магутная постаць, і голас, і нейкая прастата і шчырасць у яго словах робяць на сялян добрае уражанне», «паніжаным прыяцельскім голасам гаворыць далей Брыль», «як напрактыкованы настаўнік, ён робіць ізноў кароткі перапынак, як-бы даючы сходу падумаць», «Сход слухае ўважліва. Настрой яго мяняецца», «Таварыш Брыль быў не кепскі прамоўца. Ён вельмі прыгожа і трапна даў малюнак жыцця ў калектыве, не заплюшчваючы вачэй і на тыя труднасці, што няўнікнёна павінны быць на першых часах. І калі ён скончыў прамову, то яму дружна і доўга пляскалі*» [5, с. 28].

Нібы скульптар лепіць Колас з Брыля маўклівы манумент пралетарскай магуты, вылучае яго на фоне шэрай масы сялян. Маўклівы, бо Брыль, ізноў жа, падобна Андрэю ў лісце, пазбаўлены асабістага голасу і перакананняў. Прамова ад імя савецкага дыскурсу пазначае кропку маўчання асобы. Брылю адведзена роля своеасаблівай радыёкропкі, праз якую савецкі дыскурс бруіцца на пасіўных слухачоў прамовы і чытачоў аповесці. І падобна благой камедыі, дзе закадравы гогат мусіць зацугляць нязмушанасць натуральнага смеху, дыягезіс падказвае нам, якой мусіць быць рэакцыя на гэтую прамову.

Але ўсіх гэтых наратыўных мыліц відавочна мала, каб дадаць прамове Брыля (савецкаму дыскурсу) тую абсалютную пераканаўчасць, якая патрабавалася дзеля апраўдання карэннай ломкі сялянскага жыцця. Мала не толькі з нашага погляду, але і для самога Коласа. Прынамсі, сведчаннем такога аўтарскага вагання можна разглядаць паўтор усёй дыскурсіўнай падзеі сходу другім разам ужо ў апавяданні, факалізаваным на свядомасці галоўнага героя Пракопа і яго сына Мікіты. Колас дадае, такім чынам, тыя фіктыўныя сляды перфарматыўнай паспяховасці, якія мусяць канчаткова пераканаць нас (і яго) ў ілакутыўнай моцы савецкага дыскурсу. Функцыянальная роля гэтага паўтору падзей сходу (нават, патраення, бо задзейнічаны перцэпцыйны гарызонт і свядомасць і Мікіты, і Пракопа) палягае ў логіцы своеасаблівай эн-

цінемы: усе персанажы фіктыўнага сусвету «Адшчапенца» вызналі пераканаўчасць прамовы Брыля, значыць і ўсе шчырыя слухачы мусяць згадзіцца з ёю:

*Мікіта, седзячы ў першых радох і слухаючы прамовы, увесь гарэў. Мацней і шчырэй за ўсіх пляскаў ён прамоўцам, і радасць яго ўсё ўзрастала, у меру таго, як раставаў лёд недавер'я ў сялянскіх сэрцах пад іскрамі гарачых слоў прамоўцаў [5, с. 29]*

*Зусім іначай адчуваў сябе Ракоп. Перад сходам ён цешыў сябе надзеяй, што сённяшні сход скончыцца так-жа, як скончваліся і ранейшыя сходы [...]. Але калі з прамоваю выступіў гэты рабочы і захапіў сялян прастатою сваёй гутаркі і шчырасцю веры ў пераможнасць новых форм жыцця, то Пракопава надзея пагасла, і ён ціха сказаў суседу, таўкануўшы яго локцем:*

*– Пазапісваюцца ўсе! [5, с. 29].*

Калі прыгледзецца, то наратыўная пабудова гэтых урыўкаў досыць складаная. Усяведны наратар, які сачыў за сходам, у дадзеным адцінку відавочна факалізуецца, спачатку, на момант, на Мікіце, а пасля на Пракопе. Гэта «ўнутраная» факалізацыя – мы бачым пачуцці і перажыванні абодвух персанажаў, у наратыў нават пранікае персанальнае, Пракопава маўленне: гэта ягоныя словы «гэты рабочы». Але ці можна сказаць, што Пракоп і Мікіта тут з'яўляюцца не толькі факалізаванымі, але і самімі факалізатарамі? Кажучы прасцей – ці можам мы прызнаць іх носьбітамі тае веды, якая апісана ў тэксце? Не! Мікіта аніяк не мог бачыць «таячы лёд недавер'я ў сялянскіх сэрцах», а Пракоп ведаць, што яго аднавяскоўцы былі захоплены «прастатою гутаркі і шчырасцю веры» Брыля. Перад намі відавочны наратыўны парадокс: наратар зазірае ў свядомасць сваіх персанажаў і знаходзіць там пачуцці і меркаванні, пабудаваныя на ведзе, носьбітам якой можа быць толькі ён сам, бо толькі з наратарыяльнага пункту гледжання можа быць вядома ўнутранае, псіхалагічнае ўздзеянне прамовы брыгадзіра на сялян. Для гэтай дасведчанасці Мікіты і Пракопа ў сапраўдных настроях аднавяскоўцаў не прыведзена ніякіх рацыянальных падстаў, яна не абмежаваная ніякай гіпатэтычнай формай. Нібы сам наратар залучыў у іх свядомасць сваю веду аб праўдзе сэрцаў сялян, каб пасля паказаць думкі саміх Мікіты і Пракопа як сведчанне поспеху прамовы. Асабліва кідаецца ў вочы абсурднасць выказвання: «калі з прамоваю выступіў гэты рабочы і захапіў сялян

прастатою сваёй гутаркі і шчырасцю веры ў пераможнасць новых форм жыцця, то Пракопава надзея пагасла». Варта толькі вылучыць тыя прапазіцыйныя ўстаноўкі (propositional attitude), на якіх яно пабудавана:

Пракоп губляе надзею, бо ведае, што {сяляне захоплены прамовай Брыля, бо ведаюць, што {Брыль шчыра верыць ў пераможнасць новых форм жыцця}}.

Перад намі дзіўная ўсеагульная і ўзаемная транспарэнтнасць свядомасцей персанажаў: ментальны стан Брыля («шчырая вера») непасрэдна спрычыняе перакананне сялян, а апошняе непасрэдна адлюстроўваецца ў свядомасці Пракопа. Дзе прычына і тлумачэнне гэтаму разбурэнню суб'ектыўных межаў і дзе тая прастора, у якой асобныя свядомасці ператвараюцца ў падобныя сазлучаныя сасуды? Мы схільны меркаваць, што такая прастора – сам савецкі дыскурс.

Зарэцкі ў «Вязьмо» для перадачы перфарматыўнага эфекту прамовы носьбіта і прадстаўніка савецкага дыскурсу – брыгадзіра Зелянюка – карыстаецца тым жа прыёмам: падае яго ў пераламленні свядомасці аднаго з галоўных герояў рамана – Галілея. Развязанне гэтай задачы ў «Вязьмо» адрозніваецца, бадай, большай мастацкасцю і дасканаласцю. Уласна самой прамовы Зеленюка мы не чуем, а можам назіраць толькі тыя хвалі імпрэсіі, якія выкліканы ёй у розуме Галілея. Думкі і ўражанні старога шукальніка праўды пададзены таксама ў больш простай манеры, без тых наратыўных парадоксаў, якія мы заўважылі ў Коласа. Фактычна перад намі няўласна-прамая мова; транспанаваная наратарам у сваіх словах плынь свядомасці Галілея:

*Што ж, гаворыць ён з сэнсам, пачаў зусім здалёку – дзе тая калектывізацыя, няма ніякай калектывізацыі, ані слоўца пра яе, ані зыку! – можна слухаць зусім спакойна: от, расказаў пра буржуазію, пра замежныя дзяржавы, успомніў паноў, акупацыю, тое, другое. Галілею гэта дужа падабаецца. Ён ведае, да чаго ўсё яно прыйдзе, але ж трэба падвесці так, падвярнуць, каб і не змецілі, як яно тое галоўнае наповерх выслізне. О, гэта хлопец-зух, няма чаго казаць! [4, с. 22].*

Буржуазія, замежныя дзяржавы, паны і акупацыя, тое, другое – не цяжка пазнаць за гэтым пераказам усё той жа саматоесны, нязменны савецкі дыскурс, але гэтым разам ён сагрэты, інтанаваны

свядомасцю Галілея. Прычым, як бачым, сама прамова ўспрымаецца ў якасці неабходнага, але незразумелага ілакутыўнага рытуалу. Менавіта ілакутыўную сілу прамовы Зеленюка ацэньвае Галілей: «Во, гэта хвацка! Чыкрыжыць, як рэпу грызе…» [4, с. 22], нібы ён з'яўляецца сведкам пэўнага рытуалу, галоўным у якім з'яўляецца паслядоўнасць і майстэрства ў вымаўленні магічных формул.

Пераканаўчасць і перфарматыўны поспех вымаўлення савецкага дыскурсу падобны да тэалагічнай ласкі, якая сыходзіць толькі на абраных і душэўна чыстых. Тыя ж самыя словы, якімі з вуснаў Коласавага Брыля і Зеленюка Зарэцкага так моцна была ўзрушана сялянская грамада, не робяць аніякага эфекту, калі іх прамаўляе Сымон Карызна:

*Пра што гаварыў у сваім дакладзе Сымон Карызна?*

*Даклад быў бясспрэчна добры і поўны – у ім было ўсё, што трэба было, каб зрабіць яснай, як дзень, і няўхільнай справу калектывізацыі. Ён гаварыў пра анархічную неарганізаванасць, няздатнасць дробнай гаспадаркі, пра жорсткую кулацкую эксплуатацыю, пра тупы ідыятызм дзікага вясковага бытавання, пра спрадвечную нядолю бедняка-селяніна. Ён разгортваў маляўнічую карціну жыцця ў калгасе, паказваў усе перавагі яго над дробнаю індывідуальнаю гаспадаркаю, даводзіў гэта жывымі прыкладамі, цікавымі вылічэннямі. Ён перадаваў заклік партыі і ўлады да перабудовы жыцця, да знішчэння кулацкае эксплуатацыі, да дружнага калектыўнага руху наперад, у яснае царства сацыялізма. Пад канец прамовы ён распаліўся, упаў у энтузіязм і скончыў гарачымі гучнымі лозунгамі.*

*Гэтыя гучныя лозунгі недалужна захраслі ў ледзяным маўчанні [4, с. 89-90].*

Карызна выкарыстоўвае ўсе рытарычныя, лагічныя і экспрэсіўныя патэнцыі савецкага дыскурсу, але ўсе яго намаганні марныя, яго пакінула «ласка» савецкага дыскурсу, і ён змушаны не толькі на маўчанне асобы, але і перфарматыўную маўклівасць: «у яго было адчуванне, дужа падобнае да таго, якое часам бывае ўва сне, калі трэба крыкнуць чаго-небудзь, і крычыш, напружыўшы ўсе свае сілы, а тым часам з жудасцю чуеш наўкола адну мёртвую цішыню» [5, с. 90].

### 4. Паэтыка калектывізацыі: асноўныя метафары і метаніміі падзей 1929 года

Асноўныя падзеі калектывізацыі і раскулачвання прыпадаюць на зіму. На падставе гэтага тэмпаральнага сумежжа нарадзілася адна з асноўных метанімій беларускай літаратуры 1930-ых – ча́савае супадзенне серыі падзей калектывізацыі і маніфестацый зімы трактуецца як сімвалічная тоеснасць гэтых двух шэрагаў: адзін кадуецца другім і накладаецца на другі. Скрозь творы 1930-ых цягнецца інтэртэкстуальны ланцужок канатацый: зіма становіцца «бальшавіцкай», бель снегу прыпадабняецца ачышчэнню ад «грахоў» уласніцтва, сялянскай сквапнасці. Але найбольш эўрыстычнай аказваецца метанімічна ўгрунтаваная метафара завірухі, як санкцыянаванага і апаэтызаванага самой прыродай сімвалічнага, стыхійнага паўтору калектывізацыі. Узгадаем, да прыкладу, пачатак «Адшчапенца» Якуба Коласа: «Смела і ўпэўнена, як нейкі важны адміністратар, ходзіць па полі вецер. Відаць, і яго захапіла ідэя колектывізацыі: ён вельмі гарліва сцірае ўсякія сляды і знакі індывідуальнай гаспадаркі – засыпае снегам вузенькія межы, дзе матляюцца голыя вярхі сухога быльніку, абагульняе загоныя і цэлыя палеткі, бязжаластна трасе хірлявыя кусты па канцох шнуроў, як-бы хочучы павырываць іх, каб і следу не засталося ад іх, каб не напіналі яны аб граніцах» [5, с. 4]. У «Вязьмо» Зарэцкага шукальнік праўды Галілей прыходзіць да Андрэя Шыбянкова, галоўнага ненавісніка кулака Гвардыяна, каб «даведацца, як ён ненавідзіць Гвардыяна, свайго ворага, і як гэта нянавісць спалучаецца з той, агульнай завірухай, што ўзнімаецца наўкола, нясе вялікую, яшчэ не асазнаную Галілеемператруску» [4, с. 51]. Старонкай ніжэй Галілей утрапёна ўзіраецца ў Андрэя, мяркуючы што «праз Андрэева раскрытае нутро, як праз маленькую шчэлаку, ён убачыць зараз тое вялікае, страшнае, што нясе Гвардыянам новая *завіруха*» [4, с. 52; курсіў наш – *Н. І.*].

Тлумачэнне метафар – няўдзячны занятак, але ўсё ж, паспрабуем разблытаць той семантычны клубок, што схаваны за такім прыпадабненнем: калектывізацыя = завіруха.

Па-першае, гэтая сімвалічная тоеснасць паказвае маштаб падзей у свядомасці сучаснікаў. Завіруха – увасабленне стыхіі: непадкантрольнага, несупыннага і неадольнага. Завіруха ў паэтычным слоўніку – гэта прыклад «узнёслага» ў сэнсе кантавага Erhabene: тое, што пераўзыходзіць здольнасці чалавечага разумення і разліку,

тое, аб што крышыцца чалавечая развага, у чым адкрываецца сапраўдны маштаб людскога быцця. Праз метафару «завірухі» калектывізацыя адасабляецца ад індывіда, ад сувымерных яму рэчаў, выносіцца па-за кола свойскага, адстаўляецца ў вонкавы, знешні і непадкантрольны свет. Перад намі старая, як сама літаратура, сімвалічная стратэгія схаваць гістарычныя падзеі і ўчынкі людзей пад шатамі φύσις, натуральных здарэнняў, якія няма каму інкрымінаваць, апроч самога лёсу. У фіктыўным сусвеце беларускага наратыву 1930-ых сялянскі запыт аб сэнсе і крыніцах калектывізацыі, якая насоўваецца на іх з вонкавага абшару партыйнага φύσις'а, падобны да крыку на ўзвей вецер – марнаму і ірацыянальнаму. Але гэта не значыць, што за падобным метэаралагічным прыпадабненнем не стаяла ніякай рэчаіснасці апроч літаратурных умоўнасцей: маштаб і размернасць падзей калектывізацыі, па праўдзе, перавышалі простую метрыку катэгорый вясковай грамады. Беларускі селянін быў у нязмозе спыніць раз'юшаную стыхію калектывізацыі, якая ўсхадзілася на яго зямлі. Супрацьстаяць ёй падавалася такім жа вар'яцтвам і блюзнерствам як намаганні спыніць завіруху. Такім чынам, метафара калектывізацыя = завіруха грунтавалася на несупадзенні гістарычнага і сацыяльнага размаху падзей з метрыкамі сялянскай развагі, дзеля чаго калектывізацыя вырастала да маштабаў прыроднай стыхіі, несупыннай плягі.

Па-другое, у завірухі няма ўласнага, унутранага сэнсу ці волі. У «тапалогіі» завірухі няма вызначанага цэнтра, яна ізатропная (размова ідзецца, вядома, пра завіруху як паэтычны, наратыўны аб'ект), у яе ёсць толькі «фронт», насоўванне і адыход. Падзея завірухі гэта яе прадчуванне, момант надыходу ізатропнага белага бязмежжа і сума наступстваў па яе заканчэнні. Гэтая паэтыка завірухі рэзаніруе з выпадзеннем калектывізацыі з яшчэ адной метрыкі – наратыўнай. Беларуская літаратура 1930-ых абыходзіць калектывізацыю маўчаннем. Яна прадстаўлена тут сумай эліпсісаў: мы бачым асобныя меркаванні, абурэнні і спрэчкі з нагоды яе хуткага прыходу, мы бачым часовыя прыпыненні яе механізмаў, што запнуўся аб кулацкае шкодніцтва, ці «галавакружэнне ад поспехаў» мясцовай адміністрацыі, і вось мы, разам з наратывам, ужо пасярод шчаснай калхознай будучыні. Сама калектывізацыя для наратыву 1930-ых – гэта фігура ўмаўчання ці нагода для цьмяных, паэтычных метафар.

Па-трэцяе, завіруха – гэта не толькі несупынны вецер і бязмеж-

ная бель ізатропнай прасторы, гэта яшчэ і снег, які акрывае зямлю. Снег па завірусе ўтойвае межы сялянскіх надзелаў – гэтага фізічнага, выяўнага ўвасаблення індывідуальнасці селяніна і яго долі. Пад снегам губляюцца сляды і сцежкі – сціраецца мінулае і звыклае.

Бадай з максімальнай сілай, ува ўсёй сваёй полісеміі і прыхаваным трагізме, тэма завірухі-калектывізацыі выбухае напрыканцы другога тома «Язэп Крушынскі» Змітрака Бядулі ў эпізодзе вар'яцтва «старога Сухарукага» [3, с. 401-403].

Прывядзем некалькі апорных момантаў гэтага эпізоду, разам з нашай інтэрпрэтацыяй, згодна з вышэйпададзеным аналізам.

Сымона Сухарукага – былога ідэалагічнага гадаванца кулака Крушынскага, яго своеасаблівага намесніка і галоўнага аўтарытэта у вёсцы Дзятлы – наратыў знаходзіць ва ўласнай хаце, у роспачы і няздолі змірыцца з апошнімі падзеямі. «Быў адзін з гарачых дзён калектывізацыі ў Гайдачынскім сельсавеце. На дварэ выла, скаголіла і хадаром хадзіла мяцеліца» [3, с. 401]. Пік калектывізацыі супадае з апагеем шаленства стыхіі, метанімічнае супадзенне ў часавым вымярэнні становіцца заканамернасцю на сімвалічным узроўні. У своеасаблівай гіпалазе калектывізацыя і мяцеліца абмяняліся прэдыкатамі: гарачыня дзён калектывізацыі – гэта апальваючы сіверны вецер завірухі (тэмпературныя экстрэмумы супадаюць у сваім уздзеянні на чалавека), у той час як сама завіруха вые і скуголіць аб тым, пра што маўчыць вёска і сам Сухарукі. «Стары Сухарукі горбіўся ў кажуху на тапчане, зірк-зірк у шыбіну і мяцеліцы не бачыў» [3, с. 402] – наратыў пахіляе і без таго мізэрнага перад навалай стыхіі і калектывізацыі Сухарукага і адбірае у яго зрок, бачанне рэальнага. Тэма духоўнай слепаты, няздольнасці ўбачыць сапраўднае яшчэ некалькі разоў будзе паўторана ва ўрыўку, а зараз – перад намі першая вястунка надыходу вар'яцтва.

Занураны ў летуценні і відзежы будучага, і сляпы да цяпершчыны, Сухарукі выгукае: «Крыжам лягу, а не дазволю!..» [3, с. 402] – у тканіну тэксту ўпершыню ўплятаецца семантыка блюзнерства, якая будзе паўторана ніжэй. «Цмокаў з засосам абгрызаны, абсмактаны цыбук старой са шматгадовым дурнапахам люлькі. А ў люльцы не было тытуну, яна не дыміла. Заядлы курэц не запрыкмеціў…» [3, с. 402]. Завіруха, якую няздольны ўбачыць Сухарукі, сама з'яўляецца стыхіяй невідушчасці: у ёй прастора пазбаўляецца відавочных арыенціраў, яна ж засціць зрок. Але зняменне, нячуласць да рэчаіснасці Сухарукага нарастае, ён не мо-

жа адчуць пустату сваёй люлькі. У той жа час «шматгадовы дурнап’ян» засмактанай люлькі – тут гэта і бітыя сцежкі традыцыйнай сялянскай развагі, здабытыя шматгадовай практыкай простыя вясковыя катэгорыі і меркаванні, якія зараз не могуць спарадзіць той дурнап'ян, ідэалагічны дым, што схавае Сухарукага ад рэчаіснасці. Яго слепата патроеная: у завірусе няма чаго бачыць, ён не жадае нічога бачыць, і яго ўстояны зрок непрыдатны да бачання існага.

Пасля невялікага эліпсісу наратыў падхоплівае Сухарукага пасярод поля з рыдлёўкай: «Сухарукі пачаў рыдлёўкай раскопваць тое месца, дзе каля адзінокага дуба павінна была быць мяжа аднаго з яго шнуроў, ледзь шырэйшага за мяжу.

Мяцеліца заскаголіла над старым, сарвала шапку з яго галавы і кудысьці занесла, закінула. Ён нават не запрыкмеціў... Завея кідала яму ў вочы белае пер'е, сляпіла, ірвала з рук рыдлёўку» [4, с. 402-403].

Нават само вар'яцтва не з'яўляецца ўнутраным выбарам і справай Сухарукага, варта яму толькі супрацьпаставіць сябе стыхіі завірухі-калектывізацыі, як тая размячае яго сімваламі шаленства. Сарваная шапка, залепленыя вочы вястуюць прыход вар'яцтва. Простая фізічная каўзальнасць гэтых здарэнняў натуралізуе атаясненне супраціў калектывізацыі = вар'яцтва, а сама калектывізацыя пазычае завеі сваю волю і мэтаскіравасць: завея жадае вырваць рыдлёўку з рук Сухарукага, якой ён раскопвае занесеныя межы сваёй уласнасці і індывідуальнасці.

«Вось дабіраецца да чысцюткай зямлі, да святога святых яе грудзей, дзе ўвосені жыцянымі шпілечкамі выціснулася з-пад верхняй лушпінкі глебы скупая рунь кепскага насення» [4, с. 403]. Сухарукі ўрываецца ў «святую святынь» храма зямлі, учыняе блюзнерства, паглыбляе сваё вар'яцтва да святатацкіх глыбінь, бо не толькі пярэчыць абагуленню зямлі, але і спрабуе ўратаваць сваю асабістаць як такую. Сама «сцэна» набывае відавочную семантычную вертыкаль, якую яшчэ раз падкрэсліваюць «шпілечкамі руні», у самым нізе схавана вышэйшае, а ў сярэдзіне гэтага эквілібрыума мітусіцца мяцежны Сухарукі.

Сухарукі кліча па дапамогу свайго alter ego – Пранука Галаву, такога ж былога аўтарытэта і наперсніка Крушынскага ў суседняй вёсцы Дразды: «Гэй, Галава, бацька Драздоў, дамажы суседу!

Забыўся, што Галава ўжо зімуе першую зімку ў труне» [4, с. 403].

Тэкст двойчы кадуе вар'яцтва Сухарукага: учыніўшы блюзнерства, ён цяпер размаўляе з нябожчыкам, але адсутнасць Галавы ёсць яшчэ і згубленай «галавой» ужо і самога Сухарукага.

Вельмі падобная да разгледжанай семантычная функцыя выконваецца і яшчэ адным інтэртэкстуальным для літаратуры 1930-ых метафарычным атаясненнем рух трактару = хада калектывізацыі.

*– А ўчора я трактар бачыў ... ага... Ішоў некуды праз наша мястэчка... [...] І жук поўз па дарозе. (Галілей відочна зманіў. Які ўзімку мог жук паўзці па дарозе? Ды і трактара, пэўна ніякага не было.) [...] Дык трактар пайшоў, а жучок астаўся ... Раструшчыў трактар жучка... і ніхто не шкадаваў [4, с. 41].*

Гвалт над кулакамі прадстае як непазбежны, але ўзбочны гістарычны працэс, амаль механізаваны, звязаны з несупадзеннем асабістай перспектывы (жук) і «велічы» гістарычнага.

**Літаратура**

1. Booth, W. C. *The Rhetoric of Fiction* / University of Chicago Press, 1983.

2. Genette, Gérard. *Figures III* /, Paris, Seuil, 1972.

3. Бядуля, З. *Збор твораў: у 4 т.,* т. 4: *Язэп Крушынскі*: Кн. 2.; *У дрымучых лясах,*Минск, 1953.

4. Зарэцкі, М. *Збор твораў* : у 4 т. / рэдк. С. А. Андраюк [і інш.]; паслясл. М. І. Мушынскага; Акад. навук БССР, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы], Мінск, Мастацкая літаратура, 1989–1992, т.3: *Вязьмо*; *Сымон Карызна*: *Раман, драм. аповесць* / Уклад.Т.Р. Строевой; Пасляслоўе. М.І. Мушынскага, 1991.

5. Колас, Я. *Адшчапенец* / Менск, Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, ЛіМ, 1932.

6. Крапіва, К. *Збор твораў*: у 5 т. / т. 4: *Апавяданні, фельетоны, памфлеты, раман.*

7. Пахомчык, Н. С. *Рытмізаваная проза ў творчасці М. Зарэцкага // Сборник работ 68-й научной конференции студентов и аспирантов Белорусского государственного университета*: в 3-х ч.: ч. 3, Минск: БГУ, 2011.

# КАК НАЧАТЬ ВОЗВРАЩЕНИЕ К ЗВЁЗДАМ?

*О возможности прогрессивного исторического развития*

***Михаил Слемнев*** (*Витебск*)
***Александр Табачков*** (*Минск*)

Слово писателя бывает сильнее догм ученого или вердикта всегда зависимых от политической ситуации публичных мнений, таковы его бытийные свойства[1] и именно на них и полагается эта работа.

Все написанное ниже обязано своим появлением, смыслом и пафосом сказанного в нем, образам реальности будущего, данным в творчестве великого писателя-фантаста и философа Станислава Лема. Эта статья – как-бы попытка взглянуть на нашу современность и недавнее, к ней и приведшее, прошлое со стороны умных и светлых его миров, от реальности «Магеллановых облаков», от предполагаемого родного мира космонавтов «Эдема» и, конечно, от обыгрываемого в ее названии предупреждения «Возвращения со звезд». Так и следует к этой работе относиться – помня, что будущее Лема не было капиталистическим, а его понимание настоящего и человека было всегда онтологически глубоко и по-доброму, великодушно, критично; и этому последнему мы также, в меру сил, пытаемся здесь подражать.

Никакого думающего и чувствующего человека не нужно, конечно, убеждать в том, что наличное положение дел – что в мире в целом, что у нас, на землях бывшей «красной» его части[2] – неудовлетворительно самым тяжелым, пожалуй, мало с чем сравнимым в истории образом. Почему это так, и как это нынешнее

[1] См.: М. Слемнев, А. Табачков, *Онтологическая экспликация одного поэтического прозрения,* «BIAŁORUTENISTYKA BIAŁOSTOCKA”, 2011, Nr 3, s. 387–398.

[2] Описываемое в данной статье реферирует к ситуации, сложившейся после начала событий, известных как «конфликт на востоке Украины», в социумах стран непосредственно участвующих в происходящем.

«так» можно толковать онтологически и исторически, не раз уже описывалось, в том числе и нами[3].

Поэтому скажем лишь, что мы имеем Запад, кажется, решивший до конца воплотить все клише советской пропаганды, и пытающийся быть похожим на бывший советский Восток, с добавлением толики собственной вновь обретаемой дикости, – и множащиеся в пространстве их взаимного негативного отражения исторически-неестественные формы, странные взаимодействия и связи. Среди них – развертывающееся сейчас гротескное подобие Холодной войны, искусственно возвращаемые к жизни побочные идеологические и военно-политические сущности времен Гражданской и Второй мировой – вместе с проснувшимися, оказывается, сохранившимися где-то в здешних исторических отложениях, пережитками едва ли не николаевской реакции и крепостнических отношений.

При этом Запад, как будто дополняя диалектику регрессивного исторического движения до ее полноты, превращается в утрированную пародию на худшую сторону СССР – с неповоротливыми, слившимися с транс-оруэлловским полицейским государством, монополистическими корпорациями, СМИ с их унифицированной повесткой и откровенной интеллектуальной аскетикой, со странным «интернационализмом» оправдания спровоцированной миграции, с собственными безнадежными «комсомольскими лидерами» – руководителями технологических и медийных компаний, занятыми масштабной цензурой и примитивной индоктринацией масс – и вещающими политически и экономически невероятное их старшими, «партийными», товарищами от финансов или на деле однопартийной власти. К этому следует еще добавить милитаристский угар, особо нездоровый ввиду явной надуманности противников, и вульгарную, часто откровенно люмпенскую, массовую культуру, сотрясаемую волнами истеричных компаний по половым или расовым поводам и последующих «чисток».

---

[3] См.: А. Табачков, *Ангел и регресс: к особенностям обратного развития социоисторической реальности* // Проблемы исторического познания. Сборник статей; отв. ред. К. В. Хвостова, М., ИВИ РАН, 2016, с. 169–182; А. Табачков, *Современность как подлежащее осмыслению прошлое: исторические и историографические особенности наследия эпохи «информационных обществ»* // Электронный научно-образовательный журнал «История», М., 2014, вып. 5 (28). Режим доступа: http://www.history.jes.su/s207987840000753-7-1. – Дата доступа: 21.05.2018.

Достижения научно-технического прогресса, замедлившегося, но все еще имеющего место, используются в соответствии с только что названными условиями: средства коммуникации становятся орудием массовой слежки и управления политическим и экономическим поведением, «искусственный интеллект» способом оптимизации боевых аппаратов, ставшие доступными средства вычисления – основой бессмысленных спекуляций, внедряемых теневыми манипулянтами, эквивалентами денег.

Можно сказать, что обсуждавшийся поколениями писателей и мыслителей нигилизм оказался несравним с онтологической мощью, непосредственной достоверностью и страшной исторической действенностью того всемирного реакционного и регрессивного движения, что началось с концом «второго мира» и продолжается до сих пор.

В отсутствии даже намека на возможность перехода к чему-то более достойному человека, к чему-то все-таки соотносимому с прозрениями и подвигами его истории, безысходность представляется единственным вполне обоснованным выводом из описанного выше положения дел. Кажется, что – глядя из имеющегося сегодня и его очевидных проекций во времени – будущего в сущностном, действительно-историческом смысле просто не будет.

При этом на Западе все человековедческое, литература, гуманитарное знание, загнаны в нарочитую пустоту соответствия политической «агенде», деформированы полностью подчиненными ей системами организации познания, литературного процесса, и оценки, и популяризации их результатов. На отнюдь не иммунном к влиянию этого постсоветском Востоке, к тому добавляются давление специфических местных политико-экономических обстоятельств, эксцессы дурного администрирования, издержки кадровой политики, а с недавних пор еще и тяжкий иррационализм войны.

Это не столько война, сколько, если угодно, медленное горение реализовавшейся и продолжающей углубляться онто-исторической катастрофы, в которой сгорают или превращаются в невиданные уродства важнейшие составляющие исторического существования участвующих в ней сторон. Эта война, во многих важных смыслах, антипод того, о чем мы попытаемся здесь сказать, того, к чему мы вместе с читателем попробуем здесь продвинуться; она – распад прошлого, делающий невозможным будущее самостояние и самоопределение затронутых им социоисторических сущностей.

Возьмемся сказать, что примерно на отметке 2012 года, постсоветское – хранившее в себе и опыт невиданной революции, и уже оформившийся к тому времени опыт ее отрицания, уже знавшее, каков современный Запад и как он к нему относится – было возможностью; казалось, что на этих великих просторах, под изломами внешнего, странного существования, собирается сила, скоро снова попытающаяся изменить мир. Подобные ожидания были – могли быть – оправданы, ведь, пусть это и несколько потерялось за происходившим в последние годы, речь идет о тех людях и прямых их потомках, которые непосредственно определили содержание новейшей истории.

И следует понимать, что возможность, о которой мы говорим, максимально далека от дешевых, вторичных идей «имперства», человеконенавистнического псевдонационализма и даже некоего возвращения в СССР. Речь о возможности действительного будущего как никогда еще не бывшего – о том, что в этой своей невиданности, в своей бытийно-исторической новизне, было бы сродни великим событиям истории, а не пыталось бы просто реплицировать их.

Зревшее в глубине, все чаще дававшее о себе знать вспышками талантливых литературных произведений, появлением сохранявших невиданное для коммерциализированной, лоббистской индустрии совершенство образцов военной техники, проявлявшее себя даже в необычной для жанра художественной глубине компьютерных игр – все это, как видится сейчас, оказалось слабее чуждой искаженной поверхности, победившей глубину, сковавшей в конце концов и ее в промерзших фигурах безумия, самоотрицания, ненависти.

Вызванная во многом стечением обстоятельств, политико-медийная гримаса, став еще более пугающей, кажется, сумела стать сущностью самого исторического существа.

Слабость одних, злая воля других, позволили замкнуть этот зревший потенциал накоротко и запустить недолжную реакцию – по сути, в схематике своей, инверсию, извлекающую зло прошлого и предлагающую, навязывающую его настоящему и будущему вместо добра – и питающуюся энергиями вызываемого этим распада самого строя исторического бытия.

Поверхность преодолевается, и она в таком зловещем виде невозможна, при наличии у людей общей неличной цели; коллективное истинно-человеческое с его прямым историзмом, непосред-

ственной включенностью в историческое бытие, упраздняет ее. Сама по себе, она, разумеется, антиисторична и выполняет историо-изолирующую, бытийно-изолирующую функцию, служа тем, кто несовместим со здоровым историческим развитием, тем, кто несовместим с бытием.

Поверхность всегда результат взаимодействия с сущностно отделенной человеческой единицей, это условие ее возможности. Она «общественное» разобщенных. Такого, бытийно одинокого, человека в моменты кризисов она и использует как материал построения различных выгодных ей групп.

Политически же, в ее современном виде, Поверхность корреспондентна капиталистической олигархии, в эпоху электронных средств коммуникации неизбежно контролирующей таковые через различную свою обслугу, срастающуюся с ними в общую политико-медийную структуру.

При выключенной едва ли не с позднесоветских времен меритократической селекции, при всем известных особенностях мировоззрения и душевной организации составляющих ее теперь людей, Поверхность, явная, говорящая, принимающая решения часть общества, может лишь в крайне малой степени представлять последнее или даже быть ему чужеродной. Другими словами, эта Поверхность – не феноменальна, она, скорее, родственна онтогносеологическому историческому фантазму, только является куда как более массивной, самоподдерживающейся и, собственно, продуцирующей исторические фантазмы, серийно и целенаправленно, структурой.

Конечно, Поверхность порождена, не в последнюю очередь, катастрофой политической репрезентации. Но беда в том, что будучи крайне активным образованием, она не ограничивается текущим ложным представительством «своего» социально-исторического феномена, но начинает осуществлять функцию превращенной формы, начинает бесцеремонно соединять с собой все содержание феномена, норовит учредить и обосновать, через ретроспективу произвольных интерпретаций, собственную лже-традицию.

Эта Поверхность – претензия быть лицом феномена, и с тем претензия составлять своего рода интерфейс его взаимодействия с миром и историей. Эта ложная парсуна обращена «вовне» феномена и «вовнутрь», к людям страны, поневоле думающим, глядя на ее ложные отражения, «это мы».

Политико-медийная Поверхность, о которой мы здесь говорим, это некая третья структура, в отличие от базиса и надстройки, в силу особенностей его времени, как таковая не выделенная у Маркса. И в этой структуре отчуждение дополняется насильственным присвоением коллективного ложного образа.

Но мы полагаем, что лик многомилионных, многовековых народов иной, чем эти папье-маше из дрянных бумажных и электронных страниц и коллаж телевизионных масок, чем совокупный вид пустых фигур, по странности непроясненных, принимаемых по умолчанию обстоятельств, разыгрывающих из себя полновластных хозяев этих великих сущностей.

Генезис вышеупомянутой, на самом деле и явившейся носителем одолевающих нас бедствий, политико-медийной Поверхности, ее эволюция, ее сущность – темы, скорее, некой еще не основанной специальной дисциплины, курс которой должен обязательно начинаться с мер ментальной и моральной безопасности исследователя, с техник предотвращения утраты той самой веры в человечество, о которой когда-то написали великие сатирики.

Смысл этого самозваного эпифеноменального представительства, разумеется, в господстве и самосохранении самой этой политико-медийной прослойки. Но на пути к этому она, как уже говорилось, неизбежно вмешивается в ход исторического пребывания самого «своего» социально-исторического феномена, в значительной степени, причем избирательно, изолируя его настоящее от чуждого ей прошлого до нее, бывшего до формирования ее в нынешней итерации, и от возможного будущего после, которое она, конечно, деятельно полагает невозможным.

Свой собственный искусственный историзм, свою историческую легитимацию она создает, произвольно «подключаясь» к выгодным ее политико-идеологической сущности «местам» – периодам и событиям истории социоисторического феномена. Ввиду ее собственной непрогрессивной природы, это обычно времена реакции и насилия, используемые Поверхностью для смысловой и эмоциональной «накачки» выгодных ей действий и движений современности.

Но исторический социальный феномен – не безразличный резервуар, просто вмещающий души оказавшихся там по случайности места и даты рождения людей. То, что мы, не обладающие полнотой знания и должной способностью синтеза, привычно размечаем как «язык», «культура», «воспитание», скорее всего, на

самом деле стороны онтологического единства человека и общества, грани общей эйдетики пребывающего в истории.

Произволом этих «подключений», разумеется, подразумевающих исключенное и очерненное, искажается сама подача феноменом целостности его исторического естества, замутняется сам свет его бытия.

Социоисторический феномен – это совместное предприятие живущих и живших, и их почти невозможную общность, онтологическую когерентность этого длящегося усилия, эффективно отрицающего смерть, конечность человеческого существования, как раз и обеспечивают сродство эйдетики и хранящая ее сущностная историческая целостность самого феномена.

В их прямой простоте Храбрость, Красота, Справедливость, как и то, что противоположно им, в делах и событиях прошлого должны быть онтологически тождественны эйдетике настоящего – иначе любой историзм рухнет – вместе с историческим феноменом общества, вместе с историческим человеком. Души предков, эйдетика, видимая через их дела, для исторических феноменов конститутивная, конституирующая реальность.

Произвол Поверхности угрожает целостности вот такой, предельно важной, связи.

Политико-медийная Поверхность, как мы ее знаем из худшего в постсоветском опыте, оборачивает себя машиной столкновения исторических составляющих общественного феномена, машиной его всеисторического расчленения. Этой деструкцией она, собственно, и поддерживает себя. Без этого транстемпорального раскола, уходящего глубоко в историческую реальность, добавленного к вновь привнесенному неравенству, к похищенным у общества богатствам, она бы не смогла удержаться.

Антисоветизм постсоветских, русофобия русскоязычных, шовинизм выросших в интернациональной семье – какие бы исторические аналогии не виделись в этом кому-то, на самом деле есть следствием и результатом новых, невиданных ранее способов и степеней получения и инструментализации зла.

К положившему начало этой эпохе географическому разделу действия Поверхностей все интенсивней добавляют исторический распад, а с ним – и душевный разлад.

Над душами живых и мертвых, над их делами, идет неправый Страшный суд, наставший после исторически незаконного конца половины света.

здаецца, не пакідаюць надзеі на прывядзенне да ладу супярэчлівых думак і пачуццяў. Гэтым яны лірычнаму герою і дарагія.

Ён шукае важнага для душы сэнсу і ў выпадковых сустрэчах (“Незнаёмец”, “Прысутнасць”), і ў збегу абставін (“Падарожжа”, “Ненапісанае”), і нават у думках камня: “«Дзе ён прападаў?» – як бы пытаў у самога сябе камень, гледзячы на мяне ўсім сабою. – «Мы ж не сустрэліся б, каб не былі знаёмыя», – здавалася, гаварыў ён, нічога не гаворачы. Бо хто мае столькі гадоў, умее сказаць адным маўчаннем” (“Камень”) [1, с. 158].

Так што маўчанне для героя Я. Чыквіна – тым больш маўчанне *нясконченае*, незавершанае, а значыць тое, што мае пэўную перспектыву, – гэта не пустата, не адсутнасць, а наадварот – патэнцыяльная глыбіня сэнсу, які трэба злавіць, раскрыць і, што не менш складана, адпаведна зафіксаваць, перадаць далей. У апавяданні “Прысутнасць” герой знайшоў для гэтага працэсу адмысловую назву: “Я займаўся, між намі гаворачы, тайнапісам, як называў я тое, чым займаўся, калі займаўся, калі нікога не было побач, калі ніхто не перапыняў мяне сваімі справамі – я запісваў тады шмат якія думкі дзеля тых жа думак. Любіў падслухаць, аб чым яны размаўляюць, пра што спрачаюцца, чаго шукаюць у чалавечым свеце, урэшце мяне моцна дзівіла і цікавіла, як паварочваецца сама мысль, калі яна саму сябе абдумвае, абмыслівае, і што з ёю робіцца, калі яна ўваходзіць у сваю слоўную плоць, і адкуль яны – думкі…” [1, с. 163].

А пакуль яшчэ не выспела “слоўная плоць”, пакуль не прайшла свой няпросты шлях да ўвасаблення ў кнізе – галоўны, універсальны сэнс сведчыць аб сабе лірычнаму герою праз музыку: “Гэта яна, прырода, падавала свой пявучы голас. Я любіў да самазабыцця яе музыку – і лірычную, і драматычную мілагучнасць. І колькі разоў заслухоўваўся ў геніяльныя харавыя кантаты лесу, шчырых палёў, расфарбаваных лугоў ды млеў і нямеў перад гамлетычнымі рэчытатывамі на паўнеба вялікіх летніх навальніц з громам і маланкамі, асабліва велічна-прыгожымі ў выкананні, калі дырыжыраваў імі вопытны вецер-вятрыска” (“Нясконченае маўчанне”) [1, с. 178].

Своеасаблівая музыкальнасць, адпаведная санатнай форме кампазіцыя ўласцівыя кнізе Я. Чыквіна ў цэлым. І гэта яшчэ адна магчымасць знайсці ды ўмацаваць душэўны кантакт аўтара з чытачамі. Перагарнуўшы апошнюю старонку, хтосьці з іх, верагодна, задумаецца над дзіўнымі супадзеннямі ды супярэчнасцямі ў

чалавечых лёсах і ўчынках. Хто іншы ўспомніць, што трохкрылыя птушкі ўжо “мільгалі” ў вершах Я. Чыквіна [гл., напр.: 3, с. 138], і прыслухаецца да перазоваў паміж лірычнай прозай і паэзіяй майстра. А хтосьці, сышоўшы ў даверлівасць маўчання, можа, нават расправіць крылы для ўласнага палёту.

## СПАСЫЛКІ

1. Ян Чыквін, *Трохкрылыя птушкі,* Беласток 2018.

2. Яўген Гарадніцкі, *Ян Чыквін, паэт сумежжа: мадэрнізм у беларускай паэзіі* // Literatury Wschodniosłowiańskie. Z najnowszych badań. Pod redakcją Haliny Twaranowicz, Białystok 2010, s. 27 – 36.

3. Ян Чыквін, *Адно жыццё. Выбранае,* Беласток 2009.



# ТЭРМАПІЛЫ

Адрас: 15-420 Białystok,
Plac Nieależnego Zrzeszenia Studentów 1

выдае

*Беларускае літаратурнае аб'яднанне „БЕЛАВЕЖА”*

**Zrealizowano dzięki dotacji
Ministra Spraw Wewnętrznych
i Administracji**

## Да ведама аўтараў

Рэдакцыя прымае да разгляду празаічныя творы аб'ёмам не болей 5 друкаваных аркушаў (прыблізна 120 стр. машынапісу), паэтычныя да 200 радкоў, артыкулы да 2 друкаваных аркушаў. Усе матэрыялы прымаюцца ў электроннай і раздрукаванай форме.
Рукапісы не вяртаюцца.

Аўтары нясуць адказнасць за свае матэрыялы ў адпаведнасці з законам аб друку Польшчы.

Апублікаваныя матэрыялы неабавязкова адлюстроўваюць пункт погляду рэдакцыі часопіса.